Змест

# А яшчэ і Паэт!

Не забываецца ялцінскае апякунства Івана Паўлавіча, калі ён вывеў мяне на паклон да Максіма Багдановіча. На маскоўскай нарадзе маладых літаратараў стараўся, каб землякі яго сваячыліся з таленавітымі творцамі многіх нацыянальных літаратур тагачаснай краіны.

Але самую незвычайную неспадзяванку я атрымаў ад Мележа тады, калі прачытаў яго верш «Багдановіч». Так, вялікі празаік пачынаўся з паэтычных твораў. Ад сёлетняга юбіляра Максіма Багдановіча (9.12.1891 — 25.05.1917) ён быў маладзейшы толькі на 30 гадоў. І сваю дарогу да Максіма вызнаў яшчэ задоўга да векапомнай вайны, калі самога летуценніка Багдановіча не надта і шанавалі.

У 1996 годзе быў выдадзены ўкладзены мной том «У бязмежную даль: Кніга пра Максіма Багдановіча» (Серыя «Школьная бібліятэка»). Вось там можна прачытаць верш Івана Мележа «Багдановіч»:

Сціхае горад. Стукне крок
І змоўкне, недарэчны, гулкі.
Васковы, месяцавы рог
Застыў у змроку над правулкам.

Гняце ў пакоі цішыня.
Журботу адзінокасць будзіць.
Лажыся, спі! Даволі дня!
Спачні! — Хрыпяць нядобра грудзі.

Ён лямпу ўзяў. Гары, святло!
Няхай сухоты душаць грудзі,
Насуперак хваробе злой
Ён ноч усю жыць і дзеяць будзе!

…Дзень надышоў, і сон здалеў,
Глыбокі, моцны. Ноч не сцерці.
Гарэў у сшытку на стале
Нядаўні верш. Жыццё. Бяссмерце.

Так, мужны паэт Мележ стаў аўтарам мужнай прозы. І не патухне ў кожнага з нас святло яго натхнёнага Слова.

*Сяргей Панізнік*



Іван Мележ. Фота Сяргея Панізніка



Сяргей Панізнік. Фота Івана Мележа

## Аліна Длатоўская:
# «Для мяне Лясун і Хатнік не такія ўжо нерэальныя»



**Аліна Длатоўская — маладая пісьменніца. Хутка выйдзе кнігай яе фантастычная аповесць «Арнаменты». Выдаўцом гэтай кнігі з дапамогай нажніц і клею можа стаць кожны чытач часопіса «Бярозка» — менавіта там распачаўся праект «Аповесць-канструктар», у якім і ўдзельнічае Аліна. Першая частка аповесці ўжо выйшла ў студзеньскім нумары, і пакуль заінтрыгаваныя чытачы чакаюць, што ж будзе далей, пісьменніца распавядае Кацярыне Захарэвіч пра сябе, сваю аповесць, уражанні ад уваходжання ў літаратурны свет.**

— Пачала пісаць я вельмі даўно. Напэўна, адразу ж, як навучылася добра выводзіць літары ды цвёрда трымаць асадку. Хоць казкі з бацькам разам выдумляла з самага глыбокага маленства. Вучуся ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце, на завочным аддзяленні па праграме «Культурная спадчына». Наведваю Школу маладога пісьменніка і працую ў фестывальным цэнтры «Хваля ідэй», які арганізуе фестывалі дзіцячай творчасці ў Еўропе.

На напісанне «Арнаментаў» мяне ў нейкім сэнсе натхніла месца. Стары хутар у Валожынскім раёне, які мае абсалютна неверагодную энергетыку. Усё дзяцінства я правяла там, як у казцы. Для мяне Лясун, Хатнік ды іншыя фантастычныя істоты не такія ўжо нерэальныя. Таму я даўно хацела напісаць твор пра беларускую міфалогію — яна вельмі незвычайная, своеасаблівая, захапляльная. Але ў агульную карціну мае задумы не складалася. Аднойчы я абмяркоўвала гэтую тэму з лепшай сяброўкай, і яна параіла мне напісаць твор з двух розных пунктаў гледжання: ад звычайнага чалавека, які сутыкаецца з гэтым упершыню, і ад самой міфічнай істоты. Так нарадзіліся такія персанажы як Агнія, Аліса ды Хут. І калі я ўжо распрацоўвала сюжэт твора, сусвет Ваяроў я ўбачыла ў сне. Адразу ж зразумела, што гэта менавіта той пазл, якога мне не хапала.

Я пачала працаваць над аповесцю ўлетку. Спачатку гэта было даволі марудна, але пасля таго, як я прадумала, што менавіта будзе адбывацца ў кожнай частцы, і склала для сябе падрабязны план, — праца пайшла хутчэй. Самай вялікай праблемай для мяне тым не менш быў недахоп часу. Сумяшчаць напісанне твора з вучобай і працай вельмі няпроста, бо хочацца ўвесь свой час прысвячаць творчасці. А супрацоўнічаць з «Бярозкай» атрымалася ўвогуле вельмі дзіўна, бо хутчэй не я даведалася пра праект рэдакцыі, а рэдакцыя — пра мяне. Аднойчы мне проста патэлефанавала Святлана Дзянісава.

Я прытрымліваюся меркавання, што кожнаму чалавеку ёсць што сказаць. Я зусім не мару пра нейкую сусветную вядомасць, але я хачу быць пачутай, хачу дзяліцца сваімі меркаваннямі і думкамі. А таксама хачу паказваць магічнасць навакольнага свету, бо ён зусім не такі просты і звычайны, якім здаецца. Я адкрыла ў сабе схільнасць да дзіцячай і падлеткавай літаратуры, таму ствараць далей буду менавіта ў гэтым кірунку. Як чытач літаратуру люблю лёгкую, светлую, захапляльную, але з падтэкстамі, з загадкамі, якія павінен разгадваць сам чытач. Мой любімы аўтар — Уладзімір Караткевіч.

Сумневы ў вартасці сваёй творчасці ўзнікаюць, але ўжо радзей. Часам адчуваецца няўпэўненасць у сабе. Пачынаеш задаваць сабе пытанні: а ці будзе гэта іншым цікава, а ці пачуюць яны тое, што ты хочаш сказаць, а ці будуць увогуле слухаць? Скажам так, я часам стаўлю пад пытанне вартасць сваёй творчасці. Аднак у мяне ёсць цэлая «каманда» блізкіх мне людзей, якія дапамагаюць змагацца з сумневамі. Яны чытаюць мае творы першымі. Калі яны цікавяцца, што будзе далей і чым усё скончыцца, — значыць, варта працягваць. Ясная справа, ім бракуе аб'ектыўнасці, але мне дастаткова іх меркавання, каб дапісаць аповед.

Наведваю Школу маладога пісьменніка. Для мяне яна стала крыніцай неверагодна карыснага вопыту. У першую чаргу таму, што я нарэшце пачала ўспрымаць сябе як пісьменніка, а свае тэксты як творчасць. Сустракаемся мы два разы на месяц, але на цэлы дзень (чатыры пары). Тры пары вядуць настаўніцы школы, на чацвёртую запрашаюць якога-небудзь вядомага пісьменніка ці культурнага дзеяча. Занятак на пачатку месяца звычайна лекцыйны — то-бок, настаўніцы распавядаюць нам што-небудзь цікавае, дзеляцца вопытам, як сусветным, так і асабістым, раяць вартую літаратуру і г. д. У канцы ж месяца мы сустракаемся, каб абмеркаваць хатнія заданні — аповеды, зададзеныя настаўніцамі. Гэта асабліва карысны вопыт для мяне, бо мне заўсёды бракавала ацэнкі маёй творчасці з боку. А калі ты чуеш каментарыі пра свой твор і ад настаўніц, і ад іншых навучэнцаў — гэта дазваляе лепш бачыць перавагі і недахопы твора. Я для сябе вынайшла тры галоўныя правілы: шмат чытаць, шмат пісаць, не стрымліваць і не абмяжоўваць сваё ўяўленне. Калі да мяне прыходзіць ідэя — я ніколі не адкладаю яе, спадзяваючыся на памяць, — я імкнуся адразу занатаваць, дзе б ні была (аднойчы пісала алоўкам для вуснаў на далоні).

Я б не сказала, што дзіцячыя кніжкі больш складана пісаць, проста спецыфіка іншая. На мой погляд, у дзяцей зусім іншае ўспрыманне сусвету, і гэта трэба разумець. Можна нават сказаць, што яны жывуць у іншым вымярэнні. Я ведаю гэта па ўласным вопыце, бо два гады выкладала малым англійскую мову. Мне здаецца, каб дзецям было цікава, трэба кантактаваць з імі на роўных. І гэтае «на роўных» не значыць «апусціцца да дзіцяці» ці «размаўляць, як з дарослым» — гэта значыць «размаўляць на мове іх сусвету». Не ведаю, ці заўсёды ў мяне гэта атрымліваецца, але мне вельмі падабаецца вучыць гэтую мову.

«Хатнік»



«Хут»



Ілюстрацыі Наталлі Длатоўскай.



**Яна Мусвідас**

# Пакараць нельга даравáць

**Яшчэ два стагоддзі таму знаходжанне не пабраных шлюбам закаханых у памяшканні без трэціх асоб лічылася амаральным. Сёння «хлопчыкі« і «дзяўчынкі» дзеляць не толькі дзіцячыя пакоі, але і кватэры. Да чаго прыйдзе чалавецтва праз наступныя два стагоддзі?**

Неяк вечарам у нядзелю я, як заўсёды, атрымлівала асалоду ад «выходной» кавы ў адной з мінскіх кавярань. «Выходная» кава заўсёды больш цудоўная, чым «будзённая». За суседнім столікам ўладкавалася сімпатычная пара людзей, не на шмат старэйшых за мяне. Я не змагла ўтрымацца і пачала разглядаць дзяўчыну. Выглядала яна выдатна: высакародныя рысы твару і вытанчаная постаць. Але, як сведчыць народная мудрасць, не варта меркаваць пра кнігу па яе вокладцы. Праз лічаныя хвіліны жаданне глядзець у іх бок цалкам знікла. Упэўнена, калі б я ўмела чырванець, то прыпадобнілася б да свайго любімага героя дзіцячай кніжкі «Чыпаліна» — сеньёра Памідора. Маладыя людзі настолькі захапіліся кампаніяй адно аднаго, што, здаецца, забыліся, што знаходзяцца не за зачыненымі дзвярыма спачывальні, а за столікам у кавярні без дзвярэй. Падрабязнасці апісваць не магу з прычыны іх неэтычнасці. Іншымі словам, праз дзесяць хвілін духу майго ў гэтым месцы ўжо не было.

Астатнюю частку вечара я правяла ў разважаннях пра ўбачанае.

Не буду хітраваць, я чалавек досыць новых поглядаў на грамадскія працэсы і разумею, што свет развіваецца так хутка, што аб нейкай стабільнасці ў маралі і нормах паводзін не можа быць гаворкі. Але няўжо ў сённяшняе паняцце «нармальнасці» магчыма ўпісаць такое?

Біблія раіць нам: не судзі ды не судзімы будзеш. Каюся, я саграшыла і на гэтым жа тыдні была аддадзена жорсткаму суду.

Па звычцы я сустрэлася са сваім маладым чалавекам на адным з прыпынкаў на Нямізе. Кароткі, практычна «сястрынскі» пацалунак у вусны скончыўся прыходам нарада міліцыі.

Абняўшыся з маім МЧ, я адчула трэцюю руку, якая дакладна яму не належала. Гэта была рука жанчыны, чый твар абмотваў ружовы шалік і чые ружовыя пазногці вельмі выбіваліся на фоне майго мышынага паліто. Абурэнню гэтай грамадзянкі не было мяжы: яна сыпала абразамі на ўсю вуліцу і пагражала патэлефанаваць у міліцыю, — яна чамусьці вырашыла, што цалавацца на вуліцах горада забаронена законам. Зразумелая справа, мы з законам больш-менш знаёмыя (як мінімум кароткі курс права праходзяць усе беларускія школьнікі ў 11-м класе) і выдатна ведалі, што ўшчамляюцца менавіта нашы правы. Міліцыя ўсё ж была выклікана, але не кабетай ў ружовым шаліку, а намі. Прадстаўнікі аховы правапарадку хутка ўціхамірылі гарачы запал грамадзянкі. Жанчына патрабавала нас аштрафаваць, спасылаючыся на артыкул з газеты (выданне яна, на жаль, назваць адмовілася). Але ўсе яе прэтэнзіі зніклі, калі ёй патлумачылі, што аштрафуюць зараз яе. Зразумела, заяву мы пісаць не сталі, папрасілі адпусціць «неабыякавую», а ў пратаколе пазначылі, што канфлікт ўрэгуляваны на месцы.

Але цяпер мяне мучаць адразу некалькі пытанняў: дзе ў постындустрыяльным грамадстве пралягае мяжа маральнасці? Можа быць, я ўжо пачала адставаць? А што калі праз сорак пяць гадоў я таксама буду пагражаць міліцыяй маладым парам з новымі прынцыпамі? Мабыць, я апынуся ў такім самым недарэчным становішчы, а маё мышынае паліто будзе безнадзейна выбівацца з навакольнага асяроддзя.

**Маргарыта Дзяхцяр**
maladost@zviazda.by

**У Мінску, на вуліцы Кісялёва, ёсць скарбніца. Не, «Скарбніца». Там працуюць людзі, якія нясуць беларускую культуру ў масы, калі так можна сказаць. Яны ткуць ручнікі, робяць узоры на вопратцы, паўтараюць даўнейшы беларускі арнамент. Але, нягледзячы на тое, што цяпер вышыванкі сталі папулярнымі, людзі не цікавяцца тымі, хто адраджае амаль забытую беларускую культуру.**

**Мая гераіня — адна з такіх «адраджэнцаў».**

# У яе руках

## 1. Дасканаласць

У яе руках ніткі двух колераў — любімыя беларусамі белы і чырвоны. Яна перабірае іх прыгожымі рукамі з пафарбаванымі бліскучымі пазногцямі, чамусьці ўсміхаецца. Ведаеце, яна здалася мне падобнай да «Вялікай адаліскі» Жана Энгра. Адразу падумала пра гэтую карціну, калі ўбачыла майстрыху. Такая ж дасканалая, з загадкавым позіркам, адначасова і адкрытая, і таямнічая. Яе вочы глядзяць не ў мае, а быццам праз іх, так, быццам яна збіраецца залезці ўнутр маёй галавы, каб зразумець, навошта мне гэтая размова з ёй.

З яе дасканалых рук мой позірк падае на яе вязаную кофту колеру толькі што скошанай травы, яна выглядае свежай і ўтульнай. Майстрыха тут адчувае сябе як дома. Менавіта так, як на карціне выглядае «Вялікая адаліска» — ёй тут спакойна і прыемна. Яе зацяты насок нагі, як у балерыны, сканцэнтравана цісне на педаль (пасля я даведаюся, што гэта называецца «панажы»), яна сядзіць без абутку. Магчыма, каб адчуваць тое, што робіць, каб адчуваць дотык да драўляных кроснаў, каб адчуваць, што яна жывая.

На яе галаве, як і ў «адаліскі», турбан, ці, як модна стала казаць, «кандыбобер». Яна магла б жыць дзесьці на Усходзе, быць гераіняй арабскіх фільмаў, падводзіць вочы вугалем, як Клеапатра (апошняе, дарэчы, яна робіць вельмі добра). Але яна тут, у Мінску. Яна тчэ. Яна — майстар. Ужо два гады яна займаецца тым, чым многім займацца не пад сілу — кажа, «не кожнаму хапае цярпення на ўсё гэтае шчасце». Яна — кіраўнік, яна — стваральнік, яна — дырэктар нітак, каралева палатна.

## 2. Адлегласць

— Людзі цяпер б'юцца лбом аб сцяну. Было б мне 20 — я была б у трансе. А зараз я хвалююся толькі пра тое, як маё дзіця будзе жыць. Але я аптымістка — а што рабіць? — кажа майстрыха.

У майстэрні стукаюць кросны. Гук невыносна гучны, моцны. Яго цяжка чуць, але і не чуць не хочацца — штосьці ў гэтым ёсць. Такая асаблівая музыка, музыка, якую раней часта слухалі нашы продкі. Але мы ад іх на адлегласці: мы — пакаленне адлегласці.

У яе руках зноў ніткі — яна іх і не выпускала. Пільныя зялёныя вочы ўглядаюцца ў малюнак — цяжка зразумець. Гэта вобраз сонца, прыроды, зямлі? Яна ведае гэта дасканала. Таксама, як і законы ткацтва, якім вучылася спачатку ў школе, пасля ў каледжы, а потым тут, у майстэрні — мастак павінен разумець, як рабілі нашы продкі, адкуль у іх быў вопыт ткацтва. Канешне, не ўсе жанчыны ў гэтым былі супер-пупер. Тут, у «Скарбніцы» ужо, як кажуць, гадоў сто працуе майстрыха, якой 70 — яна адразу адчувае, што рабіць, прадбачыць, які атрымаецца малюнак. У каго яшчэ вучыцца, як не ў старэйшага пакалення?

Яна працуе тут па пакліканні лёсу, як кажуць яе калегі, якія самі прыйшлі ў майстэрню «па неабходнасці». За любыя грошы яна гатовая гэтым займацца (а яны невялікія, праўда). Праца цяжкая — у каго ёсць да гэтага схільнасць і цярпенне, той будзе гэтым займацца, а ў каго не — не трэба і спрабаваць. Можа, яно і так. Кросны выглядаюць неяк па-мужчынску індустрыяльна. Так, быццам ім патрэбная моц, быццам ім патрэбен кіраўнік, здольны прыручыць машыну. Яна — здольная. Прыгожыя рукі перакладаюць дошкі, прыгожыя рукі кранаюць ніткі, прыгожыя рукі ствараюць узор: «Гэта ж не механічная праца — трэба ў сябе прыйсці, усё прадумаць. Я б не сказала, што гэта тое, што мне трэба — я раблю чужыя рэчы. Гэта ўвогуле не тое, што мне патрэбна. Але гэта блізка да таго, чаго мне хочацца. Рукі і вочы хочуць рабіць».

* Калі па праўдзе, то замест «Выбітныя» можна было б напісаць «Інкогніта». Таму што адсутнічае прозвішча гераіні (ну, і фотаздымак, як бачыце). Гэта наўмысна. «Таму што ніхто з ткачых не пагаджаўся на інтэрв'ю, толькі Наталля, і то вельмі не хацела. Я ўвогуле хацела без імені, але гэта выглядала б надта не па-сапраўднаму», — тлумачыць аўтар матэрыялу.

## 3. Адлюстраванне

Дасціпная і сур’ёзная, яна робіць рэчы, якія іншым не пад сілу — цяжкія работы, з якімі трэба змагацца месяц, а то і два. За гэты час яна можа зрабіць толькі адзін ручнік. Але які гэта будзе ручнік — за такі не шкада і душу прадаць! Людзі, якія ў ткацтве разбіраюцца, купяць такую рэч, хоць каштуе яна 17 мільёнаў — неабдымная сума.

У гэты момант адна з майстрых ускрыквае: «С*ка!» Я паварочваю галаву ў яе бок, бачу, што яна ў навушніках. Цікава, што слухае? Мая гераіня разумее маю зацікаўленасць і кажа: «А гэта ў нас народная творчасць. Дырэктар кажа, што кожная рэч робіцца індывідуальна, з эмацыянальным зарадам. Але ніхто не кажа нічога тут са зла — у яе такі фальклор».

Усё ж такі я веру, што эмацыянальны стан чалавека адлюстроўваецца на яго працы. Мая майстрыха, здаецца, заўсёды ў добрым настроі — чаму? Не ведаю, яна не раскрывае сакрэт. Адзінае, што кажа, — любіць сваю працу. Любіць, нават калі надакучвае па некалькі месяцаў рабіць адно і тое ж, ткаць адзін і той жа малюнак. Яна сябе не прымушае любіць — яна сапраўды любіць, бо такое пачуццё ідзе толькі ад сэрца.

Яна хоча навучыць мяне — паказвае, куды трэба прасунуць нітку, каб атрымаўся ўзор, на які з панажоў трэба націскаць, як «прыбіваць» нітку да палатна. На хвілінку адчуваю сябе адной з «слуцкіх ткачых», тых самых, багдановічаўскіх.

Мая гераіня выглядае шчаслівай, хоць ёй не падабаецца, што яна робіць рэчы на заказ. Гэта неяк бяздушна, для чужых людзей, па чужых эскізах. Адлюстраванне, здавалася б, рамантычнай працы аказваецца не такім і рамантычным, ды і ўвогуле не надта творчым, бо «не відаць аддачы». Яна — мастак з папкай сваіх ідэй, але часу на ўсё не хапае: «Я заўсёды думала, што буду мадэльерам. У мяне было шмат распрацовак, але не склалася — захварэла, на кар’еру дызайнера прыйшлося забыцца». У 18 яна пайшла працаваць...

## 4. Дасціпнасць

Яна дасціпная. Гэта відаць. Як відаць і тое, што яна ідэйная — будзе капацца, распрацоўваць. На жаль, яна толькі майстрыха — робіць тое, што ёй кажуць. Яна выконвае, а калі зробіць памылку — выпраўляе. Канешне, можна на памылку забыцца, але сумленне не спіць. Кажа, што вельмі хоча вышыванку, а яшчэ больш марыць саткаць яе для мужа — гэта павінна быць штосьці не такое, як у крамах. Яна ж майстрыха — у гэтай справе сапраўдны «Брус Усёмагутны», можа сабе дазволіць.

За працай думае толькі аб працы, асабліва зараз, калі выконвае неверагодна цяжкі, нават на мой погляд, малюнак — калі збіваешся, занадта далёка прыходзіцца вяртацца, таму лепш сканцэнтравацца адразу. Але думак у яе ўвогуле шмат — яна іх нават занатоўвае.

Праца майстрыхі — гэта своеасаблівы дар, бо не кожнаму дадзена. Кажа, што маладыя сыходзяць адсюль праз колькі дзён — не вытрымліваюць. Ды і ў культуры цяпер цяжка — нікому ткацкія прадпрыемствы не патрэбныя, рэчы дарагія, бо вытворчасць карпатлівая. Майстрыха кажа, што працаваць над адной рэччу не проста доўга, а нават «рэальна доўга». Па гэтым слэнгу я разумею, што яна не жартуе, а калі потым у краме разглядаю ручнікі ды кашулі, вылічваю, колькі прыкладна часу можа такая праца займаць.

Мая адаліска дакранаецца да кроснаў, гладзіць ніткі, нібы кацяня, пяшчотна разглядае ўзор, які атрымаўся, — хутка ёй прыйдзецца развітацца з выкананай працай. Але сама ж кажа, што губляе цікавасць да выкананага — развітанне абяцае быць беспакутным.

## 5. Розум

Майстрыха разважае пра сённяшнюю цікавасць да вышыванак у маладых — думае, што ад эканамічных пытанняў трэба прыходзіць да чагосьці іншага, бо ў савецкія часы наеліся ўжо гэтай эканомікі, не хацелі культуры ды этнічнага. А цяпер куды ісці? На Захад? А калі мы забудземся на тое, што ў нас ёсць, то каму гэта застанецца? «Чужога наеліся — давайце сваё».

Яна лічыць, што для ткацтва вялікага розуму не трэба — вось табе кросны і ніткі, навучыцца можна ўсяму. Але сама яна разумная. Яна хацела пайсці выкладаць малюнак і кампазіцыю, але хутка зразумела, што гэта бессэнсоўна — не паспееш займацца яшчэ і творчасцю, як цяпер. На яе думку, фінансаванне культуры — гэта ўтопія, «усё ідзе ўніз». Яна ведае пра гэта асабіста: і яна, і муж — мастакі. Магчыма, мастакі ў розных сэнсах слова, але ж творцы, хоць і кажа, што займацца ткацтвам — гэта проста рабіць працу, і «ніякай рамантычнай творчасці ў гэтым няма».



**Яўген Мартыновіч**

# Штрыхі

*Непрыкаяныя зацемкі*

## Нялёгкая До-ля

А ўсё-ткі доля Сальеры не такая ўжо і сумная. Ён увайшоў у гісторыю як выдатны педагог і кампазітар (хоць і не Моцарт) і пражыў даволі яскравае і доўгае жыццё. Ды і хто з нас здолее канкурыраваць з Моцартам? Можна толькі спрабаваць дацягнуцца... Паспрабуем?

## Своечасовыя кнігі

Чытаю цяпер кнігу выбраных апавяданняў Вячаслава Адамчыка «Песня». Чытаю і радуюся! Стылю, лёгкасці, амаль крыштальнай чысціні, лірычнасці, сюжэтам.... І шмат-шмат-шмат чаму яшчэ. Якраз пад лістападаўскі настрой патрапіла кніга. Яшчэ раз пераконваюся: патрэбныя кнігі прыходзяць у свой час.

## Вудзі Ален

Вудзі Ален у сваіх фільмах стварае ілюзію, што ты таксама можаш зрабіць нешта падобнае... Хоп (шчаўчок пальцамі) — і ты стварыў суперактуальны арыгінальны сюжэт, на які ўжо зляцелася чарга спонсараў з самымі цікавымі прапановамі. Але ж не ўсё так проста. Так, Ален стварае ілюзію... Гэта і з'яўляецца паказчыкам найвялікшага таленту майстра.

## Старыя часопісы

Люблю ў Нацыянальнай бібліятэцы пагартаць старыя літаратурныя часопісы. Звычайна бяру «Маладосць», «Крыніцу», «Бярозку», «Першацвет»...

Трапляюцца імёны і творы, якія сталі ўжо амаль класікай беларускай літаратуры: Сыс, Федарэнка, Наварыч, Асташонак, Сцяпан, Васючэнка... З фотаздымкаў глядзяць на мяне «звычайныя» хлопцы: позіркі напоўнены жыццём, гордыя постаці, заліхвацкія чупрыны! А самае галоўнае — іх дэбюты (уяўляю, як яны іх чакалі). І сярод гэтых дэбютаў не сустрэнеш ніводнага слабага твора. Для маладых творцаў карысна пагартаць такія часопісы. Ёсць што пачытаць і чаму павучыцца.

## Эга

Сыдзеш у тайгу, у келлю, у манастыр. Каб цябе ніхто не здолеў знайсці.

Сыдзеш ад бесклапотнай весялосці, размоў, сяброў і каханай. Каб ніщто табе не замінала.

Сыдзеш на пяць, дзесяць, дваццаць гадоў, каб стварыць сябе бессмяротнасць.

Сыдзеш, каб больш не чуць раздражняльнага смеху, бясконцых пустых размоў пра любоў і каханне.

Сыдзеш і ніхто не ўспомніць цябе. Ні сябры, ні каханая, ні дзеці, ні ворагі! Ніхто! Акрамя Вечнасці (і то — не гарантавана).

## Пах кнігі

Старыя кнігі для кожнага пахнуць па-свойму. Для кагосьці цвіллю і нафталінам. Для мяне старыя кнігі пахнуць горкім шакаладам і гарбатай. І няма таго водару прыемней, які я ўдыхаю ў бібліятэцы. У кніжнай краме трошкі іншы водар (калі яна толькі не букіністычная). Свежыя выданні пахнуць інакш, чым старыя кнігі. Гэты пах можна параўнаць з пахам свежай фарбы ў новым будынку ці пасля рамонту. Усё прыгожа, гладка, але кнігам трэба трошкі «адляжацца», настаяцца. І тады ў іх з'явіцца свой, зусім іншы водар. А спачатку кнігі пахнуць аднолькава.

## Мая бібліятэка

За апошнія гады ў маёй бібліятэцы з'явілася шмат недачытаных кніг. Купляў іх дзеля таго, каб неяк запоўніць лакуны, якія з-за недахопу часу на чытанне з'явіліся на працягу школьных і студэнцкіх гадоў. Напрыклад, ужо два гады не магу адолець «Пецярбург» Андрэя Белага. Як толькі я ні браўся за гэтую кнігу, а вось не магу далей дзяся-

тай старонкі дачытаць. Але пры гэтым адолеў нечытэльнага «Уліса» Дж. Джойса (і самае цікавае, кніга мне спадабалася і вельмі мяне ўразіла). Таксама не магу дачытаць «Ганну Карэніну» (недзе ў сярэдзіне спыніўся…). Спадзяюся, што з часам атрымаецца іх дачытаць. Мабыць, проста яшчэ не дацягнуўся да гэтых кніг… Застаецца вось такое слабае суцяшэнне.

## Бібліятэкі

Люблю браць у бібліятэцы кнігі (і чым больш, тым лепш!). Мне падабаецца, што яны выдаюцца на месяц. Калі не здолеў прачытаць кнігу ў тэрмін, то можна працягнуць яго (тэрмін) яшчэ на адзін месяц. Але я спрабую справіцца з кнігамі за першы месяц. Таму бібліятэка вельмі арганізуе (прынамсі, мяне). Прычым не так, як у школе ці ўніверы, дзе выдаецца бязглузды (драўляны) спіс літаратуры, якую трэба прачытаць за лета, месяц, да наступнай лабараторнай пары... Ты сам складаеш спіс неабходнага! І адказнасць за свае кнігі таксама нясеш сам. Гэтым мне і падабаюцца бібліятэкі.

## Кумір

Нешта ён зноў там «выкінуў» цікавае ў сеціва. Ужо 3.000.000 праглядаў! Ваў-ваў-ваў! Кррра-сава! Такая ідэя! Такая смеласць пагаліць бровы і галаву. Пачаў з барады, якую гадаваў пяць гадоў, а потым захапіўся і пагаліў усё цела. Сантыметр за сантыметрам…

А што на тым тыдні зрабіў? Вы б толькі бачылі (яшчэ не бачылі?!). Ён з’еў са смятанай свой пашпарт, дыплом і грошы. А потым паабяцаў нам усім, што гэта толькі пачатак!

Будзем чакаць…

Вы яшчэ сумняваецеся, што гэта новая зорка «ютубу»? Як жа добра, калі ў чалавека так шмат крэатыўных ідэй! Ніколі мне не дацягнуцца да майго куміра! Пайду лепш пачышчу бульбу…

## Непрызнаны

У Вянчаслава Альгердавіча Слаўчанкава пачаўся творчы сверб. З гэтай нагоды ён вырашыў напісаць раман ці на крайні выпадак аповесць, якая б «узнесла яго на вяршыні літаратурнага Парнаса»! Чаму ён выбраў такі «цярністы» шлях? Адказаць на гэтае пытанне было цяжка (нават самому Вянчаславу Альгердавічу). Нехта гаворыць, што імя і фамілія ў яго гучныя, як мае быць у сапраўднага творцы. Нехта заўважыў, што знешнасць у яго як у класічнага майстра пяра: выцягнуты, трошкі хваравіты твар, тонкі нос, стальны і востры, як лязо брытвы, позірк, густыя бровы «воранавы-крылы» і валасы колеру жніўеньскага пшанічнага поля. Ну як тут не стаць пісьменнікам?

Дык вось, занурыўся Вянчаслаў Альгердавіч у працу! Месяц піша, другі, трэці… Піша адказна, грунтоўна. Праз паўгода наш герой скончыў працу. Загрузіў свой каштоўны груз у чамадан і накіраваўся ў бліжэйшыя рэдакцыі свайго горада. Раман у адной з такіх рэдакцый з неахвотай прынялі і сказалі пачакаць трошкі.

Праз некаторы час Вянчаславу Альгердавічу пазванілі і сказалі, што раман не падыходзіць, тонка намякнуўшы на яго заштампаванасць, «драўлянасць вобразаў» і кульгавую мову. Напрыканцы пажадалі поспехаў і новых планаў. І каб абавязкова прыносіў што-небудзь яшчэ…

Будучы класік не паверыў у сваю няўдачу. І пайшоў па іншых рэдакцыях… Але і ў іх адказы былі прыблізна такімі.

Аднак Вянчаслаў Альгердавіч не страціў надзею. Нехта падказаў яму, што можна паспрабаваць сябе ў паэзіі. Бо калі не ідзе проза, значыць у цябе не той склад душы. А вершы пісаць лягчэй! Так яму казалі. Сеў і пачаў страчыць пра прыроду, любоў да Бацькаўшчыны і каханне. О, матэрыялу і натхнення знайшлося на два чамаданы вершаў. Ён нават наняў таксі, каб давезці іх да бліжэйшага выдавецтва (так-так, Вянчаслаў Альгердавіч вырашыў дзейнічаць напрамую, без пасрэднікаў — адразу ў выдавецтва). Ну, што тут казаць…

Але і гэтая задума правалілася. Адказалі прыкладна тымі ж словамі, што і ў рэдакцыях часопісаў.

«Во сволачы!» — усклікнуў непрызнаны пісьменнік. І запіў, як сапраўдны класік: самааддана і прыгожа…

Усё б скончылася вельмі сумна, каб толькі добрыя людзі не падказалі Вянчаславу Альгердавічу заняцца нечым іншым. Напрыклад паспрабаваць сябе ў жывапісе…

І зноў адбылося нейкае цудоўнае пераўвасабленне! Нараджаўся новы мастак! А што… «Мабыць і атрымаецца» — так падумаў Вянчаслаў Альгердавіч. І зноў для яго заззяла сонейка і жыццё напоўнілася сэнсам і новымі фарбамі!

### Прэміраваны

Ён зробіць усё дзеля таго, каб атрымаць прэстыжную прэмію! Ён ведае правілы гульні і будзе падпарадкоўвацца ім, як належыць чалавеку, вартаму ўзнагароды. Ён ведае, што патрэбна людзям! Яго любімы выраз: «Піпал схавае!» І сапраўды — ХАВАЕ! Ды яшчэ і дабаўкі просіць! Гэта поспех. Ён яго адчувае амаль фізічна. Ён упэўнены ў сабе. Ён упэўнены, што ў яго ўсё атрымаецца па плане, які ён распрацаваў на некалькі гадоў наперад. І нават яшчэ «настрачыў» нешта для ВЕЧНАСЦІ, каб застацца сур'ёзным…

Можа нават і атрымаецца. А пакуль трэба паставіць на паліцу новы помнічак сваёй самавітасці і неверагоднай працаздольнасці.

### Попел

Напланаваў там усяго... назапісваў цэлую гару «сшытачкаў і нататнічкаў». Цяпер засталося пачакаць таго педантычнага чалавечка, які бязлітасна пакіне 15—20 % напісанага. А той, што з крыламі, паплача над попелам спаленага.

## Тузін дробязяў, ці Зацемкі з дзіравых кішэняў

### З поўдня

Лета. Вяртаемся дадому з поўдня. Вакол жоўты, як сметанковае масла, стэп. Недзе раз-пораз трапляюцца адзінокія дрэўцы…

У аўтобусе няма чым дыхаць. Нават адчыненыя люкі і кандыцыянеры не ратуюць, бо гарачае паветра не дае прахалоды. Недзе праз гадзіну — «санітарны прыпынак».

Ногі пасля доўгага сядзення зацяклі. І ў першыя секунды здаецца, што ты развучыўся хадзіць. Але пасля анямення прыходзіць асалода ад руху, крокаў, адчування, што ўсё добра і ты можаш ісці-ісці-ісці... Што цябе больш нічога не стрымлівае. Але праз некалькі хвілін нас запрашаюць зноў прайсці ў гарачае нутро аўтобуса… Зноў некалькі гадзін сядзення ў паўсне і аняменні… Але з кожным кіламетрам надыходзіць неверагодная радасць, што хутка ты будзеш дома. Што там цябе чакаюць прахалодны душ і ложак, на якім можна вольна выцягнуцца ва ўвесь рост… Як мала чалавеку трэба для шчасця…

А як жа мора, горы?

Хай пачакаюць…

### Сапсаваныя компасы

Куды хочаш, туды і ідзі. Няма ні поўначы, ні поўдня, ні ўсходу, ні захаду… Ёсць толькі сапсаваны компас. Проста ідзі! Куды-небудзь ды прыйдзеш. Усе, каму не лянота, хочуць адрамантаваць гэты компас. Толькі нікому не ўдаецца (а можа і не трэба). І нехта шчаслівы ад такой свабоды. Нехта стаіць на адным месцы і чакае, калі хто-небудзь прывядзе да ладу гэты сапсаваны компас. А нехта шукае вінаватага.

### Пераадоленне

«Пераадоленне» — самае дакладнае слова маіх будняў. Далей усё будзе добра. Будуць усмешкі, добры настрой, планы, праца, Святы... А пакуль... ПЕРА-А-ДО-ЛЕН-НЕ!

### Рэчы

У дзяцінстве рэчы пражываюць вельмі хуткае, але даволі яскравае жыццё. У старасці — усё наадварот...

### Недасяжныя мары

Перабіраю ўспаміны, адкладзеныя мары, якія так і не сталі нечым, што можна было б памацаць ці «пакаштаваць» на зуб. Марныя-марныя-марныя мары...

Недасяжныя?! Не. Проста не знайшлося часу, каб іх ажыццявіць (слабае апраўданне). Адкладзеныя мары прыходзяць у снах, каб яшчэ раз падражніць цябе сваёю дасяжнасцю.

І ты ўжо прачынаешся з ледзяной спінай і кроплямі поту на лбе. Пачынаеш ліхаманкава брацца за розныя справы, абы толькі заняць чым-небудзь рукі! І супакойваешся... І супакойваешся.

### Спрашчэнне

Не люблю тых, хто ўсё спрашчае... Нават не спрашчае, а нівеліруе рэчы і іх сэнсы. Для іх няма нічога вартага (акрамя ўласных амбіцый) і святога. Кожнае меркаванне прасякнута цынізмам і танным гумарам, ад якога патыхае скляпеннем. Але самае цікавае: гэтыя людзі пражываюць вельмі доўгае і па-свойму шчаслівае жыццё!

### Самападман

І нічога нікому не трэба даказваць! Але ўсё роўна даказваем. Спачатку бацькам, потым сябрам, потым нейкім незнаёмым людзям, якія не маюць ніякага дачынення да твайго жыцця, потым зноў нейкім знаёмым. Даказваць, што спрытнейшы, разумнейшы, лепшы, чым ты ёсць!

Што менавіта ў цябе лепшая праца ў свеце (няхай усе зайздросцяць), што менавіта ты ёсць той самы найсапраўднейшы чалавечак, якому так пашанцавала ў гэтым няўстойлівым жыцці! А вось як сябе пераканаць, што ўсё так і ёсць? Сябе не падманеш.

## Зімовы ўспамін

Памятаю, як тры гады таму ішоў уздоўж канала ад Нацыянальнай бібліятэкі да Зялёнага Луга. На сэрцы было лёгка і прыемна. Думаў пра нешта, з задавальненнем удыхаў снежаньскае прахалоднае паветра. Праз некаторы час убачыў, як насустрач бягуць бацька з сынам. Яны смяяліся, даганялі адзін аднаго і валяліся ў снезе. І гэта мне так нагадала маленства, чаканне навагодняга цуду, неверагодную беспадстаўную радасць... І так захацелася патэлефанаваць бацькам! Аднак, як заўсёды, тысячы думак і сумненняў перашкодзілі гэта зрабіць. Здараецца, я ўспамінаю таго хлопчыка і яго маладога бацьку — і на сэрцы зноў становіцца цёпла-цёпла.

## Крыўда

*(з жыцця бацькоў і дзяцей)*

Ёсць такія моманты, калі хочацца закрычаць на дачку і нават «уляпіць ёй па дупцы». У такія моманты, каб неяк астыць, успамінаю сваё дзяцінства. Успамінаю той страх, калі мама ці тата крычалі на мяне. Здавалася, што горшага няма ў маім жыцці! І мне не хочацца, каб дачка запомніла ад мяне нейкую балючую крыўду, якая будзе сядзець у ёй усё жыццё. Ці атрымаецца?..

## У дачкі далоні пахнуць мёдам…

Ты ўжо прачнулася, даражэнькая? Мая маленькая сонная пчолка. Зараз паляціць збіраць букеты з кветак, траў і розных галінак… Ж-ж-ж… Паляціць далёка-далёка, а потым вернецца дадому, каб прынесці на далонях гэты чароўны пах мёду.

## Бацька і праца

Чым больш жыву, тым больш разумею, як мне далёка да свайго бацькі. Усе гэтыя «мужчынскія пункты» («пасадзіць дрэва, вырасціць сына, пабудаваць хату») ён перавыканаў утрая. А я ні па адным пункце не дацягваю.

Здаецца, што я раблю? Спрабую нешта ствараць, вучыць дзяцей, быць добрым мужам і бацькам… І збольшага нешта атрымліваецца. Але, калі я бачу, як «гарыць» у бацькавых руках праца, калі ён разважліва, з упэўненасцю сапраўднага майстра прымаецца за справу (будуе дом, гараж, рамантуе самыя розныя рэчы, якія ў яго руках «ажываюць», збірае з рознага «смецця» трактар…), то ўсе мае «дасягненні» блякнуць. І я адчуваю, як мне да яго далёка! І радуюся, што ёсць чалавек, ад якога мне шмат чаму можна вучыцца… Пакуль яшчэ не позна!

## Шукаю

Бывае, выпадзе вольная хвіліна, і, хочаш не хочаш, успамінаюцца моманты жыцця, якія так ці інакш паўплывалі на маё стаўленне да гэтага Свету. Успамінаюцца людзі, учынкі, кнігі, якія пакінулі нейкі адбітак на маёй душы. Стараюся вылучыць самае важнае: тое, што вызначыла далейшае развіццё майго Лёсу… Але ўсё марна. Немагчыма вызначыць нешта адно (і нават больш). Здаецца, што ўсё было ўзаемазалежнае, нейкім патаемным чынам уплывала адно на адно А мне толькі застаецца прасачыць за гэтым «ланцугом»… Гляджу на яго (ланцуг гэты) — і не разумею, дзе я памыліўся (а можа, і не памыляўся). Але адкуль тады ўзяліся трывога і адчуванне выкрасленасці з гэтага Свету? Звяртаюся да кніг… На некаторы час дапамагае. Да першага прыступу ўдушша.

Хочацца кінуць усё і пачаць з самага пачатку (о, колькі ўжо разоў пачынаў!). Абнуліць «лічыльнікі» і знайсці тую Глебу, на якой можна ўсё пачаць нанава…

Шукаю яе…

## Раніцы

Сон. Якая спакуса… Кожную раніцу ўступаю з ім у бой. І амаль заўсёды перамагаю. Але на працягу дня ён напамінае пра сябе.

Раніцы. Якія яны бываюць розныя! Трывожныя, калі ты павінен нешта зрабіць такое неадкладнае і важнае, што ўжо загадзя няўпэўнены ў сваіх сілах. Ужо загадзя настройваешся на паражэнне. Здаецца, што ўсё супраць цябе. І дыяпазон тваіх пачуццяў адпавядае дыяпазону раздаўленага чарвяка. У галаве выдумляеш дзясяткі, сотні, тысячы варыянтаў слоў, якія могуць сказаць у твой адрас у выпадку паражэння… І ты нават разумееш, што табе няма ніякай справы да гэтых слоў, але «праварочваеш» гэтыя словы, як праз мясарубку, прыдумляеш адказы… І не заўважаеш, як яшчэ не падняўшыся з ложка, ты ўжо выматаны і ні на што не здольны.

А бываюць, наадварот, такія бесклапотныя раніцы, калі цябе быццам нехта штурхае ў спіну (вецер напаўняе твой парус); і атрымліваецца ўсё і нават болей… Ты па невытлумачальнай прычыне ўсміхаешся. І гэтая ўсмешка — першая ластаўка тваёй удачы на сёння. Так бывае, калі ты ўчора добра папрацаваў і не хочаш спыняцца на дасягнутым. Гэта натхняе! І хочацца працаваць, атрымліваць радасць ад справы, здзіўляць і здзіўляцца! Усё проста і ясна. Ты ведаеш, што трэба рабіць! І ты ведаеш, што зробіш усё добра і дасканала.

Але я заўважыў, што, калі ў цябе ўсё дрэнна, чамусьці ў іншых справы ідуць угору. Кагосьці павышаюць на працы, выпраўляюць у камандзіроўку ў Еўропу, робяць самыя выгадныя прапановы («ад якіх цяжка адмовіцца»)… Усё гэта здараецца з некім іншым, але не з табой. І слухаць пра чужыя перамогі і поспехі неяк, мякка кажучы, не зусім прыемна. У такіх выпадках «ратуюць» толькі іншыя няўдачнікі, у якіх справы ідуць яшчэ горш, чым у цябе. Так уладкаваны чалавек (агаваруся — большасць). Ёсць адзінкі, якія могуць шчыра парадавацца за твае поспехі ці шчыра паспачуваць тваім паражэнням… На іх і трымаецца наш Свет.

Хочацца стаць лепшым, чым ты ёсць! Быць заўсёды гатовым прымаць самыя правільныя рашэнні, не рабіць нікому балюча…

У такія моманты хочацца прытуліцца, як у дзяцінстве, да мамулінага пляча, ці крэпка-крэпка схапіць бацьку за руку, адчуць далонь на галаве і пачуць самыя добрыя словы. А ты так неразборліва адказваеш: «Я болей не буду. Прабачце мне». І вераць. І прабачаюць.

## Па дарозе ў Маладзечна

Па дарозе ў Маладзечна я паспяваю прачытаць невялічкі том вершаў ці аповесць сярэдніх памераў. Вядома, мне больш падабаецца назіраць у акно за зменамі краявідаў, жыццём вёсак, разважаць над іх назвамі, запісваць найбольш цікавыя… І хочацца выйсці на кожным прыпынку, паблукаць, падыхаць тым паветрам, якім дыхаюць жыхары гэтых вёсак. Што стрымлівае? Час! Вось яно — галоўнае апраўданне.

«Я ж еду да Мінскага мора, Заслаўя, Радашковічаў, Маладзечна. Навошта недзе сыходзіць? Усё ж амаль аднолькавае! Тыя ж хаты, тыя ж людзі!..»

Знаходжу рацыянальнае апраўданне ляноце і нерашучасці. Таму проста гляджу ў акно. Але ўсё так хутка праносіцца, што не паспяваю нават засяродзіцца на нечым адным, што прыцягнула ўвагу!

«Потым, неяк потым. Абавязкова вярнуся. Не гэтым летам, дык іншым.»

А тым часам ад Мінска аддзяляюць мяне тысячы — сотні тысяч дрэваў і некалькі дзясяткаў вёсак. І, нешта падказвае мне, што я наўрад ці пабываю за сваё жыццё хаця б у палове з апошніх.

Па дарозе ў Маладзечна хочацца спаць… Але, каб не паддацца спакусе, ты напамінаеш сабе, што з-за не вельмі сумленных індывідаў ты можаш застацца без грошай і іншых (такіх каштоўных) рэчаў. Таму трымаешся «бадрачком»!

І ты працягваеш адлічваць станцыі, назвы якіх у бліжэйшай будучыні нават і не ўспомніш. Пражываеш у цягніку невялічкае жыццё! А што ты паспеў зрабіць за гэты час? Прачытаў невялічкі томік вершаў (ці сярэдніх памераў аповесць), разгадаў сканворд, перакінуўся некалькімі словамі з грамадзянінам N, убачыў, як нехта «ўціхара» жлукціць «беленькую»… І гэта ўсё? Так няшмат?

Нічога. Наперадзе цэлае жыццё. А пакуль…

ТыдЫх-тыдЫх — тыдЫх-тыдЫх — тыдЫх-тыдЫх…

## Спяшаюся

Кожны раз спяшаюся. І кожны раз абяцаю сабе, што больш так рабіць не буду. Усё роўна ад гэтай мітусні нічога не выйграеш! Ну, прыйшоў на 5—10 хвілін раней. А што далей? Зноў прыйдзецца чакаць! Перабягаеш дарогу, ледзь не трапляючы пад колы тралейбуса. Гаворыш сабе: «Дурань! Прытармазі! Куды ты ляціш? Яшчэ паспееш на той свет! Насамрэч — сапраўдны ІДЫЁТ! У цябе ж ёсць сям'я. Ты пра іх падумаў?». Няма часу калі думаць. Усё роўна працягваеш гэтую гонку. Усё робіш на бягу, на ляту… На бягу снедаеш, вячэраеш, размаўляеш па тэлефоне, робіш нейкія справы… Усё дзеля чаго? Дзеля нейкіх 5—10 хвілін, якія ты ўсё роўна аддаеш зачыненым перад носам дзвярам аўтобуса ці пошукавым браўзерам сеціва.

Але што табе з таго разумення? Працягваю бегчы. На гарызонце гмахі неадкладных спраў… Усё, няма калі… Пабег!



Дзяніс Шпіронак

**нарадзіўся 25 мая 1993 года ў пасёлку Гудагай Гродзенскай вобласці. З вучобай у ВНУ «не сышліся характарамі», таму адукацыю атрымліваў у бібліятэцы. Пасля тэрміновай службы ў войску працуе там, дзе больш падабаецца і куды больш схіляецца душа. Кім толькі ні быў: і грузчыкам, і прыбіральшчыкам, і аўтакіроўцам, і афіцыянтам, і ахоўнікам. А ў перапынках гэтай бурнай дзейнасці крыху піша, крыху малюе і зусім крышачку падарожнічае.**

# Новы шлях

## Кінаплёнка жыцця

Кінаплёнка жыцця,
Кіламетры падзей
Пралятуць, нібы ў кінатэатры, —
Паўстаюць з забыцця
Стужкі новых надзей
На Таймс-сквер ці на п'яным Манмартры.
Кубак кавы, цяпло,
Ціхі джаз на стале
І няўтульнае робяць утульным.
Неба сінню святло
За акном аддае,
Аксаміт ад марозу ратуе.
Дотык вуснаў густы,
Прывід плечы крануў…
Я уцёк, моцна пляснуў дзвярыма.
Дабягу да вясны,
Тут раўнуй не раўнуй —
Ўсё адно згас агонь у каміне.
Цьмяны сонечны круг
Выкраў сілы і знік.
Смак свабоды ці смак адзіноты?
Новы шлях, новы гук —
Колы, крэслы, цягнік,
І не чутна сумлення згрызотаў.

## Ліхаманка

Ліхаманка, гарачка, трызненне,
Прачынаюся раптам уночы.
То не вірус, ніякіх сумненняў —
Захварэў на зялёныя вочы.

Патануў, захапіла дыханне,
І ледзь выплыў на бераг пясчаны,
Ды праймае, трасе да світання —
Ў вусны поўныя я закаханы.

Ні жывы і ні мёртвы — бяссільны,
Абыякавы да наваколля,
Але зноў выпаўзаю з магілы,
Каб пабачыць твой стан непакорны.

Доктар раіць захоўваць цярпенне —
У хваробы такой час кароткі.
Хвалі палкасці крышаць каменні,
Зводзіць з розуму голас дрыготкі…

З-за бяздушнасці расчараваўся,
Знікла палкасць, хвароба прапала.
Толькі ў памяці вобраз застаўся —
Мне яго прыгажосць малявала…

## Мы розныя

Забрала думкі восені турма,
І шэпча пад нагамі лісце позняе,
Што мы з табой сустрэліся дарма —
Мы розныя.
Мы розныя.
Мы розныя.

Навошта марнавалі гэты час
На гутаркі, на тэмы несур’ёзныя?
Ужо нічога не яднае нас —
Мы розныя.
Мы розныя.
Мы розныя.

Ты, мусібыць, смяялася з мяне,
А я ў бяссонні траціў ночы цёмныя,
Адно толькі было у галаве:
Мы розныя.
Мы розныя.
Мы розныя.

І калі позірк твой, які чаруе,
Злаўлю ў натоўпе вечарам марозным я,
Скажу адно, ты гэта мне даруй:
Мы розныя.
Мы розныя.
Мы розныя.

***

З адной я вёў сябе як ідыёт,
Другая — мне выносіла мазгі.
У трэцяй быў вялізарны жывот,
А у чацвёртай быў ён затугі.
Пра хлопца пятай я не ў час пачуў,
А шостая — па здрадзе уцякла.
Лічыла сёмая — яе азалачу.
Жыць сябра восьмая ў кватэру прывяла.
З дзявятай і дзясятай ў адзін час
У музыцы не так сышоўся густ —
Адна любіла пасівелы джаз,
Другая ў клубах не магла сцярпець спакус.

Не ў вас, вядома, справа, а ўва мне,
Але я з носам, а вы з німбам залатым.
Хтосьці сказаў пра ісціну ў віне,
Ды так й да смерці можна быць п’яным.

## Ты дурань

— Ты дурань, боўдзіла, халера! —
Мне біла кулаком у грудзі, —
Я ўжо амаль табе паверыла!
І што цяпер са мною будзе?

— Я вырашыў, што проста жах
Далей прадоўжыць стасавацца:
Мы будзем ў розных гарадах,
Таму нам лепей развітацца.

…І год за годам, дзень за днём
Твой вобраз з думак гнаў я прэчкі,
Але дзівосным прамянём
Бліснула новая сустрэча.

Тулілася, як кацяня,
У прахалодзе вечаровай,
Ты тая ж, толькі не мая.
Як я хацеў пачаць па-новай!..

А потым выпадкова зноў
Сустрэў цябе, і нас панесла
У свет агульных нашых сноў,
Свет летуценняў, фарбаў, песняў.

Лавілі момант, як маглі,
І асалоду ад імгненняў.
Зноў разгарэліся вуглі,
Душу ратуючы ад ценяў.

Хацеў пацалаваць — не мог,
Не дазваляла мне сумленне,
Бо несці вернасць — цяжкі доўг,
Штурхнуць да здрады — не рашэнне.

— Ну вось і ўсё, бывай, бывай…
Хай шчасце вашае трывае...
Ды у празрысты небакрай
Цягнік твой хуткасць набірае.

…І толькі зараз разумею,
Што сваю будучыню страціў.
Цаніць, што маем, мы не ўмеем,
За глупства ўласным шчасцем плацім.

## Кніжны запой

Кніжны запой —
маё гора,
маё захапленне.
Ў гэтым салодкім тумане я знік назаўжды.
Знік з галавой
у прасторы
сляпога трызнення,
перамяшаліся — спрэс — людзі і гарады.

Першы мой крок —
дэтэктывы,
нібыта джын-тонік,
раздражнялі мяне, вымушалі мазгі працаваць.
Страціў спакой
у парыве
з сумленнем разборак,
кінуў, задумаў больш моцнага пакаштаваць.

Быкаў Васіль
абыякавым
не пакідае —
родны, прыемны на пах і на смак самагон.
Просты на стыль,
але з першых радкоў
з ног збівае
шчырая праўда, мараль, чалавечнасць, закон.

«Русская водка»
б'е моцна,
каб страціць прытомнасць —
гэта спадар Дастаеўскі апісвае Русь.
Моташна,
горка, самотна,
пакутуе годнасць,
трэба разбавіць, каб ў лепшае веру вярнуць.

Тут жа — Талстой,
як каньяк
самы высакародны:
з году ў год ён становіцца ўсё даражэй.
Перада мной —
бы маяк,
святло дорыць лагоднае,
праведны ўказвае шлях да нябёсаў бліжэй.

Скот Фіцджэральд —
віскі моцны
амерыканскі,
смак кожны раз з асалодай прыемна адчуць.
Дзіўны гарант
мроі млоснай
і мары нязгаснай,
што разбіваецца ўшчэнт, як
спрабуеш крануць.

Кніжны запой —
маё гора,
маё захапленне.
Ў гэтым салодкім тумане я знік назаўжды.
Знік з галавой
ў чыстым моры
майго прасвятлення,
сталі на месца свае людзі і гарады.





Анастасія Падрабінкіна

**нарадзілася 4 снежня 1999 года ў Магілёве. Вучыцца ў ліцэі № 1, захапляецца танцамі, вывучае польскую і англійскую мовы. Апавяданне напісала для ўдзелу ў гарадскім конкурсе юных пісьменнікаў, які ладзіўся летась. У выніку стала лаўрэаткай конкурсу і дэбютуе ў «Маладосці». Віншуем!**

## Пра каханне

Світала... У роснай духмянасці красавіцкай раніцы раставаў пунсовы золак. Звонкі дзіцячы голас зліваўся з вясёлым шчабятаннем птушак:

— Мама, мама! У нас на двары — новая яблынька…

Хмурая жанчына выйшла на ганак і ўсміхнулася дачцэ. Матчына сэрца хвалявала здольнасць маленькай Сашачкі радавацца першым пацалункам сонца, пакінутым на сырой зямлі, — дзіўная здольнасць, дараваная нябёсамі толькі дзецям ды паэтам. Жанчына разгладзіла старэнькі фартух і, лёгка падхапіўшы вялікія бліскучыя вёдры, накіравалася да калодзежа.

Кацярыну (так звалі жанчыну) выдалі замуж рана — ёй ледзь мінула сямнаццаць. Наўрад ці яна магла сама адказаць дакладна, ці кахала свайго мужа, вясковага каваля Сяргея, з вечна здзіўленымі, колеру стальнога неба вачыма. Не паспела пакахаць, як той загінуў, кінуўшыся ў вір за родным братам. Так і не выплылі абодва, захлынуўшыся цёмнымі водамі… Хавалі Сяргея, калі ў паветры млява кружылася мокрае лісце. Здзіўлена каркалі вароны. У пацямнелай царкве тужліва гудзеў іржавы звон. З сумам, які бязлітасна раздзіраў яе сэрца, Кацярына прыціскала да сябе паўгадовую дачку.

У адзін з тых дзён, калі п'янлівай смугой апускаўся туман і падавалася, нібы паветра напоўненае мігатлівым святлом, Кацярына выйшла на ганак і мімаволі залюбавалася дачкою. Яе Сашачка сустракала сваю шаснаццатую вясну… О, вочы маці, што глядзіць на сваё дзіця! Якім святым нябесным агнём вы гарыце, якое ласкавае святло выпраменьваеце! І тое, што недагавораць вусны, абавязкова адлюструецца ў матчыных вачах.

Калі Кацярына схавалася за старэнькімі веснічкамі, з-за драўлянай адрыны, дзе стаялі кошыкі, што рассохліся за зіму, паказалася Сашачка. Усе фарбы ранішняга золку ззялі на яе румяным тварыку, рудаватыя валасы былі тугім вузлом скручаныя на патыліцы, і некалькі асабліва непаслухмяных пасмачак выбівалася з-пад светленькай хусцінкі, расшытай каляровымі ніткамі. Дзяўчына прабіралася да густога саду і смяялася звонка і пяшчотна. Яе цёмна-шэрыя, як у бацькі, вочы са здзіўленнем прыпыняліся то на танюткай галінцы, то на птушцы-шчабятусе…

Раптам Саша знерухомела. Пад галлём любімай з дзяцінства яблыні сядзеў незнаёмец і штосьці пісаў. У яго ранцы была відна кніга, абгорнутая паперай. Галінка хруснула і не дала дзяўчыне застацца незаўважанай: чалавек адарваўся ад паперы і адкінуў назад раскудлачаныя кудзеркі колеру падмоклага жыта… Падавалася, што разам з Сашай застыла прырода: у кудзеркавым голлі перастаў гарэзіць вятрыска, супакоіліся пчолы, што гудзелі без стомы, сцішылася першая пяшчотная лістота. Быццам само жыццё баялася скалыхнуць два замерлыя адно для аднаго сэрцы...

А потым Сашка штодня, не выключаючы выхадных і свят, зазірала ў бібліятэку да Мацвея, які там працаваў, — таго самага незнаёмца, сустрэтага ёй мінулай вясной пад яблыняй, што распускалася пяшчотай. Сёння Сашачка была асабліва рада: Мацвей абяцаў звазіць яе на кірмаш у горад! Канешне, было нялёгка ўгаварыць маці, але чаго ж ёй хвалявацца? Мацвей жа так кахае Сашу! А колькі новых кніг яна ад яго атрымала, а што за словы ён казаў! І якім чароўным бляскам гарэць яго вочы ўсялякі раз, калі ён прамаўляе запаветнае «кахаю»…

Саша атрымала ў спадчыну ад маці рысу, уласцівую натурам простым і чулым: яна аддавалася пачуццям без надуманай сарамлівасці, не адчуваючы на сабе цяжару забабонаў. Канешне, яе не маглі не хваляваць размовы, якія хадзілі па іх малюсенькай вёсцы. Аднойчы дзяўчына ўбірала косы стужкамі і да наіўнасці кранальна шчабятала суседцы Дашы пра Мацвеева каханне. «Кахаць, здаецца, ён кахае… — з’едліва сказала суседка, — а замуж?»

Мацвей адклаў убок буйных памераў том Вальтэра Скота, задумліва зірнуў у акно і адразу ж усміхнуўся: яблыневы цвет, які біў у шкло сваёй пяшчотай, нагадаў яму Сашачку. Лёгкім трапятаннем адгукнулася сэрца. Ён моцна кахае яе… але дагэтуль баіцца сказаць тое, што, здавалася б, вось-вось павінна было вырвацца з самых глыбіняў маладога сэрца, усё ніяк не можа вымавіць тыя самыя запаветныя словы: «Станеш маёй жонкай?» Мацвей уздыхнуў. Згадаліся любімыя вочы. Колькі б ён аддаў, каб тануць у іх кожную раніцу! «Усё, заўтра ж скажу ёй. Вырашана, заўтра!»

Кацярыну разбудзіла ў тую ноч дзіўнае пачуццё. У сне, неспакойным і трывожным, яна бачыла нябожчыка-мужа, які бег кудысьці ў лес з маленькай Сашачкай на руках. Над імі, разрываючы дзікім карканнем паветра, кружляла змрочнае вараннё. Бацька з малюткай ужо былі блізкія да выратавальнага гушчару, калі невядомая сіла скалыхнула зямлю і ўсё згасла... Кацярына не была прымхлівай, але ўсё ж такі задрыжала ад невыразнага прадчування. Так і праварочалася да раніцы, апавітая, быццам тугімі цёмнымі стужкамі, глухой начной цішаю.

А наступным чэрвеньскім днём здарылася страшнае. Цэлая вёска сабралася каля рэпрадуктара, перагаворвалася, перакрыквалася, здзіўлялася. З шэрай скрыні данёсся суворы голас, і за адну секунду ўсталявалася змрочная цішыня. У Кацярыны паплыло перад вачыма…

Дваццаць трэцяга чэрвеня прыйшоў загад аб мабілізацыі ў шэрагі Чырвонай арміі. Неўзабаве на світанні, зірнуўшы апошні раз на збляклую яблыню, сышоў Мацвей. Напярэдадні ён абяцаў дзяўчыне: «Вось пабачыш, прыйду да цябе праз месяц!» Але Саша толькі сумна глядзела перад сабой, трымаючы яго за руку… Неўзабаве  немцы занялі іх вёсачку. Падчас зацяжных абстрэлаў у дрэва патрапілі кулі, і яблыня залілася burштынавымі слязьмі. Разам з ёю, седзячы ў сырым склепе, плачма плакала Саша, прыціскаючы да грудзей цвёрды шэранькі трохкутнік — адзіны ліст, атрыманы ёю ад Мацвея цэлую вечнасць таму.

Каб не памерці з дачкой ад голаду, Кацярына хадзіла працаваць у камендацкі дом, і Сашачка падоўгу заставалася адна ў халодным двары. Яблыня плакала цэлы месяц і болей не квітнела. Толькі цьмянела амаль празрыстае лісце, як цьмянелі Сашыны вочы, якія больш нічому не здзіўляліся…

Неаднойчы дзяўчына лавіла на сабе драпежныя позіркі нямецкага афіцэра Ганса. Аднаго разу, вярнуўшыся ўвечары з працы, Кацярына пачула надрыўныя ўсхліпванні дачкі. Забегшы ў самы аддалены пакой, яна пабачыла немца, які трымаў Сашачку за рукі і ажыўлена штосьці балбатаў на сваёй дзікай мове. «Ах ты, гніда нямецкая! — закрычала перапалоханая маці, — каб тваёй паганай нагі больш не было ў нашым доме!» У немца паляцелі старыя збаны, зэдлікі — усё, што траплялася Кацярыне пад рукі. Сашачка забілася ў кут.

Кацярына дадому больш не вярнулася. У садзе памірала яблыня. Чым часцей у хаце з'яўляўся Ганс, тым мацней у Сашачкі гаслі вочы і больш рэзка выступалі скулы; тым больш з'яўлялася ў змучанай яе душы нейкай незразумелай бязлітаснасці да Мацвея, які пакінуў яе не жонкай — нікім у гэтым свеце, да аднавяскоўцаў, якія шапталіся, што «Сашка нямецкай падсцілкай стала», да немца, упэўненага ў сваёй моцы, да усяго свету. Начамі, калі дзяўчына зрэдку засынала, ёй мроілася квітнеючая яблыня і родныя, такія блізкія і любімыя вочы…

Перамога! У вёску пачалі вяртацца бацькі, браты. Кожную раніцу дзеці крыкамі сустракалі новапрыбылых. Саша ўзнімала сумныя вочы і ціха выходзіла на двор. Нікога… Прабягалі месяцы, за імі непрыкметна краліся гады. У рудаватых Сашкіных кудзерках з'яўляліся серабрыстыя ніці. А ёй жа яшчэ не мінула дваццаці пяці!

Аднойчы веснічкі адчыніліся пад націскам нечых моцных рук. Саша абыякава зірнула на двор, і раптам яе сэрца, якое дагэтуль заставалася халодным пры любой праяве жыцця, забілася ў сто разоў хутчэй. Дзяўчына з былой шпаркасцю збегла з ганка і кінулася ў доўгачаканыя абдымкі.

Світала. У роснай духмянасці красавіка зацвітала пасечаная кулямі яблыня, нібы параненае каханне набывала другое дыханне…



Гравюра Маргарыты Дабравольскай.



Таццяна Сівец

**нарадзілася 23 чэрвеня 1982 года ў Мінску. Паэт, публіцыст, драматург, перакладчык, журналіст. Працавала на радыёстанцыі «Беларусь», галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць», штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Цяпер — першы намеснік галоўнага рэдактара газеты «Медыцынскі веснік». Аўтар паэтычных зборнікаў і кніг для дзяцей. У 2013 годзе за кнігу «Куды прапала малпа Маня?» атрымала літаратурную прэмію «Залаты купідон» у галіне дзіцячай літаратуры.**

# Пунсовакрылыя караблі

***

Я гляджу
на Высокія Татры,
ды бачу
не іх,
сонца маё,
а
твар твой…
Ты жывеш
голасам
у маім тэлефоне.
І нават калі я здымаюся
на нейкім чароўным,
неверагодным,
прыўкрасным
славацкім
фоне —
думаю
пра цябе.

Я гэтыя горы
хацела б
узяць у далоні,
нібыта Шыва,
прынесці —
вось,
як цябе кахаю!
А ты
ў тым камені дзірачку
пратыкаеш —
І вешаеш —
мне на шыю…

***

Яны шэпчуцца: «Бач-ты, а вочы ж у яе —
воўчыя,
не дзявочыя…»
Дзе ж тое шчаня, што да рук цягнулася,
лашчылася,
што зазірала ў твар
свайго снежнавалосага
караля?
Цяпер яна проста сядзіць каля
яго,
пазірае моўчкі,
як
быццам нічога ніякага,
быццам бы ўсё, што колісь,
ужо закончылася…
…Яму і хочацца,
ды чамусьці ніяк не можа сказаць:
«Мая»…

***

Слухай, ну, насамрэч, канечне, было не так,
Як у казцы старой…
Бо русалачка закахалася не ў прынца, а ў
караля,
а кароль…
Ну, а што кароль…
Ён патлумачыў, што каб каралевай стаць,
трэба патанчыць на вострых нажах —
спярша —
а пасля…
Карацей, там быў доўгі шлях!

Дарэчы, у каралеўстве тым даражэй
за ўсё іншае — каштавалі словы:
тысяча фунтаў — адно
(і гэта па курсе пазаўчарашнім!)…
Так што беднай было і
падумаць страшна —
не тое што выгукнуць колькі нот,
нават калі нажы пакідалі шнары ёй
на падэшвах ног,
гэта дурніца і з болю рабіла
няправільныя высновы!
Ёй здавалася, што яны будуць жыць, бы ў
казцы,
ведаеш, доўга-шчасліва-добра,
ну, хоць нядоўга…
Але трасцы!
Кароль памёр,
сын яго апынуўся п'яніцам-марнатраўцам…
Так што русалачцы давялося
шукаць хоць якое працы:
прыборка ў палацы, начныя танцы на шкле
(нядорага)…
Штораніцы —
яна прыходзіць да мора…

Мора маўчыць.
Мора лічыць яе здрадніцай.

***

Бачыш, прынц мой, як цень ад птушкі
ляціць
хутчэй за яе саму?
Хочаш, намалюю табе баранчыка —
толькі не прымушай маляваць для яго
турму!
Раскажы ты мне казку, прынц мой,
толькі не пра зіму!
А найлепш пра пілота, які амаль
даляцеў…
«Вазьмі ты з сабою мяне…»
«Вазьму…»
Раскажы мне пра тое,
што выжылі **ўсе** і што ўвогуле не было
вайны...
Мой камікадзэ ўнутры —
ён пра смерць
ведае ўсё,
апрача
цаны.
А я памятаю, што галоўнае —
не падпускаць на стрэл…
Нікога, мой прынц!
Нікога…
І лепей было б, каб ты мяне
не сустрэў.

## Танец

*Немату Келімбетаву*

Танчы! Танчы! На раз-два-тры —
танчы з болем сваім — да рання!
Хай усе, хто цябе параніў,
запісаныя — у майстры,
ты ж — герой гарадскіх ускраін —
паліш словаў ікластых зграю,
бачыш, бачыш, яна гарыць!

Нават смерць пазірае ўхвальна і
нібы кажа: «А ён — нішто
сабе! Хай хоць трохі яшчэ ўтрымаецца
на канаце ў тым шапіто.
Рана…»
Роспач сплывае хвалямі,
але ў моры няма мастоў…
Ведаць броды б, ды толькі хтось
шлюпкі выкінуў ратавальныя…

Ты не знаеш, чаму твой Бог
забірае — нібы адорвае…
Так сыходзяць чужыя «добрыя»,
не паклікаўшы за сабой…
Зноўку ноч — ні сяброў, ні ворагаў,
быццам цені над сонным горадам:
ты і танец твой,
ты і боль.

***

Шкада, што ў радзільні жанчыне не кажуць:
«Пані, у вас нарадзіўся паэт. Не хочаце напісаць адмову?»
Паэт — гэта ж амаль як даўн,
гэта нават горай…
«Гэта не лечаць, шаноўная пані, вы ўпэўнены,
што хочаце яго ўзяць дадому?»
І калі яна кажа: «Так»,
то глядзяць на яе спачувальна,
маўляў, дурніца, не ведае, што гаворыць…
А ён спакваля расце,
кладзе сабе рыфмы ў рот замест пальцаў,
плюецца словамі
(першым — «ра-дзі-ма», канечне),
а яна
будзе хаваць ад суседак сурвэткі з ягонымі вершамі,
будзе мыць сапсаваную ім бялізну —
развешваць крадком, каб ніхто не ўбачыў,
каб думалі, што дзіця ейнае — як ва ўсіх.
Канечне,
тут ганарыцца няма чым…
Вось каб урач
ці
міліцыянер…
«Жанчына, вы ўпэўнены?»

***

Дзяцінства заканчваецца, калі
паміраюць тыя,
хто памятае цябе малой,
ці тыя, каго ты памятала са свайго
дзяцінства.
Усе гэтыя мануэлы, кэпвалы, проста
марыі…
Яны паміраюць, калі ты глядзіш на іх —
а яны старыя!
Ды потым узгадваеш, што ў твайго стрыя
ўнук нарадзіўся ўвосень.
Вы не бачыліся гадоў 18… Ці 28…
І калі сёння хаваюць тваё дзяцінства —
з аркестрам фальшывых словаў,
пад стогн і віскат
гэтых старых дзяцей,
ты не прыйдзеш, каб з ім развітвацца:
цябе няма ў яго «чорных спісах»…
Тваё дзяцінства застрэлілі ўчора ў спіну,
а ты побач стаяла, гледзячы, як яно
памірала…
І з ім паміралі ўсе казачныя гарады,
усе караблі твае пунсовакрылыя,
усе твае чарнавокія адміралы…

## Дзядулю

Арэлі мае рыпелі…
У пуні дзядуля павесіў арэлі…
Каб унучка гайдалася,
Да неба ўзлятала —
І вярталася…
Арэлі мае рыпелі…
Як снежныя хмары саспелі,
Дзядулі не стала…
А я засталася,
Сталая…
Арэлі рыпелі…
Так неба хацелі
Вочы мае і плечы,
Ды няма больш пуні старэнькай,
І няма каму
Прывязаць арэлі…





Айцец Яўстафій

**нарадзіўся 20 лютага 1975 года ў Докшыцах. Жыве ў Жыровіцкім манастыры. Выкладае ў Мінскай духоўнай семінарыі. Літаратуру лічыць адным з асноўных спосабаў пазнання ісціны. «Усмешка прадзеда» — трэцяя частка трыпціха (1-я была змешчана ў №7/2015, 2-я — у №1/2016).**

# Усмешка прадзеда

Сяргея даўно ўжо запрашаў пагасціць у Салонікі ўніверсітэцкі прыяцель. У Грэцыю ён пераехаў у значна лепшыя часы — на пачатку 2000-х. Зрэшты, нават цяпер, нягледзячы на крызіс, Валодзька нармальна зарабляў, таму што быў выдатным экскурсаводам, меў пастаянную кліентуру і яго многія рэкамендавалі. Асабліва любілі яго праваслаўныя паломнікі. І самым «хлебным месцам» быў, вядома, Афон[1].

З Валодзькам яны аднойчы выпадкова перасекліся ў Мінскім аэрапорце. Сяргей сам нікуды не ляцеў (ён аддаваў перавагу еўрапейскім лаўкостарам), а сустракаў нейкага «службовага госця». І тут… Валодзька — загарэлы, зусім чужы, іншаземец. Абсалютна лысы чэрап, барада, люлька ў зубах. «Ну ты і даў, дружа!..» — шчыра ўзрадаваўся Сяргей. «Ты таксама даеш… газуеш!..» — адпасаваў Валодзька і пачаў раздаваць кампліменты наконт таго, якія класныя, смелыя і разумныя артыкулы ў Сяргея. Той толькі ўсміхнуўся. Валодзька пачаў клікаць у госці.

Сяргей даўно ўжо чуў пра Афон, але ніяк не атрымлівалася туды з'ездзіць. Сустрэчу з Валодзькам ён успрыняў як нейкі знак з неба. Калі Сяргей падзяліўся з прыяцелем сваімі звычайнымі праблемамі (не самымі галоўнымі, канешне), Валодзька пераканана сказаў: «Табе трэба абавязкова пабываць у афонскага старца Дыянісія...» Так і сказаў, быццам гаворка ішла пра нейкага сур'ёзнага начальніка, які можа «ўсё разруліць». Дарэчы, сам Валодзька быў хутчэй агностыкам, чым шчырым вернікам, але ён ужо столькі пабачыў, водзячы людзей да гэтага старца Дыянісія... «Разумееш, адна справа — нейкія распіяраныя цуды з даведнікаў людзям уцюхваць, і зусім іншая — калі ты бачыш жывога носьбіта традыцыі…» Карацей, нешта Сяргея «зачапіла», і ён зразумеў, што трэба збірацца ў дарогу. Ён паабяцаў у хуткім часе звязацца з Валодзькам.

Гэты год не абяцаў нічога добрага. Сяргей, напэўна, перастаў ужо чакаць ад жыцця штосьці добрае ў прынцыпе. Неяк на тралейбусным прыпынку каля дома, дзе ён жыў, з'явіўся маленькі жаласны сабака з вельмі сумнымі і разумнымі вачыма. Сяргею зрабілася шкада бедачыны: ён купіў у гастраноме булку і прынёс на прыпынак. Сабака ўдзячна заматляў хвастом, спрытна схапіў булку зубамі і ўцёк. Калі Сяргей прыехаў вечарам дадому і выйшаў на тым жа прыпынку, сабака не падбег да яго, не заматляў прыветна хвастом. Ён проста сядзеў і глядзеў на мужчыну ўважліва — здалёк. Таму што, зразумеў Сяргей, сабака ўжо нічога не чакаў ад людзей, акрамя выпадковай міласці ў выглядзе капеечнай булкі. І на тым дзякуй!.. Сабака як з'явіўся, так раптоўна і знік — напэўна, забралі на жывадзёрню. Сяргей аднойчы назіраў гэтую жудасную карціну: як адлоўлівалі сабак і кідалі ў машыну, нібыта гнілыя нікчэмныя снапы бульбоўніка — у канаву.

---

1 Святая Гара Афон — гара і паўвыспа на тэрыторыі сучаснай Грэцыі, так званая «манаская рэспубліка», якая ўключае ў сябе дваццаць вялікіх праваслаўных манастыроў і безліч іншых манаскіх паселішчаў.

А потым нечакана з'явіўся гэты сшытак. Звычайны вучнёўскі сшытак сярод асабістых рэчаў Іры, якія Сяргей вырашыў упарадкаваць пасля доўгага часу — мулялі вочы… Эх, гэта аказаўся яе дзённік. Сяргей і не ведаў, што жонка-нябожчыца вяла дзённік. Пісала Іра ў асноўным пра сваю адзіноту, пра неразуменне з боку мужа — з гэтага пачынаўся ледзьве не першы запіс, літаральна праз нейкія пару месяцаў пасля таго, як яны ажаніліся!.. Толькі цяпер Сяргей сцяміў, што яго жонка ўсё жыццё пакутавала — праз яго. Пакутавала, бо адчувала: муж не любіў яе... Іра не разумела Сяргея, ды і ён сам сябе не разумеў! Толькі цяпер, чытаючы гэты страшны дзённік, ён усвядоміў, што сапраўды… не кахаў яе. Дакладней, каханне гэтае было не да Іры — да нейкага выдуманага вобраза. Іра гэта адчувала інтуітыўна. З разуменнем таго, што адбываецца ў іх сямейным жыцці, яна, можа быць, і здолела б неяк звыкнуцца, але яна **не** разумела, а толькі цярпела і пакутавала. З таго, як памірала Іра, Сяргею стала ясна: яна змірылася і прыняла як непазбежнае крах свайго жыцця, знайшла ў сабе сілы падзякаваць Богу за ўсё і з мірам адышла да Яго. І гэта быў для Сяргея надзвычайны ўрок, які ён адмаўляўся засвойваць. Яму хацелася выць і рваць зубамі гэтае недарэчнае жыццё, замест таго, каб дазволіць узяць сябе за шкірку і адправіць на жывадзёрню. Але сіл на вайну ў Сяргея не было. Дый як можна ваяваць з пустатой...

Ён ледзьве дацягнуў да навагодніх свят і сабраўся ў дарогу. Усё было ўжо заказана, як звычайна. Сяргей вырашыў усё-ткі ляцець праз Парыж — вельмі хацелася зноў паглядзець у музеі Дэ-Арсэ любімых імпрэсіяністаў. Колькі разоў ён хадзіў у гэты музей, колькі разоў з адчайнай асалодай удыхаў жыццё, якое ажно сачылася з карцін!..

Асабліва блізкія Сяргею былі карціны Пісаро і Сіслея. У Сіслея ён бачыў два дамінуючыя настроі: настрой яснага і млявага, выціснутага да дна вечара, а потым... нешта вельмі асабістае, няўлоўнае і неверагодна блізкае — можа быць, акурат тое, што ён увесь час спрабаваў злавіць у сваёй душы, сваім жыцці і не мог... Сяргей разумеў, што ў іх, у гэтых карцінах, ажываюць даўно забытыя пачуцці, ажываюць на імгненне — толькі пакуль ён глядзеў на іх. І, як толькі ён адыходзіў, у ім зноў гасла жыццё. І справа не ў кароткай памяці сталага чалавека ці легкадумнасці юнацкіх пачуццяў (калі адчуваеш усё гэта ўпершыню і таму так ярка, так поўна — паспявай толькі лавіць). Не, справа тут, напэўна, у тым, што ўваскрашэнне з мёртвых (мёртвых пачуццяў) — гэта прэрагатыва Бога, а мастацтва можа даць толькі ілюзію вяртання. Мастацтва, разбудзіўшы прагу гэтага ўваскрашэння, закрануўшы нешта вельмі глыбокае (так глыбока, што не магло не параніць), пакідала цябе зноў ні з чым, ператвараючы самае важнае для цябе ў чарговы падман. Падман, вядома, высакародны — і на тым дзякуй.

Разам з тым, у карцінах імпрэсіяністаў Сяргей бачыў тое, чаго так пакутліва не ставала яму самому: сумленнасці ў самавыяўленні. І справа нават не ў тым, што ад яго гэтай самай сумленнасці ніхто не патрабаваў, як ніхто і не забараняў яе... Сумленнасць была проста нікому не патрэбная. Але і гэта не так страшна. Сяргей сам баяўся яе — вось што галоўнае! — ён сам баяўся таго, што «распішыся» ён па-сапраўднаму, пачні, скажам, вялікі раман, выяві там усё, што цябе па-сапраўднаму трывожыць, мучыць і... І што? А ці не выйдзе ў выніку які-небудзь паскудны пшык... І такі пшык, што будзе сорамна і яму самому, і яго сябрам, і нават ворагам — ад таго, што яны ворагі такога пшыку?

Сяргей лёгка пісаў тое, што ад яго чакалі, і чым больш пісаў, тым больш папулярнай станавілася яго пісаніна. Так усё жыццё многіх мастакоў праходзіць у прадчуванні, падрыхтоўцы да нечага важнага: «вось наступным разам... вось убачыце яшчэ...» А потым жыццё мінае і высвятляецца, што галоўным было менавіта гэта — гарачыя калонкі ў інтэрнэт-выданнях або артыкулы пад заказ. Сяргею здавалася, што псеўданім яго ўратуе, дапаможа

падмануць самога сябе, але ж не... Ён стварыў новы стыль (дакладней, віртуозна «садраў» яго з папулярных заходніх выданняў); акружыў сябе сцяной загадкі; выгадаваў двайніка-монстра, які сачыў цяпер з-за гэтай сцяны, каб Сяргей не ўцёк. «У мяне ёсць імя! У мяне ёсць талент! Я яшчэ магу ўсё выправіць!..» — хацелася яму закрычаць, але не атрымлівалася: звычка маўчаць была мацнейшай. У любым выпадку Сяргею было не выйграць... І толькі імпрэсіяністы кранаі яго за жывое — ды так моцна, што яму хацелася верыць у гэта жывое, падпарадкавацца іх стыхіі, шукаць у ёй выратаванне.

Але Сяргей занадта добра ведаў жыццё. Ён разумеў: як толькі вернецца дадому, зноў пачне пісаць усялякае глупства — такое паўтаралася ўжо не раз. І нават калі яму за гэтую лухту дадуць Нобелеўскую прэмію, ён не супакоіцца, а, хутчэй за ўсё, яшчэ больш знервуецца. Усё ж такі ў Сяргея яшчэ засталася надзея на тое, што ён які-ніякі, а пісьменнік... Ён фатальна не мог вызваліцца ад звычайнага журналісцкага страху перад «вялікай літаратурай» — менавіта гэтая трывіяльная прычына была пачаткам усіх яго творчых комплексаў.

Сяргей прыляцеў у Парыж у сярэдзіне студзеня. Ён з цяжкасцю знайшоў сабе па «букінгу» больш-менш прыстойны хостэл на Манмартры: аднапакаёўку без асаблівых выгодаў, але затое з балконам, які выступаў проста на бульвар Рашэшуар. На гэтым балконе Сяргей і бавіў асноўны свой час. Спачатку ён яшчэ спрабаваў кудысьці хадзіць, на нешта глядзець... Але потым махнуў рукой і вылазіў з дому толькі ўжо бліжэй да ночы, каб падняцца да базілікі Сакрэ-Кёр — ад хостэла да яе было рукой падаць.

Базіліка Сакрэ-Кёр (параўнальна новы храм, пабудаваны ў канцы дзевятнаццатага стагоддзя) — велічная, велізарная; яна навісала над усім Парыжам, нібы татальны анёл, страшэнны ў сваёй маўклівасці. Сяргея кранула чырвоны плакат на храме: «Here night and day. Someone is praying to the Lord»[2]. Базіліка была амаль пустой. Сяргей адчуваў, што прыходзіць сюды, як на працу — каб і праўда быў тут хоць нехта, хто моліцца... А ён вельмі хацеў памаліцца — толькі атрымлівалася дрэнна. Тут, як нідзе, Сяргей адчуваў сваю адзіноту: яна выла аднекуль з глыбіні; выла, нібы разварочаная рана, нібы пакінутае дзіця. Ён і бачыў сябе гэткім горкім дзіцёнкам, усімі забытым — нават (страшна вымавіць) Богам… Сяргей шаптаў словы малітваў і адчуваў, як у яго цалкам пустой душы варушыцца рэха колішніх зносін з Богам. Толькі цяпер ён пачынаў разумець, што сапраўдных адносін ніколі на самай справе і не было. Прынамсі, з яго боку. А што было? Сяргей не ведаў. Нават самая галоўная падзея ў яго жыцці — зварот да Бога, пазнанне, як ён думаў, ісціны — аказалася ілюзіяй... Як такое наогул можна перажыць?

Не, Сяргей не сумняваўся ў самім існаванні Бога, але не мог паверыць у тое, што ўся навакольная рэчаіснасць мела нейкую сувязь з Ім. Здавалася, Бог хаваўся ад яго. Сяргей разумеў, што насамрэч гэта ***ён сам*** хаваецца ад Бога, і ўсе прэтэнзіі да Яго — нават прэтэнзія са смерцю Іры! — не вытрымліваюць аніякай крытыкі. Таму што з Богам нельга, як з усімі і ўсім у гэтым свеце: занадта часта людзі атаясамліваюць Яго з нейкімі сваімі ідаламі, такімі зручнымі для паўсядзённага жыцця, а дакладней — для таго, каб нічога не мяняць у гэтым жыцці. Сяргей зноў бег ад Бога, заблытаўшыся ў сэнсавых імператывах, якія выстаўляла яму сумленне, як выстаўляюць дзённае рэстараннае меню на вуліцу.

Потым ён выходзіў да назіральнай пляцоўкі базілікі, дзе познім часам узімку было вельмі ветрана і малалюдна. Сяргей абыякава лунаў нейкі час над начным Парыжам, са здзіўленнем назіраючы за тым, як у ім нічога не адгукаецца на гэтае, здавалася б, рамантычнае відовішча. Дваццаць гадоў таму ён прыходзіў у захапленне ад якой-небудзь чорна-белай газетнай фоткі з выглядам Парыжа, а цяпер... бачыў толькі пошласць, якую трэба было заліць. І Сяргей вяртаўся ў хостэл з алкаголем. У сваім нумары ён праседжваў другую палову ночы, павольна, з веданнем справы, напіваючыся.

2 «Тут дзень і ноч хтосьці моліцца Госпаду» (англ.)

Ён спрабаваў патануць на дне бутэлькі і не мог — дно было бясконцым. Сяргей разумеў, што ляціць у пекла, і калі б ведаў, як спыніць гэты палёт, як завіснуць ці хаця б увайсці ў стан бязважкасці, — ён, безумоўна, так бы і зрабіў. Справа ў тым, што ён не атрымліваў ужо ад усяго, што называюць веруючыя людзі «грахом», ніякай радасці. Усведамленне гэтага трымала Сяргея на прыцэле, але іншага спосабу збегчы ад сябе ён не ведаў, таму і працягваў фатальна піць.

Ён «запраўляўся» ў асноўным добрым вінoм. Часам браў «Джэк Дэніэлс» — калі зусім ужо хацеў напіцца. Сяргей піў тры-чатыры дні, пасля якіх надыходзіў гэты страшны перыяд, знаёмы ўсім алкаголікам: калі і піць ужо не можаш, і не піць гэтаксама... У яго «адхадняках» нічога асаблівага не было, хоць усе алкашы і лічаць свой абстынентны сіндром чымсьці ўнікальным. Штодня Сяргей прачынаўся з адной думкай: як яго, гэты чарговы дзень, перапаўзці, як з яго выбрацца жывым? Таму што здарыцца магло ўсё, што заўгодна. Пачнём з таго, што трэба было выйсці з дому і прайсці сотню метраў да бліжэйшага супермаркета — гэта ўжо нешта!.. Потым, у супермаркеце, нікога не зачапіць, нічога не разбіць, данесці некалькі бутэлек да касы, а ад касы— да хостэла. Зрэшты, гэта глупства яшчэ. А як зрабіць першы глыток? *Піць ці не піць*. На самай справе выбару ў Сяргея больш не было. І так дрэнна, і — так. І... усяляк. Па-любому дрэнна. Ён сядзеў на балконе з бутэлькай, доўга медыціраваў перад ёй, потым, нарэшце, выпіваў і... калі шанцавала, калі ўсё-ткі арганізм скараўся і «прымаў», то адразу рабілася лягчэй, і трамвай «Жаданне» далей каціў яго па рэйках у нікуды. Цяпер Сяргей толькі чакаў вечара, каб зноў паўзці сваёй амаль старэчай хадой у бок базілікі Сакрэ-Кёр. Цяпер яму заставалася толькі верыць у цуд.

Спачатку Сяргей нават спрабаваў знайсці сабе сабутэльнікаў, прапаноўваў часам у кавярні выпіць якому-небудзь самотнаму чалавеку. Але ніхто не разумеў яго імкнення. Французы наогул шугаліся ад Сяргея, як ад пракажонага, а турысты рагаталі альбо пыталіся «аб праблемах»; аднаго разу нават хацелі выклікаць паліцыю.

Неяк ён падсеў да двух клашараў[3], пачаставаў іх вінoм, хацеў пагаварыць «па душах»... Сяргей размаўляў па-беларуску, бо англійскай мовы яны не ведалі. Клашары, натуральна, нічога не разумелі, толькі шчэрыліся страшнымі бяздонна-чорнымі ляпамі і прагна хапалі паветра ў перапынках паміж заглынаннем алкаголю. Хутка Сяргей зразумеў, што гэта зусім іншыя людзі: у Мінску бамжы падчас пітва ўсё-ткі мелі нейкія эмоцыі — ці лаяліся, ці спрабавалі яго «раскруціць»... Гэтыя ж паводзілі сябе зусім незразумела: яны былі нібы цацачныя, штучныя. Сяргей не толькі не атрымаў ніякага суцяшэння ад зносін з імі, але нават працверазеў. У рэшце рэшт, пачала балець галава, і ён развітаўся з клашарамі, даўшы слова піць у гэтым горадзе толькі з самім сабой, каб захаваць хоць нейкія рэшткі павагі да сваёй юнацкай мары.

Справа ў тым, што Сяргей, як ні стараўся, не мог схаваць ад сябе відавочнае: Парыж выклікаў у ім глыбока схаваныя фобіі, надаваў ім новае гучанне; яны абляплялі яго душу і высмоктвалі рэшткі жыцця. Сяргей спрабаваў сагнаць з сябе гэтыя фобіі і ў той жа час адчуваў да іх дзіўную цягу: павольна, нібы зачараваны, глядзеў на іх і бачыў сябе гэткай самай пачварынай. Ён быў падобны да наркамана, які не можа знайсці вену; ён паступова ператвараўся ў вампіра. Дні Сяргея заканчваліся адным і тым жа тупіком, бяссэнсіцай; яны губляліся ў вузкіх вулачках Манмартра і рызыкавалі кожную раніцу стаць бясконцымі.

Так паступова сышла густым чорным болем гэтая сустрэча з Парыжам. Ні жывы ні мёртвы Сяргей ехаў на аўтобусе ад Трыумфальнай Аркі да аэрапорта Бавэ і разумеў, што развітваецца з гэтым горадам назаўжды. Таму што яшчэ адна такая сустрэча — і можна ўжо не выплыць з гэтага пекла, якое ён выдумаў сам сабе ў юнацтве.

3 Парыжскія бамжы

Сышоўшы з трапа ў аэрапорце «Македонія» ў Салоніках, Сяргей адразу ж адчуў, што трапіў у іншы свет — сонечны, паўднёвы, дабратворны. Грэкі — своеасаблівыя еўрапейцы. І ў таксі, і ў гасцініцы, і потым, гуляючы па горадзе, ён дзівіўся з іх. Вядома ж, грэкі былі людзьмі еўразоны, але ў той жа час у Сяргея стваралася ўражанне, што ён трапіў у які-небудзь курортны савецкі горад — Еўпаторыю ці Сочы: жыхары Салонікаў выглядалі гэткімі ж спакойнымі і ўпэўненымі. Амаль усе грэкі нагадвалі яму вялікіх дзяцей (былі, напэўна, і іншыя, але ён пакуль іх не заўважаў). Дзяцей, як вядома, складана падзяліць на сталічных і правінцыйных — у гэтым заключалася асноўная еўрапейскасць грэкаў.

У саміх Салоніках асабліва не было на што паглядзець: не адно стагоддзе панавання турак няшмат пасля сябе пакінула. І ўсё-ткі горад аказаўся атмасферным, нечаканым. Побач са старажытнымі праваслаўнымі цэрквамі сустракаліся сціплыя антычныя помнікі; кіпела разнастайнае моладзевае жыццё: у Салоніках вучылася шмат студэнтаў. Увечары Сяргей шпацыраваў па набярэжнай Параліі, заходзіў у розныя кафэшкі, дзе яму хутка прыносілі віно, каву альбо «цай» (гук «ч» грэкі не вымаўляюць), і з асалодай назіраў, як патанае вялізнае чырвонае сонца ў Эгейскім моры.

Валодзька знайшоў яго наступным днём, запіхнуў у сваю легкавушку, і яны паехалі ў бок Халкідзікаў, у горад Уранапаліс. Адтуль ішоў паром на Святую гару Афон. У машыне, а потым і на пароме, Сяргея размарыла: кепска спаў ноччу. На самім ужо Афоне ад порта Дафні да так званай «сталіцы Афона» (гэта аказаўся невялічкі пасёлак з немілагучнай назвай Карыес) ехалі на таксоўцы. Нягледзячы на зімовы час, было горача, потна, пыльна; невялічкі брудны бус страшна кідала на серпанцінах, і Сяргей ужо злаваўся на сябе, на Валодзьку і ўвогуле на ўвесь свет за тое, што ўлез у гэтую авантуру: «Ну, куды ён прэцца? Да якога яшчэ старца? Навошта яму гэта? Гогаль, блін, недароблены!..»

І сапраўды, настолькі недарэчна ўсё гэта выглядала, што хацелася проста плакаць і бегчы назад: на паром — і ў Салонікі… Валодзька заўважыў стан сябра і падміргнуў: «О, бач, як цябе круціць! Гэта нармалёва — добрай справе заўсёды папярэднічае спакушэнне…» Незразумела было — ён так жартуе ці здзекуецца. «Гэта не мае словы, а святых айцоў, — як бы адказваючы на яго думку, дадаў Валодзька, — дакладней, аввы Дарафея». Сяргей чытаў авву Дарафея, які жыў, здаецца, у шостым ці сёмым стагоддзі ў Газскім манастыры ў Палесціне. І пры чым тут ён, Сяргей?

Яны хутка даехалі да Карыеса, а потым, перасеўшы на наступны бус, памчалі далей, да келіі старца Дыянісія. Келіяй на Афоне называюць паселішча з некалькіх будынкаў, якое мае свой храм, дзе жывуць звычайна трое-чацвёра манахаў. Увогуле, за амаль тысячагадовую гісторыю на Афоне існавала дваццаць манастыроў — не больш і не менш. Вельмі многа манахаў селіцца ў скітах, келіях і калівах[4]. Ёсць і сапраўдныя пустэльнікі, якія жывуць, нібы птушкі, у скальных пячорах, што абрываюцца проста ў мора.

Нарэшце дабраліся да келіі старца. Нічога асаблівага Сяргей не заўважыў. Замест убогага аскетычнага жытла (на што, прызнацца, спадзяваўся) ён убачыў даволі прыстойны сучасны еўракатэдж на некалькі чалавек, сучасны храм… Акрамя Валодзі з Сяргеем былі нейкія бізнесмены с Расіі. Яны раздражнялі яго яшчэ на пароме: гучна, па-барску гаманілі, рагаталі, здаецца, нават папівалі гарэлачку… Але тут яны неяк здзьмуліся, абмяклі і, быццам шкадлівыя хлапчукі, бездапаможна азіраліся навокал. Валодзька, ясная справа, пацягнуў іх да старца першымі. Але… нечакана старац выйшаў з дома сам. «Эвлогітэ, геранда!..[5]» — скокнуў да яго Валодзька і нешта хутка залапатаў па-грэчаску. Старац быў звычайным мужчынам у гадах, добра

4 Каліва — манаскае паселішча без царквы. Звычайна — адна невялікая будыніна.
5 «Благаславіце, ойча» (грэч.)

ўкормленым — адным словам, ніякі не аскет, на першы погляд. Але штосьці ў ім было такое… Сяргей раптам зразумеў: усмешка! У гэтага чалавека была такая знаёмая, такая блізкая, родная ўсмешка… І старац нібыта адчуў здагадку Сяргея, падышоў да яго і на ўсю сваю ўсмешку нешта сказаў. Валодзька вохнуў і, пераводзячы вялізныя вочы са старца на Сяргея, пераклаў:

— Старац кажа, што нельга здабыць свабоду, седзячы ў турме. А любая страсць, нават вельмі высакародная, — гэта турма. Выйдзі з турмы, паглядзі, які прыгожы свет!..

— Я… я свабодны чалавек, я не ў турме, — хрыпла прамармытаў Сяргей.

— Кожны, хто робіць грэх, ёсць раб граху, — пераклаў Валодзька і раптам усміхнуўся: — Старац кажа, каб ты ўспомніў пра нейкую царскую браму. Сказаў, што ты ведаеш…

Старац Дыянісій яшчэ раз асляпіў Сяргея сваёй усмешкай і павярнуўся да расійскіх бізнесменаў. Сяргей сеў у цянёк і задумаўся. Царская брама…

Ён нарэшце ўспомніў, каго яму нагадвае старац. Сяргей пазнаў, адчуў усім сэрцам гэтую ўсмешку; яна бліснула праз гады залатым промнем, і душа трапіла ў салодкі палон дзіцячых успамінаў. Ён прыгадаў свайго прадзеда Філімона, якога ўсе ў вёсцы звалі Халімон ці нават Халімонка. Прадзед нарадзіўся яшчэ ў канцы дзевятнаццатага стагоддзя, пражыў больш за дзевяноста гадоў і насіў зусім маленькага яшчэ Сяргея да Прычасця ў вясковую царкву. Калі хлопчык пачаў крыху разумець, што адбываецца навокал, прадзед падносіў яго да старых абразоў і тлумачыў: «Глядзі, Сяргейка, глядзі, унучак… То — Насвентша Матка Вастрабрамска, а то — Казанска, то — святы Георгій, а вунь тамака ўверсе — архангел Міхаіл…» І яшчэ кожнага разу прадзед паказваў Сяргею на царскую браму, якую вырабіў ягоны бацька (то бок, прапрадзед Сяргея) Тамаш. Халімон меў даўгія валасы, сівую бараду, светла-блакітныя маладыя вочы і быў падобны на аднаго з іканапісных персанажаў. А ягоная ўсмешка — пяшчотная, ласкавая — саграваля Сяргея ўсё жыццё, давала надзею ў самыя чорныя непраглядныя дні. Як ён мог забыць яе?..

Помніцца, у адзін з такіх цяжкіх дзён Сяргей прыехаў туды, у Тамілавічы, з сябрам-маладафронтаўцам, хацеў паказаць таму старажытную Георгіеўскую царкву, царскую браму прапрадзеда Тамаша. Але сябар паблажліва сказаў: «Дык гэта ж царква-мураўёўка...» — і пачаў расказваць пра тое, што «гэтыя мураўёўкі — расійскі імперскі праект» і «цёмны народ не хоча зразумець, што расійскае праваслаўе — варожая нам рэлігія…» Сяргей адчуў, як яму нібыта плюнулі ў душу. «Дурань ты…» — хацеў сказаць ён сябру, але змаўчаў, бо саромеўся падацца «непрасунутым». А потым хадзіў на могілкі, плакаў каля Халімонкавага крыжа: «Дзеду, прабач мне, дурному…»

Сяргей не помніў, як яны пайшлі ад старца Дыянісія, як прыехалі ў нейкі вялікі грэчаскі манастыр, дзе і заначавалі. Там усе разам пайшлі на службу, якая, здавалася, ніколі не скончыцца. Гэта быў так званы панігір — святочнае набажэнства афонскіх манастыроў, якое ішло на працягу цэлай ночы. Сяргей выйшаў на вуліцу. Там было сваё набажэнства: з гукаў, пахаў і фарбаў цёплай паўднёвай ночы. Ён раптам зразумеў, што рухае людзьмі, якія зрабілі сябе пустэльнымі птушкамі на гэтай манаскай паўвыспе. Сяргея перапаўняла такое натхненне, што, здавалася, і ён зараз распрастае крылы і паляціць. Нешта падобнае ён перажываў, калі адкрыў у сабе здольнасць пісаць і зразумеў, што свет складаны, шматгранны і гэтая складанасць толькі выяўляе прыгажосць свету.

Павярнуцца душой да дзяцінства — так, напэўна, можна было назваць тое, што адчуваў зараз Сяргей. Ён зразумеў, што яно, дзяцінства, нікуды не знікла, як не знікла і душа яго, як не знік і Бог — яно ўсё тут, побач, з ім, у ім самім. І выратаванне ад той пустаты, у якую загнала Сяргея недарэчнае яго жыццё, — менавіта там, у тамілавіцкай царкве, дзе праз царскую браму зіхаціць яму вечнай любоўю ўсмешка прадзеда Халімона.





Марыя Кобец

**нарадзілася 19 кастрычніка 1974 года ў вёсцы Валішча Пінскага раёна. Студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі, лаўрэат літаратурнай прэміі імя У. Калесніка. Аўтар паэтычнага зборніка «Кроплі» (2011).**

# На ўскрайку ўласнай катастрофы

## Навошта?

Навошта ранкаў светлых забыццё
І туманоў загадкавых сувоі?
Парве іх звыкла вецер на шмаццё,
Калі яны не дзеляцца надвое!

Навошта дзень, калі не слепіць зрок
Гарачасць промняў сонечнага лета?
Спаўзае ён так хутка ў закуток,
Знікае пад крыссём дажджу і ветру.

Навошта вечар?
Што ў ім за карысць?
Калі ён песняй не пяе птушынай?!
Уедлівы прагорклы смог навіс,
Ссыхаюць карані пад чорным тынам.

Навошта ноч,
Навошта гэты змрок,
Калі ён бляскам знічак не расквечан?
Узыдзе поўня. Вось яна — у крок,
Вар'яцтва тут жа ў зманлівым Сусвеце.

Навошта зрок, і слых, і пачуццё,
І туманоў загадкавых сувоі?!
Няхай жа рве ўсё вецер на шмаццё,
Калі яно не дзеліцца надвое!

***

Зрываюць скуру ланцугі… А мне
Чамусьці гэта нават не балюча.
Бізун па твары, па плячах, спіне —
Як скрутак слоў
няўрымсліва калючых.

А дождж ідзе —
Па твары, па спіне.
Ды ён чамусьці мне такі гаючы.
Здымаюць скуру звыкла, толькі... Не!
А мне і гэта нават не балюча.

Сцякае кроў па шэрым палатне.
Такім жа шэрым, як і свет, і штучным.
Гучаць праклёны, і зазвычай мне —
Іх змест даўно на памяць ўжо завучан.

Я буду жыць у белым будане
Празрыстым, светлым,
лёгкім і плывучым…
Калісь затым,
А покуль… Покуль мне
Здымаюць скуру жорстка і балюча.

***

Хопіць!
Ужо замнога!
Кроў, ліхалецце, жах!
Стань!
Памаліся Богу,
Люд, загубіўшы страх!

Годзе!
Пастой!
Старога
Свету гарыць кляштар.
Хопіць!
Ужо замнога —
Знішчаны ўшчэнт алтар!

Стой!
Супыніся!
Стогнуць
Дзеці, збіраюць прах!
Стань!
Памаліся  Богу,
Люд, загубіўшы страх!

Люд, што адрынуў веру —
Разрабаваў крыжы!
Людзі! Ці ж можна верыць
Тым, хто куе нажы?!

Тым, хто фарбуе світкі
Чырванню целаў дзяцей?!
Тым, хто ўжо ўвачавідкі
Кроў п'е у іх з грудзей?!

Хопіць!
Ужо замнога
Пеставаць смерць у руках!
Стань!
Памаліся Богу,
Люд, загубіўшы страх

***

Каля бездані сваёй
Я тваіх чакаю крокаў.
— Поўна! — Ціш крычыць хлуснёй!
...Поўня, цемра спрэс навокал.

Каля бездані вачэй
Я сваю згубіла волю.
Крок за крокам — не лягчэй.
Дзень за днём — і болей болю!

Так, ля бездані, на ўскрай,
Я сваю праклала сцежку.
Досыць, чуеш, не карай!
Ведай — страшна йсці па ўзмежку!
Ведай — зімна між слаты,
Вусцішна між іншаверцаў.
...Стук за стукам.
Гэта ты?..
Не! — Грукоча маё сэрца!
Не! — Ля бездання мой лёс!
Хай! — Адкіну путы страху.
Крок за крокам —
Так,
Вось-вось —
Стану птахам,
Стану птахам...

***

…І ніхто не прыйдзе!
Без ілжы!
Не чакай сцюдзёнымі начамі!
Нават на прытомнасці мяжы!
Да гаротных —
Лепей гледачамі.
Лепей скажа: «На, бяры лязо!
Ну, давай, не бойся, гэта ж проста!»
Помста!
Зайздрасць!
Чорнае рыззё!
Д'ябал,
Што ў аблiччы — як апостал!

І ніхто не азірнецца ўслед
На шляху к сваёй зямной вяршыні!
Па галовах!
Па пачуццях!
…Свет!

Зар'яцеў ты ў валтузні мышынай!
Ты навошта ўзрошчваеш, скажы,
Між збажыны безліч пустазелля?
Бач, між імі ўжо няма сцяжын!
Свет, куды ты?!
Ты ў якім пахмеллі?!
Ты ж пасіўна нішчыш сябе сам!
Сам сабе падпісваеш пагібель!
Я ілгу?! — Будуеш новы храм!..
Не смяшы!
Кім поўніцца абіцель?
Тымі, хто не азірнецца, Свет!
Хто не прыйдзе чорнымі начамі!
Хто на шляху ўратавання ўслед —
Да чужых пакутаў — гледачамі.

…І ніхто не прыйдзе!
Без ілжы.
На ўскрайку ўласнай катастрофы
Для сябе рыхтуем мы нажы,
На сваю ўздымаемся Галгофу!



Гравюра Маргарыты Дабравольскай.



Глеб Ганчароў

**нарадзіўся 23 верасня 1965 года ў Мінску. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут і Беларускі інстытут правазнаўства. Працаваў інжынерам-оптыкам-канструктарам, гаспадарчым юрыстам. На беларускай мове піша са студзеня 2015 года.**

# Апраметныя навелы

## Страшны суд

Апошняе, што адчуў у жыцці Павел Савельевіч Кастрамін, быў рэзкі пранізлівы боль пад левым саском. Інфаркт стрэлам успароў сэрца, і Павел Савельевіч памёр.

Апрытомнеў ён праз імгненне. Яго атачала бліскучая серабрыстая смуга, скрозь якую аднекуль здалёк прабіваўся прамень невыразнага святла. Душа Кастраміна неслася па гэтым прамені, пакідаючы за сабой лёгкі фасфарасцыраваны след, які нагадваў хвост каметы.

Імкліва працяўшы чацвёртае вымярэнне, Павел Савельевіч уварваўся ў гулкую залу, абляцаваную паліраваным мармурам. Шасцігранныя калоны імкнулі ўвысь, хаваючы свае капітэлі ў халодным паўзмроку. Насупраць Кастраміна сядзеў за груваcткім пісьмовым сталом ветлівы, як сіроп, клерк у белым. Яго кучаравыя крылцы былі смачна накрахмаленыя і парыпвалі пры кожным руху. Клерк быў надушаны ладанам.

— Прозвішча? — спытаў ён.

Павел Савельевіч назваўся. Клерк паперакопваў папкі са справамі, здзіўлена рохнуў, высунуў шуфлядкі стала, зазірнуў туды, рохнуў яшчэ раз, скасіў на Кастраміна анёльскае вока і здзіўлена паведаміў:

— Няма вашага дасье. Вы ў нас упершыню?

Прыйшоў час здзіўляцца спрытнаму на язык Паўлу Савельевічу:

— А як жа інакш, каб вас чорт узяў!

Белы клерк засумаваў, захлопаў пакрыўджана вейкамі, потым дастаў са стала бутэльку, на этыкетцы якой буйна значылася спакуслівае слова «Кагор», і сербануў. Прывідная душа Кастраміна праглынула цалкам матэрыяльную сліну. Клерк дыхнуў віннымі парамі на німб, прашараваў яго пругкім крылом, насунуўшы затым на галаву, нібы берэт.

— Гэты — па вашай калегіі, — праспяваў ён, вылятаючы ў дзверы, утоеныя за драпіроўкамі ў куце залы.

З дзвярэй на змену яму нырнула, духмяна пахнучы воблакам серных водараў, асоба ў чорным.

— Прозвішча?

— Кастрамін Павел Савельевіч. Семдзесят гадоў. Памёр ад разрыву сэрца чатыры хвіліны трыццаць восем секунд таму. Вінаваты: ужо трыццаць дзевяць секунд, — выправіўся Кастрамін, шостым пачуццём спасцігаючы прыроду часу.

Чорны гэтак жа разгублена перагледзеў паперы, але шуфлядкі чамусьці павыварочваў на падлогу і патаптаўся па папках наваксаванымі капыткамі. Мабыць, па шкоднасці сваёй. Убачыўшы забытую пляшку, ён задуменна дапіў яе, пасля напляваўшы ў рыльца.

— Зноў канцылярыя штосьці наблытала, трэба начальства клікаць.

Начальства не прымусіла сябе чакаць. Трэснула іскрамі звілістая маланка, і побач з клеркам паўстаў у громе чыхаў Сатана.

— З прыбыццём вас, Павел Савельевіч. Як даляцелі? Апчхі!

— Дзякуй, нядрэнна, — адказаў Кастрамін, дзівячыся не столькі таму, што як роўны размаўляе з самім уладаром апраметнай, колькі свайму спакою пры выглядзе прастуджанага дэмана.

— Гэта не прастуда, — запярэчыў Сатана, прачытаўшы ягоныя думкі, — гэта алергія. Ніяк не ўб'ю ў галовы сваім супрацоўнікам, што нельга карыстацца такім вульгарным серным адэкалонам. Яны чамусьці лічаць, што без пякельнага паху іх не будуць успрымаць сур'ёзна. Сыдзі! — і Сатана сурова зыркнуў на клерка.

Той пачырванеў і ад сораму праваліўся скрозь зямлю. Сатана начараваў з паветра два крэслы, запрасіўшы Кастраміна сесці.

— Я бачу, вы не вельмі напалоханыя маім з'яўленнем.

— Прызнацца, не, — пагадзіўся Кастрамін. — У глыбіні душы я заўседы спадзяваўся, што жыццё не заканчваецца смерцю.

Сатана закінуў правую нагу на левую, хвост — на правую і згодна нахіліў галаву.

— Дазволю сабе заўважыць — не вы адзін. Такія ўсе людзі. Яны могуць галасна абвяшчаць аб сваім нявер'і, але, застаючыся сам-насам з сумленнем, гатовыя заплаціць любую цану, толькі б ніколі не знікнуць са свету. Дзеля гэтага яны душу прададуць. Хай наперадзе чакае кіпячая смала, галоўнае — гэта быць вечна жывым.

— І мне цяпер таксама... у смалу? — засмуціўся Кастрамін.

— Даруйце, — Сатана па-сяброўску паляпаў яго па плячы. — У вас зусім скажонае ўяўленне аб нашай працы. Якая карысць можа быць ад падсмажвання або калесавання? Гэтыя пакаранні добрыя для цела, але яно, ваша каштоўнае, сёння гніе на зямлі. Яго праз два-тры дні закапаюць у вохкую гліну, і ад яго нічога не застанецца. Падсмажваць жа душу — бязглузда і неэканамічна, гэта ўсё роўна, што скварыць паветра. Вы сабе дазвалялі ставіць на фаерку пустую патэльню?

— Не, вядома, — задуменна адказаў Кастрамін. Яго бянтэжыла размова. Сатана быў нейкі не такі. Ва ўяўленні Паўла Савельевіча князь цемры павінен быў вывяргаць агонь і блюзнерства, размахваць перад носам Кастраміна спісам грахоў, накрэсленым крывёю, і палохаць вечнымі пакараннямі.

У вачах д'ябла шугануў, пераліваючыся смарагдавымі адценнямі, дапытлівы зялёны агеньчык, нібы той радыёпрыёмнікам настройваўся на патрэбную хвалю. І сапраўды настроіўся, таму што зноў злавіў гэтыя патаемныя думкі.

— Агнём я дыхнуць здольны. Калі ласка, — з рота Сатаны з ровам выліўся струмень празрыстага полымя, накрыў бутэльку з-пад віна і аплавіў яе, пераўтварыўшы ў пакрыты дзёгцем бясформенны камяк, — а што датычыцца блюзнерства — ані-ні! Я непасрэднага начальніка не абражаю. На маё месца і так шмат ахвотнікаў.

— Як «начальніка»? — не стрымаў сябе Кастрамін.

— Вельмі проста. Вы ніколі не задумваліся, чаму, калі верыць вашым так званым святым кнігам, усёмагутны Бог ужо некалькі тысячагоддзяў цацкаецца з такой жывёлінай, як я? Здавалася б, чаго прасцей: знішчы Сатану — і ў свеце знікне зло. Гэта, калі не памыляюся, на зямлі называецца «тэадыцэя»?

— Т-так, з-здаецца...

— Не дрыжыце вы гэтак, найшаноўнейшы Павел Савельевіч, я ж ужо казаў, што не збіраюся варыць вас у алеі. Чаго ж болей трэба? — Сатана падняў хвост і пачаў у паветры трэсці яго кончыкам, усё роўна як званочкам. На меладычны звон уплыла чароўная юная чартоўка ў міні-спадніцы. Рожкі яе былі акуратна падрэзаныя і пакрытыя манікюрным лакам, вочы падведзеныя крывавай тушшу.

— Гарбаты нам, калі ласка, — загадаў Сатана.

Чартоўка зрабіла далікатны кніксен і знікла.

— Дык вось, тэадыцэя: цяпер людзі сталі больш адукаваныя і не рэагуюць асабліва бурна на маё з'яўленне, але ў Сярэднявеччы з імі здараліся прыпадкі, калі яны, прыбываючы сюды, бачылі, хто іх збіраецца судзіць. Нам даводзілася трымаць тут кругласутачна брыгаду лекараў, каб адкачваць небаракаў. Я вам потым раскажу пікантную гісторыю, як Авіцэна адкачваў святую Уршулю. Абрагочацеся! І ўявіце сабе, што ўсе гэтыя схаласты, грамацеі, якія былі ўпэўненыя, што за сваю прыхільнасць да рэлігіі трапяць у рай, ніяк не маглі пагадзіцца са сваёй доляй. Адны даказвалі, што Бог церпіць д'ябла дзеля раўнавагі ў свеце, іншыя — праз бясконцую дабрыню сваю, трэція лічылі мяне мячом, які прызначаны караць людзей за першародны грэх. Не пералічыць, колькі дасціпных тэорый мы тут наслухаліся. Але нікому не прыйшло ў галаву самае простае тлумачэнне, — тут Сатана нахіліўся бліжэй да вуха Паўла Савельевіча і шапнуў: — Мы ўсе — адна шарашкіна кантора. Ёсць старшыня Страшнага Суда, ён жа — старшыня райскай калегіі, ёсць намеснік — ваш пакорны слуга, адначасова ўзначальваю пякельную калегію, і ёсць шараговыя суддзі. Структура простая, як пяць капеек.

— Але ж белыя і чорныя... — разгублена лепятаў Кастрамін, не ведаючы, як адрэагаваць на прызнанне Сатаны.

У гэты час застукалі капыткі. Маладая чартоўка парасстаўляла на століку, які ўзнік з нябыту, фарфоравыя кубкі, пузаты імбрык, які распірала духмяным парам, нібы ад гонару, прысунула да Кастраміна разетку з ярка-жоўтымі эдэмскімі цытрынамі, выклала на сподкі апетытныя прасфоры і аплаткі з цукровай пудры.

— Частуйцеся, калі ласка, — кіўнула яна перад Паўлам Савельевічам чорным глянцавым клубам.

Старшыня пякельнай калегіі па-гаспадарску ўшчыкнуў чартоўку за ягадзіцу.

— Ну, вечна вы жартуеце, Сатанаіл Сатанаілавіч, — надзьмула тая поўныя вусны, прычым слова «вечна» з гэтых вуснаў азначала менавіта «вечна» і нічога іншага, — я пакрыўджуся, — і яшчэ больш актыўна закруціла міні-спадніцай.

— Ідзі, ідзі, распусніца! Я Сатана, і нішто чалавечае мне не чужое. Піце, даражэнькі. Гэта нам ад Бостанскага чаявання некалькі пакаў перапала. Рэчы таксама маюць душу. Памерлая гарбата трапляе сюды, і памерлая кава, і нават памерлы какаін. Усё, што не прынесла карысці на зямлі, мы спажываем. Безгаспадарчасць — наша багацце, таму голад тут пакуль не пагражае. А наконт белага і чорнага... Людзі прыдумалі казку, што анёлы павінны быць у белым, чэрці — у чорным, і хочуць у гэтую казку верыць. Такую бяскрыўдную веру мы не сапсуем. Але, паміж намі, усё гэта — самая звычайная ўніформа. Вы ж не будзеце сцвярджаць, быццам тэрапеўт больш гуманны за хірурга толькі таму, што тэрапеўт носіць белы халат, а хірург — зялёны?

— Пачакайце, я зусім заблытаўся, — пачаў маліць Кастрамін. — Чаму менавіта я трапіў у пякельную калегію? Што за грэх на мне?

— Не ведаю, — шчыра прызнаўся Сатана, сёрбаючы гарбату, — усяго не запомніш. Знойдуць вашу справу ў архіве — разбяромся. Можа, вы чысты, як Папа Рымскі. Я паўтараю вам яшчэ раз: няма ніякай розніцы паміж пеклам і раем. Сёння дзяжурыў сябра райскай калегіі. Калі б ляжала на месцы ваша дасье, ён бы сам асудзіў вас: больш грахоў — завітайце ў пекла, больш добрых учынкаў — будзьце ласкавы на сонечны паплавец грызці райскія яблычкі. Але вы чартыхнуліся і аўтаматычна трапілі пад нашу юрысдыкцыю. Не калаціцеся так, святы падзвіжнік. Вы што — забівалі, кралі, хлусілі?

— Быццам бы не.

— Кім працавалі да пенсіі?

— Настаўнікам літаратуры ў школе.

— Зразумела, адкуль гэтыя думкі пра дыханне агнём. Гэта вас сацрэалізм сапсаваў. Не хвалюйцеся: школьны настаўнік — вялікапакутнік апрыёры, наўпрост у рай пойдзеце.

Раптам Сатана з запалам ускочыў з крэсла і пацягнуў Кастраміна за сабой у драпіраваныя дзверы, не стамляючыся мянціць языком:

— Усё роўна тут застанецеся, дык паглядзіце зараз. У нас ад рая сакрэтаў няма — адзін да аднаго ў госці ходзім. У закутку ў мацюканцаў сценка павалілася — там і пералазім. Шчыра скажу, тут весялей: кожны дзень нешта здараецца, а ў раі — аднастайнасць. Праведнікі ад нуды самі грашыць пачынаюць, тадысьці іх, галубчыкаў, да нас пераводзяць. Пекла — гэта райскі карцар. Загладзяць сваю віну — і зноў дадому. Тут жа вечнасць, без прыгод звар'яцець можна.

Яны ішлі па прасторнай не то анфіладзе, не то пячоры, якая была залітая мяккім святлом ад сотняў нябачных лямпаў. Спачатку анфілада паказалася Паўлу Савельевічу кароткай, аднак супрацьлеглая сцяна аддалялася па меры таго, як яны рухаліся наперад, і анфілада расцягвалася мяхамі гармоніка, надзьмуваючы ўсё новыя і новыя адсекі. У адсеках пакутавалі грэшнікі. Катаванні былі прыдуманыя з фантазіяй.

Тут былі сабраныя ашуканцы, якія пры жыцці падманулі даверлівых. У першым пакоі анфілады ашуканцы стаялі паўколам перад узвышшам, з якога прапаведавала маладая жанчына ў батыставай туніцы. Яна маляўніча распісвала жуллю, якое ператварылася ў слых, колькі дабротаў пааграбаюць яны, калі ўручаць ёй свае грошы. Ашуканцы галасілі ад нявер'я, але працягвалі прыгажуні пачкі купюраў, молячы хутчэй выканаць абяцанні.

— Зноў падмане, — стагнала мажная цыганка, корпаючыся ў пошуках заначкі між складак незлічоных квяцістых спадніц, — ужо пяты год карону Расійскай імперыі абяцае, каб ёй добра не было. Вазьмі, мілая, пастарайся, Богам прашу.

Жанчына збірала банкноты, не грэбавала і сусальным золатам, уручаючы даход чарцяку, які лез пад рукі. Клерк, загрузіўшыся багаццямі, знікаў, а на ягоным месцы вырастаў іншы, такі ж хітрушчы і ёрны, трымаючы напагатове баул для новых паступленняў.

— А вось каму маладзільныя яблыкі? — пыталася прарочыца.

— Кодэкс у нас адзін, — растлумачыў Сатана, — кожнаму будзе дадзена паводле спраў ягоных. Гэтая красуня, напрыклад, ільвіную долю бюджэту забяспечвае і пры гэтым толькі на паўстаўкі працуе. Пры жыцці ёй ніхто не верыў, затое цяпер адбою няма. Ну, працуй, працуй, Касандрачка. Не буду табе перашкаджаць.

Следам за ашуканцамі ішоў пакой бюракратаў. Гадзіннік прабіў абедзенны перапынак. Чорт-кухар паказваў бюракратам сытную ежу ў вітрыне за куленепрабівальным шклом і

патрабаваў, каб кожны напісаў заяву на выдаванне абеду, узгадніў гэтае хадайніцтва ва ўсіх астатніх, падрыхтаваў эканамічнае абгрунтаванне колькасці неабходнай ежы, заверыў яго ў бухгалтэрыі і падаў усе паперы ў камісію для разгляду. Члены камісіі забяспечваліся харчаваннем па льготнай чарзе. Сталі выбіраць камісію, але перасварыліся, бо кожны хацеў быць яе сябрам, а калі пасля сварак прыйшлі да згоды, кухар залямантаваў, каб яму не дурылі галаву, таму што ў час галасавання не было кворуму.

Дзверы бухгалтэрыі былі намаляваныя тут жа, на цаглянай сцяне, і збоку значыўся надпіс: «Прыём штодня ад 25-ці да 26-ці гадзін».

Чэзлыя бюракраты плакалі. Бюракратам хацелася есці. Бюракратам было шкада сябе.

— Вы ж казалі, што не прысуджаеце да цялесных пакаранняў, — нагадаў Кастрамін Сатане.

— Цалкам дакладна. Не голад важны — важнае пачуццё голаду, а пачуцці, пагадзіцеся, са сферы духоўнага. Зірніце сюды, — Сатана правёў госця ў наступны пакой. — Тут знаходзяцца ханжы. Гэта наш куток гумару. Усё жыццё яны крывадушнічалі з поснай фізіяноміяй, і за гэта расплачваюцца тым, што вечна будуць піць посны алей. Іх, вядома, не вырве, але адчуванне млоснасці, магу вас запэўніць, самае натуральнае.

Шмат чаго пабачыў Кастрамін. Яму сустрэліся гвалтаўнікі і хуліганы. Чэрці-бамбізы лупілі іх па прывідных мардасах. Болю гвалтаўнікі не адчувалі, але пакутавалі ад страшнейшага: іх вымотвала самае крыўднае і спапяляльнае з жаданняў — бяссільная нянавісць.

Пляткары ляжалі ў асяроддзі прыгожых паннаў, нашэптваючы ім на вуха кампліменты, і калі панны, згараючы ад кахання, дазвалялі сабе абдымкі, недарэчы з'яўляўся д'ябал-стажор і заходзіўся здзекліва рогатам, ставячы пад сумнеў мужчынскую годнасць плеткара, прычым суправаджаў сваю інфармацыю такімі непрыстойнымі падрабязнасцямі, што панны замест пацалункаў узнагароджвалі абылганага лавеласа аплявухамі.

Здраднікаў тройчы цалаваў слімакаватымі пракажонымі вуснамі Іскарыёт, дыхаў гнілым ротам, праз што яны трацілі прытомнасць, а ачуўшыся, малілі наглядчыка перавесці ў іншае аддзяленне.

Прыкаваныя да муру кайданамі забойцы былі асуджаныя выслухоўваць свой смяротны прысуд і, сцяўшыся ў камяк халоднага поту, чакаць стрэлу з пісталета, які быў прыстаўлены да вока. Нарэшце, курок пстрыкаў, але пісталет нязменна даваў асечку, і забойца правальваўся ў напаўмёртвую непрытомнасць. Аднак і там яго даганяў кашмарны сон, там таксама вечным страхам смерці глядзела ў зрэнку варанёная руля і ніяк не магла стрэліць.

Кастрамін з Сатаной абышлі дзясяткі залаў. Старшыня пякельнай калегіі ганарліва раскрываў перад Паўлам Савельевічам самыя далёкія закуткі свайго ведамства.

— Усё ж такі вельмі цяжка гэта бачыць, — прызнаўся Кастрамін.

— Разумею, але павінен жа я быў заняць госця, пакуль сакратары капаюцца ў архіве. У раі ніхто не прымусіць хадзіць сюды. Слухайце, а мусіць, на вас наогул справа не заведзеная? Мусіць, вы не нараджаліся?

Кастраміну заставалася толькі развесці рукамі.

— Жартую, жартую, — прыязна ашчэрыўся Сатана, — быў бы чалавек, а справа знойдзецца.

Яны як раз параўняліся з браніраванымі дзвярыма, міма якіх Сатана прайшоў, не спыніўшыся. З-за дзвярэй даносіўся лямант; у ім скразіла непазбыўная мука напалам з дрэнна прыхаванай лютасцю.

— Гэта атэісты крычаць? — запытаўся Кастрамін.

— Хто?!

— Ну, атэісты, нявернікі...

Сатана павярнуўся і раздражнёна замахаў хвастом, нібы раз'юшаны кацяра.

— Якімі ідыётамі ўяўляюць нас людзі! За што, дазвольце спытаць, я павінен караць атэістаў?

Кастрамін сумеўся.

— Ну, яны ж, кажуць, не вераць у Бога... І ў вас, — паспешліва дадаў ён, каб не здацца нязветлівым.

— Магу паклясціся, што з намі праз гэта нічога не станецца. Стварыўшы людзей, Старшыня даў ім свабоду волі. Верыць — гэта права чалавека, а не абавязак. Калі б мы каралі за няверʼе, то гэта было б так жа лагічна, як калі б зямны суд караў чалавека за тое, што ён нарадзіўся без дазволу. Таму баюся вас расчараваць, але гэта крычаць не атэісты. Тут — спецучастак. Тут тыя, у каго наогул няма душы, у каго замест душы — кавалак мяса. Тут сядзяць палітыкі. Просты грэшнік, забойца ён або гвалтаўнік, ніколі не губляе надзеі, што вырвецца адсюль. Калі да нас з зямлі ўзносіцца бездакорны праведнік, Бог паводле ягонай просьбы даруе ўсім і ўпускае ў рай. Але палітык не падлягае прабачэнню.

— І часцяком у вас бываюць амністыі?

— Не тое, каб вельмі... — прызнаўся Сатана. — Усяго адзін раз была — дзве тысячы гадоў таму.

Ён адамкнуў ключом жахлівыя дзверы.

— Зазірніце. Толькі на секунду. Калі яны вырвуцца на волю, тут такое пачнецца...

Кастрамін не прымусіў сябе ўпрошваць і сунуў цікаўны нос у шчыліну. Адтуль ударыў задушлівы чад вогнішчаў, патыхнула гарачынёй распаленых патэльняў, а ў вушах загрукатаў вясёлы роў наглядчыка:

— А цяпер хорам, бадзёранька, з прыпынкамі: «Тэфаль», ты заўседы думаеш пра нас!» Тры, чатыры...

Тут хтосьці наляцеў на дзверы, адштурхнуўшы Паўла Савельевіча. Гэта быў знаёмы наваксаваны клерк. У руках ён трымаў папку, на вокладцы якой Кастрамін разгледзеў сваё прозвішча.

— Знайшоў! — загалёкаў клерк. — Яе ў секцыю выкананых прысудаў паставілі.

— Ага, — узрадаваўся Сатана і замкнуў дзверы спецучастка на два абароты. — Зараз усё хутка аформім, і крокам — руш у асалоду.

Ужо над першай старонкай ён заўсміхаўся.

— Сто разоў казаў хлопцам: правярайце кліентаў на клінічную смерць — не даходзіць. Колькі спраў з канцылярыі забіраюць, столькі ў архіў і валакуць, а пераканацца, прыбыла душа альбо яе рэанімавалі, ім лянота. Ох, не дапушчу я кагосьці да прэміяльнай споведзі! Была ў вас клінічная смерць?

— Так, гадоў трыццаць таму.

Сатана гартаў дасье. Знешне ў ягоным твары нічога не змянілася, але Кастрамін раптам адчуў, як ад Сатаны халадком дыхнула і адчужэннем, а з вачэй зноў паліўся зялёны агонь. Толькі цяпер гэта быў не сяброўскі агонь. Чымсьці замёрзлым, палярным павявала на Кастраміна, зябіла і прадзімала яго, зацярушвала нядобрым снегам, сціскала лёдам.

Сатана махнуў хвастом і перанесся з Паўлам Савельевічам у судовую залу.

— Падсудны, пакайцеся ў сваіх грахах.

Кастрамін шчыра спрабаваў успомніць жыццё, але нічога небяспечнага для сябе не прыходзіла яму ў галаву. Ён няўцямна паціснуў плячыма. Сатана глядзеў на яго з непрыхаванай гідлівасцю.

— Раскажыце, як вы прыўлашчылі чужы рукапіс.

Ад гэтых слоў у Кастраміне скалыхнулася нешта мярзотнае і брыдкае, нешта паднялося са дна бурбалкай ядавітага газу і атруціла яго. Лінуў з сэрца стары грэх, і менавіта гэтага прызнання чакаў Сатана, Люцыпар, няўмольны Авадон. Але не мог Кастрамін вуснаў расціснуць, каб вымавіць праўдзівыя словы. Быў ён усяго толькі чалавекам і лічыў, што хлусіць не сорамна — сорамна прызнавацца ў хлусні.

— Маўчыце? — як бізуном, агрэў яго Сатана. — Тады я сам. Быў у вас вучань гадоў сямнаццаці, вершы пісаў. Сярэднія вершы, шчыра кажучы. Такія можна надрукаваць, а можна і выкінуць. Але памёр ваш вучань, а ягоная маці прынесла сшытак да любімага настаўніка сына. Любімы настаўнік праз знаёмых ціснуў яго ў часопісе пад сваім імем, ганарар адхапіў і выхваляўся потым на кожным кроку сваімі талентамі. Маці спрабавала ўшчуваць вас, пагражала распавесці ўсё, на каленях стаяла, каб вы аддалі хаця б сшытак, які быў спісаны рукой сына. А вы...

— Не рабіў я ёй нічога!

— Нічога не рабілі, але аднекваліся, што страцілі, і нават намякнулі, быццам без рукапісу яна нічога не дакажа. А потым вы пачалі яе ненавідзець, бо яна пастаянна нагадвала аб здзейсненай подласці. І чым больш прыніжана яна маліла, тым мацней вы ненавідзелі яе. На шчасце, яна хутка памерла, і вы пастараліся забыцца на свае пакуты. Можа, выклікаць сведак?

— Чорт паблытаў, — апраўдваўся Кастрамін.

— Ніколі я вас не блытаў! — зароў Сатана.

— Мы таксама! — высунуліся хорам са сцяны чорныя пысы суддзяў.

— Гэта было амаль паўстагоддзя таму. Тэрмін даўнасці...

— У нас адна даўнасць — вечнасць. Я папярэджваў: кожнаму — паводле спраў ягоных. Вы хацелі славы і пасеялі нянавісць. Цяпер вы атрымаеце славу і пажняце нянавісць. Я адпускаю вас дадому.

…Знічка скацілася з начнога небасхілу. Гэта грэшная душа Кастраміна вярталася на зямлю. Яна ўвасобілася ў целе нованароджанага хлопчыка. Хлопчык вырас, стаў вялікім пісьменнікам, быў аблашчаны людзьмі і засыпаны прэміямі. А калі ён памер, то быў прызнаны класікам і ўключаны ў школьныя праграмы. Вучні ўсяго свету чыталі, скрыгочучы зубамі, яго глейкія сяміпудовыя раманы, пісалі па іх сачыненні, атрымлівалі двойкі і люта ненавідзелі Кастраміна.

## Пагадненне

Місурагіну вельмі хацелася стаць вялікім чалавекам. Такім, каб пра яго казаў увесь свет. Пажадана царом.

Дзеля сваёй мары Місурагін хапаўся за ўсё запар: пасля школы спрабаваў паступіць у інстытут міжнародных адносін і ажаніцца з дачкой міністра, якая хварэла на дзіцячы паралюш; адгукаўся на аб'явы ў газетах, якія абяцалі «высокі заробак і перспектыву прафесійнага росту», што на паверку аказвалася бессаромнай хлуснёй; падумваў пра тое, каб здрадзіць праваслаўнай веры, у якую дзіцём таемна ад бацькоў быў ахрышчаны сваёй ціхай падслепаватай бабуляй, і выставіць кандыдатуру на апостальскі пасад Папы Рымскага; адзін раз нават сунуўся ў партыю аматараў піва, жадаючы па яе спісах балатавацца куды заўгодна.

Старшыня партыі радасна сустрэў Місурагіна, запатрабаваў два даляры ўступнага ўзносу і яшчэ дзвесце рублёў на пластмасавы кубачак, даў захопленаму неафіту аддрукаваны на аркушы ў клетачку білет сябра пад нумарам 007 і знік у запой да наступных выбараў.

Настрой у Місурагіна сапсаваўся ўшчэнт. Разважаючы, чым бы змарнаваць час да наступнага ўзвышэння, ён прыгадаў, што яго ўжо даўно клікаў прыяцель на дзень нараджэння, але дагэтуль Місурагін аднекваўся, спасылаючыся на падрыхтоўку партыйнага з'езду.

Адчыніўшы дзверы, прыяцель салодзенькім голасам пацікавіўся, дзе Місурагін згубіў астатніх дэлегатаў. Давялося з пенай у роце казаць праўду, што партыя раптам сышла ў падполле, а яго пакінула для сувязі.

Імяніннік пасадзіў Місурагіна паміж цеплабокай лахудрай з разбэшчаным поглядам і зусім незнаёмым грамадзянінам — барадатым і чорнавалосым, выгляду гожага.

Мяркуючы па тым, што госці расчырванеліся, распушылі хвасты і раскукарэкаліся, не слухаючы адно аднаго, быццам трэцця пеўні, а лахудра аблізвалася на місурагінскія метр сорак восем, навісала бюстам на плячо і прагнула распуснага танца, выпіта было бязлітасна шмат.

— Раскажы, сябра, кім цябе прызначылі?! — загарлапаніў гаспадар, наліваючы Місурагіну штрафную. — Помнік паставілі? Ордэн далі? Вось, спадары, хто не ведае, дазвольце пазнаёміць: Жоржык Місурагін — крывавы, акі Грозны, і жахлівы, нібы Чынгісхан, у першай асобе, адзіночным ліку, будучага часу, а таксама дзеяслоў незакончанага трывання.

Ад філалагічных вынаходстваў гаспадара кампанія смачна зарагатала. Пакрыўджаны Місурагін у доказ уласнай выключнасці пачаў тыкаць кожнаму партбілет, але толькі выклікаў гэтым штармавую дыскусію, сутнасць якой зводзілася да высвятлення, у каго ў гісторыі быў сёмы інвентарны нумар: у Гітлера альбо ў Джэймса Бонда. Спыніліся на французскім каралі Карле і паставілі пытанне рубам: хто даў Місурагіну права паліць Жанну д'Арк?

На шчасце, лахудру пацягнула ў скокі. Яна гула і звінела, пакуль спадарства не перайшло за ёй у суседні пакой, дзе надрываўся музычны цэнтр. Місурагін хацеў прывязацца следам, аднак лахудра праінфармавала дрыготкім языком, што гаспадарскі цэлы сажань саладзейшы за метр з кепкай.

Такім чынам, Місурагін застаўся побач з барадатым. У адрозненне ад астатніх барадаты быў абсалютна цвярозы, адпрасаваны. На вуснах лёгка гуляла разумная ўсмешка.

— Дазвольце папрасіць прабачэння за гэтыя выбрыкі, — сказаў барадаты.

— А вам якая справа? — буркнуў Місурагін, імператарскім рухам прысоўваючы да сябе марынаваную кільку.

— Мне справы, вядома, няма, — пагадзіўся сусед, — проста крыўдна бачыць, як гэтая п'янь здзекуецца з прыстойнага чалавека.

Місурагін кінуў на барадатага недаверлівы погляд, ацэньваючы, ці не смяецца той, але твар невядомага грамадзяніна быў сур'ёзным і нават, здалося Місурагіну, спачувальным. Паколькі падчас гістарычных рэмінісцэнцый Жоржык хлябтаў штрафныя, не закрываючы рота, і ўжо здаваўся сам сабе моцным, вялікім і жудасным, то словы незнаёмца прыняў за чыстую манету.

— Сапраўды, п'янь! Подлае мурло! Хіба яны разумеюць, што такое імкненне ўвысь? Менавіта такія катавалі на вогнішчах тытанаў, падносячы да сухога галля першую паходню!

— Мабыць, вы маеце рацыю, — падтакнуў суразмоўца. — Мне гэта добра вядома. Але што, у такім выпадку, вас звязвае з імі?

Місурагін трагічна выдыхнуў, заліваючы гарэлку півам.

— Няўжо вы думаеце, што, калі б я меў магчымасць знайсці хоць кагосьці роўнага сабе, я б сядзеў тут?

На гэтых словах барадаты ашчэрыўся шырока і, прапанаваўшы Місурагіну яшчэ адну чарку саракаградуснай, сказаў:

— Да чаго ж прыемна сустрэць чалавека, перад якім адчуваеш шчырае захапленне. Не пагрэбуйце выпіць са мной.

Місурагін добразычліва не пагрэбаваў. Барадаты ж толькі дакрануўся краёчкам чаркі да вуснаў.

— Я вялікі! — канстатаваў Жоржык. — Не разумею: чаму я не кароль? Я б перавярнуў усю сусветную гісторыю. Паверце, чорту лысаму гатовы душу прадаць дзеля гэтага.

— Чаму ж лысаму? — абурыўся грамадзянін, прыгладзіўшы багатую шавялюру.

— Ах, ды гэта толькі так гаворыцца.

— Ля-ля-ля, — нечакана прагучала ў адказ. — Ёсць у мяне прапанова: давайце знікнем адсюль. Пасядзім. Нарэжамся. Пра вас пабалбочам.

Ідэя Місурагіна вабіла, але надта добрая была рабская ікра і плебейская асятрына. Барадаты ж раптам зазневажаўся, выгнуў спіну і так слёзна маліў не пазбаўляць яго задавальнення слухаць найсвятлейшыя прамовы, так апетытна прысягаў пачаставаць генія флякамі гаспадарскімі, царскай юшкай, тортам «Напалеон» і салатай «Цэзар», што Місурагін, паслаўшы апошняе «бывай» пагарджанай чэрні, пагадзіўся.

Новы знаёмец рассыпаўся перад згубцам Жанны дробным макам, паднёс яму цыгарэту, раскрыў шатром немаведама адкуль узяты парасон, ахоўваючы Місурагіна ад лянівага дажджу, і, спыніўшы таксі, якое патрапілася дарэчы, закаціўся з Жоржыкам у рэстаран.

Там ён рыкнуў на метрдатэля, і той імгненна зразумеў, што самалюбівы недаврак, які суправаджаў барадатага, не інакш, як арабскі шэйх, і на стале ў заціšным кабінеце адразу ж была накрытая непамерная вячэра на дваіх. Афіцыянт пацікавіўся, што будуць піць наведвальнікі.

Чорнавалосы прыгажун расчараваў яго, запатрабаваўшы келіх сухога «Шато Нуар» ураджаю 1894 года з паўднёвага боку пагорка. Густ ён дэманстраваў выдатны, але да агульнага рахунку гэта плюсавалася нязначна. Затое недаврак праявіў бурную фантазію: выбраў да лангустаў гарэлку, да чарапахавага супу — дзве гарэлкі, да цацаркі, запечанай з бататамі і труфелямі, — чатыры гарэлкі і да дэсерту — восем.

Усхваляваны афіцыянт, пабліскваючы мятлікам і манішкай, кінуўся выконваць заказ, але гурман жэстам спыніў яго і, не жадаючы ганяць лішні раз, загадаў дадаць у чарапахавую поліўку апалонік супу з ластаўчыных гнёздаў і прынесці дадаткова шаснаццаць гарэлкі. На адыход.

— Дружа мой, я п’ю за тое, — падняў келіх барадаты, пакуль Місурагін умінаў далікатэсы, — каб вашыя мары спраўдзіліся, і гатовы па меры сіл садзейнічаць гэтаму. Вы сур’ёзна хочаце стаць гістарычнай фігурай?

Калі Жоржык выказаў згоду, суразмоўца працягнуў:

— Справа ў тым, што я магу перанесці вас у любую эпоху і перасяліць у любую асобу.

— Угу, — Місурагін умінаў цацаркавыя косткі, як гіена, якая вырвалася з канцлагера.

— Ваша мара здзейсніцца. У вас будзе магчымасць кіраваць лёсам Зямлі згодна з уласным меркаваннем. Увесь свет ляжа каля вашых ног і скарыцца. Ты калі-небудзь жэрці пакінеш, сукін сын?

Місурагін пацягнуўся за павіслай у паветры талеркай, але тая ўзляцела яшчэ вышэй. Да люстраў адправілася і гарэлка з дэсертам.

— Разумееце, дружа, я д’ябал.

— Вось д’ябал! — не зразумеў Місурагін, тужліва гледзячы ў столь.

— Самы сапраўдны.

Тут да Місурагіна нешта пачало даходзіць.

— Д’ябал... Нячыстая сіла...

— Папрашу без інсінуацый! — парасстаўляў кропкі над «і» барадаты. — Я двойчы ў дзень прымаю душ. Выпіце — палягчэе.

Місурагін залпам хапануў шклянку, што спланіравала яму проста ў рукі.

— А Васька адкуль вас ведае? — гэта Жоржык нагадаў пра імяніннікa.

— Ён мяне не ведае.

— А як жа?..

— Вельмі проста. Я прыйшоў, сеў і назіраў. На мяне ніхто не звярнуў увагі. Гэта вельмі элементарны трук.

І ў доказ сваіх магчымасцяў д'ябал перавярнуўся ў фікус, потым — у казачнага васіліска, адначасна скамянiўшы вогненным позіркам афіцыянта, які зазірнуў у кабінет, паўстаў размаляванай распусніцай, да якой прыгнечаны ўсімі гэтымі паваротамі Місурагін адразу ж палез цалавацца.

— Вось гэтага не трэба, — строга прыстрашыў барадаты, прымаючы натуральны выгляд.

— Фантастыка! — узрадаваўся Жоржык паказу. — Вып'ем на брудэршафт. Цябе як завуць?

— Ці не ўсе роўна? Напрыклад, Іван Іванавіч.

— А тую прыгажуню?

Д'ябал пагардліва паківаў галавой.

— Перабралі вы, ваша вялікасць. Замры!

Ён пісталетам выцягнуў уверх указальны палец і, звонка прыцмокваючы языком, пачаў збіваць чаркі з гарэлкай, якія луналі пад столлю. Чаркі ціха лопаліся мыльнымі бурбалкамі. Дробныя пыркі акраплялі нерухомага Місурагіна.

Адстраляўшыся, барадаты падзьмуў на пазногаць, нібы ў рулю, і вызваліў Жоржыка ад чараў.

— Я паўтараю цалкам сур'ёзна: мне пад сілу ўзвесці вас на любы пасад, даць уладу над цэлым чалавецтвам, узнагародзіць славай, багаццем, жанчынамі, выканаць самае вар'яцкае жаданне — і я гатовы зрабіць гэта дзеля вас. Раю добра падумаць, бо такая прапанова сустракаецца нячаста. Варта адмовіцца — і поспех выслізне, а вы потым пачнеце вельмі шкадаваць, што не скарысталіся шансам. Вас да смерці будзе гнясці памяць аб маіх словах, асабліва, калі п'яныя прыяцелі стануць дражніць вас, як сёння. Рана ці позна вы зразумееце, што служыце для іх блазнам. Вам пажадаецца паўтарыць нашу сустрэчу, ды дзе там!

— Вы дапаможаце мне? Бясплатна?

— Не! — засмяяўся д'ябал. — Бясплатна я не раблю нічога. Я прапаноўваю вам пагадненне.

— Уладу і славу ў абмен на душу?

— Душа мне не патрэбна. Альбо, дакладней, патрэбна, але не ваша.

Місурагін адчуў сябе бязмежна абражаным.

— Хацелася б ведаць, чым гэта мая душа дрэнная? — заявіў ён.

Яму здавалася, што ён кажа незалежна і саркастычна, але д'ябал якраз бачыў, наколькі абражаны Жоржык, якая крыўда вібруе ў ім.

— Чым жа мая душа горшая за Васькаву?

— Не горшая, — патлумачыў спакуснік. — Яна ніякая. Любы абмен павінен быць раўнацэнным. Калі я бяру на сябе клопат узвысіць вас, мне трэба атрымаць нешта, што ўяўляе цікавасць. Не хаваю, у апраметнай вялікі недахоп душ, і я ўсімі спосабамі палюю за імі. Але навошта мне перапследаваць душу закаранелага нягодніка? Мярзотнік і так трапіць да мяне. Навошта я буду марнаваць сілы, каб злавіць прыстойнага чалавека? Катаржная праца, а выйгрыш сумніўны. У нашай справе самае азартнае і выгаднае — пошукі сярэдніх людзей. Сярэдніх — большасць, сярэдняя мараль няўстойлівая. Сярэдні гатовы зграшыць, але баіцца ўсяго: сям'і, закона, смерці, цёмнай падваротні. І вось з'яўляюся я, акружаючы сярэдніх спакусамі, пыхай, зайздрасцю. Калі ласка! Сярэднія тысячамі падаюць у мой кошык.

— Значыць, я нават не сярэдні? — залямантаваў Місурагін.

— Сярэдні, але ў вас мяне прыцягвае іншае. Вы — вырадак. Паглядзіце на сябе: рэдкія валаскі, адтапыраныя вушы, крывыя ногі, твар у барадаўках, сварлівы характар. Вы картавы і тугавухі...

Ускінуўся Місурагін і хацеў палезці ў бойку.

— Забудзь! — загадаў д'ябал. — Забудзь, што я казаў! Ведай пра гэта на дне падсвядомасці, але лічы, што ніхто больш не ведае!

Нібы надаючы больш вагі загавору, перад Місурагіным з'явілася мілая гарэлка. Жоржык выпіў і заінтрыгавана слухаў далей.

— Мне патрэбна ваша цела. Кампанія, якая хоць неяк, але прымае вас, і тая кпіла. Значыцца, будзе смяяцца нават староннія. У гэтым дачыненні вы — ідэальная прынада, бо грэх чалавечага прыніжэння — самы цяжкі грэх.

Ніяк не мог успомніць Місурагін, што яму добрую гадзіну тлумачыў д'ябал — выходзіў бокам алкаголь. Але сутнасць — блізкае здзяйсненне мары — адчувальна сядзела ў ім, прыемна бударажачы самалюбства. Не дарма ён ішоў да мэты, з верай і надзеяй на яе ажыццяўленне.

— Згодны, — выдыхнуў кароль.

— Выдатна. У такім выпадку, трэба падпісаць кантракт.

Д'ябал дастаў з нагруднай кішэні смокінга ліст паперы, працягнуў фламастар, запраўлены крывёю грэшнікаў.

— Тут і тут, калі ласка.

Місурагін падпісаў.

— Дам добрую параду, — сказаў барадаты. — Вы пачынаеце цяпер новае жыццё. Уладару нельга быць даверлівым, інакш можна пазбавіцца трона. Любы дакумент чытайце, перш чым прыкласці руку. Вам пашанцавала, што я сумленны, а калі б на маім месцы сядзеў Васька?..

— Да чорта Ваську! — адмахнуўся Місурагін.

— Гэта без праблем, — барадаты ўсміхнуўся. — Рана ці позна ён будзе маім.

Жоржыка не палохала расстанне з целам. Цяпер ён круціўся на раздарожжы, не ведаючы, у каго перасяліцца. Біяграфіі каралёў з дзяцінства завучваліся ім ледзь не назубок. Не было калісьці для яго больш любімай гульні, чым у далёкім кутку саду, абчапіўшыся калючкамі дзядоўніку, быццам ордэнамі, захутаўшыся ў клятчасты плед, насунуўшы на верхавіну шлем-каструлю, ісці ў бой супраць зараснікаў лопуху ды крапівы, агнём і мячом знішчаючы варожую раць.

У гнёзды чмялёў-выведнікаў Місуражка падкідваў падпаленае пакулле — так помсціў за шпіянаж і прадажніцтва. Са здрадніцы саранчы зрываў меч-яйцаклад, разжалуючы з рыцараў у мужыкі. Ад ганьбы і сораму саранча памірала на месцы. За кожны такі подзвіг Жоржык увенчваў сябе новымі ордэнамі і звар'яцела, шалёна хацеў сапраўднай улады. Адзінае, што не задавальняла яго, была хранічная няўдачлівасць каралёў: іх або звяргалі з пасадаў, або рэзалі ў ложках уласныя падданыя. У кожным лёсе Місурагін знаходзіў якую-небудзь загану, а паколькі сам панічна баяўся болю і турмы ды хацеў жыць доўга, то выбар яго чакаў нялёгкі.

Гэтымі сумненнямі ён падзяліўся з д'яблам.

— Пустое. Давайце знойдзем кандыдатуру не заваёўніка і тырана, а хлебароба і рэфарматара. — прапанаваў той выхад. — Чым вам дрэнны, напрыклад, Аляксандр II?

— Ён дрэнна скончыў, — патлумачыў Місурагін. — І, наогул, гэта нявыгадны занятак. Вялікімі робяцца толькі забойцы. Няма ніводнага караля, якога б памяталі за тое, што ён накарміў людзей. Плебс няўдзячны. Мне б што-небудзь кшталту Людовіка XIV — і жыў доўга, і велічы ў яго хапала.

— Калі ласка, можна і Людовіка.

— Не, Людовіка не хачу. Ён, кажуць, мыўся ўсяго чатыры разы.

— Ды хто ж перашкаджае вам мыцца часцей? — здзівіўся суразмоўца.

— Э-э-э, — Жоржык, усімі сіламі імкнучыся здавацца цвярозым, пакруціў пальцам: «Такі разумны, а не разумее: мне ж нельга перапісваць гісторыю. Спачатку я ў дробязях парушу яе, потым больш, больш — усё пойдзе па-іншаму, а ў выніку — гільяціна?» — Ні-ні. Не пераконвайце. А можа, адправіць мяне ў будучыню?

— Выключана, — адрэзаў Іван Іванавіч. — Па-першае, будучага пакуль не існуе. Па-другое, да вашага ведама, у будучыні вы застаняцеся на ўзроўні свайго часу, а ўвесь свет прасунецца наперад на дзвесце-трыста гадоў. Ці вы хочаце ўвайсці ў гісторыю як Георгій Тупарылы?

— Ды Божа барані...

— Прашу вас, не лайцеся пры мне, — перакурчыла д'ябла. — Гэта непрыстойна.

— Прабачце.

— Слухайце, бярыце Рамзэса. Старажытнасць, поўдзень, цеплыня, доўгае жыццё, дзеі амаль невядомыя — ёсць дзе душы разгуляцца.

— Ніколі! — Жоржык прыняў позу помніка. — Ніколі Місурагін не стане муміяй.

— Вам, далібог, не дагадзіць. У піраміду ён не хоча, на гільяціну не хоча, бомба яму — сярпом па... па сэрцы. Можа, вы зусім паміраць не хочаце?

— Не хачу. А можна?

— На табе! — д'ябал сунуў Місурагіну катэгарычную дулю.

Дуля вярнула будучага караля ў пачуццё. Ен плюхнуўся на месца.

— Няма сіл, — паскардзіўся д'ябал. — Варта чалавеку зрабіць дабро, як ён на галаву сядае. Гадоў пяцьдзясят таму я аднаго скупянду таксама ўгаворваў. Ён тыдзень канькаў, каб свае мільёны ў Ост-Індскую кампанію паперавесці. Перавёў...

— І што?

— Вядомая справа... Даляры дваццатага стагоддзя ў шаснаццатым... Не паспеў за заезны дом расплаціцца, як яго павязалі. Фальшываманецтва, мой сябар! Залілі яму горла свінцом — і ўсё.

— Ну, а што ж рабіць?! — закрычаў засмучаны Місурагін.

— Кантракт выконваць! Няўхільна! Мне патрэбна ваша цела, вам — каралеўская ўлада. Так?

— Так.

— Памерці вы хочаце ў сваёй пасцелі. Так?

— У сваёй!

— Стаць найвялікшым уладаром. Так?

— Так!

— Каб пра вас гаманіў увесь свет векі вечныя?

— Менавіта.

Тут д'ябал задумаўся. Думаў ён хвіліны дзве, рассеяна паціраючы акуратную бараду. За гэтую паўзу Місурагін яшчэ цяпнуў гарэлачкі. Нарэшце д'ябал прыйшоў да нейкага рашэння.

— У прынцыпе, нічога немагчымага няма. Засталася адна тонкасць. Я вашу душу змяшчаю ў чыё-небудзь цела, і фармальна з мяне ўжо нічога не возьмеш. Але раптам вы не валодаеце тым талентам, які дазволіў гэтаму валадару дасягнуць вяршыняў...

— У мяне ёсць усе таленты, — Місурагін нават на цвярозыя мазгі не сумняваўся ў гэтым. Цяпер жа перакананне яго лунала ў завоблачных вышынях.

— Не. Кіньце, — паморшчыўся д'ябал. — Усіх талентаў не бывае ні ў каго. Я лепш ведаю.

Справа ў тым, што без таленту вас зробяць лялькай на троне, вы будзеце ўспамінаць пра мяне як пра хлуса, які не выканаў умоў пагаднення. Адсюль толькі адно выйсце: вас трэба перасадзіць у той адрэзак часу, калі цела зробіць усе наканаваныя яму подзвігі, каб вы маглі не прыкладаць аніякіх намаганняў.

Гэта Місурагіна парадавала. Што-што, але па частцы ляноты ён быў геніем. Навошта кіпець, рызыкаваць здароўем у баях, ламаць галаву над складаннем законаў? Значна лепш прыляцець на гатовае, ведаючы, што за табой сочыць увесь свет.

Ад такога прыгожага рашэння Жоржык закруціўся на крэсле, жадаючы неадкладна перасяляцца, куды вочы глядзяць.

— Спакойна, спакойна, — астудзіў яго д'ябал. — Пераносіць вас я буду ў сне. А цяпер дайце касцюмчык прымерыць. Мне з ім яшчэ гадоў сорак жыць.

Не паспеў Місурагін міргнуць, як апынуўся ў целе барадатага. Д'ябал жа круціўся, муляўся, імкнучыся прыстасавацца да новай абалонкі, і бурчэў, што нельга жэрці столькі гарэлкі, печань пачала зацукроўвацца цырозам, і наогул — вечна ён пакутуе праз дабрыню сваю. Карацей, гаварыў усё тое, што заўседы кажуць людзі, спрабуючы збіць цану на ўпадабаны тавар.

Нарэшце яны зноў вярнуліся ў родныя арганізмы.

— Ну, па апошняй, — прапанаваў д'ябал, — і па дамах.

Калі выйшлі з рэстарана, Жоржык з усяе сілы абдымаў сябра, прызнаваўся ў каханні і абяцаў прызначыць першым міністрам, а потым задрамаў на скураным сядзенні спадарожнай машыны.

Прачнуўся ён ранкам. Не расплюшчваючы вачэй, паспрабаваў зразумець, чым скончыўся вечар, аднак, акрамя абрывачных фраз нейкага чарнявага ідыёта, ніводная думка яму ў галаву не лезла. Адчуваў ён сябе агідна і пакляўся наступным разам столькі не піць.

У халадзільніку была прызапашана бутэлька кефіру, але дайсці да яе Жоржык не мог. У вокны глуха стукаў дождж. У вушах звінела. Канапа падымалася і апускалася, быццам на арэлях.

Заенчыўшы і аблізаўшы сухім языком патрэсканыя вусны, Місурагін праз сілу расціснуў павекі і адразу ўсе ўспомніў. Пакой аказаўся каютай карабля. Не дождж у акно — мора біла звонку ў прасмоленыя пакатыя барты. Рыпелі пераборкі, і Місурагін скурай адчуў, як карабель упарта падмінае пад сябе хвалі, натужна паўзе супраць ветру. Звон у вушах змяніўся частым медным боем рынды.

Хмелю як і не было. У захапленні ад здзейсненай мары, ад салодкага прадчування неабмежаванай улады Жоржык ускочыў з прышрубаванага да масніц ложка, які нагадваў масіўную, акаваную жалезам скрыню, хутка апрануў вайсковы мундзір з мяккага сукна, нацягнуў боты. Затым, унутрана радуючыся, але імкнучыся нічым не выдаць гэтага, паважна, па-каралеўску выйшаў у калідорчык і пачаў караскацца па стромкім вузкім трапе ўверх.

Пругкія ветразі, якія былі ледзь стрыманы вітымі нацягнутымі шкотамі, гулі. У твар дзьмуў свежы зюйд-вест.

Падняўшыся на капітанскі масток, ён спыніўся лявей за штурвал, робячы выгляд, што не звяртае ўвагі на схіленага перад ім капітана.

— Хіба я не казаў, каб вы кожны дзень змазвалі здорам батфорты? — спытаў Місурагін дзеля таго, каб даць сабе адчуць каралеўскую інтанацыю.

Капітан яшчэ ніжэй апусціў галаву.

— Вінаваты, Ваша Вялікасць. Ноччу быў шторм, і я яшчэ не паспеў змяніць вопратку.

Жоржык працягнуў да капітана правую руку. Той зразумеў і ўклаў у яе падзорную трубу. Місурагін паднёс акуляр да вока. Скрозь заслону мокрага ветру, скрозь салёныя халодныя пырскі на даляглядзе была бачная шэрая паласа берага.

— Капітан, што гэта там за зямля? — напышліва працадзіў Місурагін.

— Ваша Імператарская Вялікасць, гэта востраў Святой Алены.

## Перавернутае сэрца

На сельскіх могілках паміналі продкаў. Раніцай айцец Нікадзім справіў ютрань, і парафіяне, абціраючы святыя слёзы, разбрыліся па дарагіх надмагіллях.

Царква была выбудаваная на верхавіне парослага хвоямі ўзгорка. Барвовы купал узносіўся над салатавымі махрамі пухнатых крон, нібы перавернутае сэрца. У галлі хаваліся тлустыя вароны і цярпліва чакалі, пакуль людзі паплачуць над любімымі магіламі, паўпіваюцца гарэлкі і разыдуцца па хатах працягваць свята. Тады надыходзіў час варон. Яны зляталі на зямлю, дзе заставалася ў агароджах недаедзеная закуска, якую тужлівыя сваякі ленаваліся прыбраць за сабой, і балявалі бязмежна за спачын душ. Так паўтаралася з году ў год.

Але гэтым разам памінкі пайшлі па-іншаму. Айцец Нікадзім ужо прысеў на лавачку каля галавы памерлай сваёй матушкі; сям'я Пакусаевых расклала ў халадку на клятчастай падсцілцы пахкія марынады; Калдыры захоплена адкаркоўвалі пляшкі з пякучай самагонкай, а сам стары Калдыр раз-пораз правяраў незаўважна ад жонкі, ці не праваліласяў дзірку нагруднай кішэні схаваная там запасная чакушка; ужо інтэлігентны заатэхнік Бухлоў хвацка, з шыкам зрываў коркі з піўных бутэлек аб манумент невядомаму фермеру, а бабка Макароніха з п'яным ровам абняла згнілы крыж свайго сына, які пры жыцці біў маці тройчы ў дзень, і галасіла, што ёй, сіраце пакінутай, ніхто сёння і кроплі не паднясе.

Вароны скептычна papадпіралі галовы крыламі, жалобныя шклянкі журботна падняліся ў навярэджаных руках, як сэрцы Данка. Пакінутыя нашчадкі паводле старой традыцыі адлічвалі хвіліну маўчання.

— Адзін, два, тры, дзесяць, адзінаццаць, шаснаццаць...

Праз дваццаць дзве секунды нецярплівы Бухлоў сутаргава пачаў заглынанне.

У гэты момант зарыпелі пражавелыя завесы старажытнага склепа, і адтуль выйшаў незнаёмец. Склеп стаяў пустым яшчэ з Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі целы пахаваных там князёў — былых уладароў сяла — былі выпатрашаныя з трун у яр, які пралягаў уздоўж пагорка. Так што незнаёмцу не было адкуль узяцца, акрамя як з-пад зямлі.

Незнаёмец быў апрануты ў чорны аксамітны касцюм з ліловым адценнем, зусім лішні сённяшняй цеплай раніцай. На галаве сядзеў караблікам цірольскі капялюш, з якога вугальным султанам тырчала пяро і лунала на ветры. Ногі былі абутыя ў лакаваныя оперныя туфлі.

Здавалася, незнаёмы толькі што прыбыў з трапічных краёў, таму што твар яго пакрываў смуглы загар. Але загар быў нейкі халодны, нялюдскі. Зірнуўшы на гэты загар, усе падумалі, што так жа павінен быў бы загараць метал, калі б мог; так жалеза павінна пакрывацца акалінай.

Прыжмурыўшыся, незнаёмец пералічыў вяскоўцаў, не затрымліваючыся ні на кім позіркам. Спрабаваў было айцец Нікадзім перахрысціцца, але загарэлы цíролец выкінуў у ягоны бок правую руку, на мезенцы якой паблісківаў навостраны паліраваны пазногаць, і гэтым пазногцем-дзідай нібы прыкалоў да нарасніка плаўны рух іерэя. Айцец Нікадзім сумеўся і зрабіў выгляд, быццам проста хацеў пачухацца.

— Я думаю, вам нецікава ведаць, хто я такі, — сцвярджальна сказаў незнаёмец. Ягоны трубны бас гучаў ультрафіялетава, раскатліва. Ён падымаўся да галасавых звязак з нейкага глыбокага калодзежа, які падае да самага цэнтру Зямлі.

Усім, дарэчы, было вельмі цікава, што за асоба паўстала перад імі з княжацкай пахавальні і перашкодзіла выпіць, але пасля такога ўступу ніхто не адважыўся запатрабаваць тлумачэнняў.

— Вы так апантана і любасна кожны год моліцеся за сваіх родных, — працягваў бас, — так просіце вярнуць іх да жыцця, што ваша жаданне вырашана выканаць. Я пасланы сюды, каб дапамагчы вам. За вашу веру, за вашу душэўную шчодрасць мне даручана ўпершыню ў сусветнай гісторыі ўваскрэсіць аднаго чалавека. Усяго аднаго.

Заінтрыгаваныя вароны пераселі на галінку ніжэй.

Дзіўна, але прыхаджане айца Нікадзіма ні на імгненне не засумняваліся ў словах незнаёмца, нібы той, хто адправіў яго, пастараўся адразу ж, не губляючы часу, надаць ім звычайнасць таго, што адбываецца: уваскрэсіць і ўваскрэсіць, спраў жа — на пяць хвілін! Толькі атэістка Калдырыха злосна піхнула локцем шалапутнага мужычка ў селязёнку і прасыкала на вуха:

— Зноў зенкі з раніцы заліў, ірад праклятушчы! Ты напіваешся, а ў мяне белая гарачка.

— Парадуемся, дзеці мае, — ледзь стрымліваючы дабрыню, якая лілася з глыбінь сэрца, абвясціў бацюшка. — Сапраўды, мае рацыю Святое Пісанне: «Я ёсць уваскрэсенне і жыццё; хто верыць у Мяне, калі і памрэ, — ажыве; і кожны, хто жыве і верыць у Мяне, не памрэ вечна»!

Тыя, хто жыве і верыць, упалі на калені і дружна праспявалі асану.

— Адбылося, адбылося! — закрычаў Бухлоў. — Гэта цуд, неапалімая купіна! З такой нагоды выпіць трэба!

Рэлігійны тост сустрэў усеагульную падтрымку. Нават айцец Нікадзім, патаптаўшы застарэлую язву страўніка, глынуў з пластмасавага кубачка. Цірольцу не прапанаваў аніхто, але ўсе ўпотай абураліся на скнарнасць суседзяў.

— Мне б не хацелася навязваць вам сваё меркаванне, — цірольца, здавалася, забаўляла ўскладзеная на яго справа, — таму будзе лепш, калі вы самі абераце таго, хто, з агульнай згоды, варты адраджэння.

— Я ведаю, — унёс прапанову Бухлоў. — Не лепо ли ны бяшет, братие, не быць свалотамі? К сим же пакы божественыи уноша мысляше, како и кым образоме спасетеся. Страстотерпица маці Параскева отлетеша во сады Эдемские гады тры-чатыры таму. Ойча Нікадзіме плачеше, стонаше, зегзицею незнаема рано кычеше: чему, господине, простре горючую сваю лучю на ладе мои? Давайце папросім уваскрэсіць матушку Параскеву. Тогда врани не граахуть, галици помлокоша, сорокы не троскоташа, ано соловии веселыми песнеми свет поведают.

Усе, безумоўна, ведалі, што заатэхнік начытаны, але не меркавалі, што ён начытаны так пасвінску.

— Ах, Мішка, Мішка, — уздыхнуў Калдыр, — мала я цябе ў дзяцінстве крапівой частаваў.

Ужо наколькі цiролец здаваўся спакойным, але і ён затармажана палез у кішэню, дастаў адтуль нейкую кнігу, прагартаў яе засяроджана і, нарэшце, знайшоў годны адказ Бухлову:

— Еже сказах сказах.

Айцец Нікадзім расчуліўся. Не хаваючы слёз, ён павярнуўся да заатэхніка і пацалаваў яго.

— Дзякуй, сын мой.

Цiролец падышоў бліжэй да магілкі матушкі Параскевы. З ягоных рук вырвалася ружовае ззянне і накрыла аселы пагорачак з невялікім надмагіллем.

У прадчуванні радасці Нікадзім заплюшчыў вочы, і ў ягонай памяці ўсплылі далёкія юныя дні, калі ён, яшчэ малады студэнт семінарыі, пазнаёміўся з вясёлай і пабожнай дзяўчынкай. Успомніў ён, як, атрымаўшы гэты прыход, падымалі ўдвaix з руін храм, цягаючы на сабе па рыштаваннях цэглу да самых закамараў, як вялі мур і тынкавалі сцены; успомніў, што была Параскева вернай жонкай, нарадзіла яму траіх дзяцей, якія раз'ехаліся па ўсім свеце ў такія далёкія краі, што нават вестачкі ад іх вось ужо дзясяты год не прыходзяць; успомніў, як год за годам паступова старэлі яны, але, калі Нікадзім амаль не мяняўся знешне, то жонка ягоная непрыкметна азызла і распаўзлася, маршчыны аплялі твар, спіну сціснула падагра, артрыт вывернуў і раскірэчыў суставы; успомніў, як яна згарала ад гнілой хваробы і хадзіла пад сябе крывёю, стала злоснай, раздражняльнай, суткамі напралёт крычала ад начнога болю, а ён даглядаў яе, не ведаючы спакою і адпачынку, і маліўся, каб Гасподзь хутчэй прыбраў яе, прыкрываючы свае просьбы імкненнем палегчыць яе пакуты. Успомніў яшчэ, як ляжала яна ў труне, падціснуўшы пагардліва вусны, скрозь якія праступала бурая пена, і такая была незразумелая нянавісць у яе запалых вачніцах таму, што яна памерла, а ён — Нікадзім — жыць застаўся!

Потым успомніў яшчэ бацюшка заўдавелую Соф'ю, якая дапамагала яму цяпер па гаспадарцы. Соф'ю, да якой паспеў прыкіпець ён сэрцам, якую ўсе часцей і часцей у думках вёў да алтара, і ад якой — наколькі дазваляў узрост — рэгулярна ўпадаў у грэх Анана.

— Пастойце, — спыніў ён прыхадня. — Не трэба.

Людзі павылупілі вочы. Адна з варон ад здзіўлення страціла прытомнасць і спікіравала лапамі ўверх з дрэва. Цiролец таксама сумеўся.

— Але чаму?

— Не трэба, — паўтарыў айцец Нікадзім. — Я... Я не варты...

— Таму, хто мяне паслаў, лепш ведаць, ці вартыя вы.

— Не... Не, — цвёрда запярэчыў святар. — Дзякуй вам, але я не магу прыняць гэтага дару.

Ён на імгненне змоўк, падбіраючы пераканаўчыя маральныя доказы.

— Я пастыр гэтых людзей. Мне будзе сорамна, калі ласка закране мяне аднаго. Няхай я і далей панясу сваю адзіноту. Я скарыўся ёй. Узнагародзьце таго, каму цяжэй. Вось Марфа Макараўна дагэтуль плача аб сыне. Выкажыце павагу яе старасці.

Макароніха, увесь гэты час кракадзільствуючы аб выпладку сваім, і нібы зусім не чуючы, што робіцца вакол яе, раптам адскочыла ад крыжа, як апараная, і завішчала змардаваным непрыемным голасам:

— Ты, Нікадзім, зусім звар'яцеў! Ці забыўся, колькі гэткі ідал крыві маёй выпіў? Усю пенсію маю ў пляшку пераводзіў! Набярэцца і шнырыць дзесьці па шалавах, а я ў суседзяў павінна была глыток прасіць! У мяне ад ягоных кулакоў рэбры дасюль ныюць. Ды здох ён — і добра, што здох! Кол бы асінавы яму ў жывот! Каму трэба, хай і адраджае сваіх, а мяне не чапай!

— Гэта дакладна, — пацвердзіў Калдыр. — Лёўка гадам быў, туды яму і дарога.

— Адзін ты, Сямёныч, мяне заўседы разумеў, — жаласліва заскавытала Макароніха. — Налі сіраце грамульку.

Калдыр з асцярогай азірнуўся на жонку, ці не бачыць тая, але тая бачыла вельмі мэтанакіравана.

— Зараз я табе налью, алкаш паганы! Усе мужыкі як мужыкі, а ты з хаты імкнешся ўсё павыцягваць. Адыдзі, Макараўна, пакуль я табе космы не павыскубала!

— Марыся, Марысенька, не будзь жывёлінай, — спрабаваў засарамаціць яе Калдыр.

— Я табе дам жывёліну! — узвілася жоначка. — Заглухні, падла балотная! Навошта я за цябе выходзіла? Мяне ж мама папярэджвала: «Дачушка, ён цябе за чакушку ўдушыць»!

— Ну, усё! — заявіў Бухлоў. — Зараз маці ўваскрэсіць.

— І ўваскрэшу!

— Ты, Машка, з агнём не гуляй! — заўпарціўся Калдыр.

— Вельмі спужалася! На калені ўпаду, прабачэння прасіць буду! Мама, паўстань!

— Яна ж не мама, — спрабаваў наставіць на розум непаслухмяную жонку Сямёныч, — яна цешча.

Але Марыя Казіміраўна Калдыр не слухала і патрабавала ад цірольца тэрміновага спаткання з маці. Сямёныч спрабаваў ціснуць на яе сумленне, калі ж і гэта не дало вынікаў, пасуровеў і, мянуючы крыклівую ластаўку гадзючкай і кобрачкай, нагадаў, што ўся калдыровая гаспадарка, уключаючы хату, машыну і мотакультыватар, дасталася яму ў спадчыну ад уласных бацькоў. Калі жонцы хочацца, яна можа ўваскрашаць усю сваю фамілію да сёмага калена, але хай ведае: пры разводзе ёй нічога не перападзе, і жыць з усімі продкамі яна будзе з гэтага часу, кажучы словамі казані айца Нікадзіма, «у павапленых трунах».

Марысенька імгненна супакоілася, пра маму не ўспамінала, і, каб адцягнуць ад сябе ўвагу, прапанавала ажывіць немаўля Пакусаевых, якое памерла гадоў дваццаць таму ад запалення лёгкіх, бо ўсе ведаюць, як Пакусаевы па некалькі разоў у год прыходзяць да ўзгорачка сына і сумуюць: маўляў, і хата ў іх — поўная чаша, і не абдзеленыя здароўем яны, ды без Пятруські свет не ў радасць.



Ілюстрацыя Вікенція Пузанкевіча.

— Бач, якая разумная! — дуэтам запатрабавалі справядлівасці Пакусаевы. — Сама нарадзі спачатку, потым адраджай. Зноў яму вопратку купляй, кармі, начэй не спі, а за нашымі васьмярымі ты, вісусня, глядзець будзеш? На гэтым хуліганні анучы гараць, як на пажары, і ўмінаюць яны як не ў сябе. Мы таксама не двухжыльныя.

Прышлы ціролец пагардліва паглядзеў на вяскоўцаў і, паказаўшы вострым мезенцам на шар сонца, якое выкочвалася ў зеніт, прамовіў:

— Хутка поўдзень. Мой час заканчваецца — вырашайце хутчэй.

Людзі шматгалосна загаманілі, імкнучыся перакрычаць адно аднаго. Прапаноўваліся розныя кандыдатуры, але, так ці інакш, у кожнага з блізкіх знаходзіліся важкія прычыны, каб не мяняць натуральнага ходу падзей.

Хтосьці заікнуўся, што нядрэнна было б уваскрэсіць першую жонку ўчастковага, якую ён вельмі кахаў. Вось будзе радасць чалавеку: вяртаецца з райцэнтра вечарам, а на парозе — Любачка у каляровым сарафане. Аднак Касенька запрацівілася аддаваць назад Любачкіна мужа.

Бухлоў, які паспеў пад шумок заліць за каўнер, унёс вар'яцкую ідэю. Каб нікому не было крыўдна, трэба вярнуць да жыцця ўсіх. Ціролец нават не паспеў нагадаць, што ўпаўнаважаны толькі на адзін цуд, як людзі надавалі заатэхніку па карку.

— На ўсіх зямлі не напасешся! І так у кожнага толькі пятнаццаць сотак!

— Добра! Слухайце! — крычаў Бухлоў, хаваючы галаву. — Давайце ўваскрэсім каго-небудзь вялікага! Ньютана, напрыклад, ці Шэкспіра.

— За што ж ім такая пашана? — абуралася сяло.

— Нам увесь свет дзякуй скажа.

— Дудкі! — выказаў агульнае меркаванне Пакусаеў. — Гэта наша льгота, і хай на яе рот не разяўляюць.

— Праўда, — падтрымала Марыя Казіміраўна, — а то набягуць сюды: аднаго адрадзі, другога... Тут самім не хапае.

Уставіў свае пяць капеек і Калдыр, задаўшы пытанне, якое таемна паліла ўсім душы і кішэні:

— А ці нельга гэтую льготу манетызаваць, так бы мовіць? На грошы абмяняць?

Вочы незнаёмца палезлі на лоб, але ён узяў сябе ў рукі і ціха, але ўпэўнена папытаў:

— Паслухайце, калі вы не можаце дамовіцца, то давайце я аднаўлю чалавека, у якога няма родных, але якога ўсе вы ведаеце.

— Лагічна! — пагадзілася веча. — Але каго?

— Дапусцім, яго, — і пазногаць паказаў на магілу невядомага фермера.

— Не! — горда сказала чалавецтва. — У яго было занадта шмат грошай.

А Калдырыха патлумачыла:

— Папіў ён нашай крыві, міраед. Раніцай глянеш у акно — ён працуе, днём чарачку захочаш перакуліць, а ён у сябе гной раскідвае, увечары ў клуб ідзеш, а гэты гад яшчэ ў полі кешкаецца. За год машыну сабе купіў, палац двухпавярховы адбудаваў.

— Буржуй, — пацвердзіла грамада.

У гэты час падняўся з лаўкі айцец Нікадзім. Адчуваў ён сябе стомленым і разбітым.

— Дзеці мае, дазвольце, я скажу. Калі міласэрны Гасподзь вырашыў адарыць нас такім цудам, то не маем права мы адкідваць яго. Памятаеце, там, пад вязамі, пахаваная дзяўчына, якую два гады таму згвалцілі і забілі на аўтобусным прыпынку? Злачынцу тады не знайшлі. Хто яна — ніхто не ведае. Яна нявінная ахвяра, і наш абавязак — дапамагчы ёй.

— Правільна, бацюшка, — затрашчала Макароніха. — Дзяўчынка ж зусім маладзенькая

была. Як успомню, сэрца абліваецца крывёю. Колькі ёй вытрываць перад смерцю давялося. Ужо ён яе, фашыст паскудны, так адвалтузіў, небараку...

Людзі адчулі няёмкасць, пачалі пераглядацца.

— Твая праўда, Макараўна, — панура сказаў Калдыр. — Ходзіць гэты пярэварацень па зямлі, смяецца дзесьці. Хоць і шкада цуд аддаваць, але не прападаць жа дабру, а так роднай міліцыі акажам дапамогу. Нашармака зарплату нам дабавяць.

Довад з заробкам пераканаў нават самых прагных. Усе акружылі цірольца, каб пацягнуць да старых вязаў.

— О тэмпара, о морэс! — запатрабаваў увагі пісьменны Бухлоў. — Апамятайцеся. Вы падумалі пра вынікі?

— Пра якія вынікі?

— Ну, адрадзім мы яе; ну, адвядзем у міліцыю; а вы ўпэўненыя, што нейрафізіялагічныя сувязі цэнтральнай нервовай сістэмы адэкватна адрэагуюць на амбівалентнае змяненне прасторава-часавага кантынууму?

— Ты па-чалавечы скажы, псіх, — улез Пакусаеў.

— Дура лекс сед лекс — такая дура, — упразрысціў сваю думку Бухлоў. — Пасля двух гадоў смерці што яна можа згадаць?

— Што-небудзь ды згадае, — прамармытаў цірольца, пільна гледзячы на Мішку.

— Значыцца, дзеля ўяўнай выгады вы хочаце парушыць раўнавагу, якая склалася? Але сказана старажытнымі людзьмі: омніа мэа мэкум порта. Нічога занадта. Не ганіцеся за прывідамі, а то страціце, што маеце!

— Куды ты гнеш? — пытаўся Пакусаеў.

— Калі вы яе ўваскрэсіце, я вам не сябар! — і заатэхнік люта застукаў кулаком па агароджы. — Хто вам тады кароў асемяняць будзе? Навек ялавіцамі застануцца, пакуль новага спецыяліста не дашлюць! Вы гэтага хочаце?

— Ды як жа без прыплоду? — захваляваліся ўсе.

— А, жывіце, як ведаеце. Не буду асемяняць — гарантую! Гадоў пятнаццаць, як мінімум. Або я, або гэтая дзеўка! Выбірайце.

— Мы цябе выбіраем, — дружна сказалі вяскоўцы, і айцец Нікадзім — самы першы. — Кароў сваіх мы даўно ведаем, а дзеўку адзін раз бачылі. Чорт з ёй.

Ціролец задумаўся, зняў капялюш, паправіў бліскучае пяро і, не кажучы больш ані слова, спакойна адправіўся да склепа. На парозе ён павярнуўся апошні раз, хацеў нешта сказаць, але перадумаў і схаваўся ў грабніцы. Усе маўчалі.

Раптам, нібы адначасова злавіўшы адну і тую ж думку, памінальшчыкі сарваліся з месца, не змаўляючыся, і кінуліся за ім. Ад руплівага напору брама склепа жаласна хруснула і развалілася.

Паветра кіпела густым серным пахам. Незнаёмец шрубай укручваўся ў зямлю. Убачыўшы натоўп, які ўбег у склеп, ён спыніў кручэнне.

— Пастойце, мы перадумалі! — закрычаў за ўсіх айцец Нікадзім. — Вам сапраўды падуладная смерць?

Незнаёмец паглядзеў у разлом цаглянага муру, праз які бачылася перавернутае сэрца сабornага купала, што ззяла пад сонечнымі прамянямі, і кіўнуў:

— Падуладная.

— Тады ў нас ёсць просьба. Замест адраджэння вы б не маглі прыхапіць з сабой некалькі чалавек, а то жыць замінаюць, сволачы.

## Анатоль Зэкаў



**нарадзіўся 20 студзеня 1955 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Працуе ў розных жанрах, апошнім часам рэгулярна выходзяць яго дзіцячыя кніжкі. Акрамя таго, Анатоль Зэкаў актыўна падтрымлівае паэтаў-пачаткоўцаў, прадстаўляе іх дэбютныя публікацыі ў друку. Сваім жа літаратурным настаўнікам лічыць Міколу Чарняўскага.**

# Маё каханне санцавокае

***

У цябе закахаўся я ў студзені
і якраз пра такую і марыў.
Ды не ведаў тады я, ці будзем мы
гэтак блізка з табою, як зараз.

І глядзеў спадылба, пазіраючы
на цябе, баючыся сурочыць
і самога сябе дакараючы,
у твае сумнаватыя вочы.

Не, яны часам так загараліся,
што, здавалася, ў полымі гэтым
спапялюся, пакуль дачакаюся
і вясны я, і нашага лета.

Ды надзея жыла, не знікала ўсё,
ды і вера з днём кожным мацнела,
і, магчыма, што й ты закахалася,
хоць наўрад ці таго і хацела.

А далей так пайшло ўсё, па нотах бы,
ды адно вось падумваю часам:
чаму ты і сягоння самотная
і чаму мы не можам быць разам?

***

У маім пакоі сцішаным
і зацемненым зусім
уявіць складана іншую
мне на месцы на тваім.

Не ўяўляю, што каханая
будзе іншая, пры тым
неймаверна так жаданая,
як была жаданай ты.

Не ўяўляю, ды ўяўляецца
так, як можна уявіць,
што яна аднойчы з’явіцца
для мяне табою быць.

***

З першага пагляду й да апошняга
будзь са мной, каханая, харошая.
Без цябе я, любая, самотнею.
Ты — мая адзіная і родная.
Да сябе цябе я не прывязваю,
бо нічым ты мне не абавязана,
юная, спакусная, прыгожая —
з першага пагляду й да апошняга.

***

Дзе ты, жаданая, спакусная,
каханенькая, дзе?
Здаецца, што галінка хруснула —
і да мяне ідзеш.

Ідзеш, панылая, самотная,
без бляску уваччу,
аднак і любая, і родная,
з якою быць хачу.

І прытулю, і зацалую ўсю,
і буду век любіць.
О, як я за цябе турбуюся —
ажно душа шчыміць!

Галінка недзе гулка хруснула —
а ты ўсё не ідзеш.
Спаткала іншага, спакусная,
ці заблукала дзе?

***

Ніколі ўжо ў маіх пачуццях
не будзе светлыні былой,
як і цябе, на жаль, не будзе
той, што была мне светлынёй,

той — і каханай, і жаданай,
ляцець гатоў быў да якой
і быў якой зачараваны,
і сон згубіўшы, і спакой.

Не будзе ўжо цябе ранейшай,
як і ранейшага мяне,
і не напішуцца больш вершы
такія, як пісаў раней...

***

Я штодня скрозь гады
ад грахоў вырываюся,
ды з'яўляешся ты —
зноў грашу я і каюся.

Напакуюць гады
мне грахоў —
не раскаяцца.
Але ёсць недзе ты —
і грахі прыбаўляюцца.

***

Маё каханне санцавокае,
пякельна-страснае да болю,
ты, ад мяне цяпер далёкае,
гуляеш дзесьці і сваволіш.

Цябе наўрад ці здолею наблізіць,
як бы ні мусіў я старацца.
Дык хоць перад расстаннем азірніся
і дай з табою развітацца.

***

У душы насіў надзею,
ды развеяў пакрыху.
Не магу жыць без цябе я
і з табою не магу.

Нашы рэдкія сустрэчы
не прыносяць шчасця, не,
і душу зусім не лечаць
ні табе яны, ні мне.

Узнясуць спачатку ўгору,
а затым шпурнуць уніз.
Радасны хадзіў учора,
а сягоння раптам скіс.

То надзея, то трывога...
Мо сустрэліся не ў час —
і не выйдзе ўжо нічога
з гэтага кахання ў нас?

***

У тым сябе ты не віні,
калі й віні, то ўжо не надта.
У тым віны тваёй ані,
хутчэй, што сам я вінаваты.

Залез я сам табе ў душу,
ў душу залез тваю і сэрца.
Сам саграшыў я і грашу
яшчэ й да гэтага, здаецца.

Прымусіў і цябе грашыць,
хоць ты зусім і не такая...
Як выбрацца з тваёй душы
і з сэрца мне твайго — не знаю.

***

Разважаю, быццам над загадкай,
той, што не рашаецца на зло:
як сустрэцца і пачаць спачатку
ўсё, што ў нас аднойчы ўжо было?

Як вярнуць давер твой і каханне,
як вярнуць цябе самую мне,
каб былі салодкімі спатканні,
каб было наяве ўсё — не ў сне,

каб на крылах да мяне ляцела
і зусім не зналася з журбой,
каб і ты са мною быць хацела
так, як быць жадаю я з табой?

***

Жыццёвы век міне
і, нібы снег, растане.
Ці ўспомніш пра мяне,
калі мяне не стане?

Ці ўспомніш хоць калі,
не бачачы партрэта,
той час, як мы жылі
з табой на свеце гэтым?

Не будучы са мной,
бо ўжо мяне не будзе,
ці ўспомніш ты, ці мо,
што я і быў, забудзеш?

Гравюра Маргарыты Дабравольскай.





Уладзімір Мажылоўскі

**нарадзіўся 7 лютага 1958 года ў вёсцы Станіславова Дубровенскага раёна. У дзвюх новых аповесцях аўтара, напісаных у жанры дэтэктыва, перагукаюцца стагоддзі…**

«Не хачу хваліцца, хіба толькі крыжам Госпада нашага Ісуса Хрыста, якім для мяне свет укрыжаваны, а я для свету.»
(да Галятаў, 6:14)

# У цені крыжа

## 1.

Я стаяў ля сваёй расчыненай паштовай скрынкі і са здзіўленнем, нават з невялікім унутраным пачуццём страху глядзеў на два канверты, якія белымі прамавугольнікамі сіратліва бялелі на яе дне. Канверты былі самымі звычайнымі. Адзін, як я адразу зразумеў, — ад маці, другі, без зваротнага адраса, але надпісаны рэзкім размашыстым почыркам, — ад майго сябра Сашкі. У іх не было нічога незвычайнага, а тым больш — страшнага, і здзівілі мяне зусім не яны. Здзівіла прароцтва майго калегі, зробленае ўсяго некалькі гадзін таму.

Верабей спачатку адзін раз, потым другі ўдарыўся ў шыбу акна, ля якога стаяў мой працоўны стол. Я пасмяяўся, што хітрая птушка так збірае мух, а Уладзімір Іванавіч на поўным сур'ёзе прачытаў мне невялічкую лекцыю пра нашу няўважлівасць да знакаў, якія падае нам прырода.

— Ты хочаш сказаць — Бог? — я не паверыў ніводнаму слову сябра, бо, як і многія ў нашай школе, лічыў яго дзіваком. Разумным, начытаным, інтэлігентным чалавекам, але ўсё ж такі крыху не такім, як іншыя.

— Я сказаў тое, што хацеў сказаць. Падзеі, звязаныя з развіццём цывілізацыі, і знакі, якія падае нам прырода, вельмі моцна пераплецены паміж сабой. Гэты свет сімвалічны. Ён поўны розных знакаў, падказак, сімвалаў, указанняў, як нам трэба жыць, што рабіць дазволена, а што лепш не чапаць, бо ляжыць пад смяротным для ўсяго чалавецтва кляймом забароны. Нават тыя ж літары…

— Пра літары ты мне ўжо расказваў, — не вельмі ветліва перапыніў я Валодзю. — Ты мне лепш патлумач, якая сувязь існуе паміж мной і галодным вераб'ём?

— Паміж табой і вераб'ём — аніякай. Аднак праз вераб'я прырода падае табе знак, што ты сягоння атрымаеш ліст, які даўно з нецярпеннем чакаеш.

— Верабей два разы ўдарыўся ў шкло.

— Значыцца, ты атрымаеш два лісты, — не вельмі ўпэўнена паціснуў плячыма сябар і, крыху падумаўшы, дадаў: — І нешта мне падказвае, што адзін з іх будзе для цябе… — ён на імгненне задумаўся, пацёр сваё пераноссе. — Нейкім загадкавым, незразумелым…

І вось цяпер, стоячы ля скрыні, я з унутранай шчымлівасцю ўспамінаў нядаўнюю гутарку ў настаўніцкай. «А можа, гэта проста жарт ці розыгрыш? — не здаваўся мой розум, імкнучыся па-свойму патлумачыць словы Валодзі. — Можа, ён выпадкова бачыў, як паштальён укінуў у скрынку два канверты і вырашыў скарыстацца гэтым, здзівіць, пацвердзіць свае разважанні аб сімвалізме свету?» Я ахвотна пагадзіўся са сваёй апошняй думкай і ўжо з лагоднай усмешкай на твары ўзяў лісты, зачыніў скрынку і накіраваўся да сваёй кватэры.

Першым я распячатаў канверт ад маці.

«Дарагі сыночак Віця!

Ты выбачай, што мы з бацькам так рэдка адказваем на твае лісты — сам ведаеш, колькі працы ў вёсцы вясной і летам. Аднак мы не гаруем, жывём добра, весела, за што кожны дзень дзякуем нашай Савецкай уладзе і асабіста таварышу Хрушчову Мікіту Сяргеевічу. Праўда, амаль увесь травень твой бацька правёў у Дубровенскай бальніцы, дзе дактары выцягвалі з яго аскепкі, якія ён у якасці трафеяў прывёз з-пад Кёнігсберга. Яны пачалі выходзіць з яго цела менавіта цяпер, у самы разгар работ. Але нічога, мы справіліся: з Божай дапамогай і бацьку падлячылі, і агародчык дагледзелі.

Навін у нас нямнога, а самая галоўная і самая страшная з іх — гэта раптоўная смерць твайго сябра Сашкі. Знайшлі яго забітым тры дні таму, аднак хто забіў яго і за што — невядома. Многія з нас напалоханы яго смерцю, многія здзіўлены. Адны кажуць, што бандыты шукалі ў Сашы нейкія каштоўнасці, бо ў яго хаце ўсё перавярнулі дагары нагамі, парэзалі на шматкі коўдру, падушкі, паразрывалі кнігі, паразбівалі посуд, паламалі мэблю. Другія б'юць сябе ў грудзі і ледзьве не клянуцца, што Сашка быў важаком банды Пікавага Валета і што забілі яго свае; быццам бы ён не хацеў з імі сумленна дзяліцца нарабаваным, а самае каштоўнае недзе хаваў у лесе. Аднак большасць вяскоўцаў маўчыць, чакае вынікаў расследавання.

Следчы заходзіў і да нас, пытаўся пра цябе, цікавіўся, ці прыедзеш ты сюды на летнія вакацыі. Мы адказалі, што не ведаем, і ён ад нас адчапіўся.

Ну вось, здаецца, і ўсё.

Перадавай ад нас паклоны Тані і свату.

Пішы, калі прыедзеце ў госці. Мы вас чакаем.

Да пабачэння. Твая маці.

15 чэрвеня 1962 года.»

Кароткі лаканічны ліст, аднак, добра ведаючы вясковае жыццё, я бачыў паміж яго радкоў тое, што сапраўды мне хацела сказаць маці: жыццё іх мяжуе са смерцю; недалечаны бацька разам з мужыкамі косіць для саўгасных кароў сена, а маці з іншымі жанчынамі і падлеткамі яго сушыць і вечарам звозіць у саўгасную пуню. І такая праца — з ранку і да позняга вечара, а ноччу іх чакае яшчэ свой агародчык, бо за працадні амаль нічога не налічваюць, а жыць жа неяк трэба! Таму маці не проста запрашае мяне з жонкай у госці, а просіць, слёзна ўмаляе: сынок, прыедзь, дапамажы нам, дай хоць крыху аддыхацца!

А пра смерць Сашкі напісана прама, без усялякіх іншасказанняў і намёкаў, і самае непрыемнае, што балюча кальнула маё сэрца — гэта словы пра тое, што яго смерць лічаць прадказальнай і нават справядлівай. Гэтая няўдзячнасць, гэтая абыякавасць кляліся абразай не толькі на памяць пра майго сябра. Яны чарнілі і маіх землякоў, і маіх родных, і мяне асабіста.

Ну, які з Сашкі бандыт? Высокі, худы, бы жэрдка, слабы і нескладны, ён толькі ў нечым хворым уяўленні мог быць крыважэрным і бязлітасным Пікавым Валетам, пра якога мне яшчэ зімой пісала маці. Мой жа сябар быў добрым, шчырым і негаваркім хлопцам. Ён любіў дзяцей, самааддана любіў сваю працу і як настаўнік гісторыі летам са сваімі вучнямі пастаянна корпаўся на руінах мясцовага касцёла ці панскага палаца, даглядаў тое, што яшчэ засталося ў вёсцы ад панскага парку. Ён пастаянна быў у руху, увесь час нешта раскопваў, пра нешта распытваў старажылаў, нешта запісваў у свой тоўсты нататнік, які, дарэчы, я падарыў яму на трыццаціг оддзе. Сашка жыў мінулым.

Многія не давяралі яму, лічылі, што ён з імі няшчыры, што ён хітруе, што ён сапраўды шукае нейкі скарб і зносіцца з нячыстымі сіламі, і абыходзілі майго сябра бокам, каб толькі быць падалей ад граху.

«Эх, Сашка-Сашка! — я ніяк не мог паверыць у яго смерць. — Што ўжо ты там адкапаў такое, што яно каштавала табе жыцця?» У надзеі знайсці адказ на гэтае пытанне і адначасова баючыся гэтага, я распячатаў другі канверт. Аднак, на маё здзіўленне, там не было ліста. Крыху збіты з панталыку, я зазірнуў унутр канверта і заўважыў у самым яго кутку невялічкі кавалак паперы. Асцярожна, двума пальцамі, я выцягнуў яго вонкі, уважліва, бы нейкі каштоўны рарытэт, агледзеў з усіх бакоў і гэтак жа асцярожна паклаў на стол. На кавалачку не было аніякага тэксту. Толькі тры знакі і дзве лічбы сінелі на адным з яго бакоў, ды і яны мне ні пра што не казалі. Унутранае пачуццё падказвала, што менавіта гэту паперку шукалі невядомыя бандыты ў хаце майго сябра, аднак таго, што на ёй было пазначана, а мо і зашыфравана, я не разумеў. Звілістая лінія зверху можа азначаць і дарогу, і рэчку, і нейкую мяжу. «120 + 50». Гэты запіс у маёй галаве наогул выклікаў пытанне: чаму б адразу не напісаць «сто семдзесят»? Здвоеная стрэлка — гэта адзінае, што я мог хаця б неяк патлумачыць, бо яна мне нагадала нашу дзіцячую гульню ў «самалёцікі», і я патлумачыў яе як сімвал, які паказвае напрамак руху.

120
+50

«Трэба ісці да звілістай лініі сто семдзесят… чаго? Метраў? Крокаў? Адкуль і куды ісці? А можа, лічбы наогул азначаюць не адлегласць, а колькасць?»

Так, гледзячы на невялічкі кавалак паперы, я праседзеў за сталом амаль да вечара. Не, я ўжо не імкнуўся разгадаць рэбус майго сябра. Я проста сядзеў і ўспамінаў сваё перадваеннае і ваеннае дзяцінства, гульні, паходы ва ўрочышча Лугаўцы па чарніцы, адкуль нас, дзяцей, ганялі нейкія звераватыя дарослыя і гэтым яшчэ больш распальвалі наш азарт. Мне было балюча за смерць сябра, за сваіх бацькоў, якія сумленна пражылі жыццё, аднак так нічога добрага ў ім і не зведалі. Мне было сорамна і крыўдна за сябе, за тое, што я застаўся ў горадзе, а іх пакінуў у адзіноце, сам-насам з праблемамі, хваробамі, з надыходзячай старасцю. На душы было так цяжка і пагана, што я вырашыў выпіць грам сто гарэлкі і ўжо падняўся з канапы, каб ісці на кухню, аднак тут шчоўкнуў замок уваходных дзвярэй і ў пярэднім пакоі нецярпліва зацокалі абцасікі маёй жонкі. Расчараваны, я сумна ўздыхнуў: «Сягоння не лёс!» , — схаваў ліст ад сябра ў кішэню і зноў апусціўся на канапу.

— Ну, як справы? — у пакой зазірнула жонка. Яе голас гучаў весела і бадзёра, аднак, калі яна ўбачыла мой спахмурнелы твар, у ім адразу з'явіліся спачувальныя ноткі: — Што здарылася, любы?

— Ліст атрымаў з дому, — я кіўнуў на стол, дзе ляжаў распячатаны канверт.

— Што піша маці? — Таня падышла да стала, села побач са мной на канапу, але ліст у рукі не ўзяла. — Непрыемнасці дома?

Я паціснуў плячыма:

— Бацька ў траўні ляжаў у бальніцы, памёр мой сябар. А так усё як заўсёды.

— Як цяпер здароўе таты?

— Маці пра гэта прама не піша, а таму думаю, што няважнае, — я крыху памаўчаў, потым кіўнуў на стол: — Ды ты вазьмі, пачытай сама.

— Калі дазволіш,— жонка асцярожна ўзяла ў рукі ліст, хуценька яго прачытала, уздыхнула: — Вера на лепшае жыццё пасля такой вайны прымушала нашых людзей не толькі біць ворагаў на фронце, але з апошніх сіл цярпець і голад, і нястачу, і холад, і несправядлівасць. І што мы маем цяпер? — Таня зноў уздыхнула. — У нас на працы смяюцца з Хрушчова, кажуць, што праз дваццаць гадоў нашы дзеці і сапраўды будуць жыць пры камунізме: без грошай, без ежы і без вопраткі.

— Ты трымайся падалей ад гэтых гаваруноў, — я добра памятаў, як пасля вайны бясследна знікалі ў сутарэннях Магілёўскага НКУС-а знаёмыя мне студэнты, віна якіх была толькі ў тым, што яны пераказвалі расповеды сваіх бацькоў пра ўбачанае імі жыццё ў Еўропе. Што было крымінальнага ў тых расповедах — я не ведаю, аднак юнакі атрымлівалі рэальныя тэрміны і адбывалі іх у рэальных турмах.

— Ды ладна табе, — жонка паднялася з канапы. — Цяпер жа не трыццаць сёмы год.

— Людзі засталіся тымі ж.

Таня з разуменнем хітнула галавой, гарэзліва ўсміхнулася нейкім сваім думкам, але спрачацца не стала. Яна не магла доўга быць пахмурнай і сумнай, і за гэта я яе асабліва кахаў. Яе вочы зноў жыццярадасна заззялі.

— Віця, збегай у краму, — нечакана папрасіла яна мяне. — Купі пляшку сухога віна і якіх-небудзь цукерак.

— Віна? — я не паверыў сваім вушам. — Навошта віно, калі ў нас ёсць гарэлка?

— Гарэлку ты будзеш піць з маім бацькам.

— Мой дарагі цесць прыйдзе да нас у госці?

— І хутка, — пырснула смехам з маёй разгубленасці жонка.

— Тады і я хутка, — сум у мяне як рукой зняло. Я падхапіўся на ногі, зняў з вешалкі сетку-авоську і амаль подбегам накіраваўся да ўваходных дзвярэй.

## 2.

Калі я вярнуўся ў кватэру, цесць ужо быў там. Яго нізкі, быццам прастуджаны голас ціхімі перакатамі ракатаў на кухні:

— А я табе кажу, што для таго, каб смажаная бульба была асабліва смачнай і хрумсткай, яе трэба саліць у самым канцы смажання.

— Дык яна ж не паспее прасаліцца!

— Паспее, — цесць не любіў, калі яму пярэчылі. — На фронце заўсёды паспявала, і тут паспее.

Пачуўшы маю валтузню ў пярэдняй, ён праз усю кватэру выгукнуў:

— Я правільна кажу, Віктар?

— Абсалютна правільна, — пагадзіўся я з цесцем, хаця ніколі не звяртаў увагі на такую дробязь, як саленне смажанай бульбы.

Я зайшоў на кухню, за руку павітаўся з цесцем: «Добры вечар, тата!» — і дастаў з авоські пляшку грузінскага віна, кулёк з цукеркамі ды некалькі вэнджаных рыбак.

— Больш нічога не было, — быццам апраўдваючыся, я паглядзеў у вочы жонкі.

Яна прамаўчала, а цесць паўжартаўліва заракатаў:

— Бач ты, як разбэсціла вас, моладзь, савецкая ўлада. Яшчэ зусім нядаўна людзі чэрстваму акрайчыку хлеба радаваліся, а цяпер ім каўбасы падавай, ды не абы-якія, а вэнджаныя ці сушаныя. Мы, здаралася, на фронце маглі месяц сядзець на адной ячнай кашы з горкай сялёдкай і нічога — самі выжылі і немцу хрыбціну зламалі.

— Дык цяпер жа не вайна, тата, — Таня падхапіла патэльню і даўно завучаным рухам паставіла яе на стол. — Час ужо пачынаць жыць нармальна, па-чалавечы.

— Не вайна, — перадражніў дачку бацька. — А амерыканцы, а англічане з французамі? Яны што, сябры нашы? Яны нам дабра жадаюць? І правільна Мікітка паабяцаў ім усім паказаць «Кузькіну маць», хай баяцца нас, калі паважаць не хочуць, — цесць павярнуў да мяне свой расчырванелы твар і, пэўна, чакаючы адабрэння, пацікавіўся: — Так думае наша савецкае настаўніцтва?

Я паціснуў плячыма і не адказаў, бо быў не ва ўсім згодны са сваім цесцем, а выхадку Хрушчова на сесіі ААН дык і наогул лічыў дзікасцю, дурнотай чалавека, які па волі лёсу трапіў з гразі ў князі, але сваіх мужыцкіх звычак так і не выракся.

— Табе Віцевы бацькі паклоны перадаюць, — прыйшла мне на дапамогу Таня.

— Дзякуй ім за памяць, — цесць згодна хітнуў галавой і ўжо іншым, больш лагодным голасам папрасіў: — І ты, Віця, калі будзеш ім адпісваць, перадавай паклоны ад мяне. Пішы, што я іх памятаю і паважаю.

— Добра, — я спаласнуў і выцер рукі, сеў за стол насупраць цесця.

Той нейкі час маўчаў, потым рашучым жэстам падхапіў пляшку гарэлкі і пачаў яе адкаркоўваць. «Вось ты мне скажы, — пытаўся ён пры гэтым у некага з нас, — навошта тут корак заліваюць яшчэ сургучом? Чаго баяцца?» Урэшце ён адкаркаваў пляшку, падняў галаву і ахінуў мяне запытальным, хітраватым позіркам:

— Ну што, зяць, вып’ем па сто кропель за сустрэчу?

— Пярэчыць не буду, — я падхапіўся, хуценька адкаркаваў сухое віно і наліў палову шклянкі для жонкі.

— Давай першую вып’ем за здароўе тваіх бацькоў, — прапанаваў цесць і, не чакаючы майго адказу, рэзкім рухам кульнуў шклянку ў рот.

Я з удзячнасцю хітнуў галавой і гэтак жа, як і ён, выпіў пякучае змесціва сваёй шклянкі. А цесць працягваў:

— Быў я ў вашых краях, праязджаў праз Дуброўну трынаццатага ліпеня сорак першага года. Бамбілі нас па-страшнаму ад самай Оршы і да Смаленска, шмат людзей тады загінула, ды і трэцюю частку машын з калоны давялося потым перазагружаць.

— Ты нават даты памятаеш? — задаволеная, што бацька перастаў гаварыць пра палітыку, запыталася Таня. — Дваццаць гадоў ужо мінула.

— Я ўсё памятаю. Я магу забыцца пра тое, што рабіў учора, магу забыць твой дзень нараджэння, а пра той час памятаю ўсё, нават нязначныя дробязі час ад часу ўсплываюць.

— А ты б запісваў свае ўспаміны.

— Каму цікавыя ўспаміны звычайнага шафёра? Вось калі б я быў палкоўнікам ці генералам, калі б я ўдзельнічаў у буйных бітвах — тады так, можа, нехта і пачытаў бы іх, — цесць на імгненне задумаўся, разліў па шклянках гарэлку, аднак піць не стаў. — Я зімой быў у Мінску і зусім выпадкова сустрэў там свайго даўняга знаёмага. Абняліся, зайшлі ў кафэ, выпілі па кілішку нейкага кіслага віна, а размаўляць, як аказалася, нам і няма пра што. Вайну мужык прайшоў ад званка да званка, а памяць яго закрылі, забаранілі, бо быў ён асабістым шафёрам Панцеляймона Кандрацьевіча Панамарэнкі. Толькі, калі я нагадаў яму пра наш перагон з Мінска ў Маскву ў ліпені сорак першага, пра загінулых сяброў, пра скрыні і мяшкі з каштоўнасцямі, ён крыху аджыў і нават прагаварыўся, што ў тым падарожжы Панамарэнку менш за ўсё цікавілі смерці байцоў і каштоўнасці ў кузавах іх машын. Ён усю дарогу перажываў толькі пра сваю сям'ю і пра тое, ці спадабаецца Сталіну яго падарунак ад беларускага народа.

— Што за падарунак?

— Крыж нейкі асаблівы, — цесць крэкнуў, падхапіў сваю шклянку. — Знаёмы казаў, што Панцеляймон Кандрацьевіч вельмі даражыў тым крыжом, з рук не выпускаў баул, у якім той ляжаў.

— Сталін жа не верыў у Бога, цэрквы руйнаваў, святароў пасылаў на катаргу.

Цесць ад такога напаміну дачкі зморшчыўся, яго шырокі, абветраны, парэзаны маршчынамі твар перакасіўся, бы ад зубнога болю.

— Не нам, Танька, асуджаць таварыша Сталіна. Калі б не ён, то мы цяпер працавалі б не на сябе, а на дзядзю Сэма, абслугоўваючы сусветны капіталізм.

— Давайце лепш вып'ем, — гэтым разам я вырашыў дапамагчы жонцы адвесці гутарку яе бацькі ад палітыкі. — Вып'ем за тых, хто не дажыў да светлага дня перамогі.

— Добра сказаў, зяць, — цесць глыбока ўздыхнуў, адным махам выліў змесціва шклянкі ў сваё горла. — Няхай ім зямля будзе пухам, — і асцярожна паставіў шклянку на стол.

Сядзелі мы да позняга вечара, і толькі калі бацька пайшоў спаць, Таня пацікавілася:

— А калі ў цябе пачынаецца адпачынак?

— З панядзелка.

— Значыць, у нядзелю паедзеш дадому?

— Паеду, — я абняў жонку за хударлявыя плечы і пяшчотна прыцягнуў да сябе.

## 3.

У нядзелю раніцай я выехаў прыгарадным цягніком з Магілёва на Оршу. Цягнічок рухаўся нетаропка, з частымі і працяглымі прыпынкамі. Я сядзеў ля прыадчыненага акна, з цікаўнасцю шукаў у прыдарожным пейзажы адзнакі адраджэння, радаваўся, калі іх знаходзіў і разам з чадам удыхаў пахі пачатку лета.

Вёскі яшчэ не цалкам акрыялі ад трохгадовай акупацыі, не ўсе сяляне адбудаваліся, перабраліся з паўзямлянак у новыя хаты, аднак паўсюдна ўжо былі бачны і рысы новага, прыярытэтнага жыцця: дыхтоўныя будынкі кароўнікаў, брыгадных двароў, калгасных кантор і сельсаветаў. У пасёлках і гарадках дымілі новыя трубы заводзікаў, уздоўж чыгункі высіліся моцныя слупы электраперадачы.

А на палях буяла густое жыта, насычаючы прастору смачным, крыху гаркаватым пахам. Жывой зелянінай былі пакрыты і пагоркі ўздоўж дарогі, і недалёкія ўзлескі. Наваколле квітнела пад ласкавым сонечным святлом, пад бясконцым празрыстым небам, пад руплівым гаспадарскім прыглядам.

Збоку падавалася, што абагрэтыя пяшчотным летнім сонцам вёсачкі, жытнёвыя палі, здзічэлыя лясы быццам бы драмалі, адыходзілі ад доўгай зімы і веснавога перапалоху, але я выдатна ведаў: гэты млосны спакой быў падманлівым, несапраўдным, бо сонечнага цяпла хапала ўсім, шчодрыя дажджы наталілі зямную смагу дастаткова, а таму і азімыя, і яравыя, і травы раслі хутка, няспынна,  чым радавалі земляроба, нараджалі ў яго сэрцы надзею на добры ўраджай, а значыць і на сытую, спакойную будучыню.

У Оршы я папалуднаваў у прывакзальнай сталоўцы і, дачакаўшыся рэйсавага аўтобуса, выехаў у Дуброўну.

У Станіславова я прыйшоў адвячоркам, калі неба на захадзе нехта ўжо размаляваў чырвонымі палосамі і яно прыкметна ніжэй звесілася над зямлёй. У паветры яскрава адчувалася вячэрняя свежасць, а ў нізінках і каля рэчкі пачалі клубіцца яшчэ рэдкія і лёгкія хвалі туману.

Станіслававa — даволі вялікая вёска, аднак, прайшоўшы яе з аднаго канца ў другі, я амаль не сустрэў дарослых. «Саўгаснае сена звозяць, — патлумачыў мне такое бязлюддзе суседскі хлопчык і, паказаўшы рукой у бок саўгасных фермаў, сур’ёзным голасам дадаў: — Заўтра дажджы абяцаюць».

Ну, у тым, што заўтра будзе дождж, я вельмі сумняваўся, аднак сказаць пра гэта хлапчуку не паспеў: той ужо бег у кірунку лесу, дзе гарэла невялікае вогнішча і пасвілася з дзясятак кароў.

Ключ ад замка, як і дваццаць гадоў таму, вісеў на цвічку ля бакавога акна. Я адамкнуў замок, адчыніў дзверы, пераступіў парог. За год маёй адсутнасці ў хаце нічога не змянілася: тыя ж стол і лавы, зробленыя бацькам яшчэ ў даваенны час, тыя ж некалі модныя цяжкія металічныя лыжкі, той жа посуд і той жа пах.

Я распрануўся, зазірнуў у гаршкі, што стаялі на прыпечку і, нічога там не знайшоўшы з ежы, прылёг на ложак. «Як жа яны тут жывуць? — думаў я пра бацькоў. — На двары ўжо ноч, а яны яшчэ на працы. Вячэры ў хаце няма, сняданку таксама — калі маці іх прыгатуе? А з узыходам сонца зноў трэба спяшацца ў саўгас! Зноў да ночы вазіць сена ці праполваць буракі і бульбу…»

Я, напэўна, крыху заснуў, бо не пачуў, як у хаце з’явіліся бацькі, і, толькі раптоўна адчуўшы побач пах свежага лугавога сена, расплюшчыў вочы і ўбачыў радасны, абпалены сонцам і абветраны твар маці. За яе спінай гэтак жа шчасліва ўсміхаўся бацька.

— Прыехаў! — слёзы закіпелі ў матуліных вачах. Праз імгненне яны ўжо буйнымі кроплямі каціліся па яе шчоках. — Сыночак прыехаў!

Я не стаў чакаць, пакуль маці зусім расплачацца, падхапіўся з ложка і горача абняў яе. Ад пачуццяў, якія перапаўнялі маё сэрца, я збіраўся абняць яе моцна-моцна, аднак, адчуўшы пад лёгкай летняй сукенкай сухое касцістае цела, я сумеўся, нават, разгубіўся: мне падалося, што я абдымаю апрануты шкілет. Але гэта была мая маці! Колькі ж гора яна перанесла за апошнія месяцы, колькі зведала пакут і перажыванняў? Я цяжка ўздыхнуў, а яна, адчуўшы сваім целам мой глыбокі ўздых, на імгненне сцішылася, потым неяк сарамліва, зусім па-дзявоцку вызвалілася з абдымкаў.

— Не чакалі мы цябе сёння, — у яе голасе і сапраўды з’явіліся ноткі разгубленасці, і я зразумеў, пра што яна падумала.

— Нічога не трэба, мама, — я за руку павітаўся з бацькам, абняў яго. — Тут Таня перадала вам гасцінцаў, ды і я добра папалуднаваў у Оршы.

— Ведаю я, як кормяць у дзяржаўных сталоўках, — маці хусткай выцерла шчокі і павярнулася да бацькі: — Распалі пліту, а я зараз.

Бацька згодна хітнуў галавой, аднак з месца не крануўся, пачаў разгублена хлопаць сябе па кішэнях, шукаць запалкі.

— Ды позна ўжо для вячэры! — паспрабаваў я супакоіць родных, аднак да маіх слоў ніхто не прыслухаўся.

Урэшце бацька знайшоў запалкі, дастаў з запечка некалькі сухіх трэсак, дровы, і хутка ў пліце загуло полымя. Між іншым бацька паведаміў, што абед і вячэру ім прывозяць на поле, што травастой сёлета добры і саўгасныя каровы зімой галадаць не будуць. Потым пачаў распытваць мяне пра жыццё ў горадзе, пра маю работу, пра свата і толькі калі ў хаце з'явілася маці, пацікавіўся:

— Калі ж ты, сын, да нас прывязеш унука?

Я зразумеў, што гэтае пытанне балючае для маіх бацькоў, што яны часта яго абмяркоўваюць між сабой, губляюцца ў здагадках, зайздросцяць сваім знаёмым, якія даўно маюць унукаў. Таму, вырашыўшы абавязкова пагаварыць з жонкай на гэтую тэму, я цвёрда адказаў:

— Наступным летам.

— Дажыць бы! — ці то жартам, ці то сур'ёзна ўздыхнуў бацька і, не чакаючы рэакцыі на свае словы, пацікавіўся ў маці: — Ну, як там куры, не падвялі?

— Пяць яек.

Бацька прамаўчаў, пацiснуў плячыма, адышоўся ад пліты і сеў на лаву побач са мной.

— Ты паліш? — праз імгненне пацікавіўся ён і, убачыўшы мой сцвярджальны ківок, прапанаваў: — Хадзем на двор, папалім майго самасаду.

Я з ахвотай згадзіўся. Аднак бацькаў тытунь настолькі драў горла, што ў мяне хапіла духу толькі на тры зацяжкі.

— Не, я лепш папалю свае, — я патушыў цыгарку і дастаў з кішэні пачак «Казбеку». Потым дастаў адтуль папяросу, прапанаваў бацьку.

Ён узяў яе, панюхаў: «У Германіі мы некалі такія палілі» , — крыху павагаўся і працягнуў мне яе назад:

— Тытунь добры, але занадта мяккі, далікатны, не для салдацкага горла.

Так, думаючы кожны пра сваё, мы дакурылі свае цыгаркі і вярнуліся ў хату, дзе нас чакаў сціплы святочны стол. Перад пачаткам вячэры я дастаў з чамадана і раздаў бацькам падарункі ад сябе і ад Тані: асобна для маці, як для гаспадыні, выставіў прадукты, а бацьку ўручыў перадачу ад цесця — літровую бутлю самагону. Апошні падарунак выклікаў у маіх родных розныя эмоцыі: вясёлае захапленне ў бацькі, прадказальнае асуджэнне ў маці, — але ніводны з іх не застаўся да яго абыякавым.

### 4.

Наступныя некалькі дзён праляцелі зусім непрыкметна. Працы хапала: я падрамантаваў плот, навёў парадак у хлеўчуку, узяўся за дровы, штабель якіх яшчэ з зімы ляжаў на панадворку.

Калі, стаміўшыся, я сядзеў на калодцы і паліў, да мяне падышоў незнаёмы чалавек. Было яму крыху за сорак, аднак выглядаў ён падцягнутым, па-юнацку стройным і пругкім. Вусны незнаёмага расцягваліся ў ветлівай усмешцы, але вочы былі нярадаснымі — халоднымі і нават калючымі. Я адразу пазнаў у ім ваеннага і не памыліўся.

— Маёр КДБ Сяргей Багдановіч, — прадставіўся ён. — Вяду следства па факце смерці Аляксандра Дылевіча.

Я падняўся з калоды, пацiснуў працягнутую руку.

— Віктар Забаронак, — назваў я сябе і, не ведаючы што яшчэ сказаць, пацікавіўся: — Чым магу быць карысны?

Маёр уважлівым чэпкім позіркам паглядзеў мне ў вочы. Што ён там убачыў, я не ведаю, аднак праз некалькі імгненняў яго вочы пацяплелі і, агледзеўшы вуліцу і панадворак, ён прапанаваў пагаварыць у хаце, без сведкаў.

У хаце ён папіў вады, пахваліў яе якасць і адразу прыступіў да допыту.

— Вы перапісваліся з Дылевічам?

— Так, два-тры разы на год мы пісалі адзін аднаму, зрэдку стэлефаноўваліся.

— Пра што вы размаўлялі? — пацікавіўся маёр, аднак адразу ж, зразумеўшы недарэчнасць свайго пытання, выправіўся: — Ці не расказваў ён вам пра банду Валета?

— Расказваў, — я не стаў хлусіць. — Зімой, недзе на Каляды, ён мне званіў на працу, віншаваў са святамі і між іншым тады я ад яго і пачуў пра гэтую банду.

— Што ён расказваў?

—Жартаваў, што ў раёне з'явілася банда, якая абрабавала ў Дуброўне два прадуктовыя склады і пасля гэтага іх падпаліла.

— І што ў тых нападзеннях ён убачыў смешнага?

— Сашка смяяўся, што, калі б ён быў міліцыянерам, то адразу б праверыў жытло родных кладаўшчыкоў і загадчыкаў тых складаў.

— А пра тое, чым ён займаўся ў вольны час, што вам вядома?

— У вольны час? — я задумаўся. А што я ведаў пра Сашку сённяшняга? Я мог бы расказаць гэтаму маёру пра тое, як малымі хлапчукамі мы лазілі па грушы да дзеда Шурдзіса; як курылі сухое дубовае лісце, зрабіўшы з жалудоў люлькі; як вясной купаліся ў рэчцы, за што потым неслі пакаранне ў сутарэннях мясцовага касцёла; як спрабавалі заляцацца да мясцовых дзяўчат. Я многае мог распавесці пра наша з Сашкам дзяцінства, але пра тое, чым займаўся мой сябар цяпер, я зусім не ведаў, і ад гэтага няведання душы маёй стала балюча. Таму я толькі пацiснуў плячыма, пацiснуў нерашуча, няўпэўнена:

— Я не ведаю.

Вусны Багдановіча здрыгануліся ва ўсмешцы, аднак ён прамаўчаў пра такое наша сяброўства: пэўна, прачытаў на маім твары, наколькі мне самому сорамна за сваю абыякавасць да жыцця Сашкі. Ён устаў з лавы, падышоў да акна і нейкі час глядзеў на пустынную вуліцу. Потым зноў павярнуўся да мяне.

— Скажыце, а мог ваш сябар быць тым самым Валетам? — у голасе маёра гучала спагада і даверлівасць, аднак для мяне пытанне прагучала выбухам.

— Ды што вы? — я падхапіўся на ногі. — Саша быў добрым чалавекам, сціплым у запатрабаваннях і шчырым у справах. Ён усім дапамагаў і больш за ўсё на свеце баяўся прычыніць іншаму боль і нават зрабіць нейкую нязручнасць…

— Супакойцеся, таварыш Забаронак. Я ж пакуль ні ў чым не абвінавачваю Дылевіча, аднак я павінен праверыць розныя версіі. А сярод іншых ёсць і такая.

— Глупства ўсё гэта, — я падышоў да вядра, зачэрпнуў і выпіў кубак вады. На душы стала спакайней, унутраны пал заціх, у галаве праяснілася. — Вы ж, пэўна, самі бачылі, што Саша быў зусім абыякавым да свайго дабрабыту, а бляшанкі з тушонкай ці пляшкі з каньяком яму былі тым больш без патрэбы, бо ён не еў свініну і не ўжываў спіртное.

Багдановіч прамаўчаў, і я адзначыў, што за час нашай размовы маёр не сказаў мне ніводнага лішняга слова. Ён толькі дапытваўся, а сам нічога не расказваў, і я запытаўся:

— А скажыце, таварыш маёр, чаму КДБ цікавіць звычайнае забойства вясковага настаўніка? Якую небяспеку дзяржаве яно нясе? Ці тут нешта іншае, і мой сябар проста выпадкова патрапіў не ў тое месца?

Маёр хмыкнуў, яго вусны скрывіліся ва ўсмешцы, вочы павесялелі, і ён неяк адразу стаў сваім вясковым хлопцам, калі не сябрам, то добрым знаёмым.

— Я вяду тут следства ўжо з тыдзень, а пра гэта ў мяне пацікавіўся толькі адзін ты. Таму табе аднаму і скажу: смерць твайго сябра для мяне — толькі падстава, зачэпка. Я адразу зразумеў, што ён чалавек сумленны, аднак мае нейкае дачыненне да таго, дзеля чаго я тут, і тыя, хто яго забіў, таксама неяк перасякаюцца з маім заданнем.

— А Пікавы Валет?

— Ёсць такая банда ў Дуброўне і, пэўна, твой сябар меў рацыю наконт яе складу, — Багдановіч непрыкметна перайшоў на «ты». — Але мне яна нецікавая, хай ёй займаюцца мясцовыя міліцыянеры. Ты ж, Віктар, паспрабуй успомніць, ці не расказваў табе Дылевіч пра каштоўнасці, схаваныя нашымі ва ўрочышчы Лугаўцы падчас адступлення ў ліпені сорак першага? Можа, пытаўся пра крыж Еўфрасінні Полацкай? Можа, прасіў пашукаць у Магілёве якія-небудзь звесткі пра яго? Можа, штосьці табе паказваў?

Я задумаўся. Недзе на самым дне маёй памяці заварушыўся нейкі ўспамін, і я нават паспрабаваў яго выцягнуць адтуль, аднак ён быў настолькі слабым і кволым, што з гэтага ў мяне нічога не атрымалася.

— Не памятаю, — паціснуў я плячыма.

— Добра, — маёр працягнуў мне на развітанне руку. — Калі раптам нешта ўспомніш, то адразу звані ў аддзяленне, не марудзь. І яшчэ: пра каштоўнасці і пра крыж Еўфрасінні — нікому ні слова. Запомні, Віця: ні-ко-му!

## 5.

А ноччу, ужо ў ложку, я ўспомніў: пра нейкі крыж мне зусім нядаўна расказваў цесць. Я нават усхапіўся, ледзь не кінуўся будзіць бацькоў, каб у іх запытацца, дзе ў вёсцы ёсць тэлефон, аднак стрымаў сябе, заспакоіў: хто ў такі час будзе шукаць маёра Багдановіча, ды і які крыж быў у бауле Панамарэнкі, цесць не ведаў. «Пазваню раніцай, — падумаў я. — Цяпер жа трэба спаць».

І я заснуў — дакладней, праваліўся ў бездань, на дне якой было невядомае мне чужое мінулае. Я сніў, што шчапаю на нейкім манастырскім панадворку дровы. Шчапаю ўпарта, злосна, з непрыхаваным задавальненнем. З дзікім, непрыемным нават сабе смехам назіраю, як альховыя і бярозавыя калоды развальваюцца ад маіх удараў на цуркі, як цуркі падаюць на зямлю і пераўтвараюцца ў пыл, знікаюць. А я махаю цяжкай сякерай, разбіваю калоду за калодай і, зусім не адчуваючы стомленасці, шапчу: «Даруй нам мір, Госпадзі, бо толькі мы зараз змагаемся за яго, за Цябе, о Божа, мы, рабы Твае з ордэна Таварыства Ісуса».

Вітаю цябе, перамога! Якая перамога можа параўнацца з перамогай над самім сабой, перамогай над сваімі сумненнямі і нежаданнямі, сваімі пачуццямі? А я зараз змагаўся з сабой, з ворагамі ўнутры мяне: лянотай і пагардай да фізічнай працы. І выбіваў я іх цяжкай працай, якая знясільвае цела, з кожным узмахам сякеры адчуваючы, як выбіваю з сябе дурноту, як разам з салёным потам з мяне выцякаюць чорныя, гнілыя пачуцці, якія сваім смярдзючым пахам труцілі маю душу, прымушалі глядзець на рамесніка ці селяніна зверху, глядзець і

не бачыць у іх чалавека. Дзьмуў калючы вецер, няшчадна паліла сонца, а я, трасучыся ад узбуджэння, які ўжо дзень выбіваў з сябе ўсё гнілое і чорнае. Я разбіваў калоды і думаў пра тое, што раблю гэта для таго, каб ачысціцца, каб палепшыць сябе, каб урэшце ўлагодзіць Бога. Аднак ці здолее самаачышчэнне сцерці мае мінулыя грахі і правіны, ці дапаможа адкупіцца ад Божага пакарання? І ці не ёсць гэта карыслівасць — такім чынам выціскаць з сябе дурное? А калі гэта карыслівасць, то і грэх! Пытанні роем круціліся ў маёй галаве і, магчыма, на некаторыя з іх я і знайшоў бы з часам адказы, але раптам на панадворку з'явіўся суперыёр Полацкай рэзідэнцыі і, выхапіўшы чэпкім позіркам мяне, запрашальна махнуў рукой:

— На сёння дастаткова, брат Іеранім. Зайдзі ў маю келлю, — суперыёр замоўк, пачакаў, пакуль я падыду да яго бліжэй, і толькі потым дадаў паўшэптам: — Сам Пётр Скарга жадае бачыць цябе.

Пётр Скарга! Прапаведнік нашага караля Жыгімонта Трэцяга! Няўжо ён яшчэ памятае мяне?

Неяк даўно, дзесьці ў тысяча пяцьсот семдзесят сёмым годзе, я размаўляў з ім пра яго твор «Пра еднасць царквы Божай». Тады мы практычна ва ўсім знайшлі паразуменне і еднасць думак і развіталіся амаль сябрамі. Але ж гэта было так даўно! Няўжо і цяпер ён шукае суразмоўцу, каб абмеркаваць палітычнае жыццё ў Літве і Кароне, пакрытыкаваць шляхту за празмернае злоўжыванне саслоўнымі прывілеямі, пашкадаваць сялян? Дык я ўжо не той саплівы манах, які верыў кожнаму слову сваіх старэйшых братоў. А можа, ён хоча па знаёмстве прапанаваць мне пасаду пры каралеўскім двары? Што ж, хутка пабачым.

Прапаведнік караля сядзеў за сталом і ўважліва перачытваў нейкі ліст. Яго худы твар быў шэрым, пахмурным; доўгі нос ад незадавальнення прачытаным час ад часу смешна торгаўся, бы падскокваў; вусы шавяліліся разам з вуснамі: падавалася, што чалавек жыве сваім жыццём, а яго нос, барада, вусы і вочы — сваім.

Урэшце Скарга дачытаў ліст, некалькі разоў незадаволена матлянуў галавой і, убачыўшы мяне з суперыёрам, няшчыра засмяяўся:

— Што, браты, не падабаецца праваслаўнай шляхце Берасцейская унія? Не прагнуць яны міру, вайны жадаюць?

— Хапае і такіх, — бясколерным, абыякавым голасам адказаў суперыёр. — Каб разуменне уніі масава ахапіла людзей, патрэбны час. Менавіта ён усё расставіць па сваіх месцах, і кожны атрымае паводле заслуг яго.

Скарга разумнымі вачыма глядзеў на суперыёра, не перабіваў яго, не спрачаўся, а калі той закончыў сваю думку, ветліва папрасіў яго пакінуць нас. Суперыёр з разуменнем хітнуў галавой і ціха пакінуў келлю. Скарга павярнуўся да мяне, паказаў вачыма на лаву:

— Сядай, Іеранім.

Я ўдзячна схіліўся ў паклоне, аднак спрачацца не стаў, пакорліва выканаў загад і стаў чакаць працягу размовы.

— Ты, пэўна, не можаш розуму дабраць, навошта спатрэбіўся мне? — Скарга спыніўся насупраць і зазірнуў мне ў вочы, і ад гэтага яго позірку кроў застыла ў маіх жылах: столькі ледзяной жорсткасці, столькі непахіснасці і самаахвярнасці я ніколі не бачыў ні ў аднаго чалавека. І я зразумеў: адмову ён не прыме.

А суразмоўца працягваў:

— Я не забыўся пра нашу гутарку трыццаць гадоў таму і з радасцю бачу, што час цябе амаль не змяніў і ў душы ты застаўся тым жа маладым Іеранімам Скібарам, — я зноў удзячна схіліўся ў паклоне, аднак Скарга не звярнуў на гэта ўвагі і зусім нечакана для мяне пацікавіўся: — Ты любіш цяжкую працу?

— У ёй я бачу стымул, — як ні дзіўна, голас мой гучаў роўна, спакойна. — Ёй я імкнуся прытушыць свае неразумныя памкненні і сум, якія часам ахопліваюць маю душу, бо я чалавек слабы і таму баюся, што яны падпарадкуюць мае пачуцці, пазбавяць мяне сэнсу жыцця.

— У цябе ёсць сэнс жыцця? — Скарга зноў уладкаваўся за сталом, па-добраму мне ўсміхнуўся: — Ты і сапраўды ведаеш, навошта жывеш на гэтым свеце?

— Я слуга Божы, — не адводзячы позірку і гледзячы проста ў вочы каралеўскаму прапаведніку, шчыра адказаў я. — Аднак і Богу можна служыць па-рознаму.

Я бачыў, як косы прамень сонца палыхнуў у чорным воку Скаргі, як ён сцяў сківіцы, незадаволена матлянуў барадой. Пэўна, не такога адказу ён чакаў ад мяне. Пэўна, я ўсё ж такі больш змяніўся за гэтыя дзесяцігоддзі, чым яму падалося. Але ні страху, ні расчаравання ад свайго адказу я не адчуў. Наадварот, хацелася яшчэ дадаць, што мне даўно не падабаецца бессэнсоўнае існаванне ў манастыры, што для мяне любое самае цяжкае жыццё на волі лепшае, чым лёгкае, пустое і бессэнсоўнае — за яго сценамі. Упершыню за некалькі месяцаў я быў у поўнай згодзе з самім сабой. Адказ дадзены — астатняе ад мяне ўжо не залежыць. Адзінае, што перашкаджала мне адчуць з усёй сілай сваю праўду, была думка пра тое, што мне належыла ўсё ж больш шырока, больш дэталёва патлумачыць свой адказ. І я, пэўна, так і зрабіў бы, аднак ён загаварыў першым:

— І ўсё ж такі ты змяніўся! Стаў больш адчайным, смелым, шукаеш сэнс жыцця, — Скарга падняўся з крэсла, прайшоўся па келлі, спыніўся перад абразом Спаса і, гледзячы на яго, задумліва, бы паўтараючы нечыя словы, прагаварыў: — Трэба шукаць не сэнс, а мэту жыцця, бо праўда — яна адна на ўсіх, але шляхоў да яе вядзе мноства і кожны з нас выбірае свой. А правільны ён ці не — пакажа час, пакажа жыццё… Табе цікава жыць, Іеранім?

Пытанне было настолькі нечаканым, што я спачатку разгубіўся і ад разгубленасці некалькі разоў зусім па-дзіцячы пацiснуў плячыма:

— Цікава.

— Гэта добра, — каралеўскі прапаведнік зноў павярнуўся да мяне, і па яго позірку я зразумеў, што думае ён зусім пра іншае, у нечым вагаецца і ніяк не можа на нешта рашыцца. — Калі жыццё становіцца нецікавым, прэсным і бессэнсоўным, гэта азначае адно: смерць ужо грукаецца ў дзверы, — Скарга зноў спыніўся перада мной, зноў паспрабаваў зазірнуць мне ў вочы. Позірку я не адвёў, таксама ўтаропіўся ў яго, і ён урэшце рашыўся: — Я хачу, Іеранім, прапанаваць табе адказнае і сакрэтнае даручэнне, — Скарга падышоў да стала, нахіліўся і паклаў на яго невялікі клунак. Пераxжагнаўшыся і прачытаўшы нейкую кароткую малітву, ён развязаў яго і дастаў адтуль… крыж. — Вось, брат мой, тваё заданне.

— Крыж святой Еўфрасінні? — міжволі вырваўся з маіх вуснаў спалоханы вокліч, і ад узрушэння я саскочыў з лавы і паваліўся перад ім на калені.

— Не палохайся так, Іеранім, бо гэта ўсяго толькі копія крыжа-каўчэга Полацкай Еўфрасінні. Таму падыміся з падлогі і сядзь на лаву.

Я заняў сваё ранейшае месца, а Скарга працягваў:

— Гэта дакладная копія крыжа Еўфрасінні, і адрозніць яе ад арыгінала можа толькі вельмі дасведчаны чалавек. Ведаюць пра яе ўсяго чацвёра, двое з якіх знаходзяцца ў гэтай келлі.

— Навошта ты паказаў яго мне?

— Па даручэнні нашага генерала, я хачу перадаць табе гэты крыж на захаванне. Ты павінен клапаціцца пра яго, як пра найвялікшую нашую святыню, берагчы ад чужога вока і рукі недазволенай… — я слухаў Скаргу, а сам з пачуццём жахлівай цікаўнасці, з унутраным трымценнем разглядаў шасціканцовы крыж, форма якога сімвалізавала Сусвет. Зроблены ён

быў з нейкай цвёрдай драўніны — пэўна, з дубу. Зверху і знізу дрэва было закрыта залатымі пласцінамі з каштоўнымі камянямі, арнаментам і эмалевымі выявамі святых. На пласцінах быў выбіты нейкі тэкст, аднак дрэннае асвятленне не дазволіла мне прачытаць яго цалкам, і толькі словы «…калі ж не паслухаецца хто і вынесе з манастыра, хай не дапаможа яму святы крыж ні ў жыцці гэтым, ні ў будучым, хай пракляты будзе ён святой жыватворнаю Тройцаю ды святымі айцамі…» раз-пораз кідаліся мне ў вочы. Гэты заклён палохаў мяне пякельным пакараннем, і, каб скінуць з вачэй насланнё, я некалькі разоў матлянуў галавой.

— Ты не згаджаешся? — па-свойму зразумеў мой сполах Скарга. — Ты адмаўляешся выканаць загад генерала і маю просьбу?

— Я згодны, я ўсё выканаю, — воля мая была заглушана, і мне менш за ўсё цяпер хацелася спрачацца са Скаргам. Зберагчы крыж? Я добрасумленна выканаю гэтае даручэнне, хаця і разумею, што платай за яго выкананне будзе маё жыццё. Аднак з гэтага моманту ніхто не забярэ яго ад мяне, ніхто нават не пабачыць яго і тым больш — не дакранецца.

— Вось і добра, — шырокая ўсмешка асвятліла твар каралеўскага прапаведніка, і ён адразу стаў добрым і прыгожым. — Я ніколькі не сумняваўся ў тваёй адданасці ордэну, — з гэтымі словамі Скарга схаваў крыж у скураны клунак і перадаў яго мне. — Беражы яго, Іеранім. Хоць гэта і копія, але копія крыжа, пад апекай якога знаходзіцца наша Айчына — Літва!

## 6.

Прачнуўся я з узыходам сонца. Начны змрок яшчэ не поўнасцю адпусціў сонную зямлю і дзе-нідзе клубіўся ў нізінках халодным туманам, аднак чырвоная паласа на ўсходзе, яшчэ нясмелая гамонка птушак і хрыплыя спевы пеўняў сведчылі: нараджаецца новы дзень.

Бацька разам з мужыкамі ўжо пайшоў на працу, а маці яшчэ корпалася ля пліты — гатавала мне сняданак.

— Нешта ты спаў сёння неспакойна, — пасля прывітання сказала яна. — Можа, захварэў ці сон сніў страшэнны?

Сон. Я неяк забыўся пра тое, што сніў ноччу, але словы маці адразу абудзілі ў памяці і маю барацьбу з самім сабой, і размову з каралеўскім прапаведнікам Пятром Скаргам, і маю клятву зберагчы крыж. Я зноў на імгненне вярнуўся ў мінулае, і гэтага імгнення хапіла, каб я зноў пераўтварыўся ў езуіта і ледзь не самлеў ад пытання: «Дзе крыж?»

— Які крыж? — дзякуй Богу, у хаце панаваў ранішні паўзмрок і маці не заўважыла майго стану. — Той, што некалі стаяў на перакрыжаванні ля крамы? Дык яго яшчэ ў трыццаць сёмым аблілі газай і спалілі мясцовыя камбедаўцы. І ты яго помніш? Табе ж тады было ўсяго сем гадкоў!

Маці насыпала ў місу прасянай кашы, заправіла яе з патэльні растопленым тлушчам, паставіла перада мной на стол:

— Паснедай, сынок, пакуль цёплая.

Я падзякаваў, узяў лыжку, пачаў есці. Каша была смачнаю, хаця ў маёй маці, напэўна, і суп з сякеры атрымаўся б смачным і навАрыстым.

— Мама, а дзе ў вёсцы ёсць тэлефон, каб можна было пагаварыць без лішніх вушэй? — пацікавіўся я.

— Хочаш Тані патэлефанаваць? Зараз у нас тэлефонаў шмат, не тое, што было пасля вайны, — маці паставіла перада мной кубак гарбаты і пачала снедаць сама. — Тэлефоны ёсць на пошце, у дырэктара саўгаса, на спіртзаводзе, у майстэрні, — маці спынілася, перастала загінаць пальцы, задумалася і потым няўпэўнена дадала: — І ў школе, напэўна, ёсць.

— А Сашка да вас часта заходзіў?

— Рэдка. Так, сустрэнемся дзе на вуліцы, перакінемся словам-другім і ўсё. Ён быў увесь у справах.

— Чым жа ён займаўся?

Розным, — маці паднялася з-за стала, сабрала пустыя місы, апусціла іх у кацёл з цёплай вадой. — То хадзіў па вёсках, апытваў людзей, запісваў іх расповеды, то бадзяўся па лесе, фатаграфаваў, то капаўся з вучнямі ў зямлі, нешта шукаў. Людзям тлумачыў, што хоча ў школе стварыць музей і збірае для яго экспанаты, але многія яму не верылі, думалі, што ён шукае скарбы, якія недзе ў нашых лясах у сорак першым годзе закапалі Саветы пры адступленні.

— А што, і праўда ёсць такія скарбы?

— Хто ж тое ведае? — маці паставіла сушыцца памытыя місы на палічку і павярнулася да мяне. — Што тады рабілася на дарогах — жах! Бежанцы пешыя, на калёсах, машыны з ваеннымі, машыны з грузамі! І ўсе спяшаюцца, усім некуды трэба тэрмінова. А зверху — самалёты нямецкія, і ніводнага нашага… Жах! Тут уздоўж аршанскага шляху на кожным метры чалавек закапаны, а ты пытаешся пра скарбы. Чула я, што немцы некалькі машын з музейным дабром разбамбілі і што яго закапалі недзе ў Лугаўцах, але пра тое людзі балбаталі даўно, яшчэ ў час вайны. Калі яно і было, тое дабро, то яго немцы даўно знайшлі і ў сваю Германію вывезлі.

— А чаму Сашка не ажаніўся і ці была ў яго наогул дзяўчына?

— А таму і не жаніўся, што часу не меў. А дзяўчына? — маці села насупраць мяне. На яе твары свяцілася лёгкая ўсмешка, вочы таксама смяяліся. — Была дзяўчына, аднак і каханне ў іх было такое ж, якім быў твой сябар. Кацьку Аўдзееву памятаеш?

Я паспрабаваў успомніць Кацьку, але так і не здолеў.

— У Аўдзея іх трое, — прыйшла мне на дапамогу маці. — Дзве малодшыя цяпер у Дуброўне працуюць, а Кацька тут, паштальёнам.

— Дык што цікавага было ў іх каханні?

— Гады тры яны, напэўна, сябравалі, а ён толькі зрэдку дапамагаў ёй пошту разнесці ці ў суботу пасля танцаў дахаты праводзіў. І ўсё.

— Ну, ён і раней быў дзіваком, — я паспрабаваў абараніць годнасць сябра.

— Ага, — хітнула галавой маці. — Недарэмна ж людзі кажуць, што ён і з нячыстай сілай знаўся. Я сама неяк зімой зайшлася да яго, дык ажно спалохалася: ён сядзеў за сталом і пры святле свечкі чытаў нейкую тоўстую старажытную кнігу. А перад ім стаяў абраз Спаса.

— А чаму ты думаеш, што кніга была старажытнаю?

— Вокладка яе была абцягнута чырвонай тканінай, ды і кніга сама вялікая паводле памераў, напісана быццам ад рукі, недрукаванымі літарамі. Сашка, убачыўшы мяне тады, спалохаўся, прыкрыў яе газетай, але мне што — чытай сабе на здароўе!

— Не знайшлі ў яго кнігі, — задумліва прагаварыў я.

— І сумкі афіцэрскай з картай раёна, дзе ён рабіў нейкія паметкі, не знайшлі, і нататніка, які ты яму падарыў і ў які ён запісваў расповеды ветэранаў і старажылаў, таксама не знайшлі. Хаця, каму цікавыя чужыя ўспаміны? Дзіўна ўсё гэта.

— А з кім ён Новы год адзначаў?

— Не ведаю, — маці паднялася з-за стала, зазірнула ў другі пакой, дзе на сцяне цікалі ходзікі, замітусілася. — Другога ці трэцяга студзеня ён прыходзіў да нас, пасядзеў з бацькам, пакурыў яго самасаду і пайшоў да сябе.

— Ён курыў самасад? — не паверыў я, успомніўшы моц бацькавага тытуню.

— Ён наогул амаль не курыў. Тады ён проста зайшоў пагаварыць з бацькам, спытаць парады, бо даведаўся, што Мішка Фядосаў шукае ў Асінаўцы зброю і потым прадае яе нейкім незнаёмцам.

— І што параіў бацька?

— Параіў не зважаць на гэта, бо тут амаль кожны з дарослых мае або пісталет, або вінтоўку, або «шмайсер», — маці зноў зірнула на гадзіннік. — Ну, добра, сынок, я пабягу на працу, а ты ўжо сам тут разбірайся.

## 7.

Маці пайшла, а я застаўся за сталом. За гэту ранішнюю гадзіну я атрымаў столькі інфармацыі пра свайго сябра, столькі даведаўся пра яго новага і дзіўнага, што нават не ведаў, як усё гэта ўспрыняць. У мяне нават прапала ранейшае жаданне тэлефанаваць маёру Багдановічу. У расповедзе маёй маці быў і матыў для забойства — карта раёна з нейкімі значкамі, старадаўнія кніга і абраз. Назвала яна і верагоднага злачынцу Мішку Фядосава, які мог забіць Сашку, каб той не данёс на яго ў міліцыю, а потым, шукаючы Сашкаў нататнік, прыхапіў з сабой і кнігу з абразам. Я не ведаў, што і думаць. Не, Мішка не мог забіць чалавека. Ён любіў павесяліцца, любіў выпіць, любіў жанчын, але ён не быў забойцам, а таму пра яго Багдановічу лепш не заікацца. А вось пра абраз і кнігу расказаць трэба, бо яны з'яўляюцца пацверджаннем таго, што на Дубровеншчыне і сапраўды была схавана частка музейных экспанатаў. І Сашка, пэўна, знайшоў іх схованку.

Я дапіў гарбату, прыбраў са стала і пайшоў на агарод, дзе мяне чакала праца. Я палоў бульбу, а сам думаў пра тое, з чаго дзён дзесяць таму смяяўся і ў што не верыў — пра сімвалічнасць свету. Два тыдні таму пра крыж Еўфрасінні Полацкай я толькі нешта чуў, і то адным вухам, а тут раптам на мяне абрынуўся і расповед цесця, і сустрэча з Багдановічам, і дзіўны сон, і загадкавая смерць сябра. Як тут не паверыць у сімвалічнасць? А мо гэта проста супадзенні? На гэты раз мой розум маўчаў.

Калі сонца паднялося вышэй і працаваць стала горача, я пайшоў дахаты. Памыўся, пераапрануўся і накіраваўся на пошту, каб патэлефанаваць у райаддзел міліцыі.

Аддзяленне пошты месцілася ў адной будыніне з праўленнем саўгаса, і ў гэты ранні час там знаходзілася ўсяго адна жанчына, што мяне абрадавала: не хацелася, каб уся вёска ведала, куды і каму я тэлефаную.

— Можна пазваніць у раён? — запытаўся я пасля прывітання.

— Калі ласка, — яшчэ маладая, гадоў дваццаці пяці, хударлявая дзяўчына паставіла на стойку апарат і ветліва мне ўсміхнулася. — Толькі доўга не гаварыце, бо загадчыца не вітае гэтага, сварыцца будзе потым.

Я згодна хітнуў галавой, набраў нумар міліцыі і папрасіў дзяжурнага, каб ён перадаў Сяргею Багдановічу, што яго хоча бачыць Віктар Забаронак.

— А хто такі Забаронак? — пацікавіўся дзяжурны.

— Багдановіч ведае, — адказаў я і павесіў слухаўку.

Паштальён узяла тэлефонны апарат, паставіла яго на свой стол і зноў сціпла мне ўсміхнулася:

— А вы — Віктар Забаронак? Сябра Сашы?

Я кіўнуў, адразу зразумеўшы, хто сядзіць перада мной.

— А вы Каця? — дзяўчына згодна кіўнула галавой і пачырванела. — Мне Саша расказваў пра вас. Расказваў мала, але толькі добрае, — каб падтрымаць гутарку, я вырашыў крышачку схлусіць.

Каця прамаўчала, і тады я працягнуў:

— Я магу задаць вам некалькі пытанняў?

— Пытайцеся, — адказала яна проста і падняла на мяне свае вялікія блакітныя вочы. Вочы былі мокрымі, а таму бліскучымі і прывабнымі.

— Скажыце, магчыма, Саша пакінуў вам на захаванне ці забыўся ў вас нейкія свае рэчы: нататнік, планшэт з картай ці яшчэ нешта такое?

— Не, у мяне акрамя яго тоненькага вучнёўскага сшытка з некалькімі запісамі нічога няма. Праўда, была кніга, нейкае Евангелле, але ён даўно прасіў мяне аддаць яе ў якую-небудзь царкву.

— І куды вы яе падзелі?

— Адразу пасля смерці Сашы я адвезла яе ў Оршу і аддала там нейкай незнаёмай жанчыне.

— А сшытак? Яго можна паглядзець?

— Апоўдні я буду разносіць пошту і прынясу яго вам.

На тым наша гутарка і закончылася, бо ў пакойчык зайшла высокая мажная жанчына. Яна спынілася ля мяне, бессаромна, бы жарабца, акінула з ног да галавы ліпучым, ацэньваючым позіркам, зацокала языком:

— А ты, Віцька, не мяняешся. У юнацтве на цябе заглядаліся ўсе дзяўчаты школы, а цяпер дык і наогул прыгажуном стаў, сапраўдным мужыком!

— Ды ладна табе, — я ліхаманкава ўспамінаў, як завуць жанчыну, што стаяла перада мной. — Нават у чырвань мяне ўвагнала.

— А памятаеш, як цябе з маім братам Валікам завуч злавіла за майстэрняй, дзе вы курылі? — жанчына засмяялася нізкім грудным смехам. — Як вас потым на лінейцы перад усёй школай прапясочвалі?

— І ты, Нінка, потым хвалілася сваім сяброўкам, што гэта ты высачыла нас і расказала пра ўсё завучу? — я ўрэшце ўспомніў імя суразмоўцы, і гэта мяне так узрадавала, што я амаль шчыра адзначыў яе прыгажосць і пекнасць. Потым запытаўся пра яе брата.

— Застаўся ў арміі. Зараз служыць недзе на Алтаі, ажаніўся, мае трох дзяцей.

Мы, напэўна, размаўлялі б яшчэ доўга, ды раптам зазваніў тэлефон, Ніна ўзяла слухаўку і пачала размову, а я, кіўнуўшы Каце, выйшаў на двор і, нікуды не спяшаючыся, пакрочыў да бацькоўскай хаты.

Як ні дзіўна, на вуліцы ў гэты час было амаль бязлюдна. Толькі дзе-нідзе корпаліся ў агародах старыя, каля хат валтузілася малеча, ды ад школы, якая месцілася ў былым панскім парку, даносіліся рэзкія гукі піянерскага горна і прыглушаныя дзіцячыя галасы.

Я нетаропка крочыў па вуліцы і адзначаў, што за тыя дванаццаць гадоў, як я пакінуў Станіслававa, у вёсцы знешне амаль нічога не змянілася. Тыя ж самыя хаты, тыя ж самыя парканы вакол іх, тыя ж сады. Нават калдобіны на дарозе былі тымі ж. Змяніліся толькі людзі. Мае аднакласнікі ўсе параз'язджаліся, і з дваццаці пяці чалавек класа ў вёсцы застаўся толькі адзін. Многіх вяскоўцаў я ледзь пазнаваў, настолькі яны састарэлі і асунуліся, многіх з цяжкасцю прыпамінаў пасля падказкі, многіх не ведаў наогул, і мне не было за гэта сорамна, бо і мяне шмат хто не пазнаваў або не памятаў.

І хаця я тут нікому не быў патрэбны і пра мяне тут даўно забыліся, я адчуваў гэты куточак сваёй радзімай. Чаму так — я не ведаю, але менавіта яму я жадаў у першую чаргу росквіту і дабрабыту; хацеў, каб менавіта гэтыя людзі раслі здаровымі і шчаслівымі, каб яны любілі і шанавалі сваю радзіму і каб радзіма не забывалася на іх.

Я не дайшоў да хаты нейкі дзясятак метраў, як пачуў ззаду шум рухавіка. Я спыніўся, азірнуўся: мяне даганяў міліцэйскі газік — і зразумеў, што гэта прыехаў Сяргей Багдановіч. Машына спынілася ля мяне і з яе чэрава вылез маёр КДБ. Ён сказаў некалькі слоў шафёру, павітаўся са мной за руку і паўжартам пацікавіўся:

— Гуляеш?

— Іду з пошты, — я адчыніў веснічкі і прапусціў маёра наперад. — Пойдзем у хату?

— А давай тут, — Багдановіч хітнуў галавой на лаву: — Пасядзім вунь у засені бярозы, пагутарым, калі ёсць пра што.

— Пагаварыць ёсць пра што, вось толькі не ведаю, наколькі гэта будзе для цябе карысным.

— А ты расказвай, — маёр першым уладкаваўся на лаве, адкінуўся спінай на сцяну хаты, заплюшчыў вочы: «Хораша!»

Я сеў побач з ім і, не спяшаючыся, падрабязна, абдумваючы словы, пачаў расказваць. Багдановіч слухаў уважліва, і толькі, калі я паведаміў пра Евангелле, рэзка расплюшчыў вочы, адштурхнуўся ад сцяны і ўтаропіўся ў мяне:

— Дзе цяпер той абраз і Евангелле?

— Дзе абраз — я не ведаю, а Евангелле Каця аддала нейкай незнаёмай жанчыне ў Оршы, бо спалохалася, што і яе могуць забіць за гэту кнігу.

— Э-ах, балваны, — злосна вылаяўся маёр. — Я ж ім казаў, каб падрабязна апыталі ўсіх родных і знаёмых Дылевіча! А яны яго дзяўчыну прапусцілі! Дурні!

— Гэта таму, што Кацю ніхто сур'ёзна не ўспрымаў як дзяўчыну Сашкі. Так — знаёмая яго, сяброўка.

— Дзе яе цяпер можна знайсці?

— Яна хутка павінна прыйсці да мяне. Прынясе нейкі сшытак, што Саша некалі забыўся ў яе і дзе, з яе слоў, ёсць нейкія запісы.

— Што ж, пачакаем, — Багдановіч зноў адкінуўся да сцяны і заплюшчыў вочы.

Я разумеў, што ён не адпачывае, а абдумвае план далейшых пошукаў, і што звестка пра Евангелле яго сур'ёзна азадачыла. Я прапанаваў яму пайсці ў хату і папіць гарбаты, аднак ён не адказаў і, пэўна, нават не пачуў маёй прапановы. Маўчаў і я.

Урэшце маёр расплюшчыў вочы.

— Ты кажаш, Евангелле было абшыта чырвоным аксамітам?

— Так мне сказала Каця.

— Баюся памыліцца, але мне яно нагадвае Слуцкае Евангелле, якое да вайны захоўвалася ў пакоі-сейфе Магілёўскага абкама партыі разам з крыжам Еўфрасінні Полацкай. І вывозілася яно разам з крыжам у адной калоне, — маёр у адчаі раптам матлянуў галавой, злосна рыпнуў зубамі: — Калі ён быў тут і я яго ўпусціў, сам сябе пракляну, не дарую гэтага, звольнюся к чорту з органаў і пайду пасвіць кароў у якім-небудзь калгасе.

— Крыж ніяк не мог апынуцца тут, бо яго вёз асабіста Панамарэнка і, калі верыць словам яго шафёра, той давёз яго да Масквы і ў якасці падарунка ад беларускага народа перадаў Сталіну.

— Ды ведаю я ўсё гэта! — Багдановіч падхапіўся з лавы, зрабіў некалькі крокаў туды-сюды, спыніўся перада мной. — Я сам быў у той калоне, з Магілёва да Масквы суправаджаў каштоўнасці. Ад Смаленска я ехаў у адной машыне з Пятром Паддубскім, дык той расказваў, што Панамарэнка і сапраўды вёз у сваім бауле нейкі крыж, аднак які крыж — ён не ведае. — Сяргей замоўк, задумаўся. Маўчаў і я. Потым ён зноў загаварыў:

— Яшчэ я ведаю, што недзе ў сорак дзявятым годзе ў Парыжы выйшла кніга Льва Гарошкі, на старонках якой ён сцвярджае, што Сталін насамрэч атрымаў крыж Еўфрасінні, аднак, раз'юшаны за паражэнні на франтах, загадаў знішчыць беларускую духоўную святыню, разабраць на часткі і па частках прадаць у Швецыю.

— Чаму ў Швецыю?

— А-а, не веру я ў гэта, — маёр крыху супакоіўся, зноў сеў на лаву. — Сталін злаваўся на беларусаў за тое, што яны не хочуць бараніць савецкую ўладу, аднак ён быў не настолькі шалёным, каб загадаць знішчыць крыж Еўфрасінні. Некалі, яшчэ ў шаснаццатым стагоддзі, праклёну, які быў напісаны на крыжы, спалохаўся сам Іван Грозны, а Сталін быў не дурнейшым за цара!

Я сядзеў на лаве побач з маёрам КДБ, заклапочаным пошукамі нейкага крыжа, і ніяк не мог уцяміць: прычым тут я, няверуючы настаўнік? Ну, згубіўся крыж, дык за вайну вунь колькі дабра згубілася, колькі знішчана касцёлаў і цэркваў! А людзей? Дзясяткі мільёнаў савецкіх людзей загінула, мільёны памерлі ад ран пасля вайны, а ён шукае звычайны крыж. Хаця не, незвычайны! Мне ўспомніўся начны сон, і я ўсур'ёз занепакоіўся: чаму і сапраўды падзеі разгортваюцца вакол мяне? Ды і ці варта верыць маёру-кадэбэшніку?

— Паслухай, Сяргей, а табе якая карысць ад пошукаў гэтага крыжа? Ты ж, пэўна, камуніст? Атэіст?

— Я ў першую чаргу — беларус, — сумна, нават з горыччу ў голасе адказаў Багдановіч. — А крыж — гэта наша духоўная святыня, і без яе наша краіна ніколі не падымецца з каленяў, не стане сапраўды шчаслівай, а людзі — заможнымі. Так і будзем мы жыць у беднасці і галечы, выпрошваць аб'едкі з чужога стала.

— Ты ў гэта верыш?

— Я ў гэтым упэўнены!

Я па-добраму пазайздросціў імпэту суразмоўцы, аднак прамаўчаў, а ён працягваў:

— Разумееш, наш урад неаднаразова звяртаўся да ўрада Масквы, каб яны вярнулі Беларусі нашу святыню, але тыя адказваюць, што крыжа ў іх няма і ніколі не было.

— Як не было? — я нават па-дурному рагатнуў ад такога паведамлення. — Ёсць жа сведчанні людзей, што Панамарэнка давёз крыж да Масквы і перадаў асабіста ў рукі Сталіну.

— Тут, Віця, не ўсё так адназначна. Панамарэнка не ведае, што з крыжам Еўфрасінні сталася ў Маскве, баіцца за сваё крэсла, а таму і маўчыць або спасылаецца на кепскую памяць. Былы дырэктар Магілёўскага музея Іван Мігулін раней таксама сцвярджаў, што крыж даехаў да Масквы, цяпер жа блытаецца ў паказаннях. Мой непасрэдны начальнік палкоўнік Дзямідаў толькі заікнуўся пра пошукі крыжа, як яго перавялі служыць у іншы горад. Гэта спараджае дурныя прадчуванні, але, Віця, нам не трэба здавацца, трэба шукаць, бо без крыжа святой Еўфрасінні — мы ніхто і нішто, нас хутка ператвораць у «Иванов, родства не помнящих».

— А, можа, яго і сапраўды няма ў Расіі?

— Дзе ж ён тады? У Морганаў ці Ракфелераў, у чым імкнуцца нас запэўніць расійскія гісторыкі? Дык вось, для таго, каб паказаць, што крыж у Маскве, мы павінны даказаць, што яго няма ні ў Беларусі, ні ў Швецыі, ні ў Амерыцы, ні ў Аўстраліі. Ты мяне разумееш?

— Разумею, — не вельмі шчыра прызнаўся я, аднак падмацоўваць свой адказ мне не давялося, бо мы пачулі, як рыпнулі веснічкі і нехта накіраваўся да дзвярэй хаты.

Я падняўся з лавы, і ў гэты момант з-за рогу паказалася паштальёнка Каця.

— Вось вы дзе! — на яе вуснах з'явілася збянтэжаная ўсмешка. — А я ўжо падумала, што

вас няма дома, — дзяўчына працягнула мне звычайны вучнёўскі сшытак і, звяртаючыся да Сяргея, запыталася: — Я магу ісці?

Той згодна хітнуў галавой і, калі за Кацяй зноў рыпнулі веснічкі, працягнуў руку да сшытка.

— Цікава, што за сакрэты збіраў твой сябар.

Ён узяў сшытак, прагартаў яго, потым звярнуўся да мяне:

— Сядай, пачытаем.

Мы зноў селі на лаву. Багдановіч разгарнуў сшытак на першай старонцы і пачаў чытаць:

— Станіслаў Пятровіч Шмуглеўскі, былы падпольшчык, партызан: «У лютым 1942 года немцы праслалі ў Асінторф сваіх агентаў для арганізацыі з савецкіх ваеннапалонных так званай «рускай народнай нацыянальнай арміі». На сёмы пасёлак прыбылі Санін, Румянцаў, Сахараў і браты Івановы. За вясну яны арганізавалі тры гарнізоны з назвамі «Масква», «Урал» і «Байкал», якія налічвалі каля сямі соцень чалавек…»

Аляксандр Сяргеевіч Казіцкі, былы баец партызанскага атрада «Грозны»: «Народнікі» ўдзельнічалі ў карных аперацыях супраць партызан. Сярод іх былі розныя людзі, некаторыя са зброяй пераходзілі на наш бок, але мы іх да сябе не бралі, перадавалі ў іншыя атрады, бо наш камандзір Азміцель лічыў, што нам не патрэбны байцы-здраднікі, нам патрэбны байцы-разведчыкі з мясцовых жыхароў, такія, як Галя Меяровіч з-пад Асінторфа ці Гладыш Лёнька са Станіслававa. Чаму так думаў Азміцель, не ведаю, але наш атрад амаль не губляў людзей, і таму мы яго паважалі і слухаліся. Чым мы займаліся? Падрывалі чыгунку, масты, абстрэльвалі калоны немцаў. Аднак больш нешта шукалі. Я чуў, што недзе ў канцы сорак трэцяга Азміцель знайшоў усё ж тое, што шукаў, казалі — архівы магілёўскага абкама партыі, аднак да таго часу я ўжо равёўся ў атрад «дзядзі Косці» і дакладна нічога не ведаю.»

Леанід Міхайлавіч Гладыш, былы разведчык атрада «Грозны»: «У армію мяне не ўзялі, таму што яшчэ ў дзяцінстве я перахварэў на сухоты. У пачатку вайны прасіўся добраахвотнікам у 18-ую дывізію, але мне зноў адмовілі. Таму я спачатку збіраў зброю, медыкаменты ў адзіночку, а потым увайшоў у склад падпольнай арганізацыі Максіменкі. Мы дапамагалі акружэнцам і ваеннапалонным, пастаўлялі партызанам зброю, медыкаменты, звесткі, распаўсюджвалі лістоўкі. З вясны сорак другога года я стаў разведчыкам спецыяльнага партызанскага атрада «Грозны», якім камандаваў лейтэнант Федзя Азміцель. Па яго загадзе я ўладкаваўся нарыхтоўшчыкам, ездзіў па вёсках, збіраў і перадаваў звесткі. У складзе дыверсійнай групы Максюціна ўзарваў два масты, пусціў пад адхон нямецкі эшалон з жывой сілай і тэхнікай. Маю дзяржаўныя ўзнагароды.»

Сямён Мікалаевіч Марчанка, былы баец атрада «Грозны»: «Мая жонка Галя родам з вёскі Новая Зямля, у якой у ліпені 1942 года спыніўся батальён «рускай нацыянальнай арміі» «Масква». Праз Галю Фёдар Азміцель перадаў камандзіру гэтага батальёна Грыгор’еву запіску з прапановай перайсці на бок партызан, аднак Грыгор’еў адмовіўся, бо лічыў, што ў нашым атрадзе ёсць нямецкі шпіён, а таму запіска — правакацыя. Адмова Грыгор’ева вельмі напалохала не толькі нашага камандзіра, але і камандзіраў іншых атрадаў: Нікандра Талерку і Міхаіла Сакалова.»

Прачытаўшы апошнія словы, Багдановіч загарнуў сшытак і перадаў яго мне:

— Нягуста інфармацыі сабраў твой сябра.

— Яго нататнік і карта прапалі.

— Што ж, будзем шукаць яго забойцаў, а там, дасць Бог, і нататнік з картаю знойдуцца, — маёр падняўся з лавы і працягнуў на развітанне руку. — Бывай здаровы.

Маёр пайшоў, а я зноў перагарнуў старонкі сшытка, уважліва іх разгледзеў на святло: не, патаемных запісаў там не было. Значыць, Сашка і сапраўды збіраў успаміны былых партызан для будучага школьнага музея, значыць, прычыну яго смерці трэба шукаць у іншым месцы. З усіх згаданых у сшытку партызан я ведаў толькі Гладыша, ды і то цьмяна. Я памятаў, як у час вайны ён ездзіў па вёсцы на новых калёсах, у якія быў запрэжаны невялікі лахматы конік; як мы, дзятва, неслі яму курыныя яйкі ці сала і за іх ён даваў нам паветраныя шарыкі або яшчэ нейкую драбязу; як потым нас за такі абмен каралі бацькі, а мы, бітыя, але шчаслівыя, з годнасцю пераносілі пакуты. Як гэта было даўно! І хто б мог тады падумаць, што Гладыш не нейкі спекулянт, а партызанскі разведчык? Я запытаўся пра гэта вечарам у бацькі.

— Слізкі ён чалавек, твой Гладыш, — задумліва выпускаючы воблака едкага дыму, адказаў бацька. — Перад самай вайной прыбіўся ў Станіслававa, потым ездзіў па вёсках, збіраў для немцаў сала, масла, яйкі. Пасля вайны з год працаваў у нашай краме прадаўцом. Дзе цяпер — не ведаю. Кажуць людзі, што ў раёне працуе ці то кладаўшчыком, ці то загадчыкам склада.

## 8.

Наступным днём я зноў вырашыў схадзіць на пошту, каб патэлефанаваць жонцы — пачуць голас чалавека, па якім ужо паспеў змаркоціцца.

Дзень выдаўся пахмурны, але хмары, што закрывалі сонца, былі высокімі, белымі ды пухнатымі і зусім не абяцалі дажджу. А яго чакалі ўсе: зямля — каб спатоліць смагу, людзі — каб атрымаць хоць нейкую перадышку ў знясільваючай працы.

Як ні дзіўна, дзверы ў памяшканне пошты былі зачынены. Я таргануў за ручку раз-другі, крыху пачакаў, пагрукаўся, аднак ніхто не адгукнуўся. Я выйшаў на двор, паглядзеў на шыльду: пошта павінна працаваць ад дзевяці нуль-нуль. «Можа, чалавек на хвіліну некуды выйшаў» , — супакоіў я сябе і, бы ў пацверджанне маёй думкі, у калідоры шчоўкнуў дзвярны замок. Я павярнуў назад.

У памяшканні была адна Ніна. Расчырванелая, распараная, яна перакладвала з месца на месца нейкія папкі і была так захоплена гэтым заняткам, што, механічна адказаўшы на маё прывітанне, нават не падняла галавы, не ўсміхнулася.

Я нейкі час назіраў за ёй, потым не вытрымаў, пацікавіўся:

— Ніна, я магу адсюль патэлефанаваць у Магілёў?

— Можаш, — Ніна падхапіла са стала апошнюю папку, патрэсла яе і ўздыхнула: — Вось упіхнула некуды квартальную справаздачу і не магу цяпер знайсці яе, цэлы ранак корпаюся, бы курыца, — яна паглядзела на мяне, і ў яе вачах з'явілася асэнсаванасць: — Дык пра што ты пытаўся?

— Хачу патэлефанаваць жонцы ў Магілёў.

— Не сягоння, любы.

— А чаму?

— Сягоння ў Дуброўне новы тэлефонны блок манціруюць, дык міжгародняй сувязі да вечара не будзе, — яна мне квола ўсміхнулася і прапанавала: — А ты ліст ёй напішы, за два дні дойдзе.

— Не люблю пісаць лісты.

— Навошта ж тады ўчора прасіў Кацю, каб яна прынесла табе сшытак?

— Дык то Сашкаў сшытак, — адказаў я і пачуў, як у кладоўцы нешта зашамацела. — Ён некалі забыўся яго ў Каці, і яна мне яго аддала.

— Сашкаў? — Ніна не звярнула ўвагі на валтузню. — І пра што ён там пісаў?

— Запісваў успаміны былых падпольшчыкаў і былых партызан атрада «Грозны».

— А пра партызан з нашай вёскі там што-небудзь ёсць?

— Ёсць і з нашай. Пра Гладыша згадваецца некалькі разоў, пра яго ўдзел у падполлі, — мне не хацелася весці з жанчынай пустую гутарку на тэму, у якой я не разбіраўся, таму я запытаўся пра іншае: — Ты мне лепш скажы: заўтра сувязь з Магілёвам будзе?

Ніна завагалася, аднак гэта працягвалася ўсяго некалькі секунд. Хутка яна прыняла нейкае рашэнне і прапанавала:

— А ты падыдзі сюды праз гадзінку, я паспрабую дамовіцца, каб цябе прапусцілі па рэзервовай лініі.

Я згодна хітнуў галавой, падзякаваў за клопат і выйшаў на двор.

Праз гадзіну я зноў быў на пошце. Ніна сядзела за сталом, вадзіла пальцам па нейкай табліцы і, быццам бухгалтар, час ад часу шчоўкала на лічыльніках. Убачыўшы мяне, яна прыязна ўсміхнулася, пазначыла алоўкам у табліцы нейкую лічбу і зняла слухаўку тэлефона.

— Называй нумар, — голас яе гучаў бадзёра, нават весела.

Я прадыктаваў нумар, яна перадала яго нейкай Клаве, і праз некалькі хвілін я пачуў у слухаўцы любы голас жонкі.

Размаўлялі мы нядоўга: усё ж такі я тэлефанаваў на службовы апарат — таму праз некалькі хвілін я перадаў тэлефон Ніне, развітаўся і сабраўся сыходзіць. Аднак Ніне, пэўна, было сумна адной у душным памяшканні, і яна не збіралася адпускаць мяне проста так, не задаўшы хоць некалькі пытанняў.

— А вось скажы, Віця, чаму ў цябе з Таняй няма дзяцей? Ёй жа ўжо недзе пад трыццаць будзе?

— Дваццаць пяць, — удакладніў я. Пачатак размовы мне не падабаўся. — А ў цябе самой колькі дзяцей?

— А я вольная жанчына, — пырснула смехам Ніна, — яшчэ шукаю свайго выбранніка. Закінула, так сказаць, невад, і чакаю, калі ў яго патрапіцца сапраўдны лінь або шчупак.

— І як поспехі?

— А-а, пакуль дробязь пад нагамі блытаецца, — яна адмахнулася ад майго пытання далонню, і ў гэтым яе жэсце, у інтанацыі адказу няўлоўна адчувалася, што ў яе невад патрапіла буйная рыбіна, што Ніна яе ўжо не адпусціць, а зараз баіцца сурочыць свае спадзяванні і спалохаць гэтага ліня ці шчупака нават у сваіх думках.

Такая размова магла б доўжыцца да бясконцасці, але перад будынінай спыніўся запылены ГАЗ-51 з сінім надпісам «Пошта», і твар Ніны адразу спахмурнеў, стаў суровым, непрабівальным.

— Рана нешта пошту прывезлі, — яна, бы сумняваючыся ў нечым, глядзела ў акно. Потым паднялася з-за стала, і я з радасцю зразумеў, што наша гутарка на сёння закончылася.

Я развітаўся, яшчэ раз падзякаваў Ніне за клопат і пакрочыў дахаты.

А дома мяне чакала некалькі сюрпрызаў. Першы я заўважыў, калі пачаў адчыняць веснічкі — яны былі зачынены не так, як гэта звычайна рабіў я. Другі — навясны замок быў разамкнёны і ляжаў на лаве побач з дзвярыма. «Пэўна, бацька нешта дома забыўся», — падумаў я, але што ён мог забыцца дома, я дадумаць не паспеў: магутны ўдар абрынуўся на маю галаву і яе на кавалкі разарвала асляпляльная бліскавіца. Я страціў прытомнасць. Гэта быў трэці сюрпрыз.

## 9.

Прытомнасць да мяне вярталася павольна, часткамі. Гэтак жа павольна і часткамі да мяне вяртаўся боль. З неймавернымі намаганнямі я расплюшчыў вочы, дакладней адно вока — левае, бо правае заплыло і праз яго я нічога не бачыў. З цяжкасцю падняўся на калені,

агледзеўся. Я знаходзіўся на каменнай падлозе невялікага памяшкання, сцены якога былі выкладзены дзікім каменнем, мокрым і шэрым ад сырасці і цвілі. Ледзь бачны струменьчык святла прабіваўся праз невялікую адтуліну пад столлю і сведчыў, што цяпер на дварэ дзень. Гэтак, стоячы на каленях і ўтаймоўваючы ўнутранае жаданне закрычаць ад болю і адчаю, я прастаяў некалькі бясконцых хвілін. Каменны мяшок паглынаў усе гукі, аднак я ўсё ж пачуў музыку полацкіх званоў і зусім не абрадаваўся гэтаму. Я жывы, мая змучаная плоць яшчэ здольная адчуваць пакуты, а гэта азначае адно — хутка да мяне заявяцца госці. Я паспрабаваў падняцца на ногі, аднак дзікі боль у ступнях прымусіў мяне адмовіцца ад задумы. Ды і ці было на маім целе хоць дно месца, якое спрактыкаваныя каты не пераўтварылі ў боль? Я нават не ведаў, колькі і на якіх прыстасаваннях мяне катавалі, толькі памятаў, як злавесны голас пытаўся: «Дзе крыж, Іеранім?» — і як ласкавы шаптаў: «Цярпі, сын мой!» Я гатовы быў прызнацца ў любым злачынстве, у любым граху, аднак сказаць, дзе я хаваю крыж святой Еўфрасінні, не мог.

Я даўно згубіў лік дням і, кожны раз вось так ачуньваючы, здзіўляўся, што яшчэ жывы. Я не дзякаваў за гэта Богу — наадварот, вусны мае малілі пазбавіць мяне далейшых пакут жыцця і дазволіць пакінуць гэты няўтульны свет. А Ён сумна глядзеў на мяне са сцяны сваімі вялікімі вачыма і з болем у голасе шаптаў: «Цярпі!»

Яны з’явіліся як заўжды нечакана, ціха і бясшумна, бы павукі — два каты і два манахі-езуіты з паходнямі ў руках. Я паспрабаваў падняцца на ногі яшчэ раз, але зноў не здолеў гэтага зрабіць і тады проста сеў на падлогу.

Манахі з крывымі ўсмешкамі на тварах нейкі час назіралі за маімі намаганнямі, потым адзін з іх пажартаваў:

— А тут не горш, чым на панадворку. Ва ўсялякім разе, сонца не напячэ галаву і дождж за каўнер не наліецца.

Другі рагатнуў, але падтрымаць жарт таварыша не паспеў: у калідоры пачуліся цяжкія крокі, і праз некалькі імгненняў дзвярны праём заняла чалавечая постаць — тоўстая, у новай, злавесна чорнай сутане з вялікім капюшонам.

— Чаму ён сядзіць на падлозе? — голасам суперыёра прагаварыла постаць. Суперыёр быў злосны, таму што ў такі ранні час давялося цягнуцца ў гэтую каменную бярлогу, дзе пануюць пахі дзёгцю, крыві і смерці. Выгляд у яго быў грубы, а твар пад мяшком-капюшонам падаваўся неахайна высечаным з кавалка пясчаніку. — Падыміце яго і пасадзіце на ляжак.

Калі манахі выканалі загад, суперыёр махнуў ім рукой:

— Пакіньце паходні, а самі выбірайцеся адсюль. Чакайце мяне на дварэ.

Езуіты без слоў схіліліся ў паклоне і моўчкі пакінулі маленькае памяшканне.

— Як цябе пакамечылі! — суперыёр крыху наблізіўся да мяне, з непрыхаванай цікаўнасцю агледзеў мой твар, мае скалечаныя рукі і ногі. — І як ты гэта ўсё вытрымаў, не зламаўся?

— З Божай дапамогай, — я паспрабаваў сказаць праўду.

— Жартуеш? — глыбока пасаджаныя вочкі глядзелі на мяне з-пад капюшона з такой нянавісцю, што я адчуў сябе бездапаможным птушанём перад бязлітаснай лісой. — Значыць, не скажаш, дзе хаваеш крыж, перададзены табе на захаванне Пятром Скаргам? Значыцца, ты адмаўляешся выканаць загад нашага генерала Муція Вітэлескі?

— Некалі, яшчэ ў мінулым жыцці, перадаючы мне копію крыжа Еўфрасінні Полацкай, Скарга папярэджваў мяне, што я павінен аддаць крыж толькі тады, калі сам палічу гэта мэтазгодным, калі буду ўпэўнены, што ён будзе служыць богаўгоднай справе…

— Ты павінен скарыцца.

— Я нічога і нікому не павінен, — невядомае раздражненне закіпела ў маім сэрцы. — Я лепш памру, а сваю клятву, дадзеную былому рэктару, выканаю.

Суперыёр зноў прайшоўся ўзад-уперад, некалькі разоў глыбока ўздыхнуў, зноў спыніўся перада мной.

— Тут замешаная палітыка, Іеранім. Пакуль крыж Еўфрасінні Полацкай служыць ліцвінам, пакуль яны жывуць пад яго жыватворным ззяннем і трымаюцца сваёй веры і сваіх звычаяў — яны непераможныя. Мы ж хочам разарваць жыватворную сувязь паміж ліцвінамі і крыжам, знішчыць іх духоўнасць і павярнуць іх да сапраўднай, да лацінскай веры, так, як нас вучыць наш дэвіз: «Для большай славы Божай!»

— Мне гэтага ніхто не тлумачыў, — раптам шалёная думка прыйшла мне ў галаву, і я ледзь не засмяяўся з яе практычнай чысціні і прастаты. — Вы хочаце падмяніць сапраўдны крыж на копію, а потым арыгінал знішчыць?

— А ты здагадлівы! Толькі мы збіраемся падмяніць крыжы, бо знішчаць крыж Еўфрасінні — гэта блюзнерства, на такі грэх не пойдзе ніводны просты смяротны.

— У такім выпадку давайце я і памяняю крыжы, — спакойна, быццам і не было ніякіх катаванняў, прапанаваў я сваю кандыдатуру. — Крыху падлячуся і выканаю загад нашага генерала.

— Ты? — суперыёр нават прысеў ад здзіўлення. Нейкі час ён маўчаў, узмоцнена думаў пра нешта, разважаў. Потым выдыхнуў: — Добра, мы абмяркуем тваю прапанову, — павярнуўся і, не зачыняючы дзвярэй, выйшаў з памяшкання…

Свята Узвіжання адзначаецца праваслаўнымі вернікамі 27 верасня, бо лічыцца, што менавіта ў гэты дзень святая Алена, маці імператара Канстанціна Вялікага, знайшла на Галгофе Крыж Ісуса Хрыста. Гэта не такое свята, як Вялікдзень ці Раство, аднак адзначаецца яно заўсёды велічна і ўрачыста. Я не ведаю, чаму гэты дзень кіраўнікі полацкай рэзідэнцыі езуітаў выбралі для здзяйснення задуманага, аднак менавіта на Узвіжанне мне было загадана правесці падмену крыжоў.

У гэты дзень у суправаджэнні двух братоў па ордэне, пераапранутых, як і я, у звычайных рамеснікаў, я з'явіўся на службу ў Сафійскі сабор і пачаў прабівацца праз шчыльны натоўп вернікаў бліжэй да алтара. Прабіўшыся да сярэдзіны сабора, мы там і спыніліся, пачалі чытаць малітвы. Я маліўся шчыра, прасіў у Госпада літасці за свае ранейшыя грахі і за грахі будучыя. Хаця і ведаў: будучых грахоў у мяне не будзе, і сёння, у гэты дзень, я буду забіты кімсьці з езуітаў, якія цяпер стаяць побач са мной. Што ж, я разумеў, прымаючы крыж ад Скаргі, што аплачу ўласным жыццём яго захаванне, і быў гатовы да гэтага. Аднак я быў ліцвінам і я не павінен быў дапусціць, каб езуіты знішчылі ці спаганілі душу майго народа, я ні ў якім разе не павінен быў садзейнічаць іх задуме выкрасці крыж Еўфрасінні. І тады я паступіў подла, як езуіт, і шчыра, як ліцвін: я патаемна ад сваіх братоў па ордэне сустрэўся са знаёмым мне ўніяцкім святаром айцом Кірылам і расказаў яму праўду пра задуму езуітаў. Ён абяцаў арганізаваць мне сустрэчу з архіепіскапам, але я ад яе адмовіўся — мне дастаткова было таго, што ўніяты мяне пачулі, што яны зловяць мяне і маіх ахоўнікаў, што і крыж не пакіне межаў Літвы, і яго копія застанецца ў Полацку.

Я чакаў. Калі рэліквію вынеслі на сярэдзіну храма, я падмяніў яе, непрыкметна паклаўшы на аналой копію, і ў суправаджэнні братоў-езуітаў пасунуўся да выхада.

— Аддай крыж мне, — спрабаваў па дарозе вырваць з-пад майго крыса святыню адзін з братоў.

— Я аддам яго толькі суперыёру, — бараніўся я і з надзеяй убачыць айца Кірыла азіраўся па баках.

Айцец Кірыл з некалькімі манахамі чакаў нас на выхадзе, аднак адзін з езуітаў, убачыўшы здраду, у апошняй надзеі завалодаць крыжам пырнуў мяне кінжалам у бок. Я не адчуў болю. Я толькі адчуў, як падкасіліся мае ногі, як закруціліся перад вачыма людзі, як я раптам стаў лёгкім, бы пушынка, і, падхоплены мяккім і цёплым ветрам, узляцеў высока ўгору і ўжо адтуль назіраў за тым, як манахі-ўніяты скруцілі езуітаў, як айцец Кірыл трос маё цела і нешта крычаў, як потым ён дастаў з-пад майго кафтана крыж Еўфрасінні і, нават не выцершы з яго маёй крыві, нёс назад у храм, дзе аддаў архіепіскапу. Потым мяне падхапіў парыў свежага ветру, і я паляцеў да зоркі, якая асляпляльна ззяла ў небе, спадзеючыся, што ўрэшце знайду там свой доўгачаканы спакой.

## 10.

Ачуняў я раптоўна і, бы вынырнуўшы з глыбіні на паверхню вады, пачаў прагна, на поўныя грудзі глытаць паветра. З кожным удыхам да мяне вярталася свядомасць і памяць, а разам з імі і пытанні, галоўнае з якіх — што гэта было? — расколвала маю галаву не горш за ўдар невядомага зламысніка.

Я перавярнуўся на жывот, прыўзняўся на калені, падняўся на ногі і сеў на лаву. Боль паступова праходзіў, але ў галаве яшчэ шумела. «Чым гэта ён мяне?» — я агледзеў прыступкі і заўважыў на зямлі шкло ад разбітай пасудзіны, у якім праз імгненне прызнаў падарунак цесця майму бацьку — літровую бутлю. «Сволач!» — вылаяўся я, бо менавіта ў гэтай бутлі бацька меркаваў перадаць свату падарунак ад сябе — літр сваёй самагонкі.

Калі боль збольшага сцішыўся і ў галаве прасвятлілася, я паспрабаваў разабрацца з тым, што тут адбылося і што мне трэба цяпер рабіць. За што мяне ўдарылі? За тое, што несвоечасова вярнуўся дахаты. На рабаўніцтва не падобна, на першы погляд, з хаты нічога не скрадзена, нічога не перавернута і не пашкоджана. Тады што тут рабіў злачынец? Нешта шукаў. Што? Я яшчэ раз прайшоўся па хаце, уважліва агледзеў свае рэчы, пералічыў грошы ў кашальку — усё было на сваіх месцах, нічога злодзей не крануў, і, калі б ён не ўдарыў мяне, то я нават і не падумаў бы, што тут быў нехта чужы. Аднак хтосьці быў, і яму нешта тут было патрэбна, і патрэбна вельмі, бо не кожны злодзей рызыкне днём уварвацца ў чужую хату. Хаця ў дадзеным выпадку рызыка была мінімальнай, і, калі б я затрымаўся лішнюю хвіліну на пошце, ён бы гэтак жа непрыкметна адсюль і сышоў. Значыць, ён сачыў за мной, ведаў, чым я займаюся! Мне стала ніякавата, і я вырашыў патэлефанаваць Багдановічу.

Багдановіч з'явіўся хутка, і першым яго пытаннем быў не клопат пра маё самаадчуванне, а пытанне пра тое, дзе цяпер знаходзіцца сшытак Дылевіча. Сашкаў сшытак? А я зусім пра яго забыўся, я нават дакладна не памятаў, куды яго ўчора паклаў. Я агледзеў стол, этажэрку, падаконнікі — і тады здагадаўся, што шукаў злодзей у маёй хаце і што ён адсюль вынес. У адчаі я развёў рукамі:

— Сшытак прапаў!

— Прапаў, — абыякавым голасам паўтарыў за мной маёр і выцягнуў з кішэні галіфэ пачак «Казбека».

Мы выйшлі на панадворак, селі на лаву і моўчкі закурылі.

— Што ж там было такое, дзеля чаго нехта рызыкаваў сваёй свабодай і што мы не заўважылі? — Багдановіч не чакаў ад мяне адказу, ён пытаўся сам у сябе і сам спрабаваў адшукаць адказ на сваё ж пытанне.

— Там былі ўспаміны чатырох чалавек, былых партызан атрада «Грозны», — я спрабаваў успомніць змест прачытанага. — Двое з іх — са Станіслававова, адзін — з Дуброўны, а адкуль чацвёрты — не памятаю.

— Хто са Станіслававова?

— Леанід Гладыш і Сямён Марчанка. Праўда, Гладыш цяпер жыве і працуе ў Дуброўне, а Марчанка мясцовы, працуе тут брыгадзірам.

— Марчанка, Марчанка! — Сяргей узмоцнена цёр свой падбародак і думаў. — Не, такое прозвішча чую ўпершыню. Хаця алібі яго трэба праверыць, бо ён мог бачыць цябе на пошце і непрыкметна забрацца ў тваю хату. Трэба з ім пагутарыць больш падрабязна, — Сяргей зрабіў паметку ў блакноце і толькі потым пацікавіўся: — Галава не баліць?

— Баліць, — шчыра прызнаўся я. — Ён жа мог мяне забіць праз нейкі сшытак!

— Значыцца, там было нешта важнае для яго — настолькі важнае, што ён без прамаруджвання пайшоў на новае злачынства. Вось толькі адкуль ён даведаўся пра сшытак? Паспрабуй успомніць, з кім ты пра яго ўчора размаўляў?

— Толькі з Кацяй і з табой.

— А сёння?

— Ні з кім. Хаця пачакай… Раніцай Нінка, загадчыца поштай, цікавілася зместам сшытка. Значыць, ёй пра яго расказала Каця.

— Але ж у час нападзення на цябе Нінка была на працы, — кволая ўсмешка з'явілася на задумлівым твары Багдановіча. — Я адчуваю, што праўда недзе побач, што мне не хапае нейкай дробязі, каб канчаткова разабрацца ў справе са смерцю твайго сябра. Можна было



Ілюстрацыя Вікенція Пузанкевіча.

б паспрабаваць праз тваю знаёмую з пошты пусціць плётку, быццам у цябе ёсць яшчэ нейкія запісы Дылевіча, і зрабіць тут засаду. Толькі баюся, што з гэтага нічога, акрамя школы, не атрымаецца.

— Тыдні два таму я атрымаў ад Сашкі незвычайнае пасланне, — мімаволі мне ўспомніўся апошні яго ліст. — Там зусім не было тэксту, толькі намаляваныя тры сімвалы і дзве лічбы.

— Дзе той ліст? — вочы маёра палыхнулі надзеяй. Ён падхапіўся з лавы і ледзь не ўчапіўся за маю руку. — Я спадзяюся, ты яго не выкінуў?

— У мяне яго няма, аднак я добра памятаю той малюнак і магу дакладна яго ўзнавіць.

— Малюй, — Сяргей працягнуў мне свой блакнот і пад запісам «Дапытаць брыгадзіра Сямёна Марчанку» я па памяці намаляваў звілістую лінію, двайны ўказальнік напрамку і суму лічбаў 120 і 50.

— І гэта ўсё? — надзея ў вачах маёра прыкметна прытухла.

— Усё.

— Што ж, будзем разбірацца і з гэтым, — Багдановіч схаваў блакнот у свой афіцэрскі планшэт, дастаў папяросы: — Закуры, — і пасля некалькіх зацяжак працягнуў мне на развітанне руку: — Успомніш што — звані.

## 11.

Некалькі дзён я не бачыў і не чуў Багдановіча, і мне ўжо пачало падавацца, што забойцаў майго сябра ніхто не шукае, а маё збіццё я проста сасніў, як сніў сны пра крыж Еўфрасінні і езуітаў. Аднак я памыляўся: Сяргей Багдановіч развіў актыўную дзейнасць, і за некалькі дзён, што мы не бачыліся, ён злавіў і пасадзіў за краты і забойцу Сашы, і Пікавага Валета. Адзінае, слядоў чаго ён так і не знайшоў на Дубровеншчыне — гэта крыж Еўфрасінні Полацкай. Але даведаўся пра гэта я выпадкова, што мяне крыху пакрыўдзіла.

У канцы ліпеня Таня мне паведаміла па тэлефоне, што ў бліжэйшыя выхадныя зможа сарвацца з працы і на два дні прыехаць да мяне ў вёску. Навіна мяне ашаламіла сваёй нечаканасцю, я быў на сёмым небе ад шчасця і лічыў кожную хвіліну да сустрэчы з жонкай.

У пятніцу я зайшоў на пошту, каб патэлефанаваць на аўтастанцыю і яшчэ раз удакладніць час прыбыцця вячэрняга аўтобуса з Оршы. У памяшканні была адна Каця. Яна з сур'ёзным выглядам раскладала і надпісвала газеты, рабіла нейкія паметкі ў журнале, але, убачыўшы мяне, адарвалася ад занятку і запыталася:

— Патэлефанаваць?

Я згодна кіўнуў і зусім па-дзіцячы падзяліўся з ёй сваёй радасцю:

— Жонка павінна прыехаць вечарам, трэба сустрэць яе на аўтастанцыі.

— Віншую, — Каця падала мне тэлефонны апарат і зноў прынялася пералічваць газеты.

— А дзе Ніна? — чакаючы злучэння, пацікавіўся я.

Каця пацiснула плячыма і, не адрываючыся ад працы, адказала:

— Ужо трэці дзень, як яна некуды знікла. Яе маці кажа, што Ніна паехала да свайго жаніха, аднак начальнік пошты сёння тэлефанаваў сюды і сказаў, што з учарашняга дня я прызначана загадчыцай пошты.

— Віншую з павышэннем, — я шчыра ўсміхнуўся дзяўчыне. Тая ў адказ толькі адмахнулася.

Я з хвіліну пагаварыў з дыспетчарам аўтастанцыі, паставіў тэлефон на стол, падзякаваў і ўжо сабраўся сыходзіць, як Каця запыталася:

— Віктар Канстанцінавіч, а што чутна пра смерць Сашы? Ці шукаюць яго забойцаў?

— Шукаюць, Каця, — я крыху разгубіўся ад яе пытанняў, бо і сам неаднойчы за апошнія некалькі дзён задаваў іх сабе. — Калі верыць Багдановічу, то забойцу ўжо вылічылі, засталося толькі сабраць доказы і знайсці сведкаў.

— Цікава, хто ён, забойца?

— Хутка мы гэта даведаемся, — я яшчэ раз падзякаваў ёй за тэлефон, пажадаў поспехаў на новай пасадзе і развітаўся.

А адвячоркам я ішоў у Дуброўну. Ад Станіславова да гэтага гарадка шлях невялікі, усяго з чатыры кіламетры, і прайсці яго можна хвілін за сорак, аднак нецярпенне выгнала мяне з хаты за гадзіну да прыбыцця аўтобуса, ды і не ішоў я туды, а ляцеў.

На аўтастанцыі людзей амаль не было. Некалькі чалавек з недалёкіх вёсак прыехалі пад аўтобус на калёсах, гэтак жа, як і я, нецярпліва глядзелі ў бок Аршанскай вуліцы і адну за другой палілі цыгаркі. У нерухомым паветры стаяў пах конскага гною і таннай махоркі.

І менавіта ў гэты момант ля аўтастанцыі спыніўся міліцэйскі газік. Гучныя размовы адразу прыціхлі, візнікі патушылі свае цыгаркі і застылі ў напружаным чаканні. Нейкі час аўтамашына стаяла нерухома, чадзіла паветра, аднак хутка шафёр выключыў рухавік і з машыны выйшаў маёр Багдановіч. Ён прайшоўся суровым позіркам па возніках, іх конях, раз-другі незадаволена матлянуў галавой, аднак нічога ім не сказаў. Потым падышоў да мяне і працягнуў у знак прывітання руку.

— Заўтра збіраўся да цябе ў Станіславова, а тут гляджу — стаіш. Сустракаеш каго?

— Жонку.

— Жонку — гэта добра! — ён зірнуў на гадзіннік, агледзеўся і кіўнуў на лаву:

— Хадзем прысядзем.

Мы селі на лаву. Возніки зноў засмалілі свае цыгаркі.

— Ты, пэўна, хочаш пачуць ад мяне справаздачу пра ход следства па справе твайго сябра?

— Я не твой начальнік, — адказаў я, — аднак усё ж цікава паслухаць.

— Слухай, — Багдановіч на імгненне задумаўся, потым пакорпаўся ў кішэні і выцягнуў з яе пачак папярос, працягнуў адну мне: — Закуры, — і, калі я закурыў, пачаў свой расповед: — Пасля твайго збіцця я зразумеў, што забойцу Дылевіча трэба шукаць у атачэнні тваіх знаёмых, а знаёмых у цябе — я ды дзве паштальёнкі, адну з якіх, Кацю, я адразу выключыў са свайго спісу. Засталася Нінка Галавач, і я адразу сабраў звесткі пра яе: жыве з бацькамі, незамужняя, некалі была актыўнай камсамолкай, аднак у партыю не ўступіла. Мае дваіх братоў, адзін з якіх служыць у арміі, а другі асвойвае цалінныя казахскія землі. Бацькі працуюць у саўгасе. Звычайная характарыстыка звычайнага савецкага чалавека, і я, напэўна, адчапіўся б ад яе, ды раптам даведаўся, што апошнімі днямі яе бачылі з тваім партызанам, з Лёнькам Гладышом. Гэта было ўжо нешта! Мы пачалі сачыць за Гладышом, аднак паводзіў ён сябе звычайна. І тады я падумаў: а чаму Гладыш і Марчанка не сябруюць? Да вайны жылі ў адной вёсцы, партызанілі ў адным атрадзе, а не сябруюць, не сустракаюцца, разам не выпіваюць? Я зноў сустрэўся з Марчанкам, і той мне расказаў, што раней, у партызанцы, Гладыш часта паводзіў сябе, бы нейкі крымінальнік, а аднойчы, пасля бурнай п'янкі, нават прагаварыўся, што да вайны жыў у Смаленску і што вайна выратавала яго ад «вышкі».

— Мне бацька расказваў, што Гладыш і сапраўды з'явіўся ў нас перад вайной.

— Я паехаў у Смаленск і праз сваю кантору высветліў, што Гладыш зусім і не Гладыш, а былы смаленскі карцёжнік і злодзей Валянцін Мірожа, і мянушка ў яго была…

— Пікавы Валет?

— Не, проста — Валет. Пікавым ён стаў ужо тут, у Дуброўне. Гэтага было дастаткова, каб арыштаваць Міржу і пасадзіць у камеру.

— А Сашку хто забіў?

— Твайго сябра забіў Гладыш. Пасля ўцёкаў са Смаленска Міржа ў цягніку скраў пашпарт у нейкага Галкіна Леаніда Міхайлавіча і пасля няхітрых маніпуляцый пераправіў прозвішча Галкін на Гладыш. Потым пачалася вайна.

— І Саша раскапаў, што Гладыш — гэта не Гладыш?

— Твой Саша раскапаў іншае. З пачаткам вайны ў Дуброўне пачала дзейнічаць падпольная група Максіменкі, у складзе якой былі ў асноўным камсамольцы — маладыя нявопытныя хлопчыкі шаснаццаці-сямнаццаці гадоў. І не дзіва, што гэтых падпольшчыкаў немцы хутка арыштавалі і расстралялі ў Лугаўцах. І вось твой Саша ў музейных архівах натыкнуўся на спіс гэтай падпольнай групы і заўважыў там тое, на што ніхто іншы — ні КДБ, ні музейшчыкі — не звярнулі ўвагі. Звычайны спіс, напісаны ад рукі хімічным алоўкам на лістку паперы з вучнёўскага сшытка ў клетку. Прозвішча, імя, дзе-нідзе — адрас. Такіх спісаў у архівах — тысячы, калі не сотні тысяч, а твой Сашка выбраў менавіта гэты, крыху падумаў і… — Багдановіч сумна ўздыхнуў. — Не, каб са сваёй здагадкай яму пайсці ў міліцыю, дык ён выбраў іншае — пайшоў да Гладыша, і гэта яму каштавала жыцця, — маёр зноў цяжка ўздыхнуў, падаў мне пачак «Казбека», закурыў сам. — Твой Сашка заўважыў, што ў тым спісе няма прозвішча Гладыша і зрабіў выснову, што тую запіску напісаў сам Гладыш для нямецкай службы бяспекі, іншымі словамі — групу Максіменкі здаў немцам Гладыш.

— Дык ён жа быў партызанам! Ён жа мае ўзнагароды!

— І партызанам ён быў па заданні СД, і мянушка ў яго была «Валет», і партызанскіх разведчыкаў і сувязных ён выдаў гестапаўцам з добры дзясятак. Нават сваю сяброўку, Галю Меяровіч, не пашкадаваў — здаў немцам разам з яе дыверсійнай групай.

— Сволач! — толькі і здолеў сказаць я.

Багдановіч прамаўчаў. Ён меркаваў іншымі катэгорыямі.

— А ці разгадаў ты Сашкаў рэбус?

— Ён сваё слова трымае.

Багдановіч згодна хітнуў галавой, крыху памаўчаў і працягнуў мне руку.

— Бывай, Віктар. Магчыма, сустрэнемся яшчэ ў Магілёве.

— А крыж? — я падняўся з лавы і паціснуў маёру руку.

— Няма тут крыжа і не было ніколі, — прагаварыў ён. — Аднак мы, беларусы, народ не толькі цярплівы, але і ўпёрты, мы свайго даможамся. Так я кажу, Віця?

— Так, — пагадзіўся я з Сяргеем, але ў траскатні рухавіка газіка ён мяне ўжо не пачуў.

Ды і я неяк адразу забыўся пра маёра — з-за павароту да аўтастанцыі павольна выпаўзаў рэйсавы аўтобус з Оршы.

Я пачакаў, пакуль схлыне першая хваля людзей, бо ведаў, што Таня ніколі не спяшаецца выходзіць з аўтобуса. Яна выйшла ледзь не апошняй, і я нават не заўважыў, як яна кінулася да мяне. Я ледзь паспеў падхапіць яе лёгкую, амаль паветраную фігурку і адразу адчуў, як яна ўсёй сваёй постаццю прыціснулася да мяне, як яе цела растварылася ў маім у адзіным парыве жадання, захаплення і радасці, — так, я памятаю з дзяцінства, маці абдымала бацьку, калі той вярнуўся з вайны, і я, тады маленькі хлапчук, глядзеў на іх і плакаў ад зайздрасці. Танін парыў быў такі нечаканы і ў той жа час такі просты, што мне падалося, быццам мы і не развітваліся ніколі. Я абдымаў жонку, адчуваў дотык яе шчакі да сваёй, адчуваў гарачыя штуршкі яе сэрца

і нясцерпнае трымценне яе цела. Я і сам дрыжэў з галавы да пят, і мне падавалася, што кроў у маіх жылах пачынае біцца ва ўнісон з яе крывёй, што мы зліліся ў адзінае цэлае з адным сэрцам і адной душой.

— Ты ўспамінаў мяне? — першай загаварыла Таня.

— Кожнае імгненне, — урэшце я здагадаўся пацалаваць жонку. — Я так хачу пабыць з табой сам-насам, удвух пасядзець пад месяцам і проста памаўчаць.

— Утрох, — удакладніла жонка і, шчаслівая ад пачуццяў, якія перапаўнялі яе, ад майго разгубленага і ў той жа час не менш шчаслівага выразу на твары, гучна засмяялася.

**12.**

Напэўна, у кожнага чалавека ёсць такі перыяд — месяц, тыдзень, дзень або нават гадзіна, — які застаецца ў яго памяці на ўсё жыццё. Мой перыяд — гэта ліпень шэсцьдзясят другога года. Гэты месяц, спякотны і галодны, застанецца ўва мне да апошняга майго ўздыху. Месяц, да якога я жыў, не асэнсоўваючы свайго месца пад сонцам, не разумеючы мэты свайго існавання, не верачы ў духоўны пачатак чалавека. Менавіта ў гэтым месяцы я згубіў аднаго і сустрэў другога сапраўднага сябра; менавіта ў гэтым месяцы я зразумеў, наколькі кахаю жонку; менавіта ў гэтым месяцы я даведаўся, што стаў бацькам; менавіта ў гэтым месяцы я быў абсалютна шчаслівым. І хаця я імкнуся пазбягаць слова «шчасце» — яно мне нагадвае смак танных цукерак-падушачак, — я не ведаю іншага слова. Я проста быў шчаслівым! І, калі б мне было суджана загінуць тым летам, я не задумваючыся і шчыра прызнаўся б на апошнім судзе: жыццё я пражыў не дарэмна!

## Ракавая памылка

### Пралог

Адным з ясных марозных дзён месяца снежня 1533 года ад нараджэння Хрыстова, у час палявання, вялікі князь маскоўскі Васілій ІІІ раптоўна адчуў сябе настолькі дрэнна, што не здолеў утрымацца ў сядле і на поўнай хуткасці вываліўся з яго. Конь бег няспешна, ды і тоўстая снежная пярына змякчыла ўдар, аднак князь адразу страціў прытомнасць і нейкі час, бы вялізны каляровы куль, нерухома ляжаў ля маладзенькай вясёлай елкі. Калі падаспела світа і Міхайла Глінскі перавярнуў свайго ўладара на спіну, князь задыхаўся. Дыханне яго было няроўным, хрыплым, вочы запалі, твар паступова наліваўся крывёй і хутка па колеры ўжо амаль не адрозніваўся ад княжага кафтана.

Уласны лекар князя расшпіліў яго кафтан, прыпаў вухам да грудзей. Потым з дапамогай Глінскага ўправіў яму вывіхнутую руку і пусціў кроў.

Князь ачуняў, расплюшчыў вочы. Убачыўшы вакол сябе напружаныя, спалоханыя твары сваіх баяр, ён паспрабаваў ім нешта сказаць, аднак толькі хрыпенне данеслася з яго горла, а потым на яго вуснах запузырылася крывавая пена…

Вялікі князь маскоўскі Васілій Іванавіч паміраў доўга і цяжка: то траціў прытомнасць, то зноў ачуньваў. У часы бяспамяцтва ён ляжаў ціхі і спакойны, і ў такія імгненні многім падавалася, што князь адышоў, што яго душа пакінула зямны свет і перанеслася ў іншае царства — царства памерлых. Аднак менавіта ў той момант, калі лекар падносіў да яго

вуснаў невялікае сярэбранае люстэрка, душа вярталася ў нерухомае цела, і вяртанне яе суправаджалася сіпеннем і хрыпам, быццам дзясяткі гадаў ажывалі ўнутры князя. Тады ўсе палахліва ўціскаліся ў сцены княжага палаца, апантана жагналіся, прасілі для сябе літасці — пра душу паміраючага ў такія моманты неяк не думалі.

Князь не мог гаварыць. Нават у часы прасвятлення ён толькі глядзеў на людзей, якія тоўпіліся навокал, і думаў, успамінаў пражытае, імкнуўся знайсці ў ім нешта добрае, адметнае — такое, што на Божым судзе лёгка пераважыць усе яго ліхія справы. «Усё жыў для сябе. Самае важнае адкладаў на потым, і вось яно, тое «потым», прыйшло, прыйшло нечакана, захапіла знянацку. Што паспеў зрабіць за свае пяцьдзясят чатыры гады? Што пакіну сыну?»

Васілій Іванавіч адшукаў позіркам свайго старэйшага сына Ванятку. «Вось ён, стаіць ля маці. Пахмурны, не падымае вачэй на бацьку, глядзіць некуды ў падлогу. Дзікі і зверaваты ён нейкі, злосны, не ў маю пароду. А ў чыю? У Аленіну? А можа, і праўда гэта не мой сын? Можа, і праўда гэта сын Івашкі Аўчыны-Абаленскага?»

Вялікі князь глядзеў на сваю другую жонку Алену, а ўспамінаў першую — тую, якую выбіралі для яго з паўтары тысячы прыгажунь Масковіі; тую, ад якой ён не меў дзяцей і з якой восем гадоў таму скасаваў шлюб; тую, якую яго дзяк Івашка Шыгоня прылюдна сек кнутом, каб толькі выбіць з яе згоду на скасаванне шлюбу, а потым адправіць у Суздаль, у Пакроўскі манастыр. «Эх, Саламонія-Саламонія, не склалася ў нас жыццё! А як мы некалі кахалі адно аднаго, як марылі пра шчасце! І нават у самым дурным сне не маглі ўявіць таго, што адбылося з намі потым!»

Раптоўна ад першай жонкі ўспаміны перакінуліся на іншае. Успомнілася нябожчыца-сястра Алена, жонка вялікага князя літоўскага Аляксандра. «І табе я прынёс адно гора. Не пажыла ты як след. Не зведала мацярынскага шчасця.» Ад сястры думкі зноў вярнуліся да сына, ад сына — да другой жонкі, ад яе — да Аўчыны-Абаленскага. Так і круціліся яны па коле, выпальвалі сваёй незакончанасцю рэшткі розуму, раздзіралі сэрца ад немагчымасці што-небудзь выправіць, і ўрэшце, калі перад князем  чарговы раз паўстала здань задушанай у манастырскай келлі гаротніцы Саламоніі, яго сэрца не вытрымала, выбухнула крывёй, канчаткова выштурхнула з цела душу…

Пасля смерці мужа другая жонка вялікага князя Алена Глінская не адправілася ў манастыр, як таго патрабавалі звычаі, а сама ўзялася клапаціцца пра сваіх дзяцей. І крый Божа хто-небудзь з баяр асмельваўся выказаць ёй сваю нязгоду — у той жа дзень яго абезгалоўлены труп або знаходзілі пад плотам, або выцягвалі з Масквы-ракі.

Праз тыдзень пасля скону Васілія Іванавіча яго брата Юрыя арыштавалі і кінулі ў вязніцу — не трэба, князь, падбухторваць баяр да смуты, не трэба клікаць іх да сябе на службу. Там і памёр небарака ад голаду.

Паспрабаваў Міхайла Глінскі зрабіць заўвагу Алене «аб сораме распусты», як яна, яго родная пляменніца, загадала прыкаваць дзядзьку ланцугом да сцяны вязніцы, а каб ён больш не бачыў яе распусты, выкалаць яму вочы.

Улада цалкам перайшла ў рукі Алены Глінскай і яе палюбоўніка Івана Аўчыны-Абаленскага. Яны ўжо не хавалі сваёй сувязі і кожную ноч дзялілі вялікакняжы ложак. А ў дадатак, каб усе бачылі, што канюшы баярын Іван Аўчына з'яўляецца другой асобай у дзяржаве, Алена аддала яму пярсцёнак Соф'і Палеалог — апошняй візантыйскай царэўны, маці яе памерлага мужа.

— Не прынясе ён нам шчасця, — паспрабаваў адмовіцца ад падарунка Іван. — Ты толькі зірні, як злавесна пераліваюцца грані гэтага рубіну! У ім я бачу кроў ды пажарышча! Ды з яго і сапраўды кроў сачыцца!

— Ты не пажарышча бачыш, Ваня, а агонь нашага кахання. Ён такі моцны, што і сапраўды нагадвае вялізнае вогнішча. А кроў? Хіба пасля ўсяго перажытага за апошнія гады нам з табой баяцца крыві? — бы малое дзіця, уговорвала палюбоўніка Алена.

Жыццё паступова наладжвалася і, падавалася, будзе шчаслівым і бясконцым. Аднак раніцай трэцяга красавіка 1538 года вялікую княгіню Алену раптоўна званітавала. «Я што, зноў зацяжарыла?» — спачатку здзівілася яна, аднак ваніты былі чорнымі, смярдзючымі, злавеснымі, і яна па-сапраўднаму спалохалася.

Апоўдні ў яе моцна разбалеўся жывот.

— Што са мной? — пыталася яна ў прыдворнага лекара. Той маўчаў і толькі адводзіў вочы. Урэшце яна здагадалася: — Атрута?

— Так, — адказаў лекар, нават не варухнуўшы вуснамі.

Вялікая княгіня ўсё зразумела і, як ні дзіўна, засталася спакойнай.

Цяжка паміраць маладой. Цяжка пакідаць гэты свет гвалтоўна, не паспеўшы давесці да канца распачатыя рэформы. Цяжка і балюча! І страшна! Страшна не за сябе — за тых, хто застаецца. За дзяцей страшна, бо Шуйскія здагадваюцца, што яны «не Васілёвага семя». Страшна за каханага, бо за перанесеныя жахі і прыніжэнні баяры адпомсцяць яму люта. Тут яны смелыя, тут яны разумныя, і дай Божа, каб Ваню проста забілі!

— Колькі мне засталося?.. — слова «жыць» Алена не здолела выгаварыць. Аднак лекар зразумеў.

— Да вечара.

— Можаш ісці, — Алена нават абрадавалася апошнім словам лекара: да вечара яшчэ шмат спраў можна паспець зрабіць.

Яна паклікала Аўчыну-Абаленскага і, калі той з'явіўся, адкрыта расказала яму пра атруту і свае страхі.

— З'язджай адсюль, Ваня, — цалуючы рукі каханага, прасіла Алена. — Забірай казну і бяжы ў Літву. Там яны цябе не дастануць, там ты будзеш у бяспецы, будзеш жыць.

— А дзеці? — слёзы цяклі па шчоках баярына. — Не, дзяцей я не кіну і, калі мне наканавана загінуць, я памру з тваім іменем на вуснах.

— Шуйскія не даруюць табе нашага кахання.

— Пляваць мне на Шуйскіх. Я ўвяду ў Маскву войска, і яно разнясе ўшчэнт не толькі двары гэтых паганых князёў. Я адпомшчу ім за тваю смерць!

Але Шуйскія аказаліся спрытнейшымі і першымі ўвялі ў сталіцу сваіх ратнікаў і абознікаў.

На сёмы дзень пасля смерці Алены прыхільнікі Шуйскіх пакаралі смерцю Івана Аўчыну-Абаленскага.

А пярсцёнак, які некалі прывезла ў Масковію з Візантыі Соф'я Палеалог, забраў сабе князь Шуйскі. Потым гэты пярсцёнак перайшоў да Багдана Бельскага, ад яго — да сына Алены Глінскай, вялікага князя маскоўскага Івана Васільевіча, якога за яго вар'яцкі садызм і непамерную жорсткасць просты люд назаве Грозным. У канцы XVI стагоддзя пярсцёнак бачылі на адным з пальцаў Барыса Гадунова, а праз дзесяць гадоў яго хараством захапляўся Ілжэдзмітрый I. Шмат гаспадароў было ў гэтага пярсцёнка, і ўсе яны без выключэння дрэнна заканчвалі свой жыццёвы шлях. А таму і далі яму назву «Вока д'ябла». Вока — за форму, д'ябал — за колер і тыя няшчасці, што ён прыносіць.

## 1.

Немалады мужчына сядзеў ля расчыненага акна кухні, паліў балгарскую цыгарку і засяроджана думаў пра нешта. У яго светлых вачах не адбівалася ніякіх пачуццяў, і падавалася, што яны наогул глядзяць некуды ўнутр свайго гаспадара, што іх прысыпала попелам пражытых гадоў і што пад цяжарам гэтых гадоў яны праваліліся на дно вачніц і там канчаткова

памерлі. Толькі чорныя гузікі зрэнак адсвечвалі ў вячэрнім паўзмроку пакоя, толькі яны нагадвалі, што ў худым чалавечым целе яшчэ тлее жывы дух, і сведчылі пра гэта злосна, са стогнам паміраючага звера, з зубным рыпеннем.

Апрануты чалавек быў ахайна: модныя, у вузкую палоску штаны былі добра адпрасаваны; худыя грудзі абцягвала дарагая, замежнай вытворчасці кашуля; на нагах чорным бляскам адсвечвалі туфлі — усё паказвала, што ён сабраўся на важную сустрэчу і зараз, дапаліўшы цыгарэту, падымецца і пакіне кватэру.

Аднак мужчына не спяшаўся. Ён засяроджана думаў, рашаўся на нешта страшнае, і нават настойлівае шыпенне чайніка, які толькі што закіпеў на электрапліце, не магло перарваць яго думак. Урэшце, калі вада заклекатала, ён неахвотна падняўся, выключыў пліту, заварыў гарбату. Усё гэта ён рабіў з веданнем справы, грунтоўна і нетаропка, так, як рабіў учора, заўчора, месяц, год таму.

Мужчыну на выгляд было пад пяцьдзясят, але ў свае ўжо далёка не юнацкія гады ён выглядаў даволі маладжава і прывабна. Нават дробныя маршчынкі на лбе і пераноссі не маглі схаваць выразнасці рысаў яго выцягнутага твару. Яго высокі лоб і цяжкі падбародак сведчылі, што гэта быў чалавек рашучы і настойлівы, аднак у той жа час пыхлівы, прадбачлівы і асцярожны. Прамы нос не страціў сваёй формы, як гэта часта бывае з узростам. Густыя валасы, якія толькі пачыналі сівець, былі роўна падстрыжаны добрым цырульнікам. Постаццю ён нагадваў юнака. І толькі вочы — люстэрка душы — не пасавалі да вобраза гэтага чалавека. Яны жылі сваім неспакойным і запалоханым жыццём, прасвечвалі праз светлую попельную заслону востра, калюча, бязлітасна і злосна.

Заварыўшы гарбату, мужчына зачыніў акно, узяў партфель і, не выключыўшы на кухні святло, накіраваўся да ўваходных дзвярэй.

На панадворку ён сеў у нічым не прыкметныя «Жыгулі» і, не спяшаючыся, выехаў на амаль пустую вуліцу.

На ўскраіне горада мужчына спыніўся ля крамы, зачыніў дзверцы машыны і накіраваўся да алеі, што вяла да прыватных хатак з невялікімі прысядзібнымі ўчасткамі. Ён хваляваўся: яго твар крыху пабялеў, вусны сціснуліся мацней звычайнага і нагадвалі вузкую стужку, вочы прыжмурыліся, паходка зрабілася па-ваўчынаму лёгкай і асцярожнай. Не даходзячы да крайняй хаты, мужчына ўважліва агледзеўся па баках і нечакана рэзка, зусім па-юнацку, звярнуў у зараснік бэзу. Там ён нейкі час стаяў нерухома — чакаў, пакуль супакоіцца маленькі сабака, што бегаў ля хаты, — потым дастаў з партфеля бінокль і стаў уважліва назіраць за панадворкам.

Сонца ўжо хавалася, і прыемная вячэрняя прахалода нябачным жывым туманам апускалася на спакутаваную ад дзённай спёкі зямлю. У такія гадзіны па-сапраўднаму аджываюць расліны, па-іншаму спяваюць птушкі, выходзяць на вуліцу людзі, жыццё набывае новы імпульс і больш глыбокі сэнс.

Мужчына яшчэ нейкі час глядзеў у бінокль, потым асцярожна схаваў яго ў партфель, але свайго месца не пакінуў. Так ён і стаяў у зарасніку, назіраючы за чужой хатай, чужым жыццём. Было бачна і без бінокля, што старая нямоглая жанчына сядзіць на лаўцы ў засені яблыні. Побач з ёй на гэтай жа лаўцы расцягнуўся вялікі шэры кот, а ля яе ног — махнаты сабачка. Доўга, у поўнай нерухомасці назіраў мужчына за дзіўнай кампаніяй. Скура на яго вузкім твары нацягнулася, вусны скрывіла грымаса нянавісці, чорныя зрэнкі расшырыліся да такой велічыні, што пагражалі выбухнуць і ўшчэнт разарваць вочныя яблыкі.

Раптам жанчына штосьці пачула, занепакоілася, пагладзіла ката, насцярожана агледзелася, лёгенька штурхнула нагой сабачку: «Не спі, Пушок!» Потым зняла акуляры. Трывога свяцілася

ў вачах старой, і яе, гэтую трывогу, першым адчуў кот. Ён расплюшчыў вочы, жоўтым позіркам ахінуў гаспадыню, ляніва падняўся на ногі і пацягнуўся ва ўвесь свой рост. Затым саскочыў з лавы і ўпэўненай хадой накіраваўся да ўваходных дзвярэй. «Ты маеш рацыю, Шэры, — паднялася з лавы і жанчына. — Нешта холадам пацягнула». Яна зябка павяла плячыма, падазрона паглядзела на зараснік бэзу і па-старэчы павольна пакрочыла ўслед за Шэрым.

Цяжка сказаць, колькі гадоў было жанчыне, бо бязлітасная старасць ужо накінула на яе твар густую сетку маршчын і цяпер чакала, каб нанесці свой апошні, разбуральны ўдар. Але няцяжка было ўявіць, як выглядала яна ў маладосці. Рысы твару час амаль не закрануў, толькі абвёў больш глыбокімі мазкамі, і нават пад густой сеткай маршчын угадвалася парода і прыродная прыгажосць. Гады не сагнулі жанчыну, а толькі высушылі яе. Спіну яна трымала прама, гаварыла цвёрда, у вачах ззялі разам з адзінотай упартасць і дабрыня.

Жанчына адчыніла дзверы, прапусціла ў сені ката, аднак сама заходзіць не спяшалася. Зноў уважліва агледзела недалёкі зараснік. Нешта яе непакоіла, нават палохала, але што — яна не ведала, і ад гэтага няведання настрой яе канчаткова сапсаваўся. «Не спі, Пушок! — надзея і давер гучалі ў голасе старой. — Штосьці трывожна мне сёння. Пэўна, сэрца!» Пачуўшы словы гаспадыні, маленькі сабачка завіхляў хвастом і некалькі разоў упэўнена цяўкнуў.

А мужчына так і застаўся стаяць у зарасніку бэзу, ён і не збіраўся пакідаць сваю схованку. Ён нечага чакаў, ледзяным позіркам па-вар'яцку акідваў вокам апусцелы панадворак, мармытаў пад нос праклёны і злосна лаяўся: «Пракляты сабака! Калі ты ўрэшце здохнеш разам са сваёй гаспадыняй?»

## 2.

Капітан міліцыі Дуброўскі толькі пачаў снедаць, як у пярэдняй яго кватэры зазваніў тэлефонны званок. Зазваніў настойліва, нахабна, патрабавальна, не зважаючы ні на ранні час, ні на пусты страўнік свайго гаспадара.

— Чорт бы цябе пабраў! — нязлосна вылаяўся капітан, выдатна разумеючы, што тэлефануюць яму з аддзялення. Ён падняў слухаўку: — Капітан Дуброўскі слухае.

— Хопіць спаць, капітан, — прабасіла слухаўка голасам дзяжурнага па аддзяленні маёра Сініцы. — У нас забойства, і начальнік тэрмінова склікае сваю гвардыю, каб уставіць вам у адно месца чарговую свечку.

— Пайшоў ты, — Дуброўскі не захацеў разумець салдацкага гумару свайго саслужыўца і раздражнёна націснуў на рычаг апарата.

Прычын для чорнай меланхоліі ў капітана і так хапала вышэй за галаву: апошнія два тыдні ён разам са сваім сябрам і напарнікам, старшым лейтэнантам Сяргеем Кармухіным, займаўся пошукам злодзеяў-«дамушнікаў», якія за гэты час ужо абрабавалі тры кватэры і адзін маёнтак. Злодзеі былі вопытнымі, «працавалі» хутка, чыста і да нахабнасці дзёрзка, і гэтая іх дзёрзкасць яскравей за любыя доказы сведчыла, што яны «гастралёры» і праз нейкі час пакінуць апрацаваны раён. І хаця Дуброўскі са сваім памочнікам затрымліваўся на службе да позняга вечара, забыўся пра святы і выхадныя, зачапіцца за нешта істотнае ніяк не ўдавалася: злодзеі «працавалі» ў пальчатках, першакласнымі адмычкамі і нават свой абутак прапітвалі нейкай вадкасцю, ад паху якой службовы сабака толькі адварочваў нос і жаласліва скавытаў. Выносілі яны з кватэр толькі грошы і каштоўнасці, а таму, зразумела, без «наводчыка» рабаваць не маглі. Але як вылічыць гэтага «наводчыка»? Дзе шукаць лежню «гастралёраў»? Як яны выглядаюць? Пытанняў было шмат, а адказаў — нуль, і пошукі злодзеяў нічога, акрамя непрыемнасцей, капітану не прыносілі.

Аднак забойства! Кваліфікаваны «дамушнік» ніколі на яго не пойдзе. Яны нават нажоў з сабой не носяць, каб не мець спакусы.

У аддзяленні было ціха і бязлюдна. Убачыўшы капітана, маёр Сініца ў знак прывітання кіўнуў лысай галавой і шэптам папярэдзіў:

— Твой старлей ужо ў Васільыча.

Кабінет начальніка аддзялення палкоўніка Мікалая Васільевіча Рабчыкава знаходзіўся на другім паверсе і амаль нічым не адрозніваўся ад кабінетаў яго падначаленых: клееная з ДСП мэбля, на вокнах — таннае жалюзі, у кутах ля стала — два аднолькавыя сейфы. І толькі дыван на падлозе сведчыў, што гэта кабінет начальніка, а не звычайных «следакоў» ці ўчастковых.

Капітан пагрукаўся ў дзверы, рашуча іх адчыніў і зайшоў у пакой.

— Ну вось, урэшце і Дуброўскага дачакаліся, — пад няшчырыя смяшкі прысутных сустрэў яго палкоўнік. — Аднак ты, Юрый Міхайлавіч, спазніўся і яшчэ раз паўтараць сказанае для цябе асабіста я не буду, — начальнік не стаў чакаць яго апраўданняў і, кіўнуўшы ўсім галавой, скамандаваў: — А цяпер, таварышы афіцэры, прыступайце да працы, — і, калі ўсе дружна падняліся з-за стала і накіраваліся да выхаду, дадаў: — А ты, капітан, застанься.

Апошнім пакінуў кабінет палкоўніка Сяргей Кармухін. Перад выхадам ён нерашуча азірнуўся на свайго начальніка, але той нецярпліва махнуў рукой: «Ідзі, лейтэнант. Ідзі». Калі дзверы за Кармухіным зачыніліся, палкоўнік перавёў свой позірк на Дуброўскага.

— Сядай, Юра. З табой я хачу пагаварыць асобна.

Капітан нікольні не здзівіўся такому абыходжанню, бо яшчэ з дзяцінства добра ведаў Рабчыкава як былога суседа і нават некалі называў яго «дзядзя Коля». Ён сеў у бліжэйшае крэсла і запытальна паглядзеў на палкоўніка, чакаючы працягу размовы.

— Ведаеш што, Юра, — Мікалай Васільевіч паглядзеў у вочы свайму падначаленаму. — Учора вечарам забілі старую жанчыну. Падрабязнасці забойства ты даведаешся на месцы, бо расследаваць яго я даручыў табе з Кармухіным…

— А «дамушнікі»? — міжволі вырвалася ў капітана.

— Гэтыя пачакаюць, а, можа, дасць Бог, спалохаўшыся забойства, і наогул пакінуць наш раён.

— Ёсць нейкая сувязь?

— Сувязі аніякай, — бы ад зубнога болю скрывіўся палкоўнік. Ён падняўся з крэсла, падышоў да акна. — Справа ў тым, Юра, што нейкі падонак забіў выдатнага чалавека, забіў настаўніцу, якая вучыла добрую палову жыхароў нашага горада. А таму я хачу папрасіць цябе неафіцыйна: адкладзі ўсе свае справы і займіся гэтым забойствам.

— А…

— Пра «гастралёраў» не забывайся, але на першым месцы ў цябе павінна быць расследаванне смерці Соф'і Станіславаўны. Разумееш, Юра?

— Разумею, Мікалай Васільевіч, — капітан задумліва пацёр падбародак. Потым падняў вочы на начальніка і нечакана папрасіў: — А вы раскажыце мне пра забітую настаўніцу: сям'я, родныя, яе інтарэсы…

— Ну-ну, — палкоўнік сумна хмыкнуў, — знайшоў першага падазронага.

— Пакуль сведку.

— Добра, — палкоўнік на некалькі імгненняў задумаўся. — Завуць забітую Соф'я Станіславаўна Рутэніч. Узросту яе я не ведаю, але думаю, што мела яна недзе каля васьмідзесяці гадоў. Род яе са збяднелае шляхты. Муж памёр гадоў пятнаццаць таму, а дзеці раз'ехаліся па ўсім Саюзе. Ведаю, што старэйшы Казік загінуў на Кубе ў шасцідзясятыя гады, сярэдні Юзік служыць штурманам у Калінінградскім параходстве, малодшая дачка Яня

пабралася шлюбам з ваенным і цяпер жыве недзе на мяжы з Кітаем. Таму старая дажывала свой век у адзіноце, і сям'ю ёй замянялі кот і сабачка, — палкоўнік зноў падышоў да свайго крэсла, аднак не сеў у яго. — Соф'я Станіславаўна мела моцны характар, імкнулася жыць па праўдзе і справядлівасці, і разам з тым была пяшчотнай маці, спагадлівай не толькі да сваіх дзяцей. А як яна вяла ўрокі гісторыі! Пра нашу мінуўшчыну яна ведала, здаецца, усё і расказвала нам не сухімі словамі падручніка, а апавядала найцікавейшыя гістарычныя аповесці. Там быў сапраўдны гераізм нашых продкаў, прыгоды і забаўныя падзеі, подласць і здрада, але галоўнае — там была праўда… Тады мы, вучні, дзівіліся, чаму з ёй не сябруюць многія настаўнікі, чаму так не любяць яе дырэктарка і завуч, а гістарычны гурток, які яна вяла бясплатна, і наогул забаранілі. Я і цяпер, па шчырасці, не разумею, чаму людзі так баяцца праўды, чаму падмяняюць яе паўпраўдай ці наогул хлуснёй, чаму караюць за яе? Чаму нават святары — тыя, хто служыць Богу, — нават яны не заўсёды шчырыя са сваёй паствай? Аднак я хачу сказаць пра іншае — пра тое, што Соф'я Станіславаўна апошнія гады пражыла адна, без родных, без сяброў; і мне, Юра, сорамна, што мы, яе вучні, вельмі рэдка наведвалі сваю настаўніцу. Якое цяжкае жыццё яна пражыла!.. Вялікіх грошай неназбірала, каштоўнасцей не мела, існавала на сваю мізэрную настаўніцкую пенсію і грашовыя пераводы сына. З суседзямі не канфліктавала, і таму яе смерць… гэта нейкі абсурд, гэта не ўкладваецца ў галаве нармальнага чалавека… За што? Каму патрэбна смерць гэтай старой жанчыны? Я пакуль у разгубленасці, Юра, а ты разбярыся. Справа, думаю, будзе нескладаная, але пра ход следства дакладвай мне кожную раніцу, — палкоўнік урэшце сеў у сваё крэсла. — А цяпер можаш ісці, а то твой напарнік хутка лопне ад цікаўнасці.

## 3.

Старшы лейтэнант і сапраўды чакаў сябра ў калідоры.

— Ну, што? — было яго першае пытанне. — Чаму так доўга?

— Васільевіч расказваў пра забітую, — неахвотна адказаў Юрый і, каб пазбегнуць непрыемных роспытаў, дадаў: — Ён некалі быў яе вучнем.

— Зразумела… Ну што, паедзем на месца злачынства?

— Паехалі.

Ля хаты Соф'і Рутэніч капітана Дуброўскага з напарнікам першым сустрэў разгублены ўчастковы — паўнаваты маёр у рагавых акулярах на буйным мясістым носе. На яго твары застыў выраз дзіцячай палахлівасці. Было бачна, што забітага чалавека ўчастковы бачыў упершыню, а таму вельмі не хацеў падацца баязліўцам перад чужымі і зрабіць перад імі нешта няўклюднае.

— Вашы там, — кіўнуў ён унутр будыніны.

Дуброўскі з Кармухіным абышлі машыну хуткай дапамогі, пракурорскі уазік і адчынілі дзверы ў хату.

Унутры хата была падзелена перагародкамі на вітальню, два пакоі і невялікую кухню. У кожным з пакояў знаходзіліся людзі. Ля забітай, якая ляжала ў пярэдняй, завіхаўся эксперт, якога ўсе звалі Сан Саныч, і дзяжурны доктар. У адным з пакояў не знаёмы Дуброўскаму следчы пракуратуры трымаў у руках шклянку з вадой і нешта даводзіў поўнай заплаканай жанчыне. У другім пакоі памочнік эксперта, невысокі, хударлявы і вяртлявы хлопец з рудымі валасамі і рабаціннем на твары, шукаў адбіткі пальцаў. Кожны займаўся сваёй справай.

Забітая, у строгай, старога крою сукенцы, ляжала на спіне. Ля яе галавы запяклася невялікая лужына крыві, і не трэба было пытаць эксперта, каб беспамылкова высветліць прычыну яе смерці — удар цяжкім прадметам па галаве.

Убачыўшы Дуброўскага з напарнікам, Сан Саныч падняўся з кукішак. Яго вочы палыхалі нядобрым полымем, і Юрый нават падумаў, што той зараз пачне лаяцца. Злосць распірала эксперта знутры, шукала выхада, але мужчына трымаўся.

— Падонак забіў настаўніцу малатком, — стрымліваючы шаленства, паведаміў ён міліцыянерам. — Адным ударам, прама ў скроню.

— Даўно?

— Гадзін дзесяць таму, але больш дакладна скажу пасля ўскрыцця, — адказаў Сан Саныч і павярнуўся да свайго памочніка: — Міша, ты ўсё агледзеў, усё сфатаграфаваў?

— Кніжныя шафы здыму — і ўсё, — нечакана густым басам адказаў хударлявы юнак.

— Я чакаю цябе на вуліцы, — раптоўна эксперт нахіліўся і амаль з-пад ног Кармухіна падняў акрываўлены малаток. — Пад ногі трэба глядзець, малады чалавек, — сказаў ён збянтэжанаму лейтэнанту і накіраваўся да выхаду з хаты. Аднак ужо на прыступках спыніўся і зноў звярнуўся да міліцыянераў: — І яшчэ, магчыма, гэта вам будзе карысным ведаць — сабаку таксама атруцілі ўчора вечарам. Цыянідам.

Амаль адразу за экспертам на вуліцу выскачыў і яго памочнік.

— Што ж, хадзем паслухаем суседку забітай, — капітан з сумам глядзеў, як двое санітараў перакладвалі з падлогі на насілкі старую настаўніцу. — Можа, і яна што-небудзь карыснае ўспомніць.

Суседка Рутэніч сядзела ў крэсле, бы ідал, нерухомая і закасцянелая. Яе вочы нагадвалі два шкляныя шарыкі, з-пад якіх немаведама адкуль цяклі па пухлых шчоках вузкія струменьчыкі слёз. Яна не слухала мужчыну, што настойліва працягваў ёй шклянку з вадой. Жанчына яго нават не бачыла. Яна напружаным позіркам сачыла за санітарамі, якія ўжо паклалі забітую на насілкі і накрывалі яе жоўтай, з шэрымі плямамі, прасцінай. І толькі калі машына хуткай дапамогі ад'ехала ад хаты, суседка крыху ажыла, ачуняла. Яе немалады маршчыністы твар зварухнуўся, у вачах з'явілася асэнсаванасць, затрэсліся вусны. І як вынік — праз імгненне жанчына заплакала.

— Усё будзе добра, Ксенія Андрэеўна, — разгублены следчы пракуратуры па-свойму заспакойваў жанчыну. — Зараз мы пагутарым з вамі, а потым вы пойдзеце дадому, да сваёй сям'і.

Але жанчына яго не слухала. Яна яшчэ нейкі час абедзвюма рукамі размазвала па твары слёзы, потым рэзка паднялася з крэсла.

— Што будзе добра? Што? — прама ў твар работніку пракуратуры выгукнула яна пытанні. — Вы мне здароўе вернеце ці Соф'ю ажывіце? Вы хоць сапраўднага забойцу знайдзіце, а не бамжа якога-небудзь, алкаша ці адурманенага наркамана! — з гэтымі словамі жанчына адштурхнула ўбок следчага і выскачыла з пакоя, па дарозе ледзь не збіўшы з ног старшага лейтэнанта Кармухіна.

Збянтэжаны пракурорскі работнік выпрастаўся, паставіў шклянку з вадой на тумбачку.

— Размовы не атрымалася, — збянтэжана ўсміхнуўся ён куткамі вуснаў, наблізіўся да міліцыянераў і працягнуў руку — спачатку Дуброўскаму, потым Кармухіну, — следчы пракуратуры Мікалай Вансовіч.

Міліцыянеры назвалі сябе.

— З чаго пачняце следства? — пацікавіўся Вансовіч ужо на панадворку. Ён на два абароты зачыніў навясны замок на ўваходных дзвярах, крыху падумаў і перадаў ключ Дуброўскаму. Потым дастаў з папкі палоску паперы з пячаткай пракуратуры і апячатаў дзверы. — Так будзе больш надзейна. Але, калі спатрэбіцца — зрывайце, не шкадуйце, толькі папярэдзьце мяне.

— Добра, — пагадзіўся з ім капітан. — А следства мы пачнём з апытання суседзяў і мясцовай моладзі. Магчыма, нехта нешта і бачыў.

Вансовіч згодна кіўнуў галавой:

— Яны тут жывуць, бы ў вёсцы, сваёй абшчынай, а таму, канешне, нехта нешта падазронае павінен быў заўважыць, — ён адчыніў дзверцы машыны і працягнуў на развітанне руку: — Жадаю поспехаў.

Калі пракурорскі уазік ад'ехаў, Дуброўскі з-пад далоні паглядзеў на бліскучы дыск сонца і прапанаваў сябру:

— Можа, папалуднуем?

— А падворны абыход суседзяў?

— А сэнс? — капітан не жартаваў. Ён дастаў з кішэні кашалёк і пачаў пералічваць грошы. Грошай было нямнога. Дуброўскі пачухаў патыліцу і, убачыўшы, што здзіўленне на твары напарніка яшчэ не прайшло, патлумачыў: — Моладзь цяпер на занятках, дарослыя — на працы, а старых мы і вечарам апытаць можам. Згодны? Ды і колькі тут тых хатак, за дзве гадзіны справімся!

— Ну, дзвюх гадзін будзе малавата, — старшы лейтэнант задумліва паглядзеў на пыльную вуліцу, — але наконт астатняга ты маеш рацыю.

## 4.

Раніцай наступнага дня капітан Дуброўскі сядзеў за сталом у кабінеце начальніка аддзялення. Ён дакладваў пра ход расследавання.

— Учора мы агледзелі месца злачынства, правялі апытанне суседзяў і моладзі. Даведаліся наступнае: Соф'я Станіславаўна Рутэніч, у дзявоцтве Міхайлоўская, загінула ад удару тупым прадметам па галаве. У выніку ўдару скроневая костка…

— Ладна, Юра, — палкоўнік махнуў рукой, — заключэнне эксперта я ведаю, чытаў. Ты мне раскажы, што кажуць суседзі, што думаеш ты сам, ці ёсць хаця б нейкія зачэпкі?

— Ёсць, Мікалай Васільевіч, і многа.

— Расказвай, — палкоўнік узбуджана заёрзаў на крэсле.

— Учора мы з Кармухіным прайшліся па дварах суседзяў забітай настаўніцы і пагутарылі з імі пра заўчорашні дзень, вечар і ноч. Дык вось, мне суседка забітай, Ксенія Андрэеўна Козел (яна кожную раніцу насіла Рутэніч малако і крыху сябравала з нябожчыцай), расказала наступнае: з кватэры нічога не прапала, усе рэчы ляжалі на сваіх месцах, а вось малаток, якім забілі Соф'ю Станіславаўну — чужы. Яшчэ яна расказала, што нябожчыца захоўвала грошы ў бляшанцы з-пад гарбаты, а ёсць яны там ці не — яна не глядзела…

— Сягоння ж праверце.

Дуброўскі кіўнуў галавой.

— Яшчэ суседка мне паведаміла, што на кухонным стале бачыла не знаёмы ёй ліхтарык, і яна сцвярджае, што ў Рутэніч ліхтарыка ніколі не было і яна карысталася толькі свечкамі…

— Ліхтарык на экспертызу.

— Але больш за ўсё мяне здзівіў унук гэтай Козел. Ён заўважыў, што на працягу апошніх дзён да іх крамы некалькі разоў на чырвонай машыне пад'язджаў незнаёмы дзядзька. Ён пакідаў машыну на стаянцы ля крамы, а сам ішоў на іх вуліцу, але да каго ён хадзіў — невядома.

— Магчыма, нечы палюбоўнік?

— Магчыма, але і Кармухіну расказвалі пра гэтага незнаёмца — немалады, невысокі, добра апрануты.

— Думаеш, ён?

Дуброўскі пацiснуў плячыма і працягваў:

— Яшчэ Кармухіну расказалі, — капітан перагарнуў старонку свайго нататніка і ўдакладніў: — Дзесяцікласнік Віця Няверчык бачыў, як каля васьмі гадзін вечара ад іх вуліцы бег хлопец, вельмі падобны на аднаго з яго знаёмых, студэнта тэхнікума сувязі Нікіціна Эдуарда, і ў руках яго была нейкая папка.

— Праверце гэтага Эдуарда. Дзе жыве? Хто бацькі? Чым займаецца ў вольны час? Дзе знаходзіўся той ноччу?

Капітан маўчаў.

— Што ж,— палкоўнік падняўся з крэсла і выйшаў з-за стала, — не буду цябе больш затрымліваць. Яшчэ раз агледзьце кватэру Рутэніч, збярыце звесткі пра Нікіціна — дырэктар тэхнікума мой былы аднакласнік і дапаможа вам зрабіць гэта ціха і далікатна. Ну, і «палюбоўніка» на ўсялякі выпадак пашукайце, не спісвайце з рахунку.

Старшы лейтэнант Кармухін чакаў свайго сябра ля кабінета.

— Ну? — адным словам задаў ён Дуброўскаму мноства пытанняў.

— Баранкі гну! — адказаў той і для пэўнасці дадаў: — Працаваць трэба, а не пад чужымі дзвярыма таптацца.

— Дык я і працую. Пакуль ты быў у шэфа, я пагутарыў з Сан Санычам, пацікавіўся яго думкамі наконт забойства. Ён лічыць, што Рутэніч або не ведала свайго забойцу, або варагавала з ім (другое бліжэйшае да праўды); што той добра быў знаёмы з распарадкам дня забітай, а таму трэба шукаць месца, адкуль ён назіраў за старой; што ён мае невысокі рост, стары ці хворы…

— Чаму стары ці хворы? — Дуброўскі нервова хмыкнуў. — Таму што прадбачліва прыхапіў з сабой малаток? Рутэніч магла забіць і жанчына, і падлетак…

— Адбіткаў пальцаў на малатку не было.

— Мілы мой! — капітан ажно спыніўся. — Ды сёння любое дзіця ведае пра адбіткі пальцаў.

— Незнаёмага яна не ўпусціла б ноччу ў хату.

— А вось гэта слушная заўвага, — Дуброўскі квола ўсміхнуўся і пахваліў сябра, — малайчына! Але разважаць і рабіць высновы будзем потым. Цяпер жа зоймемся зборам фактаў: ты яшчэ раз грунтоўна абшукаеш і агледзіш хату нябожчыцы, ваколіцы, а я паеду ў тэхнікум — пазнаёмлюся з Эдзікам Нікіціным.

## 5.

У тэхнікуме, як і чакалася, ішлі заняткі. З надзеяй даведацца пра час іх заканчэння, капітан уважліва агледзеў прасторны вестыбюль, зазірнуў у гардэроб, у нейкае падсобнае памяшканне, аднак нікога з работнікаў там так і не ўбачыў. Тады ён падняўся на другі паверх і адразу накіраваўся да кабінета дырэктара.

Дырэктар тэхнікума быў на месцы і, калі Дуброўскі зайшоў у пакой, размаўляў па тэлефоне. Убачыўшы міліцыянера, ён паказаў яму вачыма на крэсла і весела засмяяўся ў слухаўку:

— Шустрыя ў цябе, Коля, работнікі: мы яшчэ не паспелі як след пагутарыць, а адзін з іх ужо тут, сядзіць насупраць мяне, — слухаючы адказ нябачнага суразмоўцы, дырэктар згодна ківаў галавой, потым прамовіў дзяжурнае «да сустрэчы» і паклаў слухаўку. — Размаўляў з вашым начальнікам, — кіўнуў ён на тэлефон, хаця Дуброўскі даўно здагадаўся пра гэта. Ён нават у агульных абрысах ведаў тэму гутаркі: спачатку сапліўыя ўспаміны, потым пытанні аб аднакласніках, сябрах, агульных знаёмых і толькі ў самым канцы, так, бы між іншым, сутнасць званка.

— Коля прасіў мяне, каб я дапамог вам ціха і далікатна сабраць звесткі пра Эдуарда Нікіціна, — дырэктар падняўся з-за стала і накіраваўся да адной з шафаў. Адчыніў шкляныя дзверцы, пакорпаўся ў стосе папак і хутка выцягнуў адну з іх. — Ну вось, — ён развязаў матузкі, дастаў з папкі асабістую справу студэнта, расчаравана ўздыхнуў: — Нягуста.

У асабістай справе студэнта Нікіціна знаходзіліся толькі тыя паперы, якія год таму ён уласнаручна аддаў пры паступленні ў тэхнікум.

— І сапраўды нягуста, — пагадзіўся Дуброўскі. — Але ж вы, Генадзь Сяргеевіч, пэўна, ведаеце ўсіх сваіх студэнтаў?

— Збольшага, — дырэктар дастаў з папкі асабісты лісток студэнта, зверху ўніз прабег па ім позіркам, задумаўся. Потым неяк неахвотна, падбіраючы словы, загаварыў: — Ведаю я гэтага студэнта. Хлопец няшкодны, нават ціхі. У грамадскім жыцці тэхнікума амаль не ўдзельнічае, хаця добра грае на гітары і нядрэнна спявае.

— Чаму ж так?

Дырэктар няўпэўнена пацiснуў плячыма:

— Хто яго ведае! Сам ён з інтэлігентнай сям'і: бацька працуе галоўным інжынерам ЖКГ, маці — правізарам цэнтральнай аптэкі. Жывуць небагата і галоўнай каштоўнасцю у жыцці лічаць веды і ўласны гонар.

— Што, вельмі ганарыстыя?

— Ды не. Праўда, у іх дома я і быў усяго адзін-два разы, але яго бацькі мне падаліся людзьмі простымі, без ганарлівасці і пыхі. Памятаю: бібліятэка ў іх добрая. Кажуць, што яе пачынала збіраць яшчэ Леакадзія Паўлаўна, бабуля Эдзіка па лініі маці, некалі знакамітая ў нашым горадзе доктарка.

— А як Эдзік бавіць вольны час? Ці мае сяброў?

— Ну, сяброў у яго мноства, — дырэктар неяк крыва ўсміхнуўся, аднак, пэўна, адчуўшы гэты міжвольны жэст, выправіўся: — Нават занадта для такога ўзросту. Прычым, у яго сябрах лічацца і многія з тых, хто стаіць на ўліку ў дзіцячым пакоі міліцыі... А вольны час ён бавіць або на футбольным полі, або ў мясцовым кафэ «Сузор'е».

— У кафэ? Ці не рана для сямнаццацігадовага хлапчука?

— Два разы на тыдзень да дзевяці гадзін вечара ён там грае ў ансамблі. Грошы зарабляе.

— Любіць грошы?

— А хто іх не любіць? — пажартаваў дырэктар, пры гэтым вочы яго палыхнулі нейкім калючым холадам.

— Дзяўчына ў яго ёсць? — Дуброўскі перавёў гутарку ў іншае рэчышча. — Наколькі я памятаю, прыкладна ў такім узросце прыходзіць першае каханне. А мо я памыляюся?

Дырэктар уважліва паглядзеў на суразмоўцу — ці не смяецца ён з яго — і, не адводзячы падазронага позірку, адказаў:

— Дзяўчына ў яго ёсць. Васьмікласніца другой школы Крысціна Жураўская. Яе маці працуе загадчыцай магазіна «Гародніна і садавіна», што на Піянерскай вуліцы.

Магчыма, Генадзь Сяргеевіч расказаў бы яшчэ нешта цікавае і пра сям'ю Крысціны, аднак у гэты момант празвінеў званок і ў калідоры раздаўся тупат мноства ног.

— Вы мне прабачце, — дырэктар тэхнікума падняўся з крэсла і вінавата развёў рукамі, — але ў мяне зараз вытворчая нарада з калектывам. Калі хочаце яшчэ нешта даведацца пра Нікіціна — пачакайце хвілін дваццаць у прыёмнай.

— Не, дзякуй за змястоўную гутарку, — падняўся і Дуброўскі. — Пайду пашукаю Эдуарда.

— А што яго шукаць? На перапынках ён з сябрамі часцей за ўсё сядзіць вунь у той альтанцы, — дырэктар пачакаў, пакуль міліцыянер падыдзе да акна, і паказаў на край пляцоўкі, дзе і сапраўды месцілася невысокая, але шырокая, нечым падобная на гараж пабудова.

На развітанне капітан пацiснуў руку дырэктара тэхнікума, адзначыўшы пра сябе моц яго худых пальцаў, ветліва кіўнуў маладзенькай дзяўчыне-сакратарцы і, спінай адчуваючы шматлікія здзіўленыя позіркі выкладчыкаў і студэнтаў, павольна спусціўся на першы паверх. Тоўстая гардэробшчыца, убачыўшы міліцыянера, ад нечаканасці нават прыўзнялася над крэслам. Так і прастаяла яна на паўсагнутых нагах, пакуль той не выйшаў на вуліцу.

Ад альтанкі даносіўся смех і музыка. Калі Дуброўскі падышоў бліжэй, смех раптоўна, бы па камандзе, заціх, і толькі з дынаміка касетнага магнітафона даносіліся ўзнёслыя словы песні пра каханне. Капітан павітаўся, пачакаў, пакуль прагучыць апошняе «добры дзень», прадставіўся.

— Я не хачу перашкаджаць вашаму адпачынку, але мне трэба пагутарыць з Нікіціным Эдуардам Кірылавічам, — усе дружна павярнулі галовы да патлатага хлопца, які з бутэлькай ліманаду сядзеў ля магнітафона.

— Гэта я, — патлаты падняўся з лавы. — Што вам ад мяне трэба?

— Проста пагутарыць, — Дуброўскі бачыў, што хлопец хвалюецца, але нічога дзіўнага ў гэтым не заўважыў: нечаканы інтарэс міліцыі рэдка каго пакідае абыякавым і спакойным.

Капітан зайшоў у альтанку, сеў на лаву і папрасіў прысутных даць яму магчымасць пагаварыць з Эдзікам сам-насам. Крыху пачакаўшы, ён даверлівым тонам запытаўся ў хлопца:

— Эдзік, ты заўчора вечарам быў у Рутэніч дома?

— А гэта хто? — шчыра здзівіўся той, і пацiснуў плячыма: — Я не ведаю ніякага Рутэніча.

— Старая настаўніца, што жыве на Пясчанай вуліцы.

— А-а, гэта, — з палёгкай выдыхнуў хлопец. — Я і не ведаў, што яе прозвішча Рутэніч. Для мяне яна проста баба Соф'я. Заўчора вечарам я і сапраўды быў у яе, насіў ёй нейкія лекі.

— І часта ты ў яе бываеш?

— Ну, гэта як калі. Здараецца, што яна сама іх атрымлівае ў аптэцы, здараецца, што мая маці іх ёй носіць, але часцей за ўсё, недзе два разы ў месяц, лекі бабе Соф'і нашу я.

— І кожны раз вечарам?

— Не, звычайна днём пасля заняткаў. А ў чым справа?

— Потым скажу.

— Значыцца, і я буду адказваць вам потым.

Дуброўскі спахмурнеў: размова атрымлівалася не такой, як хацелася. Хлопец стаў рэзкім і чамусьці заўпарціўся з адказамі, даў капітану зразумець, каб ён не разлічваў на поўную ўзаемнасць і шчырасць. Таксама было бачна, што Эдзік з прадузятасцю ставіцца да міліцыі. Гэта злавала капітана, аднак ён імкнуўся не заўважаць такой юначай дурноты.

— Эдзік, ты ж разумны хлопец і павінен усведамляць, што крымінальны аддзел проста так нічога не робіць…

— Выклікайце мяне павесткай у міліцыю.

Дуброўскі ўсміхнуўся дзіцячай рэзкасці юнака, а потым падумаў: «Хутка ўвесь горад будзе ведаць пра смерць Рутэніч. Таму які сэнс хаваць гэтую вестку ад яго?»

— Забілі заўчора ноччу Соф'ю Станіславаўну, Эдзік, і ты быў адным з апошніх, хто бачыў яе жывой.

— Забілі, — ад нечаканасці ў хлопца адвісла ніжняя сківіца. — Як забілі? Я ж заўчора… — у яго вачах заблішчэлі слёзы.

— Вось пра гэта я і хачу пагаварыць з табой, — капітан выключыў магнітафон, крыху пачакаў, пакуль да суразмоўцы дойдзе сэнс сказанага, і толькі потым запытаўся: — Якой яна была ў той вечар? Магчыма, кагосьці чакала? Пра што вы размаўлялі? Ці не заўважыў ты нечага незвычайнага на яе панадворку, у хаце?

— Усё было як звычайна. Яна падзякавала за клопат і паставіла лекі ў шафу. Потым мы пілі гарбату і размаўлялі пра розныя гістарычныя казусы. Яна, хоць і старая, але ведае іх мноства.

— Што за казусы? — міжволі пацікавіўся Дуброўскі і адразу ж пашкадаваў, бо разгадка гістарычных задачак у яго абавязкі не ўваходзіла.

— Ды так, дробязь. Баба Соф'я даўным-даўно выкладала ў школе гісторыю і ведае шмат займальнага і цікавага з далёкай мінуўшчыны нашага краю. Тут жа яна раскапала звесткі пра пярсцёнак Соф'і Палеалог, які называецца «Вока д'ябла», сабрала ўсё ў адну папку і прапанавала мне разгадаць тое месца, дзе ён цяпер знаходзіцца.

— Гэта што — гульня ў вас такая?

— Ну, нешта падобнае на галаваломку. Адным словам — гульня.

— Як Рутэніч сябе паводзіла ў той вечар?

— Звычайна. Распытала мяне пра вучобу, пра нашых выкладчыкаў. Крыху пагутарылі пра гісторыю. Потым яна аддала мне папку і я пабег на аўтобус.

— Чаму пабег?

Хлопец збянтэжана замоўк, пачухаў патыліцу.

— З Крысцінай у кіно дамовіліся схадзіць.

— Схадзілі?

— Схадзілі.

І, бы ў пацверджанне слоў хлопца, рэзка і настойліва зазвінеў званок на заняткі. Эдзік падскочыў з лавы, але стрымаўся, не пабег, вінаватымі вачыма паглядзеў на капітана.

— Бяжы, — з усмешкай дазволіў Дуброўскі і засмяяўся ўнутраным смехам, назіраючы, як хлопец, падхапіўшы свой магнітафон, хутка паімчаў да ўваходных дзвярэй будынiны. — Толькі пра тэму нашай гутаркі нікому не расказвай і, калі ўспомніш нешта, звані ў аддзел.

— Добра, — ужо ад дзвярэй прагучаў адказ.

І ўсё ж Нікіцін капітану спадабаўся. Чым — цяжка сказаць. Магчыма, сваёй прамалінейнасцю і непасрэднасцю; магчыма, дзіцячай шчырасцю і ўнутранай дабрынёй, якіх так не хапае моладзі; магчыма, сваёй упартасцю, аднак, як бы там ні было, Дуброўскі паверыў хлопцу і, на ўсялякі выпадак прыхапіўшы пустую бутэльку з-пад ліманада, з якой піў Эдзік, накіраваўся да аўтобуснага прыпынка.

## 6.

У аддзяленне Дуброўскі вярнуўся апоўдні. Перадаў на экспертызу пустую бутэльку і накіраваўся ў свой кабінет.

Кабінет капітан дзяліў з Кармухіным. Абстаўлены ён быў сціпла: з мэблі — два пісьмовыя сталы і чатыры крэслы. Ля кожнага стала грувасціліся старыя, пафарбаваныя ў шэры колер сейфы, на адным з якіх мякка цурчаў невялікі пакаёвы вентылятар, на другім стаяла пішучая машынка.

Стол капітана ўпрыгожвала цяжкая, з літай бронзы настольная лямпа, якую ён некалі знайшоў у пакінутым доме і сам адрамантаваў. На сцяне за яго спінай вісеў план-карта горада, а побач з ім — яркі каляндар за мінулы 1984 год.

Кармухін ужо быў на месцы. Ён сядзеў за сталом і ўважліва вывучаў нейкія паперы.

— Чым займаешся? — Дуброўскі падышоў да акна і адчыніў фортку. — Спякотна сягоння.

Потым некалькі імгненняў пастаяў насупраць вентылятара, адшпіліў гальштук і сеў за свой стол.

— Што знайшоў цікавага ў хаце Рутэніч?

Старшы лейтэнант адклаў на край стала паперы, чамусьці ўздыхнуў і няўпэўнена паціснуў плячыма:

— Нічога цікавага я там не знайшоў. Грошы ляжалі ў бляшанцы, бялізна ў шафе складзена акуратна, тайнікоў няма. Усё як у звычайнай адзінокай пенсіянеркі — бедненька, але чыста. Ліхтарык, які ляжаў на кухонным стале, я аддаў Сан Санычу. Праўда, у мяне склалася ўражанне, што нехта рыўся ў яе кніжных шафах, пыл на кнігах вельмі ўжо сцёрты неаднолькава.

— А вакол дома агледзеўся?

— Знайшоў я там падазронае месца ў кустах бэзу.

— Акуркі, запалкі, абгорткі цукерак?

— Нічога такога там не было. Там нават ніводнай галінкі не зламана.

— Вось халера! — вылаяўся Дуброўскі. — За што ж тут зачапіцца?

— А Эдзік Нікіцін табе што расказаў?

— А-а, таксама пустышка, — капітан махнуў у адчаі рукой. — Ён нябожчыцы лекі час ад часу прыносіў… Ладна, Сяргей, давай разважаць… У восем гадзін вечара старая яшчэ была жывой. Потым яна знутры зачыніла дзверы на кручок і пайшла спаць. Так?

— Магчыма.

— Потым яе наведаў забойца. Ён атруціў сабаку і нейкім чынам угаварыў Соф’ю Станіславаўну адчыніць яму дзверы… Запісвай пытанні: калі сабака на яго не брахаў, то навошта было яго чапаць, а калі брахаў, то як забойца здолеў атруціць жывёлу? Дзе ён узяў цыяністы калій? Далей, калі нябожчыца ўпусціла ў хату забойцу пасярод ночы, то яна яго добра ведала і не баялася — інакш патэлефанавала б нам. Калі ж яна яго не ведала, то што ён мог ёй такое сказаць, каб яна адчыніла дзверы? Калі б зайшоў знаёмы, яны гутарылі б на кухні, а не ў вітальні. Значыцца, яны былі добра знаёмымі, але варагавалі.

— Але ж пра ворагаў забітай ніхто з суседзяў нічога не чуў.

— М-да, другі дзень следства, а мы ўсё топчамся на месцы — ні табе годных версій, ні табе зачэпак... Каму патрэбна смерць васьмідзесяцігадовай старой?

І, бы ў адказ на пытанне капітана, на яго стале зазваніў тэлефон.

— Капітан Дуброўскі слухае, — звыклай фразай адказаў ён. Потым з хвіліну слухаў нечы маналог і ўрэшце прапанаваў нябачнаму субяседніку: — А ты, Эдзік, заходзь да нас у аддзяленне, тут і пагаворым.

Паклаўшы слухаўку, Дуброўскі некалькі імгненняў невідушчым позіркам глядзеў некуды на сцяну, потым схамянуўся.

— Разумееш, усё супраць Нікіціна ў гэтай справе: і час забойства падыходзіць, і ўцякаў ён з нейкімі паперамі, і маці яго працуе ў аптэцы, а значыцца, там ён мог украсці атруту — ну, усё супраць яго, быццам нехта наўмысна хоча падставіць гэтага хлапчука пад меч Феміды.

— А што ён па тэлефоне табе казаў?

— Сказаў, што ўспомніў цікавую акалічнасць пра сабачку нябожчыцы…

У гэты момант дзверы адчыніліся і ў іх праёме паказалася постаць Сан Саныча.

— Я да вас мімаходам, хлопцы. Проста хачу паведаміць, што адбіткі пальцаў на ліхтарыку з кватэры Рутэніч і адбіткі з бутэлькі, што прынёс ты, Юра, супадаюць, — эксперт кіўнуў галавой: — Ну, думайце далей, — і зачыніў дзверы.

— Вось і яшчэ адзін доказ супраць Нікіціна. Няхай і ўскосны, але ўсё ж!

— Ды які гэта доказ? Хлопец і не адмаўляе свайго візіту да старой настаўніцы, але і сапраўды складваецца ўражанне, што нейкі вопытны лялькавод кіруе яго дзеяннямі.

— Прычым лялькавод жорсткі, цынічны, — Дуброўскі крыху падумаў і дадаў: — І амаральны. Падставіць пад удар закону дзіця — гэта можа зрабіць толькі маральны вылюдак, які сам ніколі не меў дзяцей.

— Атрымліваецца такі профіль злачынцы: худы, бо часцей за ўсё менавіта худыя бываюць жорсткімі; адзінокі ці разведзены; узрост недзе за сорак, бо ўжо страціў надзею мець дзяцей; мае частыя стасункі з Нікіціным, прычым даверлівыя стасункі, але чамусьці не любіць гэтага хлопца.

— А чаму не любіць?

— Тут можа быць некалькі варыянтаў. Па-першае: нянавісць да некага з яго бацькоў. Па-другое: зайздрасць да рысаў характару самога Нікіціна, яго працавітасці, незалежнасці, шчырасці, сумленнасці. Па-трэцяе: хлопец проста выпадкова патрапіў пад раздачу.

— Я б яшчэ дадаў, што гэта хітры і асцярожны чалавек, — капітан падняўся з крэсла і прайшоўся па кабінеце. Урэшце справа зрушылася з мёртвай кропкі. Няхай гэты рух нязначны і больш уяўны, але ўсё ж такі рух, а не таптанне на месцы. — Нам трэба асцярожна пагутарыць з бацькамі Эдзіка Нікіціна, ці не мелі яны некалі нядобразычліўцаў, пагаварыць з самім хлопцам пра яго блізкае акружэнне, яшчэ раз апытаць суседзяў Рутэніч — магчыма, яны бачылі некага, хто збольшага падыходзіць пад апісанне злачынцы. Так што, паважаны Сяргей Віктаравіч, збірайся і зноў едзь на Пясчаную апытваць суседзяў…

— Ды яны хутка хавацца ад мяне будуць.

— Наадварот, ты хутка станеш для іх амаль родным чалавекам.

У гэты момант у дзверы нясмела пагрукаліся, і ў праёме паказалася ўскудлачаная хлапечая галава.

— Можна?

— Заходзь, Эдзік, — Дуброўскі спыніўся пасярод кабінета, пачакаў, пакуль зойдзе хлопец, і толькі потым падышоў да свайго стала, кіўнуў галавой на крэсла, — сядай.

Хлопец сеў у жорсткае крэсла і амаль адразу загаварыў. Па ўсім было відаць, што навіна, якую ён збіраўся паведаміць міліцыянерам, была вельмі важнай.

— Пасля размовы з вамі, таварыш капітан, я ўсё імкнуўся ўспомніць, што мяне ў той вечар здзівіла, што падалося нязвыклым… У бабы Соф'і ёсць сабака па мянушцы Пушок. Добры сабачка, ласкавы, і мы з ім неяк з першай сустрэчы знайшлі агульную мову. Ён ніколі не брэша на мяне, і я заўсёды стараюся быць з ім ласкавым: пачашу за вухам, пагладжу, пагутару, адным словам — мы з ім сябруем. Пушок не брэша яшчэ на цётку Ксенію, якая раніцай прыносіць бабе Соф'і малако. І ўсё, больш нікога без брэху да хаты Пушок не падпусціць…

— Гэта цікава, — ад свайго стала заўважыў Кармухін, — але якое дачыненне да смерці Рутэніч мае тваё сяброўства з сабакам? Ды і атруцілі твайго Пушка той жа ноччу.

— Як атруцілі? — вочы юнака расшырыліся, палыхнулі шаленствам, і ён нават прыўзняўся над крэслам, аднак праз імгненне, абяссілены і разбіты нечаканым паведамленнем, апусціўся назад. — Як атруцілі? — у гэтым усхліпе ўжо адчуваўся боль, бездапаможнасць і прадчуванне таго, што юнак вось-вось заплача.

— Супакойся, Эдзік, — Дуброўскі наліў у шклянку вады, з дакорам паглядзеў на напарніка. Той пацiснуў плячыма, ніякавата ўсміхнуўся: «Адкуль я ведаў?» — і выйшаў з кабінета. — На вось, папі вады.

Але ад вады хлопец адмовіўся і ўпэўнена заявіў:

— Яго не маглі атруціць, бо ежу ён бярэ… — Эдзік па-дзіцячы шморгнуў носам і выправіўся: — Браў толькі з рук бабы Соф'і. Ну, яшчэ ад мяне прымаў пачастункі і ўсё — больш ніхто не мог яго пакарміць. Ніхто!

— А ў той вечар ты прыносіў Пушку пачастунак?

— Я яму заўсёды купляў сто — сто пяцьдзясят грамаў ліварнай каўбасы… Але ж не мог ён атруціцца каўбасой? — юнак з надзеяй паглядзеў у вочы суразмоўцы. — Я ж яе ў краме купляў, свежую…

Пакуль Эдзік перажываў смерць сабакі, Дуброўскі разважаў: калі сабака і сапраўды браў ежу толькі з рук гаспадыні і вось гэтага хлопца, то атруціўся ён, хутчэй за ўсё, каўбасой, а гэта значыць, што забойца — Эдзік. Няўжо і сапраўды Эдзік? Няўжо ён толькі грае ролю невінаватага? Калі так, то ён геніяльны акцёр! Аднак навошта яму смерць старой настаўніцы? Што ў яе, акрамя жыцця, можна было ўзяць? Ён кажа, што яна дала яму папку з нейкай гістарычнай задачай. Але ці не хлусіць ён і ці ёсць яны, такія задачы? Трэба праверыць. Калі ж хлопец не вінаваты, то хто мог атруціць каўбасу? Хто ведаў, што менавіта ў гэты дзень Эдзік панясе менавіта гэту каўбасу Пушку, а не з'есць яе сам? Хто так рызыкаваў? І дзе?

— Паслухай, Эдзік, — капітан дакрануўся сваёй далонню да рукі хлопца, — давай пагутарым па-даросламу сур'ёзна, грунтоўна, паспрабуем акрэсліць кола тых людзей, якія ведалі пра твае паходы да Рутэніч, тваё сяброўства з Пушком, пра пачастункі для сабакі. Вось скажы: ваша сям'я мае ворагаў, зайздроснікаў ці нядобразычлівцаў? Можа, чуў што-небудзь ад бацькоў?

Хлопец здзіўлена акругліў вочы:

— Не, мае бацькі сціплыя, добрыя і сумленныя людзі і, наколькі ведаю я, іх усе паважаюць.

— А хто ведаў, што ты носіш лекі Рутэніч?

— Многія. У аптэцы ведалі, мае сябры ведалі. Я і не хаваў гэтую інфармацыю.

— Раскажы, як у цябе прайшоў той дзень. Раскажы ўсё, што помніш, з падрабязнасцямі, бо любая дробязь можа аказацца важнай.

Эдзік крыху памаўчаў, збіраючыся з думкамі і прыпамінаючы той дзень. Свой расповед ён пачаў з раніцы.

— Прачнуўся я, як заўсёды, на пачатку восьмай. Бацька ўжо пайшоў на працу, ды і маці збіралася адыходзіць у сваю аптэку. Устаў, памыўся, паснедаў і адправіўся ў тэхнікум «грызці граніт навукі». На заняткі я заўсёды хаджу пешшу, бо прайсціся чатыры аўтобусныя прыпынкі для мяне задавальненне, размінка. У той дзень я не думаў, што трэба будзе несці лекі бабе Соф'і, таму пагадзіўся з хлопцамі пасля заняткаў згуляць у футбол з 24-й групай. У нас заняткі закончыліся крыху раней, таму я вырашыў схадзіць да маці ў аптэку. Там яна мне перадала лекі і грошы. Я купіў па дарозе марожанае і крыху ліверкі для Пушка. Хто бачыў, як маці перадала мне каробачку з лекамі? — Эдзік падумаў і няўпэўнена прагаварыў: — Ды, здаецца, ніхто... Потым я вярнуўся ў тэхнікум і пайшоў у распранальню, дзе мае аднагрупнікі ўжо

рыхтаваліся да гульні. Пасля матча многія хлопцы з нашай групы збіраліся ісці ў кінатэатр, але я адмовіўся, бо ўжо меў два квіткі на вячэрні сеанс. Ім жа я патлумачыў сваю адмову тым, што мне трэба занесці хвораму чалавеку лекі, а для вернасці дадаў, што ўжо і каўбасы купіў сабаку. Гэта чулі хлопцы і з нашай групы, і з дваццаць чацвёртай…

— А з дарослых у той час у распранальні быў хто-небудзь?

— Віктар Сцяпанавіч быў, выкладчык фізкультуры. Ён судзіў гульню… Яшчэ ля дзвярэй Генадзь Сяргеевіч размаўляў з нашым слесарам, які рамантаваў дзвярны замок. Потым дырэктар некуды пайшоў, а слесар, дзядзька Грыша, застаўся. Матч мы ганебна прайгралі, таму настрой у мяне быў паганы і пасля гульні я адразу пайшоў дадому. Недзе каля шасці з работы прыйшла маці, і а палове на сёмую адправіла мяне да бабы Соф'і. Але ля аўтобуснага прыпынка я сустрэў Крысціну, якая вярталася з музычнай школы, і праводзіў яе да пад'езда… Ну, а далей вы і самі ўсё ведаеце.

— Па дарозе нікога не сустрэў са знаёмых?

— Нікога.

— А пра што ты хацеў мне расказаць па тэлефоне?

— Я ўспомніў, што ў той вечар Пушок мяне не праводзіў да веснічак, як гэта рабіў раней, але я тады так спяшаўся, што не звярнуў увагі. Я нават забыўся ў бабы Соф'і свой ліхтарык.

— І дзякуй Богу, што не звярнуў увагі. А калі б звярнуў, вярнуўся ды пачаў шукаць сабаку? А калі б знайшоў яго мёртвым? Ты б паспрабаваў падняць шум, кінуўся б да тэлефона. Так? — Эдзік кіўнуў галавой. — А забойца чакаў недзе побач, і шум яму быў без патрэбы. Ты, хлопец, сам знаходзішся на валасінку ад смерці, ды і цяпер нехта ўпарта імкнецца перакласці забойства на твае плечы, — Дуброўскі падняўся з-за стала, выплюхнуў са шклянкі пад фікус ваду, наліў свежай, выпіў. — Калі б ты быў дарослы, то на час следства я схаваў бы цябе ў адзіночнай камеры. Гэта я зрабіў бы для таго, каб заспакоіць злачынцу, запэўніць яго ў тым, што мы заглынулі яго прынаду і тады, магчыма, ён дапусціў бы нейкую памылку. Таму, Эдзік, будзь вельмі асцярожны. І яшчэ: калі нехта будзе пытацца ў цябе пра бабу Соф'ю — неадкладна тэлефануй мне… Дарэчы, што за папку яна табе перадала?

— У той вечар яна расказвала мне пра пярсцёнак Соф'і Палеалог, маці вялікага князя маскоўскага Васілія III. Аднак я спяшаўся, не меў часу слухаць яе расповед, і таму яна гвалтам упіхнула мне тую папку. Я яе, калі шчыра, яшчэ і не адкрываў.

— Сягоння пасля працы я зайду да вас і мы разам паглядзім, што знаходзіцца ў той папцы. Згодны?

— Калі ласка.

## 7.

Як і абяцаў, а шостай гадзіне вечара капітан Дуброўскі стаяў ля дзвярэй кватэры Нікіціных. Не паспеў ён націснуць на кнопку электразванка, як дзверы адчыніліся, і ў праёме ўзнікла хударлявая, гадоў трыццаці пяці жанчына. Убачыўшы міліцыянера, яна разгубілася, машынальна зрабіла крок назад, аднак ручку дзвярэй з рук не выпусціла.

— Вам каго? — у яе голасе яскрава гучала надзея, што таварыш міліцыянер памыліўся нумарам, зараз папросіць прабачэння і пойдзе сваім шляхам. Аднак той і не збіраўся сыходзіць.

— Я да Эдзіка.

Жанчына разгубілася яшчэ больш. У яе шэрых, колеру польскіх джынсаў «Одра» вачах затанчылі палахлівыя агеньчыкі. Яна нават пачала заікацца.

— А што ён нарабіў?

— Ды супакойцеся вы, — Дуброўскі за восем гадоў службы ніяк не мог зразумець, чаму звычайныя людзі так панічна баяцца міліцыі, і часта, чытаючы ў іх вачах страх, пачынаў злавацца. — Я да яго па прыватнай справе.

Жанчына яшчэ крыху падумала, потым шырэй адчыніла дзверы і паспрабавала ўсміхнуцца:

— Заходзьце, калі ласка.

Эдзік паўляжаў на канапе ў сваім пакоі і чытаў нейкі падручнік. На стале ціха шамацеў магнітафон. Прыход капітана яго і не здзівіў, і не напалохаў. Наадварот, ён абрадаваўся.

— Праходзьце, таварыш капітан, — ён жвава падскочыў на ногі, паклаў на шафу падручнік, крыху адцягнуў ад стала крэсла, — сядайце. — Потым звярнуўся да жанчыны, што не адыходзіла ад дзвярэй: — Усё нармальна, мама. Мы проста крыху пагутарым.

Жанчына згодна кіўнула галавой і пайшла на кухню заварваць гарбату.

Калі Дуброўскі ўладкаваўся за сталом, Эдзік паклаў перад ім тонкую патрапаную папку і развязаў матузкі.

У папцы знаходзілася некалькі стандартных аркушаў паперы, перахопленых у верхнім левым кутку металічнай сашчэпкай. Дзякуючы добрай якасці кардону, паперы, напісаныя шмат гадоў таму, зусім не пацярпелі — толькі лісты крыху пажаўцелі, ды чарніла змяніла свой колер з сіняга на серабрысты.

Дуброўскі расчаравана агледзеў аркушы, пахваліў почырк: «Зараз так не пішуць» — і недаверліва скасіўся на Эдзіка:

— І гэта ёсць гістарычная задачка? — ён зноў склаў усё ў папку і надзейна, на банцік, завязаў матузкі. — У чым яе сутнасць?

— Тут сабраны выпіскі з архіўных дакументаў, сведчанні відавочцаў, нечыя ўспаміны пра пярсцёнак «Вока д’ябла», і па гэтых дакументах трэба адказаць, дзе цяпер знаходзіцца пярсцёнак.

— Прама як у нас, — капітан зноў развязаў матузкі, дастаў паперы і стаў іх уважліва чытаць. Хвілін праз пятнаццаць ён закончыў чытанне, задаволена хмыкнуў: — І што, ёсць шанс знайсці срэбра, якое знікла сто пяцьдзясят год таму?

— Калі тут напісана праўда, то ёсць. Але ж баба Соф’я і сама любіла складаць такія задачы, магла крыху і падтасаваць факты. Я не думаю, што тут усё праўда.

— А шкада! Цікавая гісторыя магла б атрымацца з гэтымі грашыма. У той час за дзесяць тысяч палову вёскі можна было купіць. За такія грошы маглі пайсці і на забойства, і на здраду. А сёння за тое срэбра і кааператыў не пабудуеш, абясцэнілася яно ў наш час, — Дуброўскі падняўся з крэсла. — Выбачай, што адарваў цябе ад заняткаў.

У пярэдняй капітан развітаўся з гаспадыняй, якая ўжо збіралася несці ў пакой сына гарбату і бутэрброды, падзякаваў за гасціннасць, сам адчыніў дзверы і выйшаў на лесвічную пляцоўку.

А Эдзік усеўся ў крэсла, дзе нядаўна сядзеў яго госць, узяў у рукі старыя пажоўклыя аркушы і другі раз за вечар пачаў іх уважліва перачытваць...

З газеты «Харонгві свабоды», №2. 1863 год:

«Гародня. Атрад Замечка з 3500 чалавек мужна сустрэў Манюкіна, які хацеў атакаваць Сямяцічы. Маскалі пад трапным агнём адборных стралкоў Замечка і пад ударамі касінераў, якія паказваюць цуды гераізму, са стратай пары соцень чалавек мусілі ў той дзень адступіць.

У Пружанах 2 лютага 250 чалавек адбілі павятовую касу, з якой узята 10 808 рублёў срэбрам і ювелірныя ўпрыгожванні на суму 5000 рублёў, сярод якіх нейкім чынам аказаўся і старадаўні

пярсцёнак «Вока д'ябла». Праз Кобрынскі павет гэты атрад пасунуўся да Піншчыны. У цэлым паўстанцкія дзеянні ў Гродзенскай губерні развіваюцца ўжо мацней з мясцовых элементаў пад прыкрыццём суседніх дзеянняў у Каралеўстве.»

Смірноў А.Ф. «Восстание в Литве и Белоруссии», М. 1963., ст. 343:

«…Пружаны былі захоплены 1.02.1863 паўстанцкім атрадам Рагінскага, які прыйшоў сюды з-пад Сямяцічаў. Указаная ў «Харонгві свабоды» колькасць захопленых грошай дакладна адпавядае афіцыйным звесткам…»

Дзяржаўны гістарычны архіў Летувы (ДГАЛ), ф. 1135. воп. 4., спр. 381. арк. 2.

З успамінаў сястры Кастуся Каліноўскага  М.Плаўскай, 1905 год:

«…Косця і другі раз быў дома, але прабыў усяго толькі некалькі гадзін. Спачатку прайшоў атрад войска, тады і ён прыехаў з Ятвеска, маёнтка памешчыка Ляскоўскага. З ім быў другі чалавек, якога Косця відавочна вельмі паважаў, малады, але меў парадкам сівыя валасы. Пра што яны размаўлялі між сабой, я не разумела. Памятаю толькі, як малады казаў Кастусю, што людзі Рагінскага згубілі нейкае «вока д'ябла», а з ім пружанскую касу…»

ДГАЛ, ф. 946. воп. 42., спр. 297. арк. 211:

З ліста пад'есаула Сямёна Кнышава да сябра, прапаршчыка конна-аблегчанай батарэі 234-га палка Цімафея Звягінцава:

«...А заўчора ноччу прыбег да нас нейкі нямы дурань з запіскай. Есаул Федзька Загоін, ты яго не ведаеш, спрабаваў разабрацца ў напісаным, аднак хутка яму гэта надакучыла, і ён перадаў мне кавалак бруднай паперчыны. Там пісалася, што на ўскрайку вёскі Азярніца спыніўся невялікі атрад літоўскіх паўстанцаў, дзесяць чалавек. Спачатку мы падумалі, што нямы — гэта літоўскі лазутчык, аднак потым адкінулі гэтае меркаванне. На пытанне, хто яго паслаў, дурань жэстам паказваў доўгія валасы, што можна было зразумець і як поп, і як жанчына.

Федзька не стаў доўга дапытваць мужыка, і хутка мы імчалі да Азярніц. Там нямы паказаў нам хату, у якой, паводле яго звестак, начавалі касінеры. І сапраўды, не паспелі мы цалкам спешыцца, як ад хаты прагучаў стрэл і адзін з нашых казакоў схапіўся за параненае плячо.

Сялянскі двор мы акружылі. Загоін некалькі разоў прапаноўваў паўстанцам здавацца, аднак тыя адказвалі стрэламі. А потым з суседняга двара, ля веснічак якога рос дуб, выскачыў яшчэ адзін паўстанец і ўдарыў нам у спіну. Карыстаючыся нашай разгубленасцю, ён засек трох казакоў, і толькі трапны стрэл з рэвальвера спыніў гэтага вар'ята. Чаму ён накінуўся на нас, пайшоў на верную смерць? Чаму не ратаваўся, не ўцякаў у лес? Не ведаю.

Перастрэльваліся мы амаль да поўдня. За гэты час згубілі забітымі шэсць чалавек і мелі восем параненых — у тым ліку і мяне, твайго пакорлівага слугу, зачапіла літоўская куля. Калі Загоін убачыў, што перастрэлка прыносіць няшмат плёну, ён загадаў падпаліць двор, дзе знаходзіліся паўстанцы, а заадно і хату, з якой раніцай выбег касінер-самагубца.

Чалавек шэсць паўстанцаў выскачылі з ахопленай агнём хаты і пад прыкрыццём дыму кінуліся да недалёкага кустоўя. Магчыма, яны так і ўратаваліся б, але там аказалася незамерзлае балота, у якім мы іх лёгка ўсіх да аднаго і перабілі…

Не ведаю, ці дадасць годнасці нашаму эскадрону такая перамога, аднак есаул застаўся вельмі задаволены. Ён нават у нямога дурня паспрабаваў запытацца, хто паведаміў нам запіскай пра паўстанцаў, але той толькі мычэў і паказваў у бок хаты, якая дагарала, адкуль выскачыў вар'ят з шабляй. Так нічога і не зразумеўшы, мы пагрузілі на сялянскія санкі забітых і вярнуліся ў свой лагер…»

ДГАЛ, ф. 1354. воп. 14., спр. 418. арк. 71.

З успамінаў жыхара в.Азярніца Ігнацыя Кандрашэвіча, 1903 год:

«…Дробны паўстанцкі атрад, які прасоўваўся ў напрамку Вільні, затрымаўся на адпачынак у нашай вёсцы. Ранкам 20 ці 21 лютага ён быў атакаваны паўэскадронам лейб-казакаў. Паўстанцы мужна бараніліся да самага поўдня і нават застрэлілі некалькі казакаў і іх афіцэра, а калі маскалі падпалілі хату, усе яны пабеглі ратавацца да балота, дзе і загінулі. У вёсцы хадзілі чуткі, што тут не абышлося без здрады. Нават абвінавачвалі Ганну Пасібёнак, адзінокую ўдаву. Пачуўшы такое, Ганна наклала на сябе рукі…»

З успамінаў В. Федарака, г. Скідзель Гродзенскага раёна. 1963 год:

«Непадалёку ад вёскі Азёры Гродзенскага раёна ёсць месца, якое называецца Святым балотам. Побач з ім у 1863 годзе адбылася крывавая бітва паміж невялікім атрадам паўстанцаў пад камандаваннем Лянкевіча і царскімі казакамі. Сведка тых падзей — векавы дуб. За метраў 500 да Святога дуба ўсталяваны крыж. Справа ў тым, што не ўсім загінулым паўстанцам пашчасціла быць пахаванымі на могілках у Азёрах. Некалькі ваяроў загінулі ў балоце. За польскім часам жаўнеры павыцягвалі збольшага чалавечыя косці, склалі іх у адно месца, зрабілі, так сказаць, брацкую магілу, паставілі крыж. Там праводзіліся набажэнствы і, як меркавалася, з цягам часу пабудуецца каплічка. Але прыйшлі бальшавікі і ўсё зруйнавалі. Застаўся толькі велічны дуб…»

## 8.

Раніцай капітан Дуброўскі дакладваў свайму начальніку аддзялення пра ход справы па раскрыцці забойства старой настаўніцы. Той уважліва слухаў падначаленага, не перапыняў яго, не ўдакладняў. Урэшце, калі капітан замоўк, палкоўнік Рабчыкаў падвёў выснову:

— Я так разумею, што два дні пошуку не далі аніякага выніку, што гэты час вы, капітан, са сваім напарнікам змарнавалі дарэмна, і справа настаўніцы нават не зрушылася з мёртвай кропкі! Я правільна зразумеў вас, таварыш капітан?

— Няправільна, таварыш палкоўнік. Я расказаў вам аб праведзенай працы, а вынікі яе мы ўбачым на днях, а, магчыма, ужо і заўтра.

Палкоўнік уважліва паглядзеў на капітана, крыху падумаў.

— Што ж, даю вам з Кармухіным яшчэ суткі, а потым ужо выбачай, таварыш капітан, — буду рабіць высновы.

— Мне патрэбна дапамога.

Начальнік на імгненне сцяўся, падрыхтаваўся сказаць падначаленаму нешта крыўднае, колкае, аднак, убачыўшы халодную рашучасць у яго вачах, запытаўся:

— Якая дапамога табе патрэбна?

— Мне трэба супрацоўніца міліцыі, якая валодае прыёмамі рукапашнага бою і ўмее добра страляць.

— Будзе табе такая супрацоўніца, — паабяцаў палкоўнік.

## 9.

Вёска Азёры нічым не адрозніваецца ад тысяч і тысяч невялікіх беларускіх паселішчаў. Гэткія ж аднапавярховыя драўляныя хаты на ўскрайках і цагляныя двухпавярховыя дамы ў цэнтры. Крамы, сярэдняя і музычная школы, дом культуры, пошта, камбінат бытавога абслугоўвання і ў дадатак, як сімвал верацярпімасці беларусаў, — абавязковыя касцёл і царква.

І жыццё там нічым не адрозніваецца ад жыцця звычайнай вёскі, такое ж ціхае, размеранае, непрыкметнае.

Летам вяскоўцы занятыя працай з ранку да позняга вечара, таму ніхто з іх не звярнуў увагі на чырвоныя «Жыгулі», якія павольна кацілі па цэнтральнай вуліцы.

«Жыгулі» спыніліся ля пошты. З іх выйшаў невысокі рухавы чалавек у сонечных акулярах. Ён нейкі час пастаяў ля машыны, падумаў, але ў аддзяленне сувязі не пайшоў, спыніў дзяўчынку-падлетка і запытаўся пра Святы дуб. Тая з ахвотай паказала, дзе знаходзіцца мясцовая славутасць і растлумачыла, як да яе праехаць.

Аднак машына паехала не да дуба, а да сельскага савета. На гэты раз шафёр ужо не стаяў ля машыны і не раздумваў. Ён увайшоў у будыніну сельсавета і адразу накіраваўся да яго старшыні.

— Супрацоўнік абласнога краязнаўчага музея Мікалай Іванавіч Коўтун, — прадставіўся ён маладому, гадоў трыццаці, старшыні сельсавета і паказаў нейкую кніжачку ў чырвонай вокладцы.— Мы збіраем новую экспазіцыю, прысвечаную паўстанню Кастуся Каліноўскага. Хочам зрабіць здымкі месцаў, дзе некалі нашы землякі са зброяй у руках спрабавалі выступіць супраць ненавіснага царызму, запісаць мясцовыя паданні, легенды.

— У нашым школьным музеі ёсць некалькі экспанатаў тых часоў, — старшыня ажно плавіўся ад уласнай важнасці. — Можна распытаць старажылаў...

— Не, калаўротаў і прасаў у нас хапае, — усміхнуўся абласны краязнаўца. — З вашага дазволу, мы самі пагутарым з людзьмі, пашукаем экспанаты, пафатаграфуем.

— Шукайце, — міласціва дазволіў старшыня. — Я не супраць.

Падзякаваўшы і развітаўшыся са старшынёй, супрацоўнік музея выйшаў на вуліцу і паказаў вялікі палец свайму сябру, які знаходзіўся ў машыне. Потым адчыніў дзверцы і дадаў: «Доўбня, нават не праверыў пасведчанне. Зараз мы з яго дазволу перакапаем усю пляцоўку ля дуба».

— Усю не трэба. Капаць будзеш там, дзе я пакажу.

На гэты раз «Жыгулі» ўпэўнена паехалі ў напрамку Святога дуба.

Не даязджаючы да магутнага дрэва метраў дваццаць, машына спынілася. Абодва, кіроўца і пасажыр, выйшлі з яе, агледзеліся. Навокал было ціха. Яно і зразумела — лета. Летам вясковаму чалавеку не да забаў, не да адпачынку, а таму невялікая двухмесная палатка, якую яны ўбачылі на ўзлеску, выглядала нейкай недарэчнасцю, дурным жартам. Аднак палатка існавала рэальна, стаяла за некалькі дзясяткаў метраў ад дуба, і з яе чэрава час ад часу даносіўся звонкі жаночы смех.

— Чорт бы вас пабраў! — вылаяўся пасажыр. — Сямён, разбярыся, што за турысты жывуць у той палатцы.

— А што я ім скажу?

— Ну, прысаром іх за тое, што адпачываюць на месцы гібелі людзей. Дадай, што будзеш скардзіцца ў сельсавет, калі яны тэрмінова не з’едуць адсюль.

— Добра, прыдумаю што-небудзь.

Пакуль Сямён размаўляў з жыхарамі палаткі, старшы супрацоўнік музея забіў некалькі калкоў, дастаў з кішэні рулетку і пачаў ля дуба рабіць нейкія вымярэнні. Хутка далучыўся і яго таварыш.

— Не хочуць яны з’язджаць сягоння, — Сямён быў расчараваны і кіпеў гневам. — Дазволь мне пагутарыць з імі па-іншаму, прывесці больш важкія аргументы.

— Я з імі сам пагутару. Потым, — старшы закончыў вымярэнні, забіў у зямлю чарговы калок, нядобрым позіркам паглядзеў на палатку, уздыхнуў. — Нясі, Сёма, металашукальнік. Будзем працаваць.

— А гэтыя?

— Па абставінах.

Сямён прынёс самаробны металашукальнік, падаў старшаму. Той шчоўкнуў клавішай, надзеў навушнікі і, пачынаючы ад цэнтральнага калка, павольна пачаў рухацца па спіралі. Праз некалькі хвілін ён спыніўся, скамандаваў:

— Забівай калок тут.

Пахадзіўшы ля дуба з паўгадзіны, старэйшы ўрэшце спыніўся, зняў навушнікі.

— Срэбра там, — кіўнуў ён на калок, нядаўна забіты ў зямлю Сямёнам. — Трэба капаць.

— А гэтыя?

— Будуць перашкаджаць — прагонім, пакажам пасведчанне, не паслухаюцца… Ну тады ўжо ты, Сёма, выкажаш ім свае аргументы. Дарэчы, што за людзі ў палатцы?

— Хлопец з дзяўчынай. Яму гадоў дваццаць пяць, ёй дзесьці дваццаць.

Старэйшы працягнуў Сямёну металашукальнік.

— Занясі яго ў машыну, потым бяры рыдлёку і пачынай капаць. А я схаджу да нашых непажаданых суседзяў, паспрабую дамовіцца з імі.

Сямён паціснуў плячыма: «Паспрабуй» — і пайшоў да машыны.

Старшы краязнаўца накіраваўся да палаткі. Не даходзячы да яе некалькі крокаў, ён спыніўся — нейкае непрыемнае пачуццё халодным туманам заклубіліся ў яго грудзях. «Што гэта? — падумаў ён. — Прадчуванне небяспекі ці сорам?» Хаця, які сорам можа быць у яго, пяцідзесяцігадовага мужыка? Ён нават забыўся гэтае слова і цяпер са здзіўленнем гадаў, адкуль яно ўсплыло ў памяці. Небяспека? Ад каго? Ад гэтых дзяцей? Але ўсё роўна ў палатку заходзіць не хацелася. І ўсё ж такі ён перамог свой страх, адхінуў край палаткі, зрабіў крок уперад і першае, што там убачыў — ледзяныя вочы хлопца, а ўжо потым — пісталет у яго руцэ.

— Заходзьце, Генадзь Сяргеевіч, — спакойным голасам прагаварыў Кармухін, і ў яго спакоі краязнаўца беспамылкова адчуў бязлітасную рашучасць у любы момант націснуць на курок. — Толькі не трэба глупстваў.

## 10.

Раніцай наступнага дня капітан Дуброўскі і яго напарнік старшы лейтэнант Кармухін тапталіся ля дзвярэй палкоўніка Рабчыкава. Начальнік аддзялення затрымліваўся, і гэта было дзіўным. Сябры ўжо пагаманілі пра справы, расказалі апошнія анекдоты і цяпер толькі гадалі — дзе можа затрымацца іх начальнік.

Урэшце палкоўнік Рабчыкаў з'явіўся ў калідоры, кіўком галавы павітаўся з падначаленымі, запрасіў у кабінет.

— Пакуль не ведаю, што з вамі рабіць, — сядаючы ў крэсла, прамовіў ён і дадаў: — Караць вас ці мілаваць, — і махнуў рукой: — Сядайце.

— За што ж нас караць, таварыш палкоўнік?

— А вы б чулі, як ва ўпраўленні мне выказвалі незадаволенасць арыштам дырэктара тэхнікума. Чаму без іх санкцыі? Чаму праз іх галаву? Дзе доказы?

— Усё будзе, Мікалай Васільевіч, — усміхнуўся Дуброўскі, уявіўшы, як іх камандзір стаяў перад генералам як у шыхце. — Доказаў будзе не толькі на доўгі тэрмін зняволення, але і на «вышку» хопіць — следчы пракуратуры Вансовіч ужо пастараецца, ён хлопец талковы.

Палкоўнік палагаднеў:

— Добра, Юра, менш філасофіі, не цягні ката за хвост. Расказвай, як вылічыў душагуба.

— Тут, таварыш палкоўнік, усё так пераплецена, што я нават не ведаю, з чаго пачаць.

— З чаго хочаш, я зразумею.

Дуброўскі крыху падумаў і пачаў свой расповед.

— Першы званочак празвінеў у мяне ў галаве, калі мы даведаліся пра незнаёмца з чырвонай машынай, які хадзіў на Пясчаную, толькі вось да каго — ніхто не ведаў.

— Мы яго назвалі «палюбоўнік».

— Ён самы. Другі званок — калі Сярога знайшоў месца, адкуль «палюбоўнік» вёў свае назіранні за домам Рутэніч. Трэці — смерць сабакі, бо каўбасу мог атруціць толькі дарослы, а такіх, хто пра яе ведаў, было трое: настаўнік фізкультуры, але ён не мог гэтага зрабіць, бо судзіў гульню; слесар і дырэктар тэхнікума. Слесар — прапойца, а значыць чалавек слабы і баязлівы. Застаецца дырэктар. Аднак сапраўдны перазвон пачаўся ў маёй галаве ноччу пасля таго, як я днём наведаў тэхнікум і пасля вячэрняй гутаркі з Нікіціным Эдзікам. Яшчэ ў тэхнікуме я са здзіўленнем адзначыў, што дырэктар ведае прафесіі і пасады бацькоў усіх сваіх студэнтаў і адзін-два разы ў год наведвае іх. І хаця знаёміцца з умовамі жыцця сваіх выхаванцаў — гэта абавязак кіраўніка, тут не падкапаешся, аднак ноччу я раптам зразумеў, што ўсе нераскрытыя намі крадзяжы аб'ядноўвае адно — нехта з дзяцей абрабаваных сем'яў вучыцца ў тэхнікуме сувязі. Так я сур'ёзна западозрыў дырэктара тэхнікума, і адразу ўсё ідэальна стала на месцы: ён наведвае сем'і, ацэньвае іх заможнасць, а потым на аблюбаваныя кватэры наводзіць сваіх саўдзельнікаў. На другі дзень я пацікавіўся ў суседкі дырэктара, ці ёсць у таго госці. «Ёсць, — адказала яна, — двое гасцююць ужо з месяц».

— Тут усё зразумела, малайчына. А вось адкуль усплылі гэтая Азёры ці як іх там? Як ты вылічыў гэтую Богам забытую вёску?

— Мне дапамог Нікіцін Эдзік. У яго была папка ад Рутэніч з выпіскамі з нейкіх архіваў…

— А-а, гістарычная задачка! — узрушаны ўспамінамі юнацтва, палкоўнік адкінуўся на спінку крэсла. — У свой час Соф'я Станіславаўна праз такія задачы вучыла нас шукаць і даведвацца пра такое, чаго нават многія настаўнікі гісторыі не ведалі. Любілі мы разгадваць іх, але толькі потым я даведаўся, што некаторыя яна прыдумвала сама… Прабач, што перабіў.

— Я прачытаў тыя выпіскі, нешта зразумеў, нешта — не, а раніцай мне патэлефанаваў Эдзік і прапанаваў тэрмінова сустрэцца. Аказваецца, вечарам ён рашыў задачу і дакладна вызначыў месца, дзе трэба шукаць згублены сто пяцьдзясят год таму скарб.

— Ну-ка, ну-ка раскажы. Цікава.

— Гісторыя гэта даўняя, і пачалася яна першага лютага 1863 года, калі атрад беларускіх паўстанцаў пад кіраўніцтвам Рагінскага адбіў у маскоўцаў казну і захапіў касу у памеры 10 808 рублёў срэбрам. Там жа знаходзіліся і ювелірныя вырабы, у прыватнасці, пярсцёнак маці нейкага маскоўскага князя, і называлі гэты пярсцёнак «Вока д'ябла»…

— Цьфу на іх! Прыдумаюць жа назву.

— Дык вось, Рагінскі адправіў захопленую казну ў Вільню ў суправаджэнні дзесяці верных людзей, старэйшым сярод якіх назначыў збяднелага шляхціца Лянкевіча. Некалькі дзён ішоў невялікі атрад з Палесся ў Вільню, а ў дваццатых чыслах лютага наблізіўся да Азёраў, тады яны называліся Азярніцы. Лянкевіч быў родам з гэтай вёскі, а таму прапанаваў сябрам зайсціся да яго бацькоў, памыцца ў лазні, адпачыць і назаўтра прадоўжыць шлях. Сябры пагадзіліся і размясціліся ў хаце бацькоў шляхціца. Сам жа Лянкевіч пайшоў начаваць да сваёй

палюбоўніцы — удавы, якая жыла непадалёку ад яго бацькоў. З сабой ён забраў і куфэрак з грашыма, бо галавой адказваў за яго захаванне. Удава ўбачыла грошы і задумала каварны план: яна напаіла шляхціца гарэлкай і, пакуль ён спаў, паслала свайго слугу з запіскай да казакаў, эскадрон якіх кватараваў у суседняй вёсцы. Казакі прыбылі хутка, акружылі двор, дзе начавалі паўстанцы, і бязлітасна іх перабілі. Потым падпалілі хаты шляхціца і ўдавы, якая ад адчаю, што праз яе сквапнасць і дурноту загінуў любы, сама потым пазбавіла сябе жыцця. А можа, яна таксама згарэла ў сваёй хаце, імкнучыся выратаваць грошы? Хто цяпер адкажа?.. Вось такая гісторыя, якую мне расказаў Эдзік. Ён жа і ўказаў, што месца, дзе некалі стаяла хата ўдавы, трэба шукаць па дубе, які рос ля яе веснічак, нейкім цудам ацалеў да нашых дзён і цяпер называецца «Святым». У той жа дзень я быў у тэхнікуме і так, між іншым, бы выпадкова, паведаміў дырэктару, што ў Нікіціна Эдзіка ёсць папка з нейкай гістарычнай лухтой пра нейкі пярсцёнак. Праз дзве гадзіны папка з пакоя Эдзіка знікла — Генадзь Сяргеевіч надзейна заглынуў прынаду… Вось, уласна кажучы, і ўсё, далей падзеі развіваліся ўжо паводле нашага сцэнарыя… Многае з крадзенага знайшлі на кватэры дырэктара, і цяпер яго хаўруснікі даюць супраць яго паказанні, дзе кожны імкнецца абяліць сябе… А дырэктар маўчыць, здагадваецца, што яму пагражае за арганізацыю злачыннай групоўкі і забойства.

— Ён прыгнечаны тым, што дапусціў ракавую памылку, распачаўшы пошукі пярсцёнка, і цяпер шукае карані гэтай памылкі, ніяк не хоча зразумець, што яны ў ім самім. Генка і ў школе быў гнілым. Сквапны, злосны і ўпёрты, бы бугай, пэўна, ужо тады ён канчаткова зрабіў свой унутраны выбар не на карысць дабра, ужо тады ўверыўся, што зло можа перамагчы дабро і праўду. З часам такія людзі становяцца вельмі жорсткімі і пачынаюць помсціць іншым, больш чыстым, за ўласную здраду. Яны робяць гэта неасэнсавана, бо пачуцці ўласнай здрады і ўласнай подласці — пачуцці глыбінныя, маральныя, звязаныя з душой чалавека. Але пайсці на забойства! — палкоўнік у неразуменні пацiснуў плячыма, уздыхнуў і, гледзячы на падначаленых, дадаў: — Забіць настаўніцу — гэта ж як забіць сваю маці! Хто мог падумаць, што Соф'я Станіславаўна загіне ад рукі аднаго са сваіх вучняў? І за што? За некалькі дзясяткаў сярэбранікаў! Эх, жыццё-жыццё! — палкоўнік зноў сумна ўздыхнуў і раптам занепакоена запытаўся: — А ці быў сярод знойдзенага хаця б той пярсцёнак?

— «Вока д'ябла»? — не зразумеў занепакоенасці начальніка Дуброўскі. — Не ведаю. Вопісу прадметаў я не чытаў, ды і, калі шчыра, мне гэта зусім нецікава, бо той пярсцёнак прыносіць яго ўладальнікам толькі няшчасце. Так я кажу, Сяргей?

Сяргей Кармухін, які за ўсю размову не сказаў ні слова, схамянуўся.

— Мяне больш цікавіць, ці выплацяць нам працэнты ад сумы знойдзенага скарбу?

— Ну, аб працэнтах я не ведаю, — вочы палкоўніка выпраменьвалі ўжо добры смех, — але прэмію за месяц я вам выпішу адмысловую. Заслужылі. Малайцы!

Маладыя афіцэры дружна ўскочылі на ногі.

— Служым Савецкаму Саюзу! — стрыманы вокліч адбіўся ад партрэта Міхаіла Гарбачова, які вісеў на сцяне за спінай палкоўніка.

## Эпілог

Толькі праз шэсць гадоў, калі пачала развальвацца савецкая дзяржава, маёр міліцыі Дуброўскі ўрэшце зразумеў, чаму лёс пярсцёнка некалі выклікаў занепакоенасць яго начальніка, і здагадаўся, каму цяпер належыць «Вока д'ябла».





**Чарльз дэ Лінт.** Charles de Lint

**Яго жанр — «міфалагічная фантазія», як апісвае яго сам аўтар — гэткі сінтэз рэалізма, міфа і народнай казкі: у сучасным рознагалосым і шматнацыянальным мегаполісе канца ХХ стагоддзя могуць здарацца неверагодныя падзеі. «Я не хачу пісаць з-за грошай. Я хачу, каб мне плацілі за тое, што я пішу», — так тлумачыць ён свой прынцып і паспяхова яго прытрымліваецца. Нарадзіўся ў 1951 годзе ў невялікім галандскім горадзе Бусум, аб'ездзіў яшчэ ў дзяцінстве з сям'ёй шмат краін, а цяпер шчаслiва жыве ў Канадзе з жонкай Мэры Эн Харыс.**

**На першых старонках сваіх кніг гэты аўтар можа пісаць пра тое, якую музыку ён слухаў падчас стварэння новага сюжэта. Яго можна сустрэць пад рознымі псеўданімамі — Samuel M. Key, Wendelessen, Tanuki Ali, Henri Cuiscard, Jan Penalurick, Cerin Songweaver, хоць і Чарльз дэ Лінт — таксама несапраўднае імя. Больш даведацца пра гэтага казачнага-рэальнага чалавека можна на яго старонцы** https://www.sfsite.com/charlesdelint/**.** **Адсюль жа ўзяты для перакладу наступны тэкст («Forests of the Heart»), друкаванне якога ў «Маладосці» робіцца з ласкавага дазволу аўтара.**

*Практыкантка «Маладосці» Ганна Бучко*

# У гушчарах майго сэрца

[…] Некаторыя чытачы «змусілі» мяне пазначыць, якую музыку я слухаў, калі пісаў свае апошнія кнігі. Ну, добра, на гэты раз мае вушы слухалі, мае ногі прытоптвалі, мой дух уздымаўся, дзякуючы… ох, занадта вялікі спіс выканаўцаў, каб пералічваць усіх. Але, карацей, апошнім разам падчас працы я слухаў шмат Сціва Эрла, Фрэда Іглсміта, Дара Уільямса, Ані Дзі Франку, Стэйсі Эрл, Баддзі Мілера, Торы Амос, The Walk abouts (і іх Chrisand Carla запісы), а таксама розныя ўвасабленні Джанэт Напалітана, у якіх яна нанава сябе знаходзіць, і мой фаварыт з іх — CD-альбом яе сумеснай творчасці з гуртам Los Illegals.

Калі ж я непасрэдна ПІШУ, я аддаю перавагу менавіта інструментальнай музыцы, бо тады іншыя словы не трапляюць мне ў вушы і не ўмешваюцца ў мае, тыя словы, што з'яўляюцца на экране. Гэтая кніга слухала меней кельцкай музыкі, хаця альбомы Solas заўсёды побач з CD-прайгравальнікам. Збольшага, як я заўважыў, на гэты раз мяне прывабілі некаторыя з

выканаўцаў неа-фламенка: Роберт Майкл, Отмар Ліберт, Херарда Нуньес ды Оскар Лопес, а пры набліжэнні да фіналу кнігі — альбом «ClosertoFarAway» выканаўцы на традыцыйнай амерыканскай флейце Дугласа-«Падорліка», ды яшчэ два альбомы Робі Робертсана: Music for the Native Americans і Contact from the Underworld of Red-boy — яны гралі несупынна. Але ж чалавеку не прыстала жыць жанрам адзіным. Шмат гадзін стварэння гэтай кнігі прайшлі з джазавымі кампазіцыямі Арта Тэйтума, Оскара Петэрсана, Майлза Дэвіса, Білі Эванса, яшчэ былі дуэтныя альбомы Чарлі Хэйдана, Кліфарда Брауна, а яшчэ выдатны збор канцэрта джаза з дзесяці дыскаў, які мне прынёс мой сябар Роджэр: The Complete Jazz at the Philharmonic on Verve.

Калі вы раптам вырашыце паслухаць нешта з таго, што я пералічыў, спадзяюся, перажывяце такую ж вялікую асалоду, якую перажыў і я. […]

У сярэдзіне падарожжа нашага жыцця
Я знайшоў сябе пасярод цёмнага лесу,
дзе і страціў прамы шлях.
*Дантэ Аліг'еры, «Боская камедыя»*

## 1. Loslobos

El lobo pierde los ientes mas no las mienies.
Воўк страчвае свае зубы, а не сваю прыроду.
*Мексіканска-амерыканская прымаўка*

Як і яе сястра, Бэцціна Сан Мігель была стройная, невысокага росту маладая жанчына каля дваццаці пяці гадоў; цёмнавалосая і з цёмнымі вачыма; часткова індыйскага паходжання, часткова — мексіканскага, а часткова — чагосьці яшчэ болей старажытнага. Калі сёстры раслі, іх часта блыталі бы двайнят, але Бэцціна была на год малодшая за Адэліту і, у адрозненне ад сястры, ніколі на забывалася на гэтую дэталь. Маленькія цуды далёкага мінулага даўно жылі ў ёй, яны перадаліся сёстрам ад іх бабулі, abuela, а таксама ад прабабулі. Гэта быў дар, які, згодна з паданнем, праскочыў праз пакаленне. «Паданні, цьфу!» — іх маці заўсёды скардзілася, калі ўзнікала такая магчымасць. «Вы называеце гэта дарам, а я называю гэта вар'яцтвам.»

Бабуля звычайна ківала і ўсміхалася, але ўсё гэтак жа брала дзяўчат з сабой ў пустыню. Часам з самай раніцы ці ўвечары, часам — у сярэдзіне ночы яны пакідалі жытло з пустымі рукамі, прападалі недзе цэлыя гадзіны і вярталіся з поўнымі жыватамі, сытыя і без смагі. Вярталіся з чымсьці ў вачах, ад чаго маці заўсёды пачынала хрысціцца, намагаючыся рабіць гэта незаўважна.

— Яны занадта часта прапускаюць заняткі, — казала маці.

— Будзе ім час для школы, калі падрастуць, — стаяла на сваім бабуля.

— А як жа царква? Хто ім грахі адпусціць, калі яны раптам загінуць падчас гэтых вашых падарожжаў па пустыні?

— Пустыня — наша царква, неба — яе дах. Думаеш, Багародзіца і святыя адвернуцца ад нас толькі таму, што там няма сцен? Памятай, Багародзіца спачатку была дачкой пустыні, толькі потым — дачкой царквы.

Але маці скрушна ківала галавой, мармычучы «Nosotras estamos locas todas». Усе мы вар'яты. На гэтым спрэчка звычайна і канчалася. Каб праз час ўспыхнуць зноў.

Неўзабаве Адэліце споўнілася дванаццаць, і Бэцціна пачала заўважаць, як паступова цьмянелі іскрынкі чарадзейства ў яе вачах. Сястра ўсё гэтак жа адпраўлялася з імі ўглыб пустыні, аднак цяпер з сабой у яе заўсёды былі папера і аловак; замест таго, каб вучыцца разумець мову la lagartija, яна імкнулася замалёўваць іх, яшчарак, выявы. Яе больш не цікавілі гісторыі зямель вакол, замест гэтага яна захоплена пакідала на паперы абрысы яшчаркавых цел. El halcyn, які павольна лунаў над пустэльнымі пагоркамі, для яе быў звычайным каршаком, а не brujo, ведзьмаком, як іх бацька, чарадзеем, які лётае па небе ў глыбокім сне. Думкі Адэліты ўсё часцей займалі хлопцы. А яшчэ яна пачала карыстацца касметыкай.

Усе атрыманыя веды былі забытыя. Не, яна памятала гісторыі, памятала дэталі. Але не памятала, што ўсё гэта было праўдай.

Але Бэцціна не забылася.

«Ты вучыла нас дваіх, — сказала аднойчы дзяўчына, калі яна і бабуля засталіся ўдваіх і нерухома сядзелі ў цені высокага кактуса saguaro, назіраючы, як па высмягламу рэчышчу ракі мякка ступаў каёт. — Чаму ж толькі я ўсё яшчэ памятаю?»

Каёт рэзка замёр і, навастрыўшы вушы і павярнуўшы галаву ў бок, адкуль гучаў голас, пільна глядзеў сваімі вільготнымі вачыма.

— Таму што толькі ты была абраная для гэтага, — адказала бабуля.

Каёт рэзка выскачыў з рэчышча і кінуўся прэч, схаваўшыся ў зарасніках дрэў пала вердэ. Бэцціна павярнулася да бабулі.

— Але чаму ты абрала менавіта мяне?

— Гэта не мая воля, — адказала бабуля, — так трэба для захавання чараўніцтва. Важна, каб яно засталося ў адной з вас, інакш чароўныя здольнасці будуць моцныя толькі напалову.

— Але як яна магла проста ўзяць і забыцца на гэта? Ты казала, што ў нас ёсць чараўніцтва — у нас абедзвюх.

— І гэта праўда. Адэліта не страціць яго назусім, занадта глыбока яно ў яе ў крыві. Але і памятаць не будзе. Калі толькі...

— Калі толькі што?

— Калі ты памрэш раней, чым у цябе з’явіцца ўласная ўнучка.

Гэтым вечарам Бэцціна сядзела за сталом на кухні далёка ад той пустыні з свайго дзяцінства і размаўляла по тэлефоне з Адэлітай, заціснуўшы трубку паміж вухам і плячом, перабіраючы рассыпаныя па стале milagros — свае магічныя скарбы. Адзінай крыніцай святла была вялікая свечка на трэснутым фарфоравым сподку, якая трымалася на ўласным плаўленым воску.

Бэцціна магла запаліць жырандолю пад столлю: у доме была электрычнасць — было чуваць, як яна глуха гудзе недзе ўнутры сцен, як прымушае лядоўню у куце буркатаць час ад часу, але мяккае мігаценне свечкі ёй было нашмат радней электрычнага асвятлення. Яно нагадвала ёй аб вогнішчах, аб начах, што яна праводзіла за домам Адэліты, на поўначы ад Тубака, і гэтым вечарам ёй не хапала вогнішча. Не хапала кожны раз, калі яна размаўляла з сястрой, няхай іх і падзяляюць палова кантынента і некалькі гадзінных паясоў, а адзінымі ланцужкамі, што злучалі іх адна з адной, з’яўляюцца тэлефон і чараўніцтва ў іх крыві.

Святло ад свечкі сваволіла на маленькіх ахвярных фігурках-дарах са срэбра, прымушаючы цені ў кутах пакоя варушыцца кожны раз, калі Бэцціна рухала рукой. Цені працягвалі свой танец нават калі лязо полымя роўна і спакойна цягнулася да столі, але дзяўчына іх ігнаравала. Для

яе гэтыя цені былі падобныя да непрыемнасцяў, якія імкнуцца пракрасціся ў жыццё, — чым больш увагі на іх звяртаць, тым больш яны ў ёй замацоўваюцца. А яшчэ яны былі падобныя на цёмнаскурых людзей, што зноў сабраліся звонку.

Іх было каля дваццаці, высокія, хударлявыя, яны сядзелі цесным колам на кукішках, гледзячы па баках настолькі цёмнымі вачыма, што, здавалася, паглыналі імі святло. Яны прыходзілі сюды час ад часу, абыходзячы іншыя маёнткі, размешчаныя вакол Кэлігноў.

Бэцціна не мела ніякага ўяўлення пра іх мэты. Яна ведала толькі, што яны неяк былі звязаны з народам яе бабулі і прыходзіліся далёкімі сваякамі пустэльным індзейцам, чыя кроў цякла ў Бэцціне і ў яе сястры, вельмі далёкімі, бо пад верхнім пластом іх думак выяўлялася памяць аб марскіх пырсках і вільготных трапічных пушчах. Тутэйшыя месцы не з'яўляліся іх домам. Дух гэтых цемнаскурых людзей трымаўся толькі за самую паверхню зямлі лёгкай вяззю каранёў.

Падобна сваякам Бэцціны, яны мелі прыгожыя рысы: скура была смуглай, а позіркі цвёрдымі. Незнаёмцы былі апранутыя ў белыя кашулі без каўнераў і чорныя суконныя штаны. Яны не насілі абутак, іх мазалі на нагах былі жорсткімі падобна самой скуры для абутку, а холад, здавалася, не прыносіў гасцям аніякіх нязручнасцей. Доўгія валасы былі завязаныя ў хвасты або закручаныя ў тоўстыя жгуты. Людзі сядзелі моўчкі, назіраючы за домам, і пускалі дым ад самакрутных цыгарэт. Пах тытуню даносіўся нават да кухні, дзе знаходзілася Бэцціна, і ў гэтым паху адчуваўся нейкі звярыны мускусны прысмак.

Прысутнасць гасцей нібы рэзаніравала ўнутры Бэцціны невытлумачальнай вібрацыяй недзе глыбока ў целе. Дзяўчына ведала аб іх воўчым ладзе жыцця там, у гарыстай мясцовасці на поўнач ад горада. Магчыма, яны сапраўды бегалі, падобна дзікунам-адзіночкам, і збіраліся разам толькі тут, за яе домам. Як бы там ні было, яна ніколі не пачынала гутарку з імі, ніколі не спытала, што прывяло іх у гэтае месца. Даўным-даўно бабуля строга забараніла задаваць пытанні аб la brujería — чараўніцтве, асабліва калі яно так відавочна з'яўляецца ў жыцці і калі ты настолькі цесна з ім звязаны. Таямніцы раскрываюць сябе самі, калі для гэтага надыдзе час.

— І, зразумела, мама пытаецца, калі ты прыедзеш дадому, — скончыла Адэліта.

Сёстры звычайна пазбягалі падобных пытанняў. Дастаткова было таго, што пра гэта спраўна пыталася маці.

— Я дома, — адказала Бэцціна, — і ёй гэта выдатна вядома.

— Вось толькі яна не верыць.

— Ведаю. Яна дапытвалася ў мяне пра тое ж учора ўвечары. Яшчэ ёй хацелася даведацца, ці знайшла я царкву, ці добра вядзе службы святар, ці хадзіла я да споведзі...

— Як жа без гэтага! — засмяялася Адэліта — ва ўсякім выпадку, яна ніяк цябе не пракантралюе. А Чуй пагражае перавезці нас у Нью-Мексіка.

— У Нью-Мексіка? Чаму туды?

— З-за Лало і яго групы. Апошнія гастролі прынеслі столькі грошай, што іх хапіла, каб зрабіць першапачатковы ўнёсак за прыстойны ўчастак побач з Альбукерке. Праўда, на ім працы — безліч, і Лало хоча ўзяць Чуй у памочнікі. Кажа, месца будзе больш чым дастаткова для ўсіх нас.

— Los lobos.

— Яны самыя. Табе б таксама не шкодзіла як-небудзь прыйсці на іх выступ.

Але Бэцціна мела на ўвазе не групу з усходняга Лос-Анджэлеса. Група Лало выступала ў Ваўкоў на разагрэве падчас леташняга тура, і для яго гэта быў самы сапраўдны зорны час. Ваўкі ж, якіх мела на ўвазе Бэцціна, былі тымі, хто, нягледзячы на халодную ноч, зараз сядзелі пад вокнамі кухні.

І дзіўна, яна не збіралася гаварыць пра іх услых. Словы быццам самі вырваліся з вуснаў, справакаваныя ажыўленнем звонку, то быў нібыта шэпт, які рэхам адгукнуўся ў целе. На секунду Бэцціне падалося, што рослыя незнаёмцы зараз зайдуць у дом, і яна, нарэшце, высветліць нагоды іх загадкавага візіту. Але ваўкі, наадварот, пакідалі тэрыторыю дома і адзін за адным раствараліся сярод дрэў.

— Бэцціна? — паклікала сястра. — Ты яшчэ тут?

— Так, я тут.

Дзяўчына толькі цяпер заўважыла, што зусім забылася пра неабходнасць дыхаць і выпусціла паветра з лёгкіх. Ня трэба было глядзець у акно, каб зразумець — двор быў пусты. Праз імгненне яна зноў злавіла згубленую нітку размовы.

— Забылася на момант, — дадала яна, — а як жа твая галерэя? Паверыць не магу, што ты пагодзішся яе прадаць.

Адэліта зноў засмяялася.

— Ну, мы-то нікуды не пераязджаем. Шкада, вядома, што Лало цяпер будзе так далёка. Але ўся сям'я Чуя будзе надта гараваць, калі і мы пакінем іх. Хто цяпер будзе песціць Жанэт? Ды мама...

— Ні за што табе не даруе.

— То праўда, de Veras.

Бэцціна зноў прынялася перабіраць рассыпаныя маленькія таемныя скарбы-амулеты, цярэбячы іх пальцамі і працягваючы гутарыць з сястрой пра сям'ю і суседзяў, такіх цяпер далёкіх. Яна магла без канца слухаць аб сваёй пляменніцы Жанэт, а ў Адэліты быў бясконцы запас пацешных гісторый пра турыстаў, якія наведвалі яе галерэю. Дзяўчына сумавала па наваколлі і па людзях з тых мясцін, па сям'і, па сябрах і адчайна сумавала па пустыні. Але нешта ў глыбіні лясістых пагоркаў вабіла яе, клікала прэч з горада, які стаў яе новым домам. Гэты кліч прымусіў дзяўчыну пакінуць пустыню і пасяліцца ў той частцы свету, дзе поры года гэтак ашаламляльна мянялі аблічча прыроды: тут было лета з неверагоднай бурнай зелянінай, ад якой перахапляла дыханне; зіма, падчас якой усё ператваралася ў пустку, настолькі суровую, што яна магла параўнацца з самой пустыняй. Гэтая таямніца не давала ёй спакою, не выходзіла з галавы і ціснула так моцна, што ў дзяўчыны не засталося ніякага выбару, акрамя як скарыцца і пераехаць.

Яна лічыла, што крыніца гэтага клічу зусім не крыецца ў яе нязваных гасцях, ваўках, што прыходзілі ў двор і моўчкі палілі, назіраючы за домам. Але па-за усялякіх сумнёваў: яны і кліч неяк звязаныя.

— Што ты там робіш? — раптам спытала Адэліта. — Я ўвесь час чую нейкі незразумелы грук.

— Перабіраю амулеты, што даслала мне Інэс. Раблю сабе... — Бэцціна павагалася, — кудмень.

— Зразумела.

Нельга сказаць, што Адэліта не ўхваляла захапленняў сястры, ва ўсякім разе, не ставілася да іх так, як маці, — але і не разумела іх. Хай абедзве дзяўчыны выраслі на апавяданнях сваёй abuela, для Адэліты яны былі не больш чым натхненне для творчасці. У яе разуменні гэта былі байкі, глыбокія і магутныя па сэнсе, але занадта мудрагелістыя. Састарэлыя погляды, якія ўзняліся на забабонах старога свету, захапляльныя, якія падахвочваюць тварыць, але якія не маюць нічога агульнага з законамі і поглядамі свету сучаснага.

— Пакінь гэтыя глупствы пісьменнікам, — казала яна.

Пястота і глупства. Глупства і дзіцячыя захапленні. Занадта простыя словы, якія не могуць увабраць у сябе ўсю сутнасць яе заняткаў. Якія не ў стане распавесці, што кудмень, які цяпер збірала Бэцціна, — напалову mojo, талісман, напалову амулет. Маленькі шаўковы мяшочак, які напаўняецца чорнай глебай для паглынання дрэнных эмоцый, а яшчэ зямлёй, якая змешваецца з зёлкамі і пылком: яна будзе правадніком смутку і болю — каб гэты боль трапляў ад уладальніка кудменя ў сам талісман. На ўнутраным баку маленькімі сцяжкамі прымацаваны лісток паперы з імем чалавека. І пяро калібры. Таксама некалькі невялікіх рознакаляровых пацерак. І напрыканцы, калі яна знойдзе сярод тых дароў, што даслала Інэс, патрэбнае ёй milagro — той самы амулецік, ён таксама будзе зашыты ў гэты мяшочак.

Звонку сцяжкі нагадвалі словы, хаця ў рэчаіснасці яны больш былі падобныя на галасы крумкачоў у лесе: здаецца, што птушкі ўжываюць словы, але гэта не тыя словы, якія ўлоўлівае звычайны слых. То словы не для чалавечых вушэй.

Гэты кудмень дапамагаў Бэцціне накіроўваць бягучую ўнутры яе чароўную brujería. Часам яна заклікала на дапамогу духаў і святых, каб тыя дапамаглі ёй высветліць прычыну той ці іншай хваробы або няшчасця.

— Ёсць не адзін спосаб лячыць, — неяк сказала ёй бабуля, — гэтак сама як і Маці Божая не была адзіная па веры.

— Адзінае павер’е?

— Можна сказаць і так, — усміхнулася тады бабуля, — заняткі медыцынай патрабуюць ад цябе строгага прытрымлівання правілаў, ты выбіраеш гэты шлях і бярэш адказнасць за ўсё, што ты робіш.

— Але як жа расліны? Лекавыя зёлкі...

— Poreso, чаму ж, уласцівасці траў ва ўсе часы нязменныя. Але як ты выкарыстоўваеш іх, залежыць толькі ад цябе, — усміхнулася яна зноў. — Мы не штучныя машыны, chica. Мы ўсе розныя. Sin par. Унікальныя. І падыход да кожнага таксама павінен быць асаблівым.

Не праходзіла ні дня, каб Бэцціна не ўзгадвала бабулю і не сумавала па ёй. Па яе прысутнасці. Яе жартах. І мудрасці. Цяжка ўздыхнуўшы, Бэцціна вярнулася да размовы з сястрой.

— Нельга ўсё жыццё гуляць у цуды, — цярпліва працягвала Адэліта.

— Гэта не гульня для мяне.

— Бэцціна, мы раслі разам. Ты ж не вядзьмарка.

— Не, я знахарка.

Існуе велізарная розніца паміж гэтымі значэннямі, пра што бабуля паўтарала не аднойчы. Bruja — ведзьмакі, яны здзяйсняюць чорнае чараўніцтва, здольнае прыносіць толькі шкоду, curandera ж, лекары, надзелены здольнасцю вылечваць.

— Менавіта, знахарка, — паўтарыла Бецціна, — як і abuela.

— А яна была знахаркай? — спытала Адэліта.

Бэцціна пачула, як сястра стомлена ўсміхнулася, але ў яе не было ніякага жадання падзяляць кпіны Адэліты.

— Але як інакш? Пытанне атрымалася крыху больш рэзкім, чым ёй хацелася, — Як ты можаш сумнявацца ў ёй?

— Чараўніцтва не існуе, — уздыхнула Адэліта, — не ў нашым свеце. Усе гэтыя la brujería добрыя хіба што ў казках. Por el reino de los sueños. Цуды здараюцца хіба што ў снах, з-за чаго ў іх і працягваюць верыць.

— Ты на ўсё забылася.

— Не, я памятаю тое ж, што і ты. Толькі я гляджу на бабульчыны гісторыі вачыма дарослага чалавека. Я бачу розніцу паміж рэальнасцю і балачкамі.

«Толькі гэта не проста гісторыі», — хацелася запярэчыць Бэццiне.

— І я яе любіла, — працягвала сястра, — ты толькі... ты сама падумай, як яна зацягвала нас у гэтую пустыню. Быццам хацела вырасціць з нас дзікіх жывёл. Уяві, што рабілася ў галаве ў мамы?

— Усё зусім не так...

— Вось што я табе скажу. Як бы я ні любіла маці, я б ні за што ў жыцці не дазволіла ёй адводзіць Жанэт у пустыню на некалькі гадзін запар. Прычым у самую спякоту... А колькі разоў мы сыходзілі пасярод ночы?

— Ты кажаш пра гэта, як пра нешта дрэннае.

— Бэцціна, узгадай, які там клімат. Так, мы яго перажылі. Але мы былі маленькімі. Нам было весела. А ты ўяві, што магло адбыцца з двума дзецьмі, якія гулялі ў пустыні самі па сабе пад наглядам мяцежнай старой.

— Яна не была...

— Не ў нашых вачах, так. Але што б ты падумала, раскажы табе такое нехта іншы?

— Гэта гучала б... дзіўна, — прызналася Бэцціна, — але ж мы столькі даведаліся з яе дапамогай...

— Тое ж самае яна магла б расказаць нам, седзячы на ганку дома нашых бацькоў, гойдаючы нас на каленях.

— Але раптам гэта больш, чым проста гісторыі?!

— Que Bobo eres, ну чаму ты такая! Дзе там «больш, чым проста гісторыі»? Духі кактусаў? Жывёлы, якія размаўляюць? Мінулае і будучыня ўперамешку з сучаснасцю. Як яна гэта называла?

— La epoca del mito.

— Так, эпоха міфаў. Менавіта так я назвала адну са сваіх выстаў, памятаеш?

— Я памятаю.

Гэта была цудоўная выстава. La Gata Verde цалкам ператварылася ў нешта сапраўды чароўнае, ніколькі не падобнае на той пыльны тратуар, якім была дарога да галерэі. Карціны, багатыя на чырвоны, жоўты і блакітны колеры, з выявамі святых, духаў пустыні, а таксама Маці Божай, намаляванай ў адпаведнасці з традыцыямі, адрознымі ад тых, што дыктавала рымскае папства. Там былі Hopi kachinas — Апавядальнік, Жанчына-варона, клоуны, людзі, якія выконвалі танец аленя, а таксама маленечкія талісманы плямёнаў Зуні. На сцяне вісела мноства карцін, якія адлюстроўвалі мексіканскі і індзейскі фальклор. І, нарэшце, тое, ад чаго Бецціна была ў адмысловым захапленні — калекцыя Джона Эрлі, мастака з Бісбі: сюррэалістычныя скульптуры з шэрай, шамотнай гліны, аздобленыя палоскамі каляровай тканіны, нанізанымі на нітку пацеркамі, ракавінкамі і спіральна закручанымі шнуркамі з медных і срэбных валокнаў. Постаці выгіналіся, прымаючы мудрагелістыя формы, нібы людзі, якія цалкам складаюцца з дыму, замерлі ў сваім танцы; і ён узносіць фігуры ўсё вышэй і далей ад спарадзіўшага іх полымя.

*Пераклад з англійскай Ганны Бучко*

# На самым ускрайку свету

Гэтая вершаваная падборка знаёміць беларускіх чытачоў з творчасцю некалькіх маладых паэтаў Арменіі. Аруцюн Авакімян, Марыам Карапецян, Ншан Абасян, Рузанна Васканян, Эдуард Арэнц… Кожны з іх паспеў выдаць дзве-тры кніжкі, якія былі заўважаны не толькі аматарамі паэзіі, але і крытыкай. Адзначу таксама, што шэраг іх твораў быў перакладзены на іншыя мовы. Думаю, што і беларускі чытач знойдзе ў іх творчасці нямала прыцягальнага, сугучнага яго душы.

*Эдвард Мілітанян, старшыня Саюза пісьменнікаў Арменіі*



## Ншан Абасян

**Нарадзіўся 6 кастрычніка 1985 года ў Арменіі. Скончыў факультэт армянскай філалогіі Армянскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Х. Абавяна. Аўтар трох кніг вершаў на армянскай мове — «Аўторак», «Абрыкосавае дрэва», «Іншая цішыня». Удзельнік міжнароднага фестывалю паэзіі ў Генуі, іншых міжнародных літаратурных фэстаў. Працуе рэпарцёрам на «Шогакат ТВ».**

## Перад дажджом

Неба навісла з балкона;
на лесвіцы скамянела кветка;
панурая цішыня…

***

Сумнае шапаценне дрэва пад дажджом,
зеляніна лістоты раздзірае сэрца…

***

Занядбаны балкон,
вецер разгойдвае арэлі…

## Пасля дажджу

Шоргат пшанічнага поля пад ветру пяшчотай,
Водар вільготнай зямлі…

***

Эстэр басанож прайшла праз трапічны сад,
лёгка слізгануў па кветках саламяны падол…
Недасягальны свет…

***

На чырвоных скалах застыла ў
маўчанні сонечная цішыня…
Адзінокая кветачка скамянелай абочыны…
Шлях пілігрымаў…

***

Адно крысо сонца на
вільготных каменьчыках,
Другім крысом яно загулялася з раўчуком…

***

Вось апусцілася ноч на ваколіцы Храма…
Ды на грудзях цішыні затаіўся цвыркун…

## Марыам Карапецян



**Нарадзілася ў 1987 годзе ў Арменіі. У 2004 годзе паступіла на факультэт журналістыкі Ерэванскага дзяржаўнага ўніверсітэта. З 2010 года выкладае на гэтым факультэце. Летась абараніла кандыдацкую дысертацыю, атрымаўшы ступень кандыдата філалагічных навук. У 2014 годзе выйшаў яе першы зборнік вершаў — «Палотны для мірных дзён». Аўтар казак, эсэ, навуковых артыкулаў.**

***

Кожную ноч
ты з маёй палічкі
здымала ружу
сухую.
Я, мая лепшая цярплівасць,
гэтыя сем'і
для малітваў
і рэчы з густам
суцэльныя…

***

Мы адзін аб адным ведаем
гэтыя словы крохкія,
наш візіт у раніцу
вакол тых жа слоў круціцца.
Гісторыі збіраем
для нашых вачэй,
тыя, што доўга застаюцца
ў вачах.
Мы так мала ведаем,
толькі ўмела,
і дні нашыя з густам перасякаюцца…

### Час прыходу паэзіі

Гісторыя:
калі зможаш,
для чужынцаў і мясцовых.
Узор спелай пшаніцы,
паўнацэнны, чужы і поўны.
Судакранаецца паміж сабой гэтае хараство:
вонкавымі бакамі
з аксамітавымі сонцамі.
Вось думкі, якія змірыліся,
гаворкі чужынцаў,
вось памылковыя погляды.
Сустракаюцца
гэтыя чужынцы
ў гісторыях…

## Аруцюн Авакімян



**Нарадзіўся ў Ерэване ў 1990 годзе. Скончыў медыцынскі каледж па спецыяльнасці фармацэўт, а таксама Ерэванскую дзяржаўную акадэмію мастацтваў па спецыяльнасці мастак-мадэльер. Член Саюза пісьменнікаў Арменіі. Друкаваўся ў армянскіх і расійскіх літаратурных часопісах. Аўтар паэтычнага зборніка на армянскай мове «Калі мы перасталі маліцца». Перакладзеныя на англійскую мову вершы друкаваліся ў анталогіях «IN THE BEGINNING», «CONTEMPORARY ARMENIAN POETRY». Прызёр літаратурнага конкурсу «Маленькі прынц» (2009—2012), фіналіст «Ілля-прэміі» (2009). Лаўрэат некалькіх літаратурных прэмій.**

***

Зімнім днём
Адна старая
Ў чорнай вопратцы
Ля дома
Сіты доўга прадавала.
І гукала:
Сіты, сіты!
Снег кружыў,
І мне здалося,
Быццам неба ў чорнай хустцы
Соль прасейвае праз сіта —
Раны беднасці прысыпаць…
Ды было ў маіх кішэнях
Дзірак шмат,
Нібыта ў сіце,
Сіта я купіць не змог…
І пайшла ні з чым старая,
А вятрыска,
Падшыванец,
Паляцеў услед жанчыне,
Што ішла хадой нямоглай,
Паўтараючы са здзекам:
Сі-ты, сі-ты,
Сі-ты, сі-ты…

***

На самым ускрайку свету
Ад ерэванскай спёкі —
Кап-кап васковыя хмары,
А я, быццам муха,
Скок-скок па вуліцах,
Дзе столькі смуроду…
Шафёрскай лаянкай вакол
Паветра напоўненае,
Людзі змарыліся
Быць людзьмі,

І кап-капаюць
Васковыя вочы…

***

З гукам электрапілы прыходзіць
Восень да мяне на радзіму,
Адлятаюць птушкі бяздомныя,
Застаюцца птушкі бяздомныя,
Тыя, што крылаў не маюць…
Няма пілы, але яны ўмеюць марыць…

## Я дараваў табе, Мічурын…

Я плод дрэва, што ты калісьці прышчапіў,
Яблыні чужы, для абрыкоса няздатны,
Ды такі жаданы для слюнявых іклоў.
Іду па маскоўскіх вуліцах,
Услед мне крычаць: чорны, чорны,
Я апрануў бялюткі касцюм,
Я быў празрыстым у Ерэване,
Мяне не заўважаў дырэктар у дні выдачы заробку,
Родныя пасля прагулянкі,
Нават Усявышні мяне часам не заўважаў,
Хоць я маліўся яму шчыра, душу да дна адкрываючы,
Мінак з зоркім вокам Кутузава,
Мінак, што перамог Напалеона,
Так і не ўбачыў мяне блізарукім вокам мінулага,
Я не адзін, у маіх думках пакаленні ад Ноя і да сённяшніх дзён,
У клетках — пакаленні пасля сённяшняга дня.
Я, праўнук кулака Аруцюна,
Я, унук камуніста Завена,
Я, сын натхнёнага незалежнасцю Армена,
Я не велікан ні як Напалеон, ні як Кутузаў.
Я глухі мураш,
Я сляпы мураш,
Уверх паўзу па зялёным сцябле сланечніка,
Вам мяне не завабіць, вам не спыніць мяне,
Я ўмею маўчаць на мове малітвы…
Я дараваў табе, Мічурын…

## Рузанна Васканян

**Нарадзілася ў 1989 годзе ў Ерэване. Аспірантка філалагічнага факультэта Ерэванскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Член Саюза пісьменнікаў Арменіі. Друкавалася ў армянскай літаратурнай перыёдыцы і агульных зборніках. Мае дзве кнігі паэзіі — «Празрыстыя дажджы» і «Пазней, яшчэ пазней». Лаўрэат шэрагу прэмій, у тым ліку і Моладзевай прэзідэнцкай прэміі (2008). Перакладае з рускай і англійскай моў на армянскую.**



***

Горад, узрадуйся,
мяне больш няма…
Я даўно не баюся ўжо зграі, мой Бог,
я баюся ваўкоў-адзіночак,
што па чарзе нападаюць,
я баюся, што не хопіць сілы…
Горад, узрадуйся,
апладзіруй, танцуй,
мяне больш няма…
За сабой абяцаю не плакаць,
нават калі б пажадала,
то наўрад ці змагла б,
таму што ўсе слёзы мае,
мае рукі і ногі, што следам ідуць,
горад мой, ты павёў за сабой…
Хто ж зможа мяне пакахаць
такую раздзёртую на кавалкі
(ваўкі-адзіночкі — не зграя — па мне прайшліся),
хто ж такую аслеплую зможа мяне пакахаць,
такую, што не мае ні рук, ні ног…
Горад, хто за мяне праліваць стане слёзы…
Не, ты ўзрадуйся, горад,
я заплачу…
…хоць і без слёз…

***

Ты ўсміхаешся так пяшчотна,
калі табе трэба зманіць…
і я складваю ў канверт
свае сэрца, рукі, вочы
і адсылаю ў невядомым напрамку.
І ў нязграбных літарах ней-
кая маленькая дзяўчынка
хавала свае маленькія вёсны,
калі ў дзесяць вечара ляль-
ка, якую паклалі на крэсла,
зноўку пачынала маніць,
усміхаючыся ўсмешкай тваёй…
Ты ўсміхаешся так пяшчотна,
калі табе трэба зманіць…
Ты не ведаеш, як пакутуе маўчанне,
што схаванае ў скрыні,
калі… паўсюдна стаіць цішыня.
Ты не ведаеш, што адчувае разд-
зёрты прамень світанку,
радасць цялеснага колеру
вясёлкі пасля дажджу.
Ты не ведаеш, што шукае
адзінокі цень незнаёмца
ў позірках мінакоў…
Ты ўсміхаешся так пяшчотна,
калі табе трэба зманіць…
І вечар кожны ў куточку пакоя
нейкая маленькая дзяўчынка
ў канверце без адраса сэр-
ца знаходзіць сваё,
і кожны вечар дзесяцігадовая лялька
зноўку пачынае маніць,
усміхаючыся ўсмешкай тваёй…

***

Няма — я кажу — ні ночы
і ні дня,
ёсць толькі ты.

У люстраным адбітку раблюся дарослай:
ты глядзіш на мяне,
на цябе пазіраю,
затым — толькі пустэча небыцця.

Састрыгчы хачу валасы свае,
каб непадобнай быць, непаўторнай,
але з мяне пасмяешся ты:
і так ужо збылася мара мая.
Затым — толькі пустэча небыцця.

Акрэсліваю кругі,
яны замкнуцца там,
дзе пачаліся,
дзе ты,
а я — па за кругам:
а можа, я і ёсць сама акружнасць.
Затым — толькі пустэча небыцця.
Няма — я кажу — ні ночы і ні дня…

## Эдуард Арэнц

**Нарадзіўся ў 1981 годзе. Скончыў факультэт арабскай мовы і літаратуры ў Каірскім дзяржаўным універсітэце і факультэт усходазнаўства ў Ерэванскім дзяржаўным універсітэце. Аўтар шасці паэтычных зборнікаў. Член Саюза пісьменнікаў Арменіі. Лаўрэат шматлікіх літаратурных прэмій. Вершы перакладзены на 45 моў свету.**



### Адпачынак, якога не было

І яшчэ раптоўна,
гуляючы ў хованкі, —

калі чатырнаццацігадовы падлетак
уласную дамавіну знаходзіць
на гарышчы…

Гэтае месца, што ўзнікла з гульняў
лёсу,
і гэтае неспякотнае красавіцкае лета
з яго апечанага і пякучага дзяцінства…

Ну і што ж яму рабіць?
Ці ўвайсці туды? Ці схавацца?
Ці збегчы?

***

Ван Гог пазбавіў сябе вуха,
яно яму было непатрэбнае:
ён ужо чуў Генія.

Аль-Маары ў жыцці пабачыў столькі,
што вочы для яго
сталі не вельмі і патрэбнымі.

У Чарэнца няма магілы,
бо ён
не памёр аж да гэтага часу.

Я вітаюся левай рукой,
таму што правай
я павітаўся ўжо з Богам…

## Малітва

Ты снішся Усявышняму ў сне:
два субяседнікі перад ім —
узмах тваёй кісці і птушка вядуць свой маналог…

## Охра до мажор

Па няспешных каранях ночы ўверх
кругла-кругла набліжаюцца
заручыны світанку,
якія разводзяцца
паміж трохкутным песцікам кветкі,
дзе соль з'ядае шкілет рыбы
ў печані рыбака.

З тугі
цёмных водаў памірае
падсвядомасць Перадвелікодных
пятніц.

Перад дзвярыма
я агаляюся ад сябе,
і ад майго голасу застаецца

подпіс у стылі Ісуса —
на росах світанку…

## Магдаліна

Вярні мне камяні,
што я кінуў у цябе:
у сценах маёй спальні ёсць шчыліны,
а ў іх — пустэча…

*З армянскай. Пераклад Генадзя Аўласенкі*



# Армянская дзіцячая літаратура ў Беларусі

**Эдвард Мілітанян — часты госць у Беларусі. Ён актыўна ўдзельнічае ў традыцыйных лютаўскіх кніжных выстаўках у Мінску, кожны год прадстаўляючы іх наведвальнікам навінкі армянскага кнігавыдання. Старшыня Саюза пісьменнікаў Арменіі быў і сярод дэлегатаў Міжнароднага сімпозіума літаратараў «Пісьменнік і час» у лютым 2015 года.**



Беларускія паэты не аднойчы звярталіся да перакладаў паэзіі армянскага творцы. Вершы Эдварда Мілітаняна друкаваліся па-беларуску ў газеце «Літаратура і мастацтва», часопісах «Бярозка», «Маладосць», змяшчаліся на Інтэрнэт-партале «Созвучие: литература и публицистика стран СНГ». За развіццё беларуска-армянскіх літаратурных сувязяў, падтрымку беларускай літаратуры ў Арменіі і ўвогуле ў свеце Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Рыгоравічам Лукашэнкам Эдвард Мілітанян узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

А зусім нядаўна ў Выдавецкім доме «Звязда» пабачыла свет кніга вершаў армянскага сябра Беларусі «Паветраны дом». Дванаццаць твораў пераклаў на беларускую мову вядомы дзіцячы паэт Мікола Чарняўскі.

Я збудаваў з паветра дом,
Падмёў паветранай мятлой.
Павесіў лямпу тым жа днём,
Я запаліў у ім святло.

Эдвард Мілітанян разам з перакладчыкам запрашае юнага чытача Беларусі да гульні. Свае вершаваныя мастацкія прыдумкі імкнецца данесці сур’ёзна, справакаваўшы хлопчыкаў і дзяўчынак на развагі, на тое, каб яны задаліся пытаннямі. Паветраны дом — гэта фантазія. Але і сабака Палкан, які яго сцеражэ, — таксама фантазійны персанаж. І сад побач з домам расце паветраны. «Усё паветранае ў ім — / І яблыні, і вінаград». Але гэта не становіцца памехай для наступнай дзеі:

Я шмат паветраных дароў
Сабраў у садзе ўсім на здзіў.
За стол паветраны сяброў
Да самавара пасадзіў.

Чытаючы радкі Эдварда Мілітаняна, згадваеш словы Анатоля Алексіна пра вершы Агніі Барто, пра тое, што яны «літаратура навырост, для ўсіх пакаленняў: вывучыўшы іх у дзіцячым садзе, памятаюць да сівізны».

У вершах Эдварда Мілітаняна, напоўненых гумарам, парадоксамі, гульнявымі элементамі, існуе максімальная канкрэтнасць. У мове, у сюжэце, у вобразах. І ўсё гэта суадносіцца з кампазіцыяй, агульнай фабулай твора. Выбудаваныя на фантазіях і прыдумках, творы ўсё ж пазбаўлены фальшу, носяць прыцягальны характар. Паэт знаходзіць такія словы, такія павароты выбудоўвае ў агульным рэчышчы, што чытач пранікаецца надзвычайным даверам да аўтара. Нават пры знаёмстве з такім вершам, як вось гэтая «Балада пра пчолак і скрыпку», у якой пчолкі трапляюць у... скрыпку. «Патрапіць туды не хацелі — / зусім выпадкова ўляцелі./ Памкнуліся выбрацца,/ Ды — / Адтуль ні туды ні сюды!» Бедныя пчолкі засумавалі, заплакалі. І скрыпка сама па сабе заплакала, новыя гукі пачала выдаваць. А што было далей? Пра гэта трэба ўжо пытацца ў скрыпача... Выпусціўшы на волю пчол-паланянак, ён пачаў складаць адмысловую баладу.

Мне падаецца, што ў вершах, казках Эдварда Мілітаняна, адрасаваных дзецям, адчувальныя і традыцыі, некалі закладзеныя ў армянскай дзіцячай літаратуры Сурэнам Мурадзянам. У памяці адразу паўстаюць яго кніжачкі «Песня паштальёна», «Кацяня, якое забылася, як трэба прасіць есці», «Я вялікая ці маленькая» і іншыя зборнікі.

...Выдадзеную «Звяздой» кнігу Эдварда Мілітаняна «Паветраны дом» па-майстэрску праілюстравала маладая мастачка Дана Рунова. Яна дапоўніла вершы армянскага паэта сваімі пачуццямі і ўяўленнямі. І «Паветраны дом» набыў яшчэ болей колераў дабрыні і пяшчоты.

Знаёмства са зборнікам вершаў Эдварда Мілітаняна нагадала, што розныя пакаленні юных чытачоў Беларусі ў самыя розныя дзесяцігоддзі адкрылі шмат каго з дзіцячых паэтаў і празаікаў Арменіі. Толькі ў «Вясёлцы» друкаваліся творы Геворга Эміна, Грыгора Макунца, Сурэна Мурадзяна, Нансен Мікаэлян, Хажак Гюльназаран.

Новае развіццё стасункаў паміж літаратурамі Беларусі і Арменіі, магчыма, падштурхне і да ажыўлення перакладу ўвогуле армянскай дзіцячай літаратуры на беларускую мову. Мо ёсць сэнс звярнуць увагу як на згаданага Сурэна Мурадзяна, так і на пісьменнікаў шмат старэйшых. Чаму б, напрыклад, не прачытаць па-беларуску «Гісторыю Ціграна, ці Маральнае настаўленне для армянскіх дзяцей» Хачатура Абавяна (1809—1848)? Твор напісаны ў XIX стагоддзі, а свет убачыў толькі ў 1991 годзе. А кнігі Эдуарда Авакяна (1927—2010) «Свята садавіны», «Адзін дзень дома, пяць дзён у дзіцячым садзе»..? Мне здаецца, што гэтыя творы знойдуць і сёння свайго юнага чытача. Важна толькі супольная работа перакладчыкаў і зацікаўленых выдаўцоў. Сёння ж складваецца ўражанне, што выдавецтвы падставай для перакладу бачаць толькі дзіцячую літаратуру скандынаўскіх краін. Не збіраючыся ў дадзеным кантэксце спрачацца з такой пазіцыяй, хачу заўважыць, што свет шмат шырэйшы, чым нашы жаданні сканцэнтравацца на чымсьці адным.

...Усё ж ранейшы вопыт, ранейшыя жаданні беларускіх пісьменнікаў-перакладчыкаў пазнаёміць юнага чытача з перакладамі лепшых узораў нацыянальных дзіцячых літаратур нельга назваць кан'юнктурнымі. Хіба не памятаюць сённяшнія дарослыя «Прыгоды Гугуцэ» Спірыдона Вангелі, выдадзеныя па-беларуску? Альбо — творы ўкраінца Багдана Чалага, туркменаў Каюма Тангрыкуліева, Нуры Байрамава, узбекскіх, таджыкскіх, грузінскіх, азербайджанскіх, літоўскіх, латышскіх, эстонскіх, кыргызскіх пісьменнікаў?.. Знаёмства з іншанацыянальнымі героямі з самага маленства — гэта яшчэ і школа выхавання інтэрнацыяналізму, памяркоўнасці ў стаўленні да іншых народаў, чаго сёння ўсяму свету так не стае. І не ўлічваць гэта ў наладжванні міжнародных літаратурных стасункаў ніяк нельга.

*Павел Альсовы*

Вераніка Карлюкевіч

# «Жоўтая кніга»: унікальная з'ява кітайскай перакладной літаратуры 50—70-х гадоў XX стагоддзя

**«Жоўтая кніга» — спецыфічны тэрмін, прыняты ў Кітаі для абазначэння выданняў для «ўнутранага карыстання». Такія кнігі сталі выпускаць яшчэ ў 50-я гады XX стагоддзя, але пік «жоўтых кніг» прыходзіцца на 1960—1970-я гады. Назву яны атрымалі за светла-жоўты колер вокладак. Кітайскія літаратуразнаўцы, гісторыкі пачалі звяртацца да вывучэння гэтай тэмы толькі ў 2000-я гады, у постсавецкім кітаязнаўстве да праблематыкі «жоўтых кніг» увогуле не звярталіся.**

Акрамя светла-жоўтага колеру, адметнай вокладку рабіў ужо сам надпіс «Для ўнутранага карыстання». У некаторых выпадках у кнізе можна было таксама знайсці ўкладку памерам тры з паловай сантыметры ў даўжыню і сем сантыметраў у шырыню з наступным тэкстам: «Гэта выданне для ўнутранага карыстання, прызначанае для азнаямлення дзеячаў літаратуры і мастацтва. Калі ласка, карыстайцеся кнігай акуратна, забараняецца перадаваць староннім асобам».

Перадумовай з'яўлення «жоўтых кніг» стала пагаршэнне савецка-кітайскіх адносін у канцы 50-х гадоў XX стагоддзя. Крытыка Іосіфа Сталіна, выкрыццё «культу асобы Сталіна» ў дакладзе М. Хрушчова на XX з'ездзе КПСС, новы савецкі курс на эканамічнае развіццё пры палітыцы «мірнага суіснавання» з капіталістычнымі краінамі выклікалі незадаволенасць кітайскага лідара Маа Цзэдуна. Палітыка М. Хрушчова, па азначэнні афіцыйнага Пекіна, супярэчыла камуністычным ідэям і была названая рэвізіяніцкай. Нядзіўна, што ў гэтых абставінах Аддзел прапаганды ЦК КПК выступіў з заклікам да выдавецкіх устаноў Кітая далучыцца да барацьбы супраць савецкага рэвізіянізму. Па сведчанні Чжан Фушэна, які, у сваю чаргу, цытуе тагачаснага намесніка галоўнага рэдактара часопіса «Сусветная літаратура» спадара Чэнь Біны (між іншым, вельмі ўважлівага да беларускай мастацкай літаратуры ўвогуле) у снежні 1959-га — студзені 1960 года ў пекінскім атэлі «Сінь Цяа» адбыўся сход работнікаў культуры, дзе Чжоў Ян, намеснік кіраўніка Аддзела прапаганды ЦК КПК, агучыў пазіцыю першых асоб краіны пра неабходнасць выдання твораў замежнай літаратуры ў якасці адваротнага прыкладу — як, маўляў, «не трэба». Чэнь Біны называе яшчэ адну ўскосную прычыну з'яўлення «жоўтых кніг». Хоць ніякіх афіцыйных дакументаў па гэтым пытанні прадстаўлена не было. І ўсё ж звернем увагу і на такую акалічнасць... У маі 1959 года кітайская дэлегацыя на чале з вядомым кітайскім літаратарам Маа Дунем прымала ўдзел у III з'ездзе савецкіх пісьменнікаў. Падчас работы з'езда ўзнікла шмат дыскусій наконт шляхоў развіцця савецкай літаратуры, але прадстаўнікі кітайскай дэлегацыі ў большасці выпадкаў не чыталі і нават не ведалі твораў, якія абмяркоўваліся на з'ездзе. Падкрэслім, што афіцыйных дадзеных пра вытокі з'явы пад назвай «жоўтая кніга» няма, адзіная крыніца, на якую, у асноўным, і спасылаюцца, — сведчанне непасрэдных удзельнікаў гэтага працэсу. Словы Чэнь Біны пацвярджаюць перакладчыкі старога пакалення — Гаа Ман і Лі Шугуан. Так, Лі Шугуан успамінае: «Пасля сходу ў снежні 1959 года ў атэлі "Сінь Цяа" Чжоў Ян пакінуў некалькі спецыялістаў для абмеркавання пытанняў гуманістычнага складніка і тэорыі чалавечай сутнасці ў творах літаратуры і мастацтва буржуазнага свету, а таксама барацьбы супраць рэвізіянізму. На сходзе прысутнічалі Чэнь Біны, Цзян Чуньфан і Фэн Чжы. Неабходна павысіць намаганні па даследаванні развіцця замежнай літаратуры і выданні матэрыялаў для азнаямлення кіраўнікоў краіны з негатыўнымі прыкладамі». Акрамя гэтага, Аддзел прапаганды ЦК КПК стварыў спецыяльную Групу антырэвізіяніцкай барацьбы ў сферы літаратуры і мастацтва. Падрыхтоўчая работа па стварэнні групы вялася Чжоў Янам і Лінь Маханем, кіраўніком групы стаў Лінь Махань. Асноўнымі кірункамі дзейнасці групы былі напісанне артыкулаў антырэвізіяніцкага зместу і выданне «жоўтых кніг». Па ўспамінах іншага сведкі — перакладчыка Цінь Шуньсіня, ці Чжоў Ян, ці Цянь Цзюньжуй сказалі такія словы: «Узровень нашых ведаў пра літаратуру Заходняй Еўропы і Амерыкі можна параўнаць з непрагляднай цемрай, а ў адносінах да літаратуры Савецкага Саюза і Усходняй Еўропы мы дэманструем павярхоўнасць і дылетанцтва».

Выданне «жоўтых кніг» можна ўмоўна падзяліць на два этапы. Першы этап — першая палова 60-х гадоў XX стагоддзя (да пачатку Культурнай рэвалюцыі 1966—1976 гадоў). Пік актыўнага выдання «жоўтых кніг» у гэты час назіраецца з 1962 па 1965 год. У 1962 годзе выйшла ў свет анталогія «Горкі плён», менавіта яе большасць даследчыкаў і лічаць першай «жоўтай кнігай». Анталогія была складзеная з 25 твораў (апавяданні, вершы, артыкулы) пісьменнікаў з Савецкага Саюза, Польшчы, Венгрыі, Чэхаславакіі і інш. Да Культурнай рэвалюцыі ў межах праекта «жоўтая кніга» было выдадзена больш за пяцьдзясят твораў перакладной мастацкай літаратуры, а таксама шэраг зборнікаў з літаратурна-крытычнымі артыкуламі. На кітайскай мове з'явіліся «Людзі, гады, жыццё» І. Эрэнбурга, «Адзін дзень Івана Дзянісавіча» А. Салжаніцына, «Жывыя і мёртвыя» К. Сіманава, «Зорны білет» В. Аксёнава, «Бабін Яр» Я. Еўтушэнкі і інш. У асноўным перакладалі творы сучаснай савецкай літаратуры. Пазней пачалі звяртацца да еўрапейскай і амерыканскай літаратур: «У дарозе» Дж. Кэруака, «Лавец у жыце» Дж. Сэлінджэра, «У чаканні Гадо» С. Бекета і інш. Другі этап выдання «жоўтых кніг» храналагічна звязаны з сярэдзінай і канцом Культурнай рэвалюцыі, асноўны ўздым назіраўся з 1971 па 1978 год. «Жоўтыя кнігі» ў гэты перыяд далёка не заўсёды адпавядалі сваёй назве: прызначаныя для ўнутранага карыстання пераклады з замежных літаратур пачалі выходзіць у белых і светла-шэрых вокладках.

Чжан Фушэн, які доўгі час даследаваў «жоўтыя кнігі», так расказвае пра працэс выбару твораў для перакладу і публікацыі: «Спадар Сунь Шэньу (Сунь Шэньу, кітайскі перакладчык Янкі Купалы, у 1960-я гады працаваў намеснікам галоўнага рэдактара выдавецтва «Жэньмін вэньсюэ чубаньшэ». — **В. К.**) нёс поўную адказнасць за гэтую катэгорыю кніг. Ён уважліва праглядаў кожны выпуск «Каталога замежнай кніжнай прадукцыі», затым заказваў тыя з кніг, якія больш за ўсё ўхвалялі ці, наадварот, крытыкавалі. У той час рэдакцыя таксама выпісвала шмат савецкіх літаратурных часопісаў і газет: «Литературная газета», «Знамя», «Звезда», «Октябрь», «Новый мир», «Наш современник» і інш. Часопісы і газеты раздавалі супрацоўнікам, якія выступалі з прапановамі, канчатковае рашэнне прымаў Сунь Шэньу. Цікавая сама па сабе і сістэма распаўсюджвання «кніг для ўнутранага карыстання». «У пачатку 60-х гадоў кожную кнігу выдавалі тыражом недзе ў 900 асобнікаў. Да чытачоў былі самыя высокія патрабаванні: чыноўнікі міністэрскага ўзроўню і вядомыя пісьменнікі. Гэта надавала пэўную "таемнасць". Па словах Цінь Шуньсіня, які займаўся рэдагаваннем "жоўтых кніг", у галоўнай рэдакцыі ён аднойчы ўбачыў маленькі сшытак. Пасля выхаду кнігі ў свет апавяшчалі ўсіх з гэтага спісу пра магчымасць набыць дадзенае выданне».

У гэты час з паметай «толькі для ўнутранага карыстання» выходзяць дзве «жоўтыя кнігі» беларускага паходжання: «Трэцяя ракета» В. Быкава (выдавецтва «Цзоцзя чубаньшэ», 1965) і «Снежныя зімы» І. Шамякіна (выдавецтва «Шанхай жэньмінь чубаньшэ», 1972—1973). Абедзве кнігі апублікаваны ў перакладзе Лі Лянміня, аўтара кітайскай версіі аповесці Я. Коласа «Дрыгва». Нягледзячы на тое, што Лі Лянмінь пачынаў з перакладаў дзіцячай літаратуры, у памяці чытачоў ён застаўся «рэвалюцыйным» перакладчыкам. З 1952 года, калі ён зрабіў пераклад рамана Э.Л. Войніч «Авадзень», Лі Лянмінь выбірае творы пра гераічныя постаці ў сусветнай гісторыі: «Спартак» Р. Джаваньёлі, «Белы раб» Хільдрэта, «Качубей» А. Первенцава, а таксама аповесць Я. Коласа пра подзвігі дзеда Талаша «Дрыгва». Сам Лі Лянмінь так тлумачыць свой выбар: «Галоўныя героі гэтых твораў — пакутнікі, гераічныя асобы, якія сфарміраваліся ва ўмовах Вялікай Айчыннай вайны, народна-вызваленчай і класавай барацьбы. Таму, выбіраючы тэматыку для мастацкіх перакладаў, я кіраваўся прынцыпам "жыццяпіс гераічнай постаці"».

Добра арганізаваная сістэма па перакладзе і выданні твораў замежнай, у першую чаргу савецкай, літаратуры ў Кітаі ў 50—70-я гады XX стагоддзя сведчыць пра сталае разуменне кітайскімі кіраўнікамі істотнай ролі дзяржавы ў развіцці культурных працэсаў, а таксама пра іх уплыў на фарміраванне ў краіне дамінуючай ідэалогіі. У пэўнай ступені гэты падыход захаваўся і ў сучаснай дзяржаўнай палітыцы Кітая ў дачыненні да формаў успрымання перакладной замежнай літаратуры.

## Кастусь Ладуцька

# Знакавая падзея і для Кітая

**Творчасць Святланы Алексіевіч была вядомая ў свеце і да прысуджэння ёй Нобелеўскай прэміі. І, несумненна, перш-наперш сваёй радасцю, сваімі меркаваннямі пра адносіны з пісьменніцай у кастрычніку 2015 года дзяліліся тыя, хто перакладаў яе кнігі, хто пісаў пра іх у друкаваных выданнях розных краін. Так здарылася і з кітайскім асэнсаваннем зробленага, здзейсненага, напісанага вядомым літаратарам.**

Як толькі стала вядома аб прысуджэнні Святлане Алексіевіч Нобелеўскай прэміі, мяне закідаў sms-камі пекінскі знаёмы Чжан Хунба. Вось змест толькі некаторых з іх: «...Віншуем з атрыманнем Алексіевіч Нобелеўскай прэміі»; «Ці не скажаш E-mail яе? Патрэбны афіцыйныя матэрыялы пра яе…»; «Патрэбен яе тэлефон...»; «СМІ жадаюць браць у яе інтэрв'ю». А я якраз у той момант — у другой палове дня 8 кастрычніка — гутарыў у рэдакцыі «Звязды» з намеснікам дырэктара Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта спадарыняй Лю Сулін. Гутарылі наконт выдання па-беларуску кнігі паэзіі Ван Гачжэна ў серыі «Светлыя знакі. Паэты Кітая»… А Чжан Хунба (ён просіць называць яго Алег) — кіраўнік Усекітайскага агенцтва па ахове аўтарскіх правоў. Дзякуючы яго ініцыятыўнай рабоце ў Кітаі пабачылі свет шмат якія кнігі пісьменнікаў былога Савецкага Саюза… А гэта — і проза Барыса Васільева, і гістарычная публіцыстыка Роя Мядзведзева, і шмат што яшчэ.

Крыху болей як за два тыдні перад гэтай радаснай навіной я быў у Кітаі. З 19 па 24 верасня. 20 верасня разам з Алегам, дакладней — з паважаным Чжанам Хунба, і яшчэ некалькімі знаёмымі мы наведаліся да перакладчыка, мастака-каліграфа Гаа Мана. Будучы заўзятым прапагандыстам славянскіх літаратур у Паднябеснай, ён яшчэ ў 1950-я гады разам са старэйшым калегам Гэ Баацянем пераклаў на кітайскую мову кнігу выбранай паэзіі Максіма Танка. Гаа Ман — перакладчык на кітайскую мову паэм «Рэквіем» Ганны Ахматавай, «Кацярыны» неўміручага Тараса Шаўчэнкі, вершаў Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна... Адзначаны ў Расіі многімі дзяржаўнымі ўзнагародамі, прэміямі. І яшчэ — перакладчык кнігі Святланы Алексіевіч «Цынкавыя хлопчыкі».



Чжан Хунба, Алесь Карлюкевіч і Бэн Бінь.

Тады, 20 верасня, канешне ж, зайшла размова пра наміняванне Святланы Алексіевіч на Нобелеўскую прэмію. Гаа Ман пераканаўча заўважыў: «Веру, што прэмію прысудзяць Святлане Алексіевіч…»

Дарэчы, у Кітаі мне давялося пазнаёміцца і з магістранткай Марыяй з 2-га Пекінскага лінгвістычнага ўніверсітэта — яна піша працу па творчасці Святланы Алексіевіч. Параўноўвае зробленае ёю з прозай Аляксандра Салжаніцына...

Мінулі лічаныя дні. Я вярнуўся ў Мінск. І вось 8 кастрычніка напісаў пра радасную вестку і Гаа Ману. Папрасіў яго падзяліцца сваімі ўражаннямі. Ліст у адказ прыйшоў з Кітая не адразу. Гаа Ману — амаль 90 гадоў (нараджэннем ён з 1926 года)…

«…З вялікім спазненнем высылаю Вам некалькі слоў пра Святлану Алексіевіч. Я не ўмею карыстацца E-mail, а дачка захварэла.

Мне цяжка пісаць па-руску…»

А што да ліста «з нагоды», то ў старонкі рукапіснага тэксту (усю сваю карэспандэнцыю Гаа Ман піша ад рукі, а пасля хтосьці з яго памагатых — перш-наперш дачка — напісанае скануе, і на другім канцы свету карэспандэнты Гаа Мана

маюць магчымасць атрымаць электронны адбітак яго лістоў) ёсць і назва — «Я — шчаслівы, што знаёмы са Святланай Алексіевіч».

Слова — кітайскаму перакладчыку «Цынкавых хлопчыкаў»: «Я шчаслівы, што знаёмы са Святланай Алексіевіч.

Мы ўпершыню сустрэліся ў Пекіне ў 1989 годзе. Яна была ў складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў на размове ў Інстытуце замежных літаратур пры Акадэміі сацыяльных навук КНР.

Я шчаслівы, што тады яна падарыла мне сваю кнігу «У вайны не жаночы твар».

Праз некалькі гадоў я прачытаў яе «Цынкавых хлопчыкаў», кнігу, якая моцна закранула маю душу. І я амаль са слязьмі на твары пераклаў яе на сваю родную мову. Кніга была выдадзена. І я паслаў яе Святлане.

Пасля мы перапісваліся (яна з Берліна, а я з Пекіна).

Пасля мнагакратных пошукаў і выпрабаванняў яна праклала сваю сцежку ў пісьменніцкай прасторы — гэта дакументальная літаратура. Гэта вялікі ўклад у мастацкі свет.

У 2015 годзе, вечарам 8 кастрычніка, калі па тэлебачанні абвясцілі, што Святлана Алексіевіч узнагароджана Нобелеўскай прэміяй, дзясяткі карэспандэнтаў, ведаючы, што я пераклаў яе кнігу, пачалі званіць мне і задаваць пытанні за пытаннямі — пра яе, пра яе творчасць, яе аблічча і манеру, пра розныя дробязі.

Цяпер ва ўсёй кітайскай перыёдыцы пішацца пра яе. Гэта неверагодная літаратурная падзея ў Кітаі.

Паўвекавая праца гэтай беларускай жанчыны была нялёгкай. Яна не імкнулася колькасцю твораў заваяваць чытача. А думала пра якасць, пра тое, як увайсці ў душу чалавека, як данесці чытачу ісціну.

Я шчаслівы, што быў знаёмы са Святланай Алексіевіч. З пачуццём упэўненасці мы чакаем ад яе новых твораў і велізарнага поспеху!..»

Выпісанае і вымаўленае спадаром Гаа Манам не можа не кранаць. А я вяртаюся ў верасень 2015 года ў Пекін. У кватэру Гаа Мана. І чую яго пераканаўчы голас пра магчымую перамогу Святланы Алексіевіч. І думаю, што атрыманню ёй Нобелеўскай прэміі дапамагла і такая перакананасць яе, Святланы Алексіевіч, шчырых прыхільнікаў. Такіх, як кітайскі перакладчык Гаа Ман. Ці не так?..


Выкладчыкі Лю Мяа і Чжан Хун Цінь.



Магістрантка Марыя толькі што пазнаёмілася з новым кітайскім выданнем Святланы Алексіевіч.

Ева Лявонава

# «Я нажыў незлічонае багацце. Час аддаваць яго нашчадкам…»

## *Альфрэд Нобель і Нобелеўская прэмія*

Знакаміты нямецкі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1946) Герман Гесэ (1877—1962) неяк заўважыў: «Прайшло даволі шмат часу, перш чым праклала сабе шлях разуменне таго факта, што тэхніка, прамысловасць, гандаль… таксама маюць патрэбу ў агульным падмурку інтэлектуальнай маральнасці і сумленнасці» [цыт. па: 3, 130]. Адным з тых, чыя дзейнасць была асвечана гэтым разуменнем, стаў Альфрэд Нобель, фундатар славутай Нобелеўскай прэміі, якой вось ужо больш за стагоддзе ўганароўваюцца выдатныя дасягненні ў навуцы і літаратуры.

Гісторыя Нобелеўскай прэміі, задума і шлях да яе здзяйснення маглі б стаць сюжэтам не для аднаго рамана або фільма з напружанай інтрыгай. Аднак перадусім аддадзім даніну павагі самому Альфрэду Нобелю, згадаем некаторыя абставіны яго жыцця.

Альфрэд Нобель нарадзіўся 21 кастрычніка 1833 года ў Стакгольме. Яго продкі, першыя звесткі пра якіх сустракаюцца ў дакументах канца XVII стагоддзя, паходзілі з сялян. Бацька Эмануэль Нобель (1801—1872), будаўнік і вынаходнік, пэўны час жыў у Расіі, працаваў на нафтапромыслах Баку. У шлюбе з Каралінай Андрыетай Алсель (1803—1879) меў васьмёра дзяцей, пяцёра з якіх памерлі вельмі рана; Альфрэд ад нараджэння таксама не вызначаўся моцным здароўем.

У 1837 годзе бацька пакідае сям'ю ў Швецыі, а сам дзеля ўмацавання матэрыяльнага становішча накіроўваецца спачатку ў Фінляндыю, пасля — у Санкт-Пецярбург. У 1842 годзе сям'я ўз'ядналася ў Расіі; з дзевяцігадовым Альфрэдам пачаў займацца прыватны настаўнік. У 1850—1853 гадах юнак падарожнічае; каб паглыбіць веды па хіміі, ён робіць працяглы прыпынак у Парыжы, дзе слухае лекцыі знакамітых вучоных. Па вяртанні ў Санкт-Пецярбург Альфрэд пачынае кар'еру ў бацькавай кампаніі, што займалася вытворчасцю боепрыпасаў. Па заканчэнні Крымскай вайны (1853—1856) прадпрыемства перайшло на вытворчасць камплектавальных для параходаў.

Фінансавы крызіс вымусіў закрыць кампанію, і сям'я Нобеляў перабралася на радзіму. Асноўны час Альфрэд прысвячае вынаходніцкай дзейнасці, атрымлівае шэраг патэнтаў у розных галінах механікі і хіміі. У 1863 годзе ён вынаходзіць дэтанатар, з дапамогай якога можна выкарыстоўваць нітрагліцэрыну ў якасці выбуховага рэчыва. Да ліку важных вынаходніцтваў А. Нобеля належаў гэтак званы выбуховы капсуль, што адыграў вялікую ролю ў далейшым выкарыстанні нітрагліцэрыны як выбуховага рэчыва, у вывучэнні ўласцівасцяў іншых выбуховых матэрыялаў. У час аднаго з эксперыментаў загінула восем чалавек, сярод якіх быў і родны брат Альфрэда — 21-гадовы Эміль. Бацька ў выніку цяжкай псіхічнай траўмы быў паралізаваны.

З 1864 года адкрыцці Нобеля выкарыстоўваюць для пракладкі чыгуначных тунэляў. Сам ён кіруе заснаванай ім кампаніяй па вытворчасці нітрагліцэрыны. У 1865 годзе адкрыўся першы філіял прадпрыемства за мяжой — у Гамбургу, наступны пачаў дзейнічаць у ЗША. Выкарыстанне нітрагліцэрыны часта суправаджалася вялікімі трагедыямі; у выніку адной з іх быў цалкам знішчаны гамбургскі завод.

У настойлівых пошуках жаданай бяспекі пры рабоце з нітрагліцэрынай Альфрэд Нобель у 1867 годзе робіць сваё галоўнае адкрыццё — дынаміту, ці, як тады яго называлі, «бяспечнага выбуховага парашку Нобеля». Гэтаму вынаходніцтву ў вялікай ступені абавязаны сваім здзяйсненнем такія грандыёзныя праекты, як пракладка Альпійскага тунэля, Карынфскага канала ў Грэцыі, расчыстка рэчышча Дуная і многія іншыя. Нобель становіцца адным з найбагацейшых у свеце людзей, яго называюць «другім Ракфелерам». З часоў франка-прускай вайны (1870—1871) дынаміт пачынаюць выкарыстоўваць і ў ваенных мэтах. Напрыканцы жыцця А. Нобеля ў свеце існавала 93 прадпрыемствы па вытворчасці разнастайных выбуховых рэчываў. Продаж вучоным аднаго са сваіх патэнтаў Італіі прывёў да канфлікту з уладамі Францыі, дзе А. Нобель тады жыў. У выніку ён абраў месцам жыхарства Італію, Сан-Рэма, адкуль час ад часу наведваўся ў Швецыю. Апошнія гады жыцця ён прысвяціў доследам па вытворчасці сінтэтычнага каўчуку і штучнага шоўку.

Альфрэд Нобель быў неардынарнай ва ўсіх адносінах асобай. Выдатны вучоны-хімік, вынаходнік і бізнесмен, ён ведаў, апроч шведскай, многія іншыя еўрапейскія мовы — французскую, нямецкую, рускую, англійскую, прычым валодаў імі бездакорна, нібы кожная з іх была яго роднай мовай. Знаўца філасофіі і мастацтва, асабліва літаратуры (яго ўлюбёнцамі былі французскія пісьменнікі Альфонс дэ Ламарцін, Віктор Гюго, Гі дэ Мапасан, Анарэ дэ Бальзак, расійскі — Іван Тургенеў, англічане Персі Бішы Шэлі і Джордж Байран, нарвежац Генрык Ібсен), ён і сам не быў абдзелены літаратурным талентам, пісаў (пашведску і па-англійску) п'есы, вершы, раманы і навелы, хаця, надзвычай да сябе патрабавальны, адважыўся апублікаваць толькі адзін свой твор. Любіў А. Нобель падарожжы, якія дазвалялі знаёміцца з новымі культурамі і звычаямі, вылучаўся імкненнем да здаровага ладу жыцця: не курыў, не ўжываў моцных напояў, не любіў марнаваць час на азартныя гульні. Даволі замкнёны па натуры, далікатны, ён у стасунках з людзьмі заўсёды вытрымліваў дыстанцыю, што не перашкаджала яму ў выпадках неабходнасці маральна і матэрыяльна ім дапамагаць. Мала хто з наймальнікаў клапаціўся пра дабрабыт сваіх рабочых і службоўцаў гэтак, як А. Нобель. Невыпадкова біёграфы часта згадваюць яго словы: «Людзі, якіх турбуе выключна выгада, наўрад ці заслугоўваюць павагі, а ўсведамленне сапраўдных пабуджальных матываў іх дзейнасці здольнае азмрочыць радасць чалавечых стасункаў» [3, 130].

Між тым Альфрэд Нобель заставаўся, па сутнасці, адзінокім чалавекам. Прычынай была перш за ўсё хваравітасць — прыступы мігрэні суправаджаліся бясконцымі прастудамі, цынгой, пазней далі аб сабе знаць сімптомы цяжкай хваробы сэрца. У адным з лістоў за 1887 год А. Нобель прызнаваўся: «Боль не адпускае ні на імгненне. Маё сэрца налітае свінцом. Калі табе 54 гады і ты зусім адзінокі, калі адзін толькі наёмны слуга ўважлівы да цябе, думкі міжволі становяцца змрочнымі» [3, 46].

Неаднойчы Альфрэд Нобель расчароўваўся ў некаторых сваіх супрацоўніках — людзях, паводле яго слоў, «з эластычным, як гума, сумленнем», што маглі скрасці яго ідэі або злоўжыць яго прыхільнасцю. Ведаючы ўсе гэтыя абставіны, пачынаеш разумець, чаму ён так любіў творчасць Байрана.

Да ўсяго не склаўся і асабісты лёс вучонага. Сям'і, адданай спадарожніцы жыцця ён не займеў, хаця захапленні жанчынамі здараліся, і галоўным з іх стала дваццацігадовая жыхарка Вены Соф'я Хес. Прыгожая, непасрэдная, абаяльная, аднак цалкам прыземленая, яна не прынесла яму шчасця; біёграфы і па сённяшні здзіўляюцца, чым яна магла яго прывабіць. Тым не менш іх знаёмства працягвалася доўга; у архівах Нобелеўскага фонду захоўваецца 216 лістоў А. Нобеля да Соф'і і каля 40 яе лістоў да яго.

Памёр Альфрэд Нобель ад інсульту а другой гадзіне ночы 10 снежня 1896 года. У надтрунной прамове 17 снежня пастар Натан Сёдэрблум (пазней ён стане архіепіскапам Швецыі) скажа: «…выглядаючы ў грамадскай думцы знакамітым і заможным, ён мала цікавіў людзей проста як чалавек. Аднак не будзем пасля яго смерці паўтараць тую самую памылку, бо ў жыццё вечнае мы не зможам забраць з сабой ні нашай маёмасці, ні нашых дасягненняў і павінны будзем забыцца на наша зямное шчасце. А якраз гэткага шчасця… быў амаль пазбаўлены наш памерлы брат, нягледзячы на ўсё сваё багацце і любоў калег. І гэта быў яго выбар, яго лёс — жыць у адзіноце і памерці ў адзіноце, і побач не было нікога, хто мог бы суцешыць яго, — ні сына, ні жонкі, здольных разгладзіць маршчыны на яго чале. Ды ўсё ж ён быў не з тых, каго маглі зрабіць жорсткім грошы ці чыё існаванне магло быць атручана адзінотай; да канца сваіх дзён ён быў добрым і мяккасардэчным…» [3, 42]. Пасля развітання труна з целам Альфрэда Нобеля была дастаўлена ў Стакгольм, дзе 29 снежня ў прысутнасці мноства суайчыннікаў і прадстаўнікоў замежных краін адбылася памінальная служба.

Адзін вялікі і відавочны парадокс суправаджаў усё жыццё (асабліва апошні перыяд) А. Нобеля: вынаходнік дынаміту, ён верыў у магчымасць будучага гарманічнага суіснавання людзей, марыў пра тое, каб «убачыць мірныя парасткі чырвонай ружы ў гэтым расколатым свеце» [2, 18], каб «стала немагчымай якая б то ні было вайна» [2, 13]. Невыпадкова ён завяшчаў прысуджаць прэміі не толькі за найвыдатнейшыя дасягненні ў навуцы і літаратуры, але і за міратворчую дзейнасць.

27 лістапада 1895 года ў Парыжы А. Нобель склаў завяшчанне, у якім, у прыватнасці, пісаў: «Уся маёмасць, што застаецца пасля мяне і падлягае рэалізацыі, размяркоўваецца наступным чынам.

Увесь капітал павінен быць унесены маімі душапрыказчыкамі на надзейнае захоўванне пад паручальніцтва і мусіць скласці фонд; яго прызначэнне — штогадовае ўзнагароджванне грашовымі прызамі тых асоб, якія цягам папярэдняга года здолелі прынесці найбольшую карысць чалавецтву. Сказанае адносна прызначэння прадугледжвае, што прызавы фонд павінен дзяліцца на пяць роўных частак, якія прысуджаюцца наступным чынам: адна частка — асобе, якая зробіць найважнейшае адкрыццё ці вынаходніцтва ў галіне фізікі; другая — за найважнейшае ўдасканаленне або адкрыццё ў галіне хіміі; трэцяя — за найважнейшае адкрыццё ў галіне фізіялогіі або медыцыны; чацвёртая — за найвыдатнейшы твор ідэалістычнай скіраванасці ў галіне літаратуры; нарэшце, пятая частка — за найбольшы ўклад у справу ўмацавання садружнасці нацый, у ліквідацыю або зніжэнне напружанасці супрацьстаяння ўзброеных сіл, а таксама ў арганізацыю або садзейнічанне правядзенню кангрэсаў міралюбных сіл…» [2, 19].

У 1968 годзе да пяці акрэсленых самім А. Нобелем прэмій была дададзена яшчэ адна — штогадовая прэмія па эканоміцы, ініцыятарам заснавання якой стаў Шведскі банк, гэткім чынам адзначыўшы сваё 300-годдзе.

Маёмасць А. Нобеля на момант яго смерці ацэньвалася ў 31 мільён шведскіх крон (1 мільён 706 тысяч 100 англійскіх фунтаў па тагачасным курсе). Заснаванне фонду адбылося ў 1900 годзе, а першыя Нобелеўскія прэміі былі ўручаны ў 1901 годзе.

Шлях да здзяйснення задуманага А. Нобелем быў нялёгкім. Не абышлося без неўразумення тых, на каго, паводле завяшчання, ускладалася функцыя вызначэння асоб, вартых узнагароды, з ліку мноства прэтэндэнтаў, і без нязгоды, нават шоку спадкаемцаў заснавальніка прэміі. Чатыры гады пайшло на судовыя працэсы, вырашэнне рознага роду канфліктаў і праблем. Урэшце выканаўцам волі А. Нобеля — Рагнару Сульману, Рудальфу Лілеквісту і іх адвакату Карлу Ліндхагену — праз неймаверныя высілкі ўдалося даказаць законнасць завяшчання, з чым мусілі пагадзіцца і спадчыннікі. З апошніх хутчэй за іншых адгукнуўся на волю А. Нобеля яго пляменнік Эмануэль, пазней ён нават спрыяў фонду ўласнай фінансавай падтрымкай.

Усе абавязкі па прысуджэнні Нобелеўскай прэміі згадзіліся ўскласці на сябе Каралеўская Шведская Акадэмія навук, Каралеўскі Каралінскі медыцынскі інстытут, Шведская Акадэмія літаратуры і спецыяльна ўтвораны пры Нарвежскім сторцінгу (парламенце) у Осла камітэт (трэба мець на ўвазе, што падзеі адбываліся яшчэ да распаду шведска-нарвежскай уніі). Паводле статута, Нобелеўскі фонд з'яўляецца незалежнай няўрадавай арганізацыяй, у задачы якой уваходзяць забеспячэнне фінансавай асновы дзейнасці па ўзнагароджванні лаўрэатаў, абарона інтарэсаў вышэйназваных устаноў, а таксама падрыхтоўка і правядзенне штогадовай цырымоніі ўручэння прэмій. Пералічаныя вышэй установы выбіраюць 15 апекуноў у апякунскую раду, якая, у сваю чаргу, выбірае сяброў Рады дырэктараў Нобелеўскага фонду ў складзе 5 чалавек. Старшыня Рады і яго намеснік прызначаюцца самім каралём.

Нобелеўскі камітэт штогод рассылае тысячы запрашэнняў (у тым ліку да 500, датычных літаратуры) вядомым вучоным з просьбай паведаміць сваё меркаванне наконт асоб, якія заслугоўваюць Нобелеўскай прэміі ў адпаведнай галіне. Што да прэміі па літаратуры, то падаць свае прапановы маюць права члены Шведскай, Французскай і Іспанскай Акадэмій літаратуры, члены літаратурных секцый іншых акадэмій, прафесары эстэтыкі, літаратуры і гісторыі, нобелеўскія лаўрэаты па літаратуры, кіраўнікі пісьменніцкіх арганізацый. Што важна, ад асоб, якія не атрымалі запрашэння-анкеты, прапановы не прымаюцца. Звесткі пра кандыдатаў дасылаюцца ў Стакгольм да 1 лютага. У лютым — верасні эксперты вывучаюць прапанаваныя творы.

Варта сказаць, што напачатку нават самі члены Шведскай Акадэміі сумняваліся, ці здольныя яны будуць кожны год аб'ектыўна ацэньваць усю сучасную сусветную літаратуру, каб спыніць свой выбар на адным-адзіным творцы, ды яшчэ супрацьстаяць непазбежным спробам ціску з боку зацікаўленых асоб і арганізацый; апроч таго, ці не будуць Акадэміяй закінуты ўсе справы, апроч функцыі журы. Нарэшце члены Акадэміі прыйшлі да канчатковай высновы,

На аверсе — профіль Альфрэда Нобеля з датамі яго жыцця, на рэверсе — міфалагічная сцэнка і радок з шостай песні «Энеіды» Вергілія на лацінскай мове: «Адкрыццямі ў мастацтве ўпрыгожана жыццё». Аўтар медаля — шведскі гравёр і скульптар Эрык Ліндберг

агучанай яе тагачасным кіраўніцтвам: «У выпадку, калі Акадэмія ўхіліцца ад выканання гэтых абавязкаў, ідэя прысуджэння прэмій па літаратуры так, як гэта было задумана Нобелем, застанецца неўвасобленай і выдатныя сучасныя пісьменнікі будуць пазбаўлены заслужанага прызнання і прывілеяў. Гэта, несумненна, выкліча лавіну крытыкі і папрокаў…» І далей: «Трэба прызнаць, што яно (дадзенае даручэнне. — **Е. Л.**) насамрэч новае і надзвычай шырокае, аднак мае непасрэднае дачыненне да літаратуры і зусім не супярэчыць нашай працы. Не ведаючы найлепшых узораў сучаснай сусветнай літаратуры, ніякая Акадэмія не ў стане скласці ўяўлення пра літаратуру ўласнай краіны, і ўрэшце прэміі, пра якія ідзе размова, прызначаны людзям найвялікшага пісьменніцкага таленту, з творамі якіх Акадэміі не пашкодзіла б пазнаёміцца ў любым выпадку» [3, 103—104].

Альфрэд Нобель спецыяльна падкрэсліў у свой час: «Маё асаблівае жаданне заключаецца ў тым, каб на прысуджэнне прэміі не ўплывала нацыянальнасць кандыдата, каб прэміі атрымоўвалі найбольш вартыя» [1, 5]. Між тым літаратурны твор павінен быць напісаны на шведскай, англійскай, нямецкай, французскай або іспанскай мове ці перакладзены на адну з іх; таму, відавочна, якасць перакладу адыгрывае выключна важную ролю.

У кастрычніку імёны абраных падаюцца на афіцыйнае зацвярджэнне. Паведамляецца пра новых лаўрэатаў, як правіла, у дзень нараджэння А. Нобеля — 21 кастрычніка, уручэнне ж прэмій традыцыйна адбываецца ў дзень яго смерці — 10 снежня. Пасля гэтага лаўрэаты чытаюць у Стакгольме свае «нобелеўскія лекцыі».

Нобелеўскаму лаўрэату ўручаюцца залаты медаль, дыплом і чэк на пэўную суму. Медаль лаўрэата ў галіне літаратуры мае дыяметр 65 мм і важыць 205 г, яго намінальны кошт — 2 тысячы долараў. На аверсе — профіль Альфрэда Нобеля з датамі яго жыцця, на рэверсе — міфалагічная сцэнка і радок з шостай песні «Энеіды» Вергілія на лацінскай мове: «Адкрыццямі ў мастацтве ўпрыгожана жыццё». Аўтар медаля — шведскі гравёр і скульптар Эрык Ліндберг. Медаль уручаецца ў скрыначцы карычневага колеру. Дыплом кожны раз афармляецца па-новаму, бо ён прызначаны адлюстраваць дух творчасці канкрэтнага пісьменніка. Часта ў малюнку выкарыстоўваюцца выявы кветак, асабліва руж, якія вельмі любіў А. Нобель. Дыплом месціць у сабе фармулёўку ўганаравання пісьменніка і ўручаецца ў скрыначцы шэрага колеру. Розная кожны год і грашовая сума, якая залежыць ад прыбытку з абарачэння фондавага капіталу. Паводле звестак, гэтая сума на працягу ХХ — пачатку ХХІ стагоддзя мела выразную тэндэнцыю да павелічэння.

Звяртаюць на сябе ўвагу некаторыя адхіленні ад працэдуры прысуджэння прэмій, прадугледжанай самім А. Нобелем. Так, уганараванай можа быць праца не толькі мінулага года, але і папярэдніх, прычым дастаткова аддаленых, гадоў, калі яе значэнне сталася відавочным менавіта з цягам часу (як гэта было з раманамі Т. Мана «Будэнброкі» або Э. Канэці «Асляпленне»). Пісьменнік можа быць уганараваны і за сукупнасць твораў (што ў большасці выпадкаў і робіцца).

Ёсць яшчэ адзін аспект у прысуджэнні Нобелеўскай прэміі, які ідзе ўразрэз з пажаданнем заснавальніка: найчасцей яна прысуджаецца творцам сталага ўзросту, а між тым Альфрэд Нобель спецыяльна падкрэсліваў у завяшчанні свой намер падтрымліваць маладых таленавітых асоб. Невыпадкова нобелеўскі лаўрэат па літаратуры за 1925 год англійскі драматург Бернард Шоў назваў Нобелеўскую прэмію выратавальным кругам, кінутым плыўцу, які ўжо выбраўся на бераг. Сапраўды, лаўрэатамі прэміі па літаратуры сталі, напрыклад, 85-гадовы Тэадор Момзен, 83-гадовы Яраслаў Сейферт, 87-гадовая Дорыс Лесінг, 80-гадовы Паўль Хейзэ і г. д. Сярэдні ўзрост лаўрэатаў па літаратуры складае прыкладна 64 гады, хаця былі і выключэнні: Рэдзьярд Кіплінг атрымаў прэмію ў 42 гады, Альбер Камю — у 44, Сінклер Льюіс — у 45, Сігрыд Унсет і Перл Бак — у 46...

Ёсць адзін аспект у прысуджэнні Нобелеўскай прэміі, які ідзе ўразрэз з пажаданнем заснавальніка: найчасцей яна прысуджаецца творцам сталага ўзросту, а між тым Альфрэд Нобель спецыяльна падкрэсліваў у завяшчанні свой намер падтрымліваць маладых таленавітых асоб

Трэба заўважыць яшчэ, што фармулёўка, датычная прэміі па літаратуры, ад самага пачатку прыцягнула ўвагу прэсы (найперш шведскай) некаторай сваёй няпэўнасцю: прысуджаць прэмію «асобе, якая ў галіне літаратуры напіша найвыдатнейшы твор ідэалістычнай накіраванасці». Сапраўды, паняцце «ідэалістычнасці» пры больш блізкім разглядзе само па сабе досыць размытае, тым больш кожнае тлумачэнне яго можа быць колькі заўгодна суб'ектыўным.

За 1901—2015 гады Нобелеўскай прэміяй па літаратуры ўганараваны 112 чалавек. Сярод іх не толькі пісьменнікі, але і філосафы, гісторыкі, грамадска-палітычныя дзеячы, чые творы адметныя мастацкасцю мовы, агульналюдскасцю і глыбінёй праблем і ідэй. Не прысуджалася прэмія ў 1935 годзе і ў асобныя гады Першай і Другой сусветных войнаў (1914, 1918; 1940—1943). Чатыры разы (у 1904, 1917, 1966 і 1974) Нобелеўская прэмія ўручалася адразу двум пісьменнікам, бо абодва атрымлівалі аднолькавую колькасць галасоў: у 1904 годзе гэта былі Фрэдэрык Містраль (Францыя) і Хасэ Эчэгарай-і-Эйсагірэ (Іспанія), у 1917 годзе — Карл Г'елеруп і Генрык Пантопідан (абодва з Даніі), у 1966 годзе — Шмуэль Агнон (Ізраіль) і Нэлі Закс (нямецка-шведская паэтэса), у 1974 годзе — Эйвінд Юнсан і Хары Марцінсан (абодва са Швецыі).

За час існавання прэміі яе лаўрэатамі сталі 14 жанчын: Сельма Лагерлёф (Швецыя), Грацыя Дэледа (Італія), Сігрыд Унсет (Нарвегія), Перл Бак (ЗША), Габрыэла Містраль (Чылі), Нэлі Закс (Германія і Швецыя), Надзін Гордымер (Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка), Тоні Морысан (ЗША), Віслава Шымборска (Польшча), Эльфрыда Елінэк (Аўстрыя), Дорыс Лесінг (Англія), Герта Мюлер (ФРГ), Эліс Манро (Канада), Святлана Алексіевіч (Беларусь).

Два пісьменнікі ад прэміі адмовіліся: у 1958 годзе пад ціскам улад Барыс Пастарнак і ў 1964 годзе — Жан-Поль Сартр. Паводле статута і згодна з завяшчаннем Альфрэда Нобеля не ставіць помнікі нябожчыкам, а дапамагаць шматабяцальным жывым творцам, прэмія не прысуджаецца памерлым пісьменнікам.

Адзначым, што не было амаль ніводнага года, калі б не выказваўся сумнеў у абгрунтаванасці чарговага рашэння Нобелеўскага камітэта. Насамрэч, не сталі лаўрэатамі творцы, пад знакам эстэтычных адкрыццяў якіх прайшло ўсё XX стагоддзе: Генрык Ібсен, Джэймс Джойс, Леў Талстой, Марсель Пруст, Поль Валеры, Франц Кафка, Гіём Апалінэр і інш. Безумоўна, і пазней былі (і ёсць) вартыя прэміі майстры слова. Аднак пагодзімся: які б пісьменнік ні станавіўся лаўрэатам Нобелеўскай прэміі, ён не толькі дадаваў славы сваёй уласнай краіне, але і ўзбагачаў усіх нас, бо самую прэстыжную ў свеце ўзнагароду атрымліваў за выдатныя дасягненні на карысць усяго чалавецтва. У гэтым сэнсе атрыманне Нобелеўскай прэміі нашай суайчынніцай Святланай Алексіевіч — вялікая падзея не толькі для Беларусі, сённяшняй і будучай, але і для ўсяго культурнага свету. Гэта разумее нават мая васьмігадовая ўнучка Ульяна, якая неаднойчы за апошні час насіла ў школу «Чарнобыльскую малітву» з аўтографам пісьменніцы, каб кнігу пакуль што проста пагарталі, патрымалі ў руках іншыя дзеці, а падросшы — захацелі прачытаць балючую, трагічную «прозу галасоў» Святланы Алексіевіч.

Літаратура:

1. Лауреаты Нобелевской премии по литературе: 1901—1990. Л., 1990.

2. Лауреаты Нобелевской премии. Энциклопедия: В 2 т. М., 1992.

3. Сульман Р. Завещание Альфреда Нобеля: История Нобелевской премии / пер. с англ. М., 1993.

**Уладзімір Кароткі**

# «Пад слаўным каралеўскім тытулам і імем»: прысвячэнні князёў Радзівілаў да выданняў Бібліі

Зварот беларускіх магнатаў да каралеўскіх асоб у прадмовах і прысвячэннях — дагэтуль нявывучаны феномен падобнага роду публіцыстыкі эпох Рэнесансу і Барока. Насамрэч можна заўважыць адно: да каралеўскіх асоб звяртаюцца Сапегі, Радзівілы, надзеленыя вышэйшымі дзяржаўнымі пасадамі, — канцлеры, гетманы, ваяводы.

Адзін з першых прыкладаў — прадмова-прысвячэнне канцлера Мікалая Радзівіла Чорнага ў "Брэсцкай Бібліі" 1563 года каралю і вялікаму князю Жыгімонту II Аўгусту. Заўважым, прысвячэнне ўжо паводле сваёй адрасатнасці незвычайнае: да каралеўскай асобы каталіцкага веравызнання звяртаецца яе рэлігійны апанент, кальвініст, намеснік вялікага князя ў ВКЛ з 1561 года.



Мікалай Радзівіл Чорны
04.02.1515 — 28-29.05.1556

З першых радкоў прысвячэння відаць, што Мікалай Радзівіл Чорны прызнаваў Боскую ўладу караля. Менавіта па Боскай волі Жыгімонт стаў каралём і вялікім князем: «<…> *у гэтых славутых валадарствах пастаўлены Ім (Богам.* — **У. К.***) у якасці караля, памазаніка і вялікага заможнага пана, а таксама правадыра Божага люду; <…> пануеш у славе над народамі нашымі*». Менавіта дзякуючы Богу і сам Мікалай Радзівіл Чорны, і яго продкі былі адораны шляхецтвам і прывілеямі шляхецкага стану.

У часы Адраджэння і Барока найвялікшай духоўнай каштоўнасцю з'яўлялася кніга. Трапіць на старонкі кнігі — адна з матывацый асветніцкай дзейнасці. Гэта адначасова з'яўлялася і адным з важных момантаў выратавання душы. Прадмет веры паступова рабіўся прадметам мастацтва; у адно зліліся мінуўшчына, сучаснасць, будучыня. Аднак не ўсякая мінуўшчына можа стаць прадметам наследавання. Каралі павінны наследаваць каралям (маркіраваным у сусветнай гісторыі), падданыя — верным падданым, якія служылі ўвекавечанню памяці манархаў.

Што ж самае дарагое на гэтым свеце можа ахвяраваць вялікі канцлер свайму каралю? Зразумела, кнігу — Біблію. Мікалай Радзівіл ізноў прыбягае да параўнання. У свой час менавіта мудрэц Дземетрый Фалерскі параіў егіпецкаму цару Пталамею, каб «царскім коштам і намаганнем» Закон Божы быў перакладзены на грэчаскую мову. Так цяпер і Мікалай Радзівіл Чорны заяўляе: «*скіраваўшыся па тых самых слядах з прычыны пабожнай рэўнасці сваёй, з сваёй маёмасці <...> на свае ўласныя грошы і ў сваёй друкарні здзейсніў я такую справу, якая, спадзяюся, будзе вартай ухвалення ад усіх хрысціян; загадаў я выдаць [Біблію] спасярод народаў славянскай мовы, пад слаўным каралеўскім тытулам і імем Вашай Каралеўскай Мосці <...> дазволіўшы перакласці на польскую мову*». Далей відавочнае параўнанне не толькі з Дземетрыем Фалерскім, але і з самім Пталамеем, які загадаў сабраць 72 мудрацоў для перакладу кніг Свяшчэннага Пісання. «*І ўсё гэта пры супольнай згодзе ўсіх цэркваў і збораў хрысціянскіх, якія, паводле шчырага слова Божага, размножыліся ў валадарствах Вашай Каралеўскай Мосці — як у Кароне, так і ў Княстве — і якія згодна абралі са свайго асяроддзя гэткіх людзей, якія найлепшым*

*і найгрунтоўнейшым чынам здольныя і годныя да гэтай справы, разумеюць і ведаюць яе ды маюць у ёй адпаведную практыку. Паводле маёй волі, менавіта гэтым людзям рэкамендавалі і даручылі ўсё гэта, што я — сведкам хай будзе Пан Бог! — даўно ўжо з вялікім прагненнем бачыць жадаў*». Мікалай Радзівіл мае надзею, што выдадзеная кніга не будзе пакрывацца пылам у бібліятэках Яго Каралеўскай Мосці, але будзе прачытана самім каралём.

Невыпадкова ў прысвячэнні прыводзіцца вобразны паралелізм не толькі з гістарычнымі асобамі (найперш біблейскімі), а той, які меў сэнс для параўнання з сучасным манархам. Так, Мікалай Радзівіл Чорны ўзгадвае двух іудзейскіх цароў: Манасію, сына Езекіі, а таксама Іосію, сына Амона. І першы, і другі сталі спадчыннікамі стальцоў, адпаведна, у 12 і 8 гадоў (Жыгімонт Аўгуст — у 9). І адзін, і другі змагаліся ў розныя перыяды свайго панавання з язычніцкімі вераваннямі. І самае галоўнае, яны прадстаўлены ў гісторыі як творцы духоўна-рэлігійнага аднаўлення.

Да якога духоўна-рэлігійнага аднаўлення заклікаў Мікалай Радзівіл Чорны свайго сучасніка-караля? Духоўную занядбаласць сваіх сучаснікаў, іх разбэшчанасць канцлер звязвае з аблудамі, якія ідуць ад культу Рымскага папы. «*А што ж будзе, калі мы (не дапусці гэтага, Пане Божа!), спакушаючыся й надалей [гэтым] светам, не бачачы шматлікіх памылак яго, баючыся яшчэ якой-небудзь аблуды і цэню, падамося далей у той самы грэх, які паводле прароцтва Данііла, [чыніць] той святар з бессаромным аблíччам, ідал рымскай бажніцы, які ў наш час ёсць яўным парушальнікам хрысціянскага супакою, сейбітам пустазелля; ён у сваім заразным вінаградніку шчодра рассадзіў гэтае насенне, як несумненны і сапраўдны антыхрыст…*».

У гэтай тырадзе-звароце абазнаны ў біблейскай гісторыі чытач не можа не распазнаць яшчэ аднаго параўнання. У часы праўлення Іосіі пры рамонце ерусалімскага храма была знойдзена «Кніга Торы», або «Кніга Запавета». Менавіта Іосія рэарганізаваў веру ў адзінага Бога, адсвяткаваўшы Песах, а потым заключыў з Богам Новы Запавет. У гэтай пераарыентацыі караля Іосіі немалую ролю адыгралі святар Хелкія і канцлер Сафан. Параўнанне напрошваецца само па сабе: такім канцлерам у Жыгімонта II Аўгуста з'яўляецца сам Мікалай Радзівіл Чорны. Сваю настойлівасць у парадах каралю ён падмацоўвае цытатаю з «Прытчаў Саламона» (Прытчы 16:13): «*Даспадобы царам праўдзівыя вусны, і любяць яны таго, хто кажа праўду*». Што ж датычыцца абразы Рымскага папы, то гэта адзін з прыёмаў так званага *argumentum ad personum* (аргумента да асобы). І ў праваслаўнай, і ў каталіцкай, і ў пратэстанцкай палеміцы мы вельмі часта сустракаем цыныманіяльна-працілеглыя вызначэнні санаў, асобаў, пасадаў — «крывалогі» «вызувіты», «імпасторы», «чатырохгаловыя монстры», «лютарамархі». У палемічных жарсцях нашы далёкія продкі не цураліся і больш эмацыянальна афарбаваных выразаў.

У гэтай прадмове прысутнічае і рэдкі для публіцыстыкі момант — зварот да так званых асабістых праблем. Галоўнай праблемай каралеўскай сям'і была адсутнасць спадкаемцаў. Сямейная драма перарастае ў трагедыю дзяржаўнага маштабу, таму Мікалай Радзівіл жадае каралю не толькі перамог над ворагам: няхай Пан Бог, піша ён, «*размножыць цябе з мілай каралевай, сужэнкай Вашай Каралеўскай Мосці, дачкой такога славутага ў хрысціянскім свеце народа, ды не пакіне нас сіротамі*».




Тытульная старонка Брэсцкай Бібліі.

Незайздросны лёс гэтага выдання Бібліі (публічнае спаленне, да якога меў прамое дачыненне сын Мікалая Радзівіла Чорнага, Мікалай Крыштаф Сіротка) вымусіў яшчэ аднаго Радзівіла, Крыштафа, польнага гетмана ВКЛ, а потым і вялікага гетмана, князя на Біржах і Дубінках, праз 69 гадоў перавыдаць гэтую кнігу. Гданьскае выданне Бібліі 1632 года Крыштафа Радзівіла, унука Мікалая Радзівіла Рудога, сына Крыштафа Перуна, прысвечана новаабранаму каралю абедзвюх дзяржаў Уладзіславу IV Вазу, і ў гэтым выпадку канфесійная сітуацыя вельмі падобная да часоў Мікалая Радзівіла Чорнага. Гетман-кальвініст прысвячае выданне Бібліі каталіку-каралю. Крыштаф Радзівіл валодаў не толькі пісьменніцкім талентам, але і талентам прамоўцы. Захавалася вельмі рэдкае выданне «Казання на пахаванні... Дадзібога Уладзіслава Слушкі, кашталяніча Жамойцкага, старасціца Рэчыцкага, юнака-пакаёвага Уладзіслава Жыгімонта, абранага цара Маскоўскага» 1630 года ксяндза Валяр'яна Адрыяновіча, прапаведніка Стаўпецкага, у якім на аркушах 1—6 змешчана пахавальная прамова Крыштафа Радзівіла.

У прадмове ж да Гданьскага выдання Крыштаф Радзівіл згадвае Брэсцкую Біблію, якую ён лічыць самым дарагім падарункам каралю ад свайго продка: «*продак мой Радзівіл у сваёй прадмове да караля [змешчанай] у Брэсцкай Бібліі, браў сабе за сведку Пана Бога, што не было ў яго ўшанавання для пана яго, больш годнага за гэтае*». Крыштаф Радзівіл працягвае традыцыю Мікалая Радзівіла Чорнага; ён сведчыць, што гэтае выданне не з'яўляецца якой-небудзь падарункавай цырымоніяй і характарызуе Гданьскую Біблію «*як найдаражэйшы і мілейшы за ўсе мае багацці, нават за маё здароўе, падарунак*». Згадвае Крыштаф Радзівіл і пра тое, што Жыгімонт Аўгуст, хаця і не быў звязаны з кальвіністамі ніякімі клятвамі, з радасцю прыняў ахвяраванне продка Крыштафа. З гісторыі вядома, што Крыштаф Радзівіл быў прыхільнікам улады Уладзіслава IV Вазы, падтрымліваў яго падчас выбарчага сейму і, адпаведна, хутчэй за ўсё, быў ініцыятарам вядомай прысягі маладога караля адносна «заспакаення рэлігіі». У 30-х гадах XVII стагоддзя ў Торуні ён арганізаваў так званую братэрскую размову католікаў з пратэстантамі розных накірункаў, якая не дала ніякіх вынікаў, як і падобная канфедэрацыя праваслаўных з рэфарматарамі, арганізаваная Радзівіламі ў 1599 годзе. Вось чаму ў прадмове ён нагадвае пра спагадлівасць да кальвінскага выдання, якога чакаюць аднаверцы Радзівіла: «*Вы, Ваша Каралеўская Мосць, будучы звязаны цяпер і з'яднаны з намі пабожнай прысягай, быццам шлюбным пярсцёнкам, маючы ў наяўнасці [гэтую кнігу], дасць Бог, не будзеце расчараваныя, калі знойдзеце ў сябе месца для такога шчырага дарунка*».

Крыштаф Радзівіл не закранае праблем узаемаадносін католікаў і пратэстантаў у еўрапейскім маштабе: яго цікавіць Айчына і яе спакой, найперш рэлігійны. Як і Мікалай Радзівіл Чорны, Крыштаф Радзівіл звяртаецца да сусветнай гісторыі. Так, ён згадвае часы рымскага імператара Веспасіяна. Яго дарадца Апалоній распавядаў пра дасканалага музыку, які накіроўваў сваіх вучняў да няўмелых выканаўцаў, каб тыя навучыліся таму, не як трэба граць, а як не трэба граць. Сваю мудрасць ён прадэманстраваў і перад імператарам, каб ён ад тых, якія дрэнна валадарылі, вучыўся, як не трэба кіраваць дзяржавай. Крыштаф Радзівіл спадзяецца, што падобныя асацыяцыі-навукі пойдуць на карысць і каралю-сучасніку. Ён указвае на бесперспектыўнасць палітыкі каталіцкіх уладароў (відаць, намёк на яго бацьку Жыгімонта III), якіх натхнялі на пераследы пратэстантаў «*падпальшчыкі і ворагі грамадзянскай згоды*». Свае палітычныя разважанні Крыштаф Радзівіл завяршыў афарыстычным выказваннем: «*нават калі б хтосьці меў найвышэйшую ўладу над усімі людзьмі, усімі кнігамі і зборамі розных веравызнанняў, аднак жа ніхто не можа панаваць над чалавечымі думкамі і сумленнем, хіба што адна толькі найвышэйшая ўлада Бога*».

Абодва гэтыя выданні суправаджаліся прысвячэннямі Радзівілаў каралям у лёсавызначальныя моманты нашай гісторыі — перыяды падрыхтоўкі да Люблінскай дзяржаўнай уніі 1569 года і каранацыі прадстаўніка дынастыі Вазаў Уладзіслава IV у 1632 годзе. Новаабраны кароль насіў да таго ж тытул цара Маскоўскага (1610—1635), не зважаючы на тое, што падчас смуты ў Маскве ў 1613 годзе быў абраны яшчэ адзін цар — Міхаіл з дому Раманавых.



З дачкой Ларысай.

## Што адчувае маё сэрца

У сваіх успамінах пра першую сустрэчу з маім бацькам мама піша: «Іван Паўлавіч звяртаў на сябе ўвагу ў першую чаргу знешнасцю. Высокі, бледны і худы пасля ранення і шпіталя, неяк дзіўна апрануты — у шырокія чорныя матроскія штаны і салдацкую гімнасцёрку, з рукой на марлевай павязцы». Але больш за ўсё яе ўразілі сваёй незвычайнасцю яго вочы. Вочы, якія выпраменьвалі святло. Прыцягвала яго зацікаўленасць усім на свеце, увага да людзей, жаданне дапамагаць, унутраная чысціня і незвычайная вера — у чалавека і сілу дабрыні. Людзей гэта і захапляла, і ставіла ў тупік: ён здаваўся чалавекам з іншага свету.



Іван Паўлавіч Мележ, Лідзія Якаўлеўна Пятрова і іх дачка Людміла.



У гады вайны.



Іван Мележ з аднапалчанамі.



З Васілём Быкавым.

Перада мною на стале ляжыць нататнік майго бацькі тых гадоў, у ім ёсць падрабязныя апісанні ўсіх маміных сяброўак і сяброў, а пра яе напісана толькі некалькі слоў: «Лідзія — дзяўчына асаблівая. Трэба да яе ўважліва прыглядзецца!» Бацька расказваў, што яго здзівіла ў маёй маме не толькі незвычайная прыгажосць, але і тое, што вучачыся на фізіка-матэматычным факультэце, яна цікавілася літаратурай і добра ў ёй арыентавалася, ведала на памяць паэму «Евгений Онегин», вершы Сяргея Ясеніна і іншых паэтаў. У дзяцінстве і юнацтве мама вельмі любіла чытаць. На гарышчы яе дома была захавана цудоўная бібліятэка, якая належала бабулі. Тая паходзіла з заможнай купецкай сям'і. А Ксенія Пятрова — паэтэса, пісьменніца, драматург — цётка маёй мамы.

«Маладосць, каханне і мары пакінулі светлую памяць пра тыя дні», — піша ў дзённіку бацька. Яны з мамай наведвалі тэатр, гаварылі пра літаратуру, каталіся на лыжах з высокіх гор, хадзілі на каток. 10 красавіка 1943 года, нікому нічога не сказаўшы, Лідзія Пятрова і Іван Мележ распісаліся.

Як Іван Мележ працаваў? Увесь час пісаў, рабіў запісы для будучых кніг, загатоўкі для сюжэтаў. Як гэта выглядала «знутры», у сям'і? Я бачыла, што такое сапраўдная, сур'ёзная праца, якая не завяршаецца ні ўдзень, ні ўночы. Па начах часта гарэла святло ў яго кабінеце — ён працаваў. Адчуваў, што не паспявае…



Алесь Адамовіч, Іван Мележ, Іван Навуменка, Янка Брыль.



З Іванам Шамякіным на лецішчы ў Ждановічах.



З Нілам Гілевічам.


З Іванам Шамякіным і Пятром Машэравым.


З Піменам Панчанкам.


Іван Мележ і Сяргей Залыгін у Ялце. 1966 год.

Такія людзі здольныя ствараць свой свет, іншую рэальнасць не толькі ў творах, але і вакол сябе. Трапляючы ў яго, пачынаеш адчуваць сябе іначай. У нашай сям'і не было месца мітусні — усё было падпарадкавана працы, творчасці. Недахопу яго ўвагі я не адчувала.

Бацька любіў падарожнічаць і заўсёды імкнуўся браць з сабой мяне і маму. Вучыў мяне бачыць, разумець і любіць прыроду. Мы вандравалі па лугах, лясах, балотах, а ў Крыме падымаліся ў горы, любаваліся вадаспадамі. У гарадах хадзілі па музеях і выставачных залах. Бацька цікавіўся жывапісам і добра ў ім разбіраўся. Выдатна ведаў гісторыю сусветнага мастацтва. Марыў, што я стану мастаком, — падтрымаў мае першыя крокі. Вельмі хацеў, каб я, калі вырасту, афарміла яго кнігі. Цяпер на маім рахунку больш чым паўсотні аўтараў, сярод іх Якуб Колас, Кузьма Чорны, Іван Мележ, Васіль Быкаў, Максім Гарэцкі, Герберт Уэлс, Сельма Лагерлёф…

На сваім апошнім юбілейным вечары бацька сказаў: «Я адчуваю, што тымі кнігамі, якія вы ведаеце, я расказаў толькі адну тысячную з таго, што я перажыў, што я бачыў у жыцці і што адчувае маё сэрца…»

Я вельмі рана страціла бацьку, мне засталіся добрыя ўспаміны пра яго, напісаныя ім кнігі, што выпраменьваюць жывое цяпло, радкі, чытаючы якія адчуваеш біццё яго сэрца, яго боль, яго надзею, адчуваеш пах травы, лесу, бачыш твары герояў, перажываеш разам з імі …

З майго акна відаць сасновы лес, які нагадвае арган, што ніколі не заціхае, у гуках якога губляюцца абрыўкі фраз, прынесеных з далёкіх тых гадоў. Ад яго заўсёды вее цяплом, нават зімою. Тут жылі мае бацькі. Былі шчаслівыя…

Бацька казаў, што яму пашанцавала са спадарожніцай. Калі ў 1960 годзе ён сур'ёзна захварэў, мама кінула любімую працу і ўжо напісаную дысертацыю. Разам яны паехалі на поўдзень, як раілі ўрачы. Бацьку стала лепш, ён працягнуў працу над сваёй знакамітай «Палескай хронікай»…

*Ларыса Мележ*

**Маргарыта Дзяхцяр**
maladost@zviazda.by

# Сталенне

**Што за мода пайшла параўноўваць адно з другім? Зразумела, што ў свеце ёсць шмат падобных адна да адной рэчаў, але ёсць таксама і непадобныя. Возьмем для прыкладу фільмы. Канешне, «Беларускі псіхапат» Мікіты Лаўрэцкага ледзьве не крычыць аб падабенстве з «Амерыканскім псіхапатам», але параўноўваць іх я не збіраюся. А навошта? Наша беларуская стужка — гэта самастойны твор, такім яго і трэба бачыць.**

## «Дзмітрый набірае паведамленне...»

Усё пачынаецца з «Укантакце». Падобна да жыцця — што цяпер можна рабіць без сацыяльных сетак? Хлопец піша паведамленне дзяўчыне. Зразумела, заляцаецца. Хаця адкуль гэта можа быць зразумела, калі ў гэтых вашых сацыяльных сетках не адрозніш заляцанні ад простай сяброўскай размовы? Але тут сапраўды зразумела.

Знаёмыя ўсім скайп, інстаграм, коткі ў пад'ездах, мікрараён «Уручча», магчыма, нават 286-ы аўтобус, — усё ў гэтай стужцы прасякнута родным, блізкім, таму і хочацца глядзець.

Дык вось, Дзмітрый набірае паведамленне, у якім запрашае Леру на свой дзень нараджэння. Лера павінна пагадзіцца, бо яна — чалавек, які любіць сваіх блізкіх (і не вельмі блізкіх) і, канешне, не захоча пакрыўдзіць адмовай. Яна нават котак пад вокнамі так шкадуе, што ежу ім прыносіць, а пра чалавека і ўвогуле размовы быць не можа.



Кадр з фільма «Беларускі псіхапат» .

## «Наступны прыпынак "Лясная"»

286-ы аўтобус вязе Леру з сяброўкамі за «Уручча». Дзверы зачыняюцца і адчыняюцца, зачыняюцца і адчыняюцца. Хутка іх сустрэне Дзмітрый з сябрамі — так і адбываецца. Для мяне вось гэтыя моманты ў фільме сталі быццам пачаткам відэагульні. Не ведаю, ці разлічваў на гэта аўтар, але мне падалося, што героі — гэта персанажы, а я, глядач, магу націснуць на кнопку і кіраваць імі. Але не, яны самастойныя.

Дзень нараджэння не абяцае быць вясёлым. А можа, для кагосьці і абяцае. Гэта ж вечная праблема — людзі ў незнаёмай кампаніі адчуваюць сябе няўпэўнена і атрымліваецца няёмкае свята. Гэтае няёмкае свята становіцца яшчэ больш няёмкім: гасцям прапаноўваюць пагаварыць пра «прыгожыя рэчы», паглядзець на гэтыя рэчы, ад чаго некаторыя гледачы засынаюць:

— Не спіце! Я ж паказваю мастацтва!

## «Падумай яшчэ раз»

Як аказваецца, мастацтва становіцца непатрэбным на святах. Навошта, навошта, скажыце, разглядаць прыгожыя фотаздымкі, калі можна павесяліцца з дапамогай іншых рэчаў? Дзяўчатам хутка становіцца нецікава, і толькі адна Лера, якая моцна любіць котак, застаецца з Дзмітрыем, каб не пакінуць яго ў адзіноце ў дзень нараджэння.

Дзмітрый — не самый звычайны чалавек. Ён, хутчэй, наадварот — самы незвычайны. Ён тонка адчувае свет вакол сябе, ён разумее, што ўсе добрыя хлопцы, такія, як ён, сутыкаюцца з «дзічэйшай несправядлівасцю», калі дзяўчаты «не зазіраюць унутр душы», а «мяркуюць толькі па вокладцы». Дзмітрый разумее, што ў жыцці яму няма на каго спадзявацца — толькі на сябе.

Герой Мікіты Лаўрэцкага — гэта вялікае дзіця, ён дзіўны, але дзіўны па-добраму. Яго шкадуеш, яму спачуваеш. Ён не хоча прымаць адмовы на свае пытанні — просіць «падумаць яшчэ раз». Яму надакучыла быць аднаму, яму хочацца пасталець.

## «Мастацтва можна тварыць толькі аднаму»

А ці так гэта? Ці толькі аднаму? Дык гэта што значыць — што калектыўнага мастацтва не існуе? Прыгожае можна зрабіць толькі паасобку? Думаю, Дзмітрый проста інačай не спрабаваў...

Маргарыта Дзяхцяр.

Сітуацыя, якая паказана ў фільме, камічная. Яна абсурдная, але рэальная. Колькі такіх хлопцаў ёсць у свеце? Напэўна, не так мала, як мы думаем. Людзі, на якіх забыліся, — вакол нас. Яны адзінокія і прагнуць хоць кроплі ўвагі.

Рэальная сітуацыя, блізкая нам прастора, зразумелыя нам людзі — гэта толькі частка стужкі. Ёсць яшчэ і другая — напрыклад, неверагодна выбудаваныя кадры, за што трэба падзякаваць аператару Марыі Ральскітэ, колер карціны, які трымае нас у напружанні ўсю гадзіну (а стужка чорна-белая, адчуйце нуар!), фармат, у якім спалучаюцца і фотаздымкі, і экраны ноўтбукаў, і сэлфі, і здымкі на вэб-камеру. «Беларускі псіхапат» створаны з плюсаў. Усё гаворыць аб тым, што стужку проста неабходна паглядзець! Асабліва трэба гэта зрабіць дзеля фінала, а ён — адкрыты. Сам, глядач, думай, што будзе далей.

«Асалода для вачэй» — такім быў дэвіз леташняга фестывалю «Лістапад», на якім «Беларускі псіхапат» стаў лепшым фільмам з нацыянальнага конкурсу. Асалоду для вачэй атрымаць прасцей, чым падаецца.

## Быць маладымі

Пасля «Вялікай прыгажосці» ужо нельга было чакаць чагосьці лепшага. Здавалася, гэта проста немагчыма, але Паала Сарэнціна — той рэжысёр, які немагчымае робіць не проста ажыццявімым, але і лёгка выканальным. Карціна-пераможца Канскага кінафестывалю, стужка, якую можна было ўбачыць у Мінску на кінафестывалі «Лістапад», — «Маладосць». Вось тое, што зрабіць было немагчыма. Прыгажосць і веліч у чыстым выглядзе.

Маладосць. Слова такое прыгожае, такое змястоўнае. Маладосць — гэта калі нам колькі? 20? 30? Колькі? Адказу няма. Маладосць — гэта значна больш, чым проста ўзрост, гэта значна больш, чым знешняя прыгажосць. Маладосць — гэта пачуццё.

Фрэд (Майкл Кейн) і Мік (Харві Кейтэл) ужо размянялі сёмы дзясятак. Першы — вядомы кампазітар і дырыжор, другі — не менш вядомы рэжысёр. Іх сяброўства будуецца на тым, што яны расказваюць адзін аднаму толькі добрае. Ці не такім павінна быць сапраўднае сяброўства? Менавіта такім. Гэта калі і не правільнае сяброўства, то, бясспрэчна, яно добрае. Але наўрад ці хтосьці з нас яго практыкуе...



Кадр з фільма «Маладосць» .

— Чаму Швейцарыя, маэстра?

— Блізка да Італіі, — кажа Фрэд Бэлінджар чалавеку, якога прыслала да яго сама каралева Вялікабрытаніі. Канешне, хто не хоча, каб музыка, напісаная кампазітарам, прагучала ў яго выкананні. Але тут жа сама каралева! Але Фрэд не хоча — вось дзівак.

Ён у Швейцарыі, тут прыгожа, вакол горы і свежае паветра, каля яго ў атэлі жывуць яго лепшы сябра і дачка. Кожны дзень ён знаёміцца з новымі людзьмі. Хочаш міс Сусвет — калі ласка, хочаш вядомага акцёра — вось ён. Шчасце ды і толькі!

Але калі б усё было так добра, то не было б і стужкі. Сарэнціна ўсё ж такі ведае, што людзей хлебам не кармі — дай драму. Драма тут, канешне, будзе. І не адна, і не дзве. Кожны герой тут — драма, а герояў у фільме многа. Дарэчы, у «Маладосці», як мне падалося, усе персанажы роўныя. Можа, сюжэт і развіваецца вакол Фрэда, але астатнія героі не менш самабытныя і важныя — менавіта яны дапамагаюць кампазітару зразумець і паняцце маладосці, і паняцце страсці, і паняцце кахання. Часам людзі нашмат маладзейшыя нясуць у сабе тыя веды, якіх ты чакаеш усё жыццё...

Вось Джымі (Пол Дано) — ён акцёр адной ролі. Яму, напэўна, менш за 30, але ён ужо навучыўся рабіць жыццявырашальны выбар — быць героем адной ролі ці паказваць страсць:

— Я хачу паказаць вашу страсць, маю страсць. Такую чыстую, немагчымую, амаральную. Таму што менавіта гэта робіць нас жывымі.

А ёсць яшчэ маладая масажыстка, якая аднойчы спрабуе з Фрэдам паразмаўляць, а пасля кажа, што адчуваць — лепш, чым размаўляць, бо звычайна ёй няма пра што гаварыць.

І так кожны — маленькі хлопчык, які вучыцца граць на скрыпцы «Простыя мелодыі», якія напісаў Фрэд; міс Сусвет, якая аказваецца разумнейшай, чым усе ўяўлялі; дачка Фрэда Ліна (Рэйчэл Вайс)... Усе гэтыя людзі на працягу стужкі дзеляцца з кампазітарам мудрасцю. Мудрасцю, магчыма, не такой, як у філосафаў, але такой, якой можна карыстацца ў жыцці, якую можна перадаць камусьці яшчэ.

Пакуль Фрэд адмаўляе ў выступе самой каралеве, Мік піша сцэнарый для свайго апошняга фільма — стужкі, якая стане яго завяшчаннем. Ён піша пра жыццё, пра маладосць, і, вядома ж, пра каханне, бо лічыць, што ведае пра каханне ўсё, але ў той жа час будуе гісторыю, якая б не была падобнай да ісціны: «Не будзем захапляцца праўдзівасцю, выдумка — наша страсць».

Выдумаць гісторыю аказваецца нашмат прасцей, чым пакласці ў аснову сцэнарыя ўласнае жыццё. Успаміны — гэта цяжка, успаміны пра былыя памылкі — яшчэ цяжэй. Але твая гісторыя ўсё роўна напаткае цябе ў тваіх жа фільмах — яна будзе нагадваць пра сябе тварамі тваіх герояў, іх учынкамі, іх словамі. Бегчы ад сябе — ідэя не самая добрая. З успамінамі ў табе прачынаецца маладосць.

Сарэнціна будуе ў «Маладосці» новы для гледача свет — тут шмат прыгожага, вока ні на секунду не можа адарвацца ад відэашэрагу, ад пейзажаў, якія паказвае камера, ад дробязных рэчаў, якімі пранізаны фільм, ад твараў герояў, ад іх рук. Гэта стужка, якая акрамя задавальнення маральнага прынясе яшчэ і асалоду эстэтычную — сапраўды «асалода для вачэй». Маладосць тут схавана ў кожным кадры, у кожным слове, у кожным руху — у колерах сакавітай травы, у зіхаценні брыльянтаў, у патрэскваючых гуках агню.

Надыходзіць у жыцці момант, калі пачуцці становяцца важнымі, важнейшымі за розум. І вось тады героі пачынаюць прапускаць гэта праз сябе, разумець: «Кажуць, што пачуцці моцна пераацэнены. Лухта гэта. Пачуцці — гэта ўсё, што ў нас ёсць».

Сарэнціна прымушае адчуць маладосць не толькі сваіх герояў, але і гледачоў. Праз дзве гадзіны пачынаеш разумець: у якім бы ўзросце ты ні быў, якіх бы памылак у жыцці ні рабіў, — усё толькі пачынаецца. Калі пачуеце ад людзей словы: «Я згубіў лепшыя гады свайго жыцця», ніколі не верце. Згубіць час немагчыма, як і згубіць маладосць.

Праз некалькі тыдняў пасля прагляду «Маладосці» я сустрэла Новы год. Чамусьці менавіта ў гэтую ноч падумала, што менавіта зараз я маладая, не год, не два таму, а цяпер, у гэты момант. І я ўспомніла стужку Сарэнціна, падумала, што я з ім згодная: маладосць — гэта сапраўды не ўзрост, гэта стан душы, гэта сама душа.

«Калі вы маладыя — не бойцеся, калі вы састарыліся — будзьце шчаслівымі», — рэцэпта маладосці няма, але ёсць інструкцыя, што рабіць, калі ты малады. І адказ просты — ісці кудысьці, чагосьці хацець, кагосьці кахаць, быць тым, у каго штосьці не атрымліваецца, а штосьці, наадварот, атрымліваецца добра. Быць маладым — гэта хацець. Не мае значэння, чаго хацець. Маладосць — гэта жаданне большага.

Анастасія Васілевіч

# Ці існуе бункер?

**Калі з’яўляюцца забароны — мастак пачынае тварыць актыўней. Ён прыдумляе арыгінальнальныя ідэі, шукае спосабы рэалізацыі сваіх праектаў, збірае моцную каманду, якая не падвядзе. Як толькі ўзнікае знешняя свабода дзеянняў — усё становіцца складаней. Адны добраахвотна здаюцца ў палон стэрэатыпам і пачынаюць выдаваць шаблонныя тэатральныя прадукты. Іншыя — працягваюць працаваць, як і дагэтуль. Ад чаго гэта залежыць?**

У першую чаргу, ад унутранай свабоды творцы. Не так важна, хто гэта — рэжысёр, акцёр, драматург, сцэнограф ці тэатральны крытык. Калі ў ім ёсць унутраная ўсёдазволенасць, гатоўнасць да эксперыменту, жаданне дасягнуць вынікаў нягледзячы ні на якія цяжкасці, — усё атрымаецца. Такія людзі сустрэліся на ІІ Маладзёжным тэатральным форуме краін Садружнасці, Балтыі і Грузіі. Сустрэліся, натхніліся і працягнулі ісці да мэты.

Поруч са спектаклямі форуму праходзілі майстар-класы, уоркшопы і семінары. Адным з самых цікавых мерапрыемстваў стала дзейнасць лабараторыі маладых рэжысёраў, якую курыраваў мастацкі кіраўнік Цэнтра імя У. Меерхольда Віктар Рыжакоў. Яе вынікам сталі пяць чытак на малой сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. Для працы ўдзельнікаў была адабрана п’еса «Блондзі» беларускага драматурга Дзмітрыя Багаслаўскага. У яго тэкстах часта адбываецца сумяшчэнне бытавога і ірэальнага пластоў. «Блондзі» — не выключэнне, менавіта так звалася любімая аўчарка Гітлера, якую той загадаў умярцвіць. Лёс яе шчанят застаўся невядомым — з лёгкай рукі драматурга Ілса, Эрма, Сэлма і Хенрыке вымушаны існаваць у зачыненым бункеры і дзяліцца цыяністым каліем пад наглядам доктара Людвіга. Калі аднойчы шчанятам дазваляюць выйсці, яны вяртаюцца назад — туды, дзе больш звыкла. Дзякуючы алегарычнасці п’есы, можна паспрабаваць вызначыць яе жанр — сучасная байка з элементамі абсурду.

Хтосьці з рэжысёраў пазнаёміўся з тэкстам толькі на форуме, хтосьці — яшчэ дома. Літовец Відас Барэйкіс прыехаў у Мінск з гатовай канцэпцыяй чыткі. Першую сцэну п’есы ён зрабіў у трагедыйным ключы — нездарма ходзяць чуткі пра «змрочную» літоўскую рэжысуру. Атрымаўся паўнавартасны эскіз спектакля са сцэнаграфічным вырашэннем і гукарадам. Відас Барэйкіс дакладна захаваў параметры бункера, зададзеныя аўтарам, — 1,5х1,5х1,5. Актрысы існавалі ўнутры гэтай прасторы, а іх дзеянні трансліраваліся на франтальную сценку сховішча, — такім чынам, з’яўляўся медыя-план. Узнікала адчуванне, быццам мы сочым за гераінямі праз шкло, якое з іх боку затаніравана. Рэальны план прадстаўлялі сабой жанчына і мужчына, што ўвасаблялі доктара Людвіга. Калі актрысы білі па задняй сценцы піяніна, гук даходзіў да гледачоў. Гэта нагадвала, што ўсё адбываецца ў жывым часе, па-сапраўднаму. Рэжысёр цікава выбудаваў лініі роляў. Спачатку актрысы не з’яўляюцца гераінямі спектакля і выходзяць у звычайнай рэпетыцыйнай вопратцы — чорныя легінсы і майка. Здзяйсняючы трэнінг для разагрэву — скачкі, яны паступова здымаюць з сябе вопратку. Энергія гарачыні, якая ад іх зыходзіць, стварае адчуванне нястрымнай духаты ў бункеры. І толькі потым, распрануўшыся да бялізны, актрысы ўваходзяць у замкнёную прастору і ўжываюцца ў ролі.

Літоўка Ларэта Васькова пайшла іншым шляхам — шляхам тэатралізаванай чыткі. На сцэнічнай пляцоўцы знаходзіліся толькі белыя пластмасавыя крэслы. Рэжысёрка зрабіла акцэнт на акцёрскае існаванне, якое знайшла для гэтай п’есы. Абраўшы эпізод, у якім добра паказаны характар кожнай з гераінь, яна ўзняла пытанне, што такое часам бывае дэмакратыя і як да яе прыходзяць. У гэтай сцэне Эрма намагаецца ўсталяваць уладу народа. У руках гераіні рулон туалетнай паперы — з яе на вачах гледачоў кандыдатка ў прэзідэнты зробіць бант на шыю і будзе адрываць кавалачкі, якія стануць бюлетэнямі. З гэтага становіцца зразумела, што часам імкненне да дэмакратыі бывае абсурдным, а сама дэмакратыя… Цікава зроблены вобраз Ілсы — гэта гламурная дзяўчына, якая не валодае

вялікімі інтэлектуальнымі здольнасцямі. Інтанацыі актрысы вельмі непрыемныя, высокія, яе міміка і жэсты падкрэслена манерныя. Яна дакладна ўвасабляе тых жанчын, якія «жадаюць нарадзіць толькі ад багатага».

Наступнай паказвала эскіз спектакля беларуска Таццяна Ларына. З'явілася адчуванне, што яна перанесла дзеянне кудысьці на край свету, у сапраўднае палярнае сховішча. Гэтае ўражанне падмацоўвалася наяўнасцю верхняй вопраткі ў гераінь. Сцэнаграфія нагадвала перавалачны пункт — стол, лямпа на ім, табурэткі. 1,5х1,5х1,5 тут вельмі ўмоўныя — яны пашыраліся да плошчы пляцоўкі. Калі гераіні пачынаюць весяліцца, дурэць, яны вырываюцца з межаў сховішча, самі таго не заўважаючы. Рэжысёр намякае: бункер — гэта не рэальная прастора, а нейкія стэрэатыпы, якія перашкаджаюць у жыцці. Уплыў гэтых перашкод на гераінь можна ўбачыць у іх замярзанні, скаванасці рухаў. Цікава рэжысёр вырашае натхнёны маналог Ілсы. Пастаўленая да мікрафона, яна мілагучным рэчытатывам і нараспеў вымаўляе жорсткі тэкст пра грамадства.

Чацвёрты паказ падрыхтаваў азербайджанец Мікаіл Мікаілаў. Ён стварыў свет лабараторыі, дзе праводзяць вопыты над людзьмі. Сцэнаграфічнае вырашэнне эскізу спектакля дакладна падтрымлівала яго ідэю. Злева знаходзіўся доктар Людвіг з маленькім макетам бункера на стале, справа — каркас сховішча ў чалавечы рост. Калі ўрач перастаўляў фігуры на сваёй маленькай пляцоўцы, актрысы перамяшчаліся ў бункеры. З'яўлялася ілюзія лялек вуду, дзякуючы якім можна кіраваць гераінямі. Такім чынам доктар мог падкінуць ім і цыянід, і ваду. Тут узнікла пытанне: а ці шчаняты — героі п'есы? Магчыма, гэта сапраўды жанчыны, якіх прымусілі паверыць у сваю сабачую сутнасць. У адным з эпізодаў актрысы пачалі іграць на музычных інструментах, што выглядала даволі дзіўна і непатрэбна. Тое ж самае можна было сказаць і пра іх касцюмы — вузкія чорныя камбінезоны, некаторыя часткі цела забінтаваныя. Усё гэта разам са зборнымі дэкарацыямі выглядала нядбайна.

Апошні эскіз спектакля быў зроблены казахам Элікам Нурсултанам. Ён вырашыў п'есу ў мінімалістычнай манеры. Чатыры акцёркі, апранутыя ў доўгія чорныя спадніцы, прыціснуўшыся адна да адной, сядзяць з выпрастанымі спінамі. Рэжысёр задаў строгую форму дзеянню, зрабіўшы галоўным тэкст. Менавіта кантраст паміж мітуснёй у дыялогах п'есы і скупасцю дзеянняў на сцэне зачароўваў, прымушаў засяродзіцца. Актрысы сцвярджалі штосьці, а невербальна — інтанацыяй, пластыкай рук і галоў — маглі заяўляць супрацьлеглае. Такім чынам, драматычныя моманты станавіліся смешнымі і наадварот. Калі гераіні кажуць пра бункер, яны ўстаюць і пачынаюць стукацца аб сцены, намагаючыся збегчы. Становіцца зразумела, што сховішча — гэта не тая прастора, у якой яны знаходзіліся спачатку, і не тая, у якой яны цяпер. Гэта штосьці іншае.

Дадатковую чытку зрабілі студэнты Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў. Для паказу яны выбралі нестандартнае месца — жаночы туалет. Чатырма шчанятамі, на іх погляд, маглі быць маладыя людзі, што засталіся замкнёнымі ў прыбіральні начнога клуба. Ідэя цікавая, але рэалізаваць яе ў поўнай меры не атрымалася.

Адзначыліся і студэнткі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў — нароўні з прафесійнымі актрысамі яны прайшлі кастынг для ўдзелу ў рабоце лабараторыі.

Галоўным пытаннем паўстала існаванне бункера. Дзе тыя 1,5х1,5 х1,5? Хтосьці паказаў іх літаральна, хтосьці не… Але стала зразумела, што яны ўнутры, а не звонку. Можна жыць у пастаянным змаганні з сістэмай, а калі раптам яна паддасца — не ведаць, што рабіць. Знайсці новую, а потым ізноў змагацца, ізноў залезці ў той самы бункер. Можна наадварот — паверыць у сябе, перастаць баяцца новага. У такім выпадку з'яўляецца шырокая пляцоўка для рэалізацыі сваіх праектаў, жаданняў — не важна, з якой ты краіны, якой нацыянальнасці і кім працуеш. Віктар Рыжакоў заклікаў не падзяляць творцаў на прафесіі, а называць людзьмі тэатра. Маладзёжны форум паказаў: бункера не існуе, калі чалавек дазваляе сабе быць свабодным. У такім выпадку творцы могуць узаемадзейнічаць, генерыраваць ідэі і ўвасабляць іх разам. А ці не гэта шчасце?



Уладзімір Караленак

**нарадзіўся 18 снежня 1990 года ў Барысаве. Скончыў гістарычны факультэт БДУ і магістратуру пры Дзяржаўным інстытуце кіравання і сацыяльных тэхналогій БДУ. Цяпер — малодшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Нясвіж». Магістр мастацтвазнаўства.**

## Нясвіжскія прыгоды пражскага каноніка

**У хроніках усіх народаў згадваюцца дзеячы, якіх надзвычай шануюць нашчадкі. Постаці іх з'яўляюцца сімваламі Справядлівасці ці Асветніцтва. Звычайна гэта людзі глабальнага маштабу, асобы, якія аб'ядноўваюць народы сваёй шчырасцю і сціраюць варожасць паміж імі. Адным з такіх людзей з'яўляецца чэшскі святы Ян Непамук. Гісторыя яго жыцця адметная. Звычайна святымі становяцца за пропаведзі, а ён стаў такім за маўчанне.**

Існуе абсалютная таямніца, якую нельга парушыць ні ў якіх абставінах. Гэта таямніца споведзі. Згодна з паданнем, Ян Непамук самаахвярна захаваў тайну споведзі. Святар не паступіўся сваімі прынцыпамі, і, нягледзячы ні на які націск, не распавёў каралю тое, пра што спавядалася яго жонка. Раз'юшаны кароль загадаў жорстка катаваць каноніка, а пасля скінуць цела ў раку. Акалічнасці смерці галоўнага вікарыя пражскага архіепіскапа сталі вядомы шырокаму колу пражан і выклікалі шматлікія спачуванні. Аднак канфлікт паміж свецкай і рэлігійнай уладай і рэлігійныя войны ў Чэхіі замарудзілі беатыфікацыю Яна Непамука на некалькі стагоддзяў. Тым не менш яго імя не было забыта…

На мяжы XVII—XVIII стагоддзяў на знакамітым Карлавым мосце ў Празе з'явіліся некалькі дзясяткаў скульптур, у тым ліку і статуя Яна Непамука, якая дагэтуль вабіць турыстаў. А яшчэ праз стагоддзе гэты чэх стаў адным з самых шанаваных сярод нашых продкаў святых. Абразы з яго выявай і драўляныя скульптуры з'яўляюцца ў дзясятках касцёлаў на беларускіх землях. Самым старажытным з ацалелых з'яўляецца напісаны ў 1732 годзе абраз з мястэчка Трабы Іўеўскага раёна. У Радашковічах на могілках пабудавана капліčка яго імя, а на Гродзеншчыне ў вёсцы Вялікія Эйсманты — касцёл у яго гонар. У яго ж гонар ствараліся рэлігійныя аб'яднанні: напрыклад, на Лідчыне з 1760 года дзейнічала брацтва Св. Яна Непамука. Не абмінуў культ Яна Непамука і Нясвіжчыну.

Падчас жыцця ў Празе князь Міхаіл Казімір Радзівіл Рыбанька гуляў па Карлавым мосце. У той час гэты мост быў адзіным, які злучаў дзве часткі горада, і позірк Радзівіла часта прыпыняўся на велічнай статуі. Жыціе пакутніка кранула сэрца князя і, відаць, нездарма ён вырашыў зрабіць Яна Непамука нябесным заступнікам свайго сына. Хлопчык атрымаў ажно пяць імёнаў: Караль Станіслаў (дзедава імя, згодна з традыцыяй Радзівілаў) Ян Непамуцэн (у гонар святога) Ануфры. Гэты чалавек нам больш вядомы пад мянушкай Пане Каханку. На сконе гадоў Міхаіл Казімір Радзівіл Рыбанька падарыў сыну статую

нябеснага абаронцы, які павінен быў апякаць радавое гняздо будучых пакаленняў Радзівілаў. 25 красавіка 1758 года бацька Радзівіл атрымаў гатовую скульптуру Яна Непамука і пачаў шукаць для яе месца. Яно было выбрана сімвалічна. Як і большасць манументаў Яну Непамуку, нясвіжскі змясціўся каля вады на беразе Замкавага става, перад грэбляй і мастом, што вялі да Нясвіжскага замка. Вада каля помніка нагадвала пра ўтапленне, а мост з'яўляўся напамінам пра Карлаў мост, з якога служкі чэшскага караля скінулі знявечанае цела.

Да таго ж рэчка Уша, перароблена Радзівіламі ў каскад ставаў, працякала ў нізкай дрыгвістай мясцовасці. Нягледзячы на шэраг меліяратыўных прац, Нясвіж, як, дарэчы, і Прага, часта цярпеў ад вялікіх паводак. А Ян Непамук, згодна з уяўленнямі людзей, лічыўся абаронцам ад паводак.

З'яўляецца цікавым пытанне аўтарства помніка. Яго мог стварыць разьбяр Ян Хрызастом Рэдлер, які ў тым жа 1758 годзе зрабіў яшчэ адзін помнік Яна Непамука і ўсталяваў яго ў маленькай вёсцы на памежжы сучаснай Польшчы і Беларусі. Большасць твораў майстра знаходзіцца ў Беластоку, дзе ён працаваў на кароннага гетмана Яна Браніцкага. У рэзідэнцыі Браніцкіх у Беластоку Рэдлер стварыў шэраг скульптурных кампазіцый, якія захаваліся да нашага часу. Але вядома, што разьбяр працаваў і на беларускіх землях. Зноў жа ў 1758 годзе Рэдлер выконваў работы ў Воўчыне. Тут меў маёнтак Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Тагачасная магнатэрыя была моцна звязана крэўнымі адносінамі. Сястра Панятоўскага ажанілася з патронам разьбяра гетманам Янам Браніцкім, а пляменніца Браніцкага, у сваю чаргу, з'яўлялася жонкай Пане Каханку, і яе варшаўскі палац таксама аздабляў Ян Хрызастом Рэдлер.

Пісьменнік і архівіст Уладзіслаў Сыракомля згадаў святога ў сваёй кнізе "Вандроўкі па маіх былых ваколіцах", якая выйшла амаль праз стагоддзе пасля стварэння скульптуры. Паводле яго слоў, вычасаная з аднаго агромністага каменя прыгожая постаць сустракала падарожнікаў на шляху да замка. Тут, на беразе става, помнік прастаяў да Другой сусветнай вайны.



Сучасны выгляд помніка ў двары касцёла Божага Цела. Фота С. Кандыбовіч.




Помнік святога Яна на паштоўцы пачатку XX стагоддзя. Нясвіж, Расійская імперыя.



Фотаздымак з часопіса Ilustrowany Kurier Codzienny. II Рэч Паспалітая. Міжваенны перыяд.

Лёс помнікаў гэтага святога на землях былой Рэчы Паспалітай даволі трагічны і на дзіва сугучны цяжкім выпрабаванням яго самога. Падчас падаўлення паўстання 1863 — 1864 гадоў адзін з помнікаў быў скінуты з маста ў ваду ў Беластоку. Падобны ж лёс напаткаў тракайскую і нясвіжскую скульптуры, але ўжо ў 1939 — 1940 гадах. Трэба зазначыць, што для нясвіжскага Непамука гэта было не першае руйнаванне. У кнізе Баляслава Таўрагіньскага «З гісторыі Нясвіжа» апісваецца, што ў канцы XIX стагоддзя статую прыйшлося аднаўляць гаспадыні Нясвіжскага палаца Марыі Дароце Радзівіл з Кастэлянаў, але ў 1918 годзе статуя была зноў пашкоджана — галава збіта і закінута ў ваду. Мясцовы жыхар М. Круглік здолеў яе дастаць і схаваў у сябе дома на вуліцы Студэнцкай. Пасля заканчэння ваенных дзеянняў на тэрыторыі Беларусі галава была вернута святому.

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да Савецкага Саюза, у межах кампаніі па барацьбе з рэлігіяй нясвіжскі помнік быў скінуты з пастамента. У яго зноў была адламана галава, і яе разам з целам закінулі ў замкавы стаў. Але дзякуючы вернікам статую ўдалося выратаваць. Мясцовыя жыхары дасталі з вады святога Яна. Галава была схавана ў Булгарынскай капліцы, а цела паклалі ў званіцы. У хуткім часе пачалася Вялікая Айчынная вайна. Адным з першых загадаў нямецкіх акупантаў стала патрабаванне аб здачы каляровых металаў. Пад пагрозай апынуўся касцёльны звон. Каб выратаваць яго, было вырашана незаўважна выкапаць вялікую яму на першым паверсе званіцы і апусціць звон туды. Пры закопванні звона аказалася напаўзасыпанай і статуя. У савецкі час на першым паверсе званіцы быў зроблены склад дроваў і торфабрыкету, неабходных для ацяплення касцёла і дома тагачаснага ксяндза Рыгора Каласоўскага. Толькі на пачатку XXI стагоддзя помнік быў нечакана знойдзены.

Выяўленне скульптуры звязана са штодзённай працай навуковага супрацоўніка Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Нясвіж» Сяргея Чысцякова. Аказалася, што збор інфармацыі часам перасякаецца з некаторай рызыкай. Выпадковае падзенне пры вывучэнні касцёльнага звона на схаваную пад дровамі скульптуру прывяло да шчаслівай знаходкі. Помнік было вырашана выратаваць з небыцця. Дзякуючы парафіяніну Зыгмунду Калясінскаму ён быў адноўлены і ўсталяваны падчас святкавання юбілея касцёла Божага Цела ў 2003 годзе ў касцёльным двары. І сёння фігура Яна Непамука прываблівае турыстаў, але мала хто здагадваецца, што перад імі помнік з гісторыяй у чвэрць тысячагоддзя.



Скульптура Яна Хрызастома Рэдлера ў вёсцы Шчыты-Дзенцялава.



Абраз Яна Непамука (1732) з касцёла вёскі Трабы Іўеўскага раёна.



Помнік святога Яна на паштоўцы міжваеннага перыяду. Нясвіж. ІІ Рэч Паспалітая.

**Паліна Лісоўская**
maladost@zviazda.by

# Яе рамонкі

Патэлефанаваць ці не? Уууух… Усё ж такі трэба, бо колькі ж часу прайшло? Я ж абяцала ёй… Гэта галоўнае… Студэнтка журфака, яшчэ не распешчаная вялікай колькасцю публікацый і працай хаця б на якую ставачку (ну, хоць на самую маленечкую), баіцца тэлефанаваць галоўнаму рэдактару. Нармалёвая, стандартная сітуацыя.

Тэлефаную, адважная дзяўчынка!

— Прывітанне, Паліна! Наконт якога артыкула? Пра Нагорную?

Трубка няўпэўнена маўчыць, там, відаць, шукаюць словы, я шукаю сілы гэтае маўчанне вытрымаць.

— Ведаеш, гэты артыкул нам не падыходзіць, не нашага ён фармату…

Твар гарыць, цяжкія «Зразумела! Канечне! Дзякуй вам! Да пабачэння»…

Па сутнасці асаблівага здзіўлення няма. Артыкул пра Нагорную я пісала вельмі доўга, кожнае слова вымучвала, здаецца, некалькі разоў перарабляла. Я адчувала, што гэта ўсё — не тое, не сапраўднае.

Вось ведаеш чалавека даўно, гадоў з дзесяці, лічыш сваім самым галоўным настаўнікам (добра, што не чуе мой класны кіраўнік), а напісаць не можаш, слоў няма. Нагорная Валянціна Пятроўна… Нагорная Валянціна Пятроўна… Нагорная Валянціна Пятроўна… Мо калі сто разоў паўтарыць тваё імя, знойдуцца словы?

***

— Мама, не хачу я гэтымі танцулькамі займацца! Бессэнсоўна! Выкладчыцы да таго ж злуюцца, нервуюцца ўвесь час. Не, не маё гэта!

— Ну, што з ёй рабіць? Чым ты яшчэ хочаш займацца?

— Не ведаю, — мяне размовы такія стамляюць, ну, не ведаю я, чым займацца хачу. Вось зараз гуляць хачу, а не макароніны гэтыя есці. І што? Дарослых зараз маё «хачу» неяк не хвалюе…

— Наташа, ёсць у мяне адна прапанова!

А вось гэта ўжо цікава! Дзядуля заўсёды мае рацыю!

— У адной маёй даўняй знаёмай — дзіцячая тэатральная студыя ў Полацку. Рэжысёрка яна, Нагорная Валянціна Пятроўна. Даўно яе не бачыў, але ад многіх знаёмых чую. Усе дзетак у «Гармонію» прыводзяць. Здаецца, такая назва ў студыі.

Тэатр, тэатр, тэатр… Якія тут ужо макароніны, у тэатр хачу! Вельмі!

— О, я нешта пра Нагорную ў «Полацкім весніку» чытала. Інтэрв’ю ў яе бралі, бо адзіны дзіцячы тэатр у гісторыі Полацка — яе.

Гэта ўжо бабуля падключылася. А мне ўсё роўна — тэатр…

— Дык хочаш у тэатр?

— Ага…

***

«У сильного всегда бессильный виноват:

Тому в Истории мы тьму примеров слышим…»

Даражэнечкі Крылоў, як без цябе дзеці ў тэатральныя студыі паступалі б! Твае ж байкі найлепшыя для маленькага актора! Праз што яшчэ можна так праявіць свае здольнасці? Тут табе і ліса з хітрыкамі, і крыважэрны воооўук — зубамі шчоўк! Ідзем з бабуляй да Нагорнай, я ўсё сваю байку шапчу, шаманю.

Дзверы вялізныя, пакой вялізны, як храм, бабулі няма. Ой, які жах! Мноства дзяцей, падлеткаў, усе ў кружочку сядзяць, а Валянціна Пятроўна — у цэнтры.

— Ну, унучка Булаўкіна (дзядуля мой), заходзь!

Голас у Валянціны Пятроўны бадзёры, тонкі і заўсёды розны (не толькі рэжысёрка — актрыса), а ў вачах — агеньчыкі. Сама — маленькая-маленькая, Дзюймовачка. Валасы светлыя — стратэгія дам ва ўзросце, каб сівізна была меней бачная. А Валянціна Пятроўна была дамай ва ўзросце — равесніца дзядулі. Не памятаю, як я гэтую байку прачытала, але вочы Валянціны Пятроўны зрабіліся сур’ёзнымі, пачыналася не гульня, а сапраўднасць:

— Сардэчна запрашаем у нашу сям’ю, Паліна!

«Платава Паліна», — напісала яна сваім дрэнным почыркам у журнал. Почырк у Нагорнай заўсёды быў дрэнны (мо зрок такіх спраў нарабіў? Мо творчасць?). А яна сама толькі жартавала з гэтай нагоды. Добра так жартавала, усміхалася… Журнал з нашымі імёнамі заўсёды на занятк і прыносіла: прыйшоў на заняткі — кропачка, не прыйшоў — ой, беражыся! Гэта не кружок — гэта тэатр! Сапраўдны!

Але я прыходзіла заўсёды, толькі і ведала — школа, Нагорная, школа, Нагорная. З усімі яе навучэнцамі пазнаёмілася, увайшла ў сям'ю.

А Нагорная… Якая яна тады была, Полацкая муза! Маленькі рухавік, уся кіпела творчасцю. Дзень горада — мы ўсе з ёй у касцюмах ходзім, песні спяваем. А то звычайнымі вячоркамі раздаём па горадзе запрашэнні ў тэатр, якія, дарэчы, самі і прыдумляем. А Валянціна Пятроўна байкі распавядае пра тэатральнае мінулае. Сёння цяжка ўявіць, але дзіцячая тэатральная студыя «Гармонія» адкрылася ў Полацку ў 1975 годзе...

На занятках п'есы чытаем, эцюды робім, усялякія «ааа, ооо, ууу…» (так званыя мімічныя практыкаванні), чаі ганяем. Нават чаі, нават з цукеркамі і печывам. І гамонім.

— Валянціна Пятроўна, а я сёння пяцёрку па матэматыцы атрымала…

— Вой, малайчынка!

— Ды дзе ж там малайчынка: дзесяцібальная ж сістэма! Пяцёрка — дрэнна. А яшчэ бацькі не ведаюць…

— Навошта гэта дзесяцібальная сістэма — не ведаю… А пра бацькоў ты не турбуйся. Вось запытай у свайго бацькі, ці не атрымліваў ён двойкі па матэматыцы?

Адразу неяк лягчэй робіцца, супраць таты ўжо ёсць зброя. Так тэатральна, а часам і нетэатральна, а жыццёва праходзілі вечары з Нагорнай. Не было такога, што час адзаймаліся — і да пабачэння, бо за час грошы заплочаны. Дарэчы, мы ўвогуле ніякіх грошай не здавалі. Нагорная не магла ўявіць, што з дзяцей за заняткі трэба грошы браць. Гэта ж тэатр, мастацтва, якія тут грошы?

Але час ад часу яна сумавала, усё вырашала, як дэкарацыі на добрым узроўні зрабіць ды без грошай. ГДК ж не залатая жыла… Тут і бацькі дапамагалі, і мы, і галоўнае — Валянцін Пятровіч, муж яе (як так атрымалася, Валянцін Пятровіч — Валянціна Пятроўна? Лёс?). У яго быў свой тэатр, дарослы — «Пілігрым». На працягу больш чым трыццаці гадоў тэатральнае жыццё ў Полацку стварала сям'я Нагорных.

СтвараЛА — бязлітасны мінулы час…

***

Мы рабілі спектакль «Пёсік Рой і іншыя». Добры і сацыяльны — пра людзей, якія забруджваюць навакολле, пра жывёл, якія разумеюць болей за людзей. Гэта быў апошні спектакль, які Нагорная паставіла на полацкай сцэне, гэта было яе развітанне з тэатрам.

Валянцін Пятровіч яшчэ раней з «Пілігрыма» сышоў. Майстар на ўсе рукі, ён рабіў з дрэва скульптуркі, мэблю. Як казала Нагорная, стаміўся ад тэатра. Уся студыя адчувала, што хутка сыдзе і Нагорная. Яна таксама стамілася ад тэатра. Як ад яго можна стаміцца? Тады я гэта ўцяміць не магла. А старэйшыя навучэнцы ўсё разумелі. Зараз і я разумею. Не ад тэатра яна стамілася, а ад адносінаў нашага грамадства да культуры. Усё рабі сама за маленькі, смешна маленькі заробак, рабі, рабі, рабі спектаклі за смешны бюджэт ці ўвогуле без яго, да таго ж не забывайся на розныя абавязалаўкі: там выступі, пра тое пастаў. І паперкі, паперкі, а якія паперкі, калі — мастацтва? Ты ўсё жыццё творца, але і бюракрат. Ну, натуральна, бюракрат, служыш шрубкай у гэтай вялізнай сістэме. Усё жыццё поўнай творчасці, поўнай свабоды ў цябе няма. Вось сёння павінна быць генеральная рэпетыцыя спектакля, патрэбна сцэна ГДК, без яе ніякай рэпетыцыі проста не будзе, наконт сцэны ўзгоднена загадзя, але: «Выбачайце, Валянціна Пятроўна, сёння — ніяк!»

Памятаю яе твар — заўсёды добры. Добры, нават калі яна злуецца, крытыкуе. Добры — а тут гнеў, адчай, боль. «Дзеці, гэта наш апошні спектакль, потым я сыходжу!» — «А мы як без вас, Валянціна Пятроўна? Што нам рабіць?» — «Я раю вам тэатрам не займацца, непатрэбна гэта нікому, усё — у пустэчу»…

Пустэча… Так… Пустэча…

***

Былі Нагорныя — і Полацк меў свой і дзіцячы, і дарослы тэатр. Сам тэатральнае пытанне вырашыў. Бо колькі размоў у прафесійным асяродку было вакол тэмы: «Найстаражытнейшы горад Беларусі і не мае свайго прафесійнага тэатра! Як так?!» — непакоіліся крытыкі, гаманілі і гаманілі, усё да аднаго і таго ж пытання вярталіся. Нават у Полацк прыязджалі, і нават не толькі крытыкі. А прафесійны тэатр дзе быў, там і застаўся — у іх прафесійных галовах.

Здзейсніць мары здолелі толькі самі палачане — Нагорныя. Цяпер тэатр у Полацку жыве дзякуючы іх вучням. Да Нагорнай прыходзілі маленькія дзяўчынкі і хлопчыкі, выраслі ў дзяўчат і

юнакоў — і пераходзілі ў дарослы «Пілігрым» Валянціна Пятровіча. А пачыналася ўсё з «Гармоніі», з Нагорнай Валянціны Пятроўны.

***

…Яна сышла — і сышлі ўсе, ніводнага чалавека ў «Гармоніі» не засталося. На доўгія гады я забылася пра тэатр. Вось толькі пра Нагорную забыцца не атрымалася. Са сваім класным кіраўніком мы распачалі доўгую, на некалькі год, навуковую працу пра «Гармонію» і Нагорную. Архівы, музеі, галоўнае ж — размовы з вучнямі Валянціны Пятроўны. Мноства размоў, якія цяпер зніклі ў віртуальнай прасторы. Так празаічна: знік камп'ютар — зніклі і размовы. У галаве засталіся толькі ўрыўкі, ва ўспамінах — твары… І здзіўленне: колькі вучняў, колькі тэатральных жыццяў распачала Нагорная.

Ігар Сігоў… Сёння, напэўна, няма ў Мінску чалавека, які б не ведаў гэтае імя. Знакаміты наш акцёр, зорка РТБД, а сёння — і Купалаўскага тэатра. Пачынаў з «Гармоніі». «Усё, што у мяне зараз, — гэта ад Валянціны Пятроўны», — прызнаўся. Доўга мы з ім гаманілі і цёпла. Ён усё ўспамінаў і ўспамінаў, пра Нагорную не інакш як пра матулю казаў. Усё хацеў стварыць у тэатры беларускай драматургіі атмасферу даўно мінулага полацкага тэатра. Здаецца, стварыў.

Ганна Шэлепава — о, сёння яна тэатральная зорка Наваполацка, стварыла там студэнцкі тэатр «АРТ». Мяне сустрэла сур'ёзна, спачатку ўсё пра сябе хацела казаць (творцам так патрэбна ўвага!). А потым цалкам паглыбілася ў мінулае, дазволіла сабе шчырасць, і ўсё ўспамінала, успамінала… Як аднаго навучэнца ўся «Гармонія» у армію выпраўляла: «Нашыя провады былі як свята горада!» — радасная такая, як дзяўчынка. Усміхаецца… Дзякуй, Валянціна Пятроўна, кажа…

Вера Кісялёва — яшчэ адна вучаніца Валянціны Пятроўны — сёння кіруе «Пілігрымам» у Полацку, дарэчы, даволі ўдала, прыйшла туды адразу пасля Нагорнага. Сустрэча з ёй была самай складанай. Сур'ёзная, амбіцыёзная, ганарлівая: «Я, я, я…» Медальён — ці то яшчар, ці то змей, валасы чорныя, вочы зялёныя. «Я, я, я»… Нешта паміж ёй і Нагорнай адбылося, нешта толькі ім дваім вядомае, крыўда засталася. Але нават з крыўдай, нават з гонарам — яна ўсё ж такі сказала: «Мы ў «Гармоніі» заўсёды ставілі казкі — і гэта самы светлы час, які я ўспамінаю»… Лёд зварухнуўся… Лёгка казаць добрыя словы, калі няма крыўды, а калі яна ёсць — амаль немагчыма, да таго ж так, каб гэта было ад сэрца. У Веры Кісялёвай атрымалася.

У выніку такіх сустрэч склалася навуковая праца. Аднойчы я прадстаўляла яе ў цэнтральнай бібліятэцы Полацка. Сярод слухачоў была Нагорная. Пасля сустрэчы мы з ёй пагаманілі. Якая яна была спакойная, не шчаслівая, не няшчасная — спакойная. Нейкая незямная.

— Як вы, Валянціна Пятроўна?

— Ой, дзякуй, Паліначка, добра! — глядзіць у вочы, рукой маю руку паціскае, як быццам не было гэтых доўгіх гадоў, калі мы не бачыліся. — Я сябе знайшла, я супакоілася. Божанька дапамог супакоіцца.

Яшчэ да нашай размовы я чула, што Нагорная ўсю сябе прысвяціла рэлігіі. Здаецца, яна знайшла там вратаванне ад жыццёвых пакут, болю, несправядлівасці, праблем.

— А ты як? Такая дарослая стала! А перад маімі вачыма уся курачка маленькая! (У «Пёсіку Рою» я грала маленькую кульгавую курачку.)

Я ўсміхаюся і ледзь не плачу…

— Добра я! Зараз у роздумах, куды паступіць, на тэатральнае хачу, у Акадэмію.

— Навошта табе гэта? Няхай тэатр будзе тваім хобі, рабіць з яго прафесію я табе не раю, ёсць больш сур'ёзныя справы.

Чаму? Чаму, Валянціна Пятроўна, вы так сказалі?

***

Апошні раз я бачыла яе летам пасля трэцяга курса. Тады я чамусьці вырашыла напісаць артыкул пра Нагорную, пра студыйны тэатр, які цяпер, як форма заняткаў з дзецьмі, амаль сышоў. Захацелася сустрэцца, пагаманіць, прагледзець старыя фотаздымкі і адсканаваць, захаваць тэатральнае мінулае. Я знайшла яе тэлефон. Зараз яго ў мяне ўжо няма. Гэтыя чортавыя мабільнікі і сімкі губляліся-знаходзіліся — і згубілі тэлефон такой жанчыны… Дарэчы, і сканаў фотаздымкаў таксама няма. Дзе яны? Як так здарылася, што ўсё знікла — не разумею. Значыць, сустрэліся мы тады з Валянцінай Пятроўнай дарма? Артыкул не выйшаў, сканы згублены… А можа, нездарма?

Невялікі, вельмі акуратны домік, побач — такі ж невялічкі сад. Ммм, якія пахі… Валянціна Пятроўна адчыняе дзверы, жмурыць вочы: на вуліцы

сонейка, а зрок у яе заўсёды быў дрэнны (усім казала: «Выбачайце, калі на вуліцы мяне бачыце, а я з вамі не вітаюся, магу і не пазнаць!»). «Паліначка, прывітанне!» Да мяне бяжыць яе кульгавы сябар — пёсік, на жаль, не памятаю яго імя, гэтыя сабачыя імёны заўсёды так цяжка згадаць! «Паліначка, ты не пужайся! Ён не ўкусіць! Стары ўжо зусім, хварэе, за мной увесь час ходзіць».

Заходзім унутр, кульгавы — за гаспадыняй. У пакоі сустракаем і Валянціна Пятровіча, і дарослую дачку Нагорных — Дзіяну. Вельмі цёпла, прыветліва. А потым застаемся з Нагорнай удваіх, з некалькімі альбомамі фотаздымкаў, з кубачкамі кавы (Дзіяна хуценька пагаспадарыла). Вялізны драўляны стол, усюды — антыкварныя рэчы, шмат гадзіннікаў, розных, дзівосных. А насупраць стала — вялікі партрэт сям'і Нагорных. Яна, Ён — маладыя, Дзіяна — маленькая дзяўчынка. І ўсе — у сярэднявечным аблічча, таямнічыя, з іншага часу. Мо яны сапраўды з іншага часу і толькі выпадкова трапілі ў наша стагоддзе з яго канфліктамі і грашамі, грашамі, грашамі?

Валянціна Пятроўна ўвесь час усміхаецца, яна свецíцца шчасцем. Шчаслівую жанчыну пазнаеш з першага позірку. Можа, таму што побач Дзіяна і Валянцін Пятровіч? Можа, таму што яна — дома?

Яна гартае альбомы, яна нават не адгаворвае мяне займацца тэатрам. Не, ужо не адгаворвае… Не памятаю, колькі прайшло часу за гаворкамі. Я распавядала пра ідэю артыкула. Паведаміла, што на днях тэлефанавала ў ГДК і пытала пра «Гармонію». Сёння адзіная, найстарэйшая ў Полацку дзіцячая студыя — у заняпадзе. Там увесь час мяняюцца кіраўнікі: прыязджаюць на размеркаванне, а потым з'язджаюць. Такіх Нагорных, гатовых усё жыццё аддаць тэатру невялікага горада, а не сталічнай славе, сёння проста няма, не рыхтуюць такіх рэжысёраў у Акадэміі. Такі рэжысёр раз на сто год нараджаецца, каб пасадзіць зерне, мноства тэатральных зярнятак у правінцыі…

Нагорная слухае, прызнаецца, што час ад часу сумуе па студыі, па навучэнцах, па спектаклях, нават па розных-розных нерэжысёрскіх, арганізацыйных клопатах — сумуе. Але вяртацца не хоча — час маладых, а ёй час — быць з сям'ёй.

Мы выходзім з Валянцінай Пятроўнай у сад. Я кажу пра сваё вяселле, пра тое, што зараз з будучым мужам паедзем фатаграфавацца, будзем рабіць арыгінальныя запрашэнні.

— Вой! Дык фатаграфавацца трэба абавязкова з кветкамі!

Яна збірае мне цэлы букет белых рамонкаў, абдымае, цалуе, жадае шчасця, потым дадае яшчэ кветак. Кульгавы пёсік глядзіць сваім адзіным здаровым вокам на шчаслівую гаспадыню, на мяне, не менш шчаслівую, і здаецца, не разумее, як гэтыя людзі могуць і смяяцца, і плакаць аднначасова…



Гравюра Маргарыты Дабравольскай.



## Іераманах Агапій:

# «Самы высокі статус свабоднага чалавека — раб Божы»

**Рубрыка «З Богам» штомесяц папаўняецца артыкуламі іераманаха Агапія (Голуба) — сістэматызаванымі расповедамі пра стаўленне да праблем, раскрыццё іх прычын і прапановы па іх вырашэнні. Безумоўна, мінімальную інфармацыю пра аўтара можна прачытаць і на шыльдачках з біяграфіяй, але зразумець які ён, аўтар, — ніколі не бывае лішнім.**

*Размаўляла з айцом Агапіем Юля Ваўчок.*

**— У артыкулах, якія друкуюцца ў нашым часопісе, вы даволі катэгарычна выказваецеся. Быццам бы не дапускаеце іншага меркавання.**

— Гэтыя артыкулы нараджаюцца з болю. Злуешся, калі хочаш дапамагчы людзям, а яны не чуюць. Магчыма, у артыкулах адчуваецца жорсткасць. Зразумела, што ёсць праблемы па розных прычынах, і іх у пэўныя межы немагчыма заціснуць. Таму я імкнуся быць больш адкрытым для новых жыццёвых канцэпцый, але пры гэтым я хрысціянін, і кіруюся хрысціянскай сістэмай каардынат. Я не магу змяніць Евангелле. Я разумею, што людзі не абавязаны падзяляць евангелісцкія пазіцыі. А ў артыкулах выказваю свае меркаванні, маю права іх адстойваць, але не навязваць. Людзі могуць прымаць маю пазіцыю, а могуць не прымаць.

**— Як вы прыйшлі да таго, што трэба пісаць?**

— Я пачаў пісаць з мэтай самарэфлексіі. Мінская духоўная семінарыя дае добрую адукацыю, але шмат якія тэмы тут не раскрываюцца. Што рабіць, калі муж п'е? Што рабіць пры бясплоднасці? Як сябе паводзіць пры асвяшчэнні аўтамабіля? Для мяне гэта былі пытанні, у якіх я быў сляпы, як кацяня, а працаваць было неабходна. Да таго ж, адказы на многія пытанні ў старажытным царкоўным пісьме не сустрэнеш. Не пісалі пра наркаманію, кантрацэптывы, аборты. Не было сітуацый, калі ўсе людзі хрышчаныя, а ў веданні царкоўнага жыцця блізкія да нуля. Прыходзіцца вучыцца і намацваць як працаваць, дапамагчы, не нашкодзіць. Аналізуеш вопыт многіх сямей, якія звяртаюцца па дапамогу. Праблемы ў кожнай свае, але часта адзначаеш для сябе, што ў дзяцінстве ў гэтых людзей былі падобныя цяжкасці, падобныя правілы выхавання, агульныя законы існавання. З дапамогай сістэматызацыі праблем, размоў са святарамі, псіхолагамі, урачамі-нарколагамі, а таксама літаратуры з'яўляюцца абагульняючыя матэрыялы, свае падыходы да вырашэння пэўных праблем.

Калі да мяне прыходзяць на споведзь, я — сведка перад Богам, я не псіхолаг. Мая справа быць пасрэднікам, менш балбатаць, маліцца за чалавека. Бог сам ведае, наколькі чалавек шчыры ў сваім пакаянні. А ўжо пасля споведзі, калі чалавек хоча паразмаўляць, я магу сказаць, што думаю. Праўда, заўсёды, калі я сустракаюся з людзьмі, папярэджваю, што маю права на памылку. Яны могуць не прымаць тое, што я прапаную, яны маюць права крыўдзіцца на мяне, а я маю права на крыўды не рэагаваць — гэта тры правілы, якія дапамагаюць пазбегнуць эмацыянальнага выгарання.

Зноў-такі людзі хочуць, каб ім далі «таблетку»: схадзіў на споведзь — стаў белым і пухнатым. Як усыпляюць сабачку, так усыпляюць сумленне. Калі чалавек шчыры на споведзі, ён гатовы прымаць хрысціянскую сістэму каардынат.

Іераманах Агапій

**— Усе нашы праблемы з дзяцінства?**

Гэта ідзе яшчэ ад Адама і Евы. Можна ехаць па дарозе адпаведна правілам дарожнага руху, і вы спакойна вернецеся дадому. А можна спяшацца з думкамі пра падрыхтаваную лазню, шашлычок з гарэлачкай — і апынуцца ў кювеце. Так Адам і Ева, яны вырашылі жыць у свавольстве, яны вырашылі выйсці за межы «канстытуцыі». Сангвінік ніколі не стане флегматыкам, бо ён сангвінік. А калі чалавек хоча гэта змяніць, ён губляе гармонію з сабой, тады цела — адно, пачуцці — другое, розум — трэцяе. Ежа была дадзена чалавеку як дар Божы — а ён заняўся абжорствам; чалавеку быў дадзены чалавек процілеглага полу — а ён падаўся ў распусныя сувязі; чалавеку далі ўменні любіць сябе і іншых — атрымаўся эгаізм. Грахі — гэта дабрадзеі, якія звар'яцелі. Гэта як анкалагічныя клеткі, якія перасталі выконваць свае функцыі і пачалі псаваць арганізм, якія вырашылі, што яны і ёсць арганізм.

**— Як вы лічыце, ці ў кожнага ёсць шанц вярнуцца да гармоніі?**

— У дысгармоніі жывуць усе, толькі не ўсе гэта разумеюць. Чалавек біяпсіхасацыядухоўная істота, таму работа павінна праводзіцца на чатырох узроўнях. Ідэальны варыянт — калі псіхолаг, тэрапеўт, сацыяльны работнік і святар працуюць разам. Я часта сутыкаюся з тым, што людзі не ўмеюць любіць. Таму што яны не ведаюць, што такое любоў. Калі чалавек вырас, не ведаючы, што такое любоў, ён будзе яе шукаць, але дзе шукаць ці як атрымаць — не ведае. Таму замест любові будзе выкарыстоўваць сурагаты. Так лягчэй. Бывае, чалавек спадзяецца на духоўны ўзровень, але не хоча працаваць над сабой. Духоўны ўзровень як дах, а псіхалогія — гэта сцены. Калі не пабудаваць сцены, дах абваліцца. Але і без даху сцены могуць прамокнуць і дом разваліцца. Мы хочам прэтэндаваць на духоўнасць, не вывучыўшыся нормам чалавечнасці.

Трэба ў сябе запытаць: ці хачу я быць шчаслівым? Лёгка адказаць: «Так». Але ж зручней быць няшчасным. Бо не трэба нічога рабіць, і ўсіх вакол можна абвінавачваць у сваіх праблемах. Ці верыш ты ў тое, што магчыма быць шчаслівым? Ці гатовы ты прыкласці да гэтага намаганні? Вось пытанні, на якія трэба адказаць кожнаму чалавеку.

**— Як вы думаеце, колькі людзей прыслухоўваюцца да слоў святара?**

— Быў перыяд, калі ў мяне проста адбываўся бум на прыём. Але калі людзі ўбачылі, што я чытак не даю, святынь не раздаю, падрыхтаваных малітваў няма, — зразумелі, што прыйдзецца працаваць над сабой. Тады паток паменшыўся, прыязджаць сталі тыя, каму гэта сапраўды неабходна. Лепшы вынік, калі, напрыклад, год-два таму не было ніякай аддачы, а потым бачыш людзей, якія пазбаўляюцца залежнасці і сузалежнасці разам, дапамагаюць адзін аднаму. І магчыма ў іх атрымаецца дасягнуць гармоніі, стаць шчаслівымі. Добра, калі да чалавека з пэўнымі праблемамі не лезуць з парадамі, а могуць проста выслухаць. А таксама калі існуюць тэлефоны і адрасы, дзе могуць дапамагчы прафесіяналы, кантакты груп самадапамогі, спецыялізаваныя форумы і інтэрнэт-рэсурсы.

**— А вера — гэта таксама залежнасць?**

— Так, я залежны, але не ад веры, а ад Бога. Бо рэлігія можа стаць нездаровай залежнасцю, можна верыць у тое, што ты верыш. Людзі часам баяцца, што іх вера ні на чым не грунтуецца, яны баяцца краху. Ёсць такое паняцце, як рэлігійная залежнасць, яна стаіць на адным узроўні з гульнявой і іншымі залежнасцямі. Часам чалавек бяжыць у рэлігію, хаваючыся ад сябе самога. У мяне няма вечнай батарэйкі, я не аўтаномны. Зямля, паветра, агонь, мая ежа — усюды дар Божы. Бог просіць, каб я яго прымаў не таму, што я яго баюся, не таму, што ён можа мяне пакараць, не таму, што ён можа пазбавіць мяне дароў. Ён хоча, каб я свабодна прыняў свет як дар. Мне гэта ўсё падаравалі не таму, што я харошы, а таму, што я ёсць. Бо мяне проста любяць. І каб я палюбіў яго ў адказ. Хрыстос прыходзіў да тых, хто любіў яго. Так, я залежны ад паветра — у мяне ёсць дар дыхаць; я залежны ад сонца — радасна бачыць сонца; я залежу ад вады — шчасце паплаваць у возеры. Такая залежнасць не пакутлівая, яна радасная, яна свабодная. Я свабодна прымаю гэта як дар. Самы высокі статус свабоднага чалавека — раб Божы.

**Айцец Агапій (Голуб)**

# Гары Потэр

***Калі ўдумліва чытаць потэрыяду, можна знайсці ключ да адказу на пытанне пра сэнс і пераадоленне смерці.***

Хоць «Гары Потэр» не фантастыка (мой любімы жанр), але гэта адно з нешматлікіх фэнтазі, якое мне спадабалася (яшчэ я б перачытаў творы Урсулы Ле Гуін — калі нехта падорыць мне іх у друкаваным выглядзе).

Адразу заўважу: я маю на ўвазе кнігі. Перавага фільма ў тым, што ў ім паказаны некаторыя дэталі — выгляд школы Хогвартс, вобразы персанажаў. Але кіно не перадае іх унутраны свет, адценні зместу. А галоўнае, пачынаючы з чацвёртага фільма задума аўтара не бярэцца ў разлік — цалкам вынішчаецца ўсё, што звязана з Евангеллем. Яскравы прыклад — апошняя схватка Потэра з Вол дэ Мортам (у адрозненне ад выдання «Росмен», у арыгінале пішацца Voldemort) — хто заўважыў розніцу ў падачы гэтага эпізода ў кнізе і фільме?

Я не хачу пераказваць разбор твора праталыяканам Кураевым. Хто хоча, можа паглядзець яго відэаразмову “Доўгае рэха Евангелля” (http://rutracker.org/forum/viewtopic.php?t=2441066). Выкладу тое, што адгукнулася ўва мне.

Пасля выхаду эпапеі мне стала лягчэй тлумачыць людзям, чаму Царква адмоўна ставіцца да спробы людзей даведацца праз розных «празарліўцаў» сваю будучыню. Роўлінг сыходзіць з цалкам хрысціянскага разумення свабоды чалавека і яго адказнасці за свой выбар. Задача прадказанняў — не паведамляць чалавеку «гісторыю будучыні», а паказаць, як рэлігійна-маральны стан уплывае на ход гісторыі і развіцця — і цывілізацый, і кожнай асобы. Спробы дазнацца пра будучыню з эгацэнтрычных памкненняў асуджаюцца Бібліяй. У гэтым адрозненне біблейскіх прарокаў ад ілжэпрарокаў, як старазапаветных, так і сучасных. Апошнія — працуюць «па замове», адказваючы на запыты «кліентаў». Першыя — толькі тады, калі ім загадвае Бог. Акрамя рэдкіх выключэнняў, Бог спецыяльна не адкрывае нам «канкрэтнай» будучыні — Ён ведае шлях кожнага з нас, але мы яго яшчэ не завяршылі. Мы — яго творцы, і нясём за свой выбар асабістую адказнасць. Шкода ўсіх прадказанняў будучыні ў тым, што калі ў пошуку ведаў пра свой лёс чалавек атрымлівае ад варажбіткі інфармацыю пра тое, што яго чакае, ён пачынае дзейнічаць у адпаведнасці з атрыманымі «ведамі». То бок, цяпер ён дэтэрмінаваны. Прычым, сам змест жыцця, яго напаўненне, як правіла, не мяняюцца ў лепшы бок. Дарэчы, менавіта з-за гэтых спроб падладзіцца пад будучыню або пазбегнуць яе, вельмі верагодна, «заказчык прароцтва» і атрымлівае супрацьлеглае жаданаму. І Роўлінг па-майстэрску раскрывае гэтую думку на прыкладзе Вол дэ Морта.

Вол дэ Морт даведваецца пра прароцтва аб нараджэнні хлопчыка — яго будучага саперніка і пераможцы. Каб пазбегнуць выканання прадказанага, маг вырашае знайсці і забіць дзіця. Прыйшоўшы да высновы, што гэта сын чараўнікоў Потэраў, ён нападае на іх дом, але бацькі аддаюць свае жыцці дзеля немаўляці, і іх любоў аберагае малога ад знішчальнага заклінання. Яно вяртаецца да самога Вол дэ Морта і разбурае яго цялесную абалонку. Зрабіўшыся духам, а потым стварыўшы сабе новае цела, чараўнік зноў і зноў спрабуе забіць Потэра. Той, натуральна, імкнецца абараніцца — і сам ператвараецца ў дасведчанага чараўніка, здольнага супрацьстаяць цёмным бакам магіі. У выніку ён перамагае цёмнага чараўніка. Такім чынам, Вол дэ Морт сам на сваю бяду выхаваў саперніка. Калі б ён не звярнуў увагі на прароцтва — Потэр вырас бы, хутчэй за ўсе, звычайным, «стандартным» чараўнікам, які не ўяўляў бы для Морта пагрозы.

Прыемна было выявіць, наколькі цнатлівыя, здаровыя адносіны паміж персанажамі эпапеі апісвае Роўлінг. Нават перыяд рамантычнай закаханасці, час любоўных прываротаў, надзей і расчараванняў — літаральна выпраменьвае цнатлівасць. Гэты час («Кубак агню») супадае з трагічнымі падзеямі вяртання Вол дэ Морта, смерцю Седэрыка і іншых ахвяр цёмных сіл. Але гэты драматызм вельмі гарманічна спалучаецца з рамантызмам адносін. У адрозненне ад фільма, дзе гэтыя юнацкія пошукі зводзяцца да карыкатурных ад пошласці сцэн.

Праз усе тамы «чырвонай ніткай» праходзіць адна думка: любоў вышэй за магію. Сілы зла разбураюцца перад ахвярнасцю. Бацькі ахвяруюць жыцці дзеля дзіцяці — і цёмны Лорд, імкнучыся яго забіць, — гіне сам. Вяртаючы сабе цялесную абалонку, ён зноў і зноў спрабуе справіцца з Потэрам — але церпіць паражэнні. Бо Потэрам валодае не столькі жаданне адпомсціць, колькі пачуцці сяброўства і любові.

Звяртае на сябе асаблівую ўвагу паралелізм галоўных персанажаў. Вол дэ Морт нарадзіўся ў дысфункцыянальнай сям'і. Яго род браў пачатак ад аднаго са знакамітых і магутных чараўнікоў — заснавальнікаў школы Хогвартс. Але дзеля чыстакроўнасці адмаўляючыся ад шлюбаў з прадстаўнікамі родаў, якія маюць чараўнікоўпаўкровак (калі адзін з бацькоў не маг), род гэты згасаў. У выніку продкі Тома Рэдла (сапраўднае імя Вол дэ Морта) апынуліся ў галыцьбе і ганарыстай ізаляцыі ад соцыуму, адрозніваючыся паталагічнай надменнасцю і неўраўнаважанасцю характару, выклікаючы ў суседзяў агіду і страх. Маці Рэдла не вылучалася вялікімі магічнымі здольнасцямі, і стала мішэнню для эмацыянальных зрываў свайго бацькі, жывучы пры пастаянным прыніжэнні з боку яго і брата. Ёй хацелася ўцячы з сям'і. Але ніхто не прапаноўваў ёй замуства. І тут яна закахалася ў магла — то бок, не мага, а звычайнага чалавека. Паколькі той яе нават не заўважаў, яна скарысталася любоўным прываротам. Але ў шлюбе хутка зразумела, што штучная закаханасць не заменіць сапраўднага кахання, што гэта «любоў» праграмы, а не свабоднага чалавека. А ёй хацелася сапраўднай эмацыянальнай цеплыні. Тады яна вызваляе мужа ад чараў — і той, зразумеўшы, што ім увесь час папросту маніпулявалі, — пакідае яе з дзіцем, якое яна выношвае. Шляху вяртання ў бацькоўскі дом для яе не было — яна ж, з гледжання бацькі, здрадзіла чыстакроўнасці рода, і той ужо не прыняў бы яе як дачку, дома яе чакала б яшчэ большае прыніжэнне. Сродкаў да існавання таксама не было — і яна памірае ў невядомасці, аддаўшы дзіця адразу пасля нараджэння ў звычайны дзіцячы прытулак.

Кінуты бацькамі, не ведаючы любові, жывучы ў свеце, дзе ён нікому не патрэбен, але валодаючы ад прыроды незвычайнымі магічнымі здольнасцямі, Вол дэ Морт, падрастаючы, супрацьпастаўляе сябе ўсяму грамадству. Ён дараваў бацькам сваё паходжанне, перадаўшы стаўленне да іх у некалькіх словах, сказаных Потэру. Саромеючыся паходжання, ён выкрасліў з жыцця ўсё, звязанае з бацькоўскай сям'ёй. Тут якраз і хаваецца парадокс дысфункцыянальных патэрнаў паводзін — адмаўленне ад мінулага вядзе да залежнасці ад яго. Можна сказаць, што ў яго развілася магутная контрзалежнасць і вострая прага знаходзіцца ў цэнтры ўвагі — як вынік неўтаймаванага эмацыянальнага голаду, які перарос у глыбокі эгацэнтрызм. Але сасуд яго любові пусты, і сам ён не здольны любіць нікога, людзі для яго толькі сродак дасягнення мэтаў. Ён ператвараецца ў мага-злачынцу, імя якога нават баяцца прамаўляць уголас.

Гары Потэр таксама не ведаў сваіх бацькоў — яны загінулі, абараняючы яго. Ён вырас у прыёмнай сям'і Дурсляў — у цёткі па лініі маці. Тыя таксама мелі свайго «ідала» — сына, вакол якога ўсё круцілася і якому ўсё дазвалялася. Потэр быў папросту лішнім. Ён меў шмат падабенства з самім Вол дэ Мортам. Народжаныя славай ганарыстасць, фанабэрыстасць, славалюбства маглі збілізіць іх шляхі. Увогуле, на працягу апошніх трох кніг Гары Потэру даводзіцца не раз вытрымліваць барацьбу з самім сабой. І маральная перамога над сваім цёмным бокам адкрывае шлях да перамогі над цёмным магам...

Гары Потэр стаў другасортным членам сям'і, даношваў вопратку дваюраднага брата, жыў у каморцы пад лесвіцай, выконваў розныя абавязкі па дому, і яму не давалася ніякіх паслабленняў. Ён не цярпеў фізічна (часам — ад брата), але штодня жыў пад маральным прэсам, а ў дадатак яму не раз даводзілася чуць ад дзядзькі і цёткі нядобрыя водгукі пра яго бацькоў, адчуваючы прыніжэнне і боль. Яны ніколі не гаварылі яму, кім на самай справе былі яго бацькі. Дурслі, баючыся грамадскага асуджэння, калі нехта даведаецца, што сястра цёткі была «не як усе», хавалі праўду паходжання Потэра, ён нічога не ведаў пра сваіх бацькоў — і сумаваў па іх, жывучы ва ўнутранай адзіноце.

Але выбар Потэра апынуўся супрацьлеглым выбару Рэдла. Гары ведае, што такое боль, прыніжэнне, сорам, — і нікому не жадае такога. Яго душа чулая да несправядлівасці, а разам з тым ён умее цаніць сяброўства, давер, любоў. І калі

сустракае прыняцце сябе аднакурснікамі такім, які ёсць, — адкзвае самым шчырым і глыбокім сяброўствам, гатовы дзеля сяброў або разам з імі рушыць насустрач любой небяспецы. Або на любыя хітрыкі.

Так Роўлінг паказвае: у якіх бы ўмовах ні рос чалавек — свабода маральнага выбару на жыццёвым шляху заўсёды застаецца з ім. Гэтыя сюжэтныя лініі выраслі не з кабінетных разважанняў. Сама Роўлінг выпрабоўвалася беднасцю. Цяпер, валодаючы немалымі сродкамі, яна робіць усё ад яе залежнае, каб паменшыць колькасць дзіцячых прытулкаў, каб дзеці маглі выхоўвацца ў родных або прыёмных сем'ях.

Невыпадкова ў яе атрымалася стварыць і такія жывыя вобразы дэментараў. Яны наўпрост звязаны з той дэпрэсіяй, у якой Роўлінг апынулася пасля скасавання шлюбу і без сродкаў для існавання.

Ёсць яшчэ адзін элемент яднання герояў. Для кожнага з вялікай сілай паўстала пытанне смерці. Том Рэдл не меў у душы нічога акрамя ўласнага «я», і таму для яго амаль нічога няма горш за смерць. Стаўшы Вол дэ Мортам, ён імкнецца атрымаць неўміручасць любой цаной. Ён раздрабляе ўласную душу, змяшчаючы яе часткі ў магічныя носьбіты. Пакуль яны існуюць, ён не памрэ цалкам, захоўваючы ў выпадку смерці магчымасць новага ўвасаблення. Для выканання гэтага магічнага дзеяння кожны раз патрабуецца здзейсніць забойства. Забойства расколвае душу.

Зрабіўшыся ў выніку эксперыментаў няўстойлівай, душа Вол дэ Морта расколваецца яшчэ раз, ужо незалежна ад яго волі, пры спробе забіць немаўля Потэра, і адколатая частка ўсяляецца ў апошняга. Паколькі Гары стаў уладальнікам некаторых здольнасцей самога Вол дэ Морта, між імі ўзнікае ментальная сувязь.

Для Гары смерць таксама трагедыя. У Люстэрку Жаданняў ён бачыць сваіх бацькоў. Яму цяжка прыняць факт, што ён не можа бачыць іх жывымі, што ніколі не ведаў іх. Не менш цяжка прымаць смерці сяброў і тое, што сам ён павінен памерці, паколькі з'яўляецца носьбітам часткі душы Вол дэ Морта. Пошук сэнсу смерці, думкі пра магчымасць яе пераадолець суправаджаюць уваход у дарослае жыццё. У выніку ён прымае смерць як дадзенае. Толькі за гэтым прыняццем хаваецца больш, чым проста прызнанне непазбежнасці канца. Адна з ключавых фраз эпапеі — эпітафія на магіле бацькоў Потэра: «Апошні вораг знішчыцца — смерць». Цытата з паслання апостала Паўла, якая мае дачыненне да перамогі над смерцю Хрыста-Збавіцеля. А побач — магіла маці і сястры дырэктара школы Хогвартс Дамблдора, з тэкстам Евангелля: «Дзе скарб ваш, там будзе і сэрца ваша»… Калі ўдумліва чытаць потэрыяду, можна знайсці ключ да адказа на пытанне пра сэнс і пераадоленне смерці — натуральна, як на яго адказвае аўтар кнігі. Гэта — цалкам хрысціянскі адказ.

У фінальнай сутычцы Гары разумеў, што вырашаецца пытанне пра цэлую вечнасць яго ворага. І (цалкам хрысціянскі паварот падзей) замест жадання хуткай смерці для забойцы яго бацькоў, хроснага, сяброў Гары Потэр спрабуе дапамагчы Вол дэ Морту, бачачы ў ім пакалечаную душу. Таму перамога Гары — гэта не адплата злому чараўніку. Смерць няздольнага на пакаянне Тома Рэдла, які так і не змог прыняць сябе, сваё паходжанне, які вечна хаваўся ад уласнай душы пад прыдуманым ім самім вобразам Цёмнага Лорда Вол дэ Морта, які так і не спасціг радасці даравання і любові — не пакідае пачуцця «справядлівага завяршэння». Яна — таксама трагедыя. Хаця і непазбежная. Але Потэр зрабіў усё, што мог. Нават для Вол дэ Морта. І таму трагедыя самога Гары, якая таксама цягнецца ад самага маленства, — пражыта і завершана. Бацькі, хросны, памерлыя сябры і блізкія Потэра — цяпер па-сапраўднаму адпушчаны ў мінулае, дакладней — у вечнасць. Адпушчаны і Вол дэ Морт… Ён свабодны ад усяго, што праследавала яго з дзяцінства. І жыццё будуецца далей…

У потэрыядзе шмат іншых дэталяў, якія можна абмяркоўваць. Я некалі прачытаў эпапею двойчы. Такога задавальнення даўно не атрымліваў. Лёгкая мова, адсутнасць трафарэтнасці, бліскучае веданне псіхалогіі, складаны ўнутраны свет персанажаў, драматызм, які пражываецца душою, хрысціянскія маральныя і рэлігійныя сюжэты, але без усялякай навязлівасці — час на чытанне быў таго варты. Напрыканцы прывяду пару прыксетных цытат:

«Трэба быць дастаткова адважным, каб супрацьстаяць ворагу. Але не менш адвагі патрабуецца, каб супрацьстаяць сябрам!»

«Людзі лягчэй даруюць чужую неправату, чым правату».

**Тамара Мінютка**

# Куды крочаць пілігрымы?



Пілігрымка, пра якую пойдзе гаворка, — гэта шлях даўжынёй прыкладна ў 280 км ад Барысава да Росіцы, малавядомай вёсачкі, дзе падчас Вялікай Айчыннай здарыліся вялікія падзеі. Тут у лютым 1943 года вера перамагла смерць. Карная аперацыя, нацысты зганяюць жыхароў навакольных вёсак у росіцкі касцёл і сартуюць: каго на прымусовую працу ў Нямеччыну, каго на смерць… Пра такія жахі мы шмат чулі, — скажаце вы. Але росіцкая гісторыя выпадае з шэрагу падобных трагедый. Цэнтральныя ў ёй — фігуры святароў Антонія Ляшчэвіча і Юрыя Кашыры, якія адказалі адмоўна на прапановы нацыстаў з'ехаць і засталіся ў Росіцы, каб служыць асуджаным на лютыя пакуты людзям у касцёле. Яны спавядалі, хрысцілі, суцяшалі, нагадваючы людзям евангельскую ісціну: «Не бойцеся тых, хто забівае цела, душы ж не могуць забіць; а больш бойцеся таго, хто можа душу і цела загубіць у геене…» У святароў неўзабаве адабралі жыццё, бо яны сваёй пастырскай актыўнасцю раздражнялі карнікаў. А ў 1999 годзе Папа Ян Павел II абвясціў пакутнікаў бласлаўлёнымі.

Таму кожнае лета крочаць у Росіцу пілігрымы, каб дакрануцца да жывой святасці. Перад вамі — партрэты тых, хто крочыў у пілігрымцы ў жніўні 2015 года. Добра ў халодным лютым успомніць тыя цяжкія і разам з тым шчаслівыя спякотныя дні…

Такім чынам, крочым у Росіцу ў атачэнні добрых сяброў, малітваў і спеваў. Спёка, смага, дарожны пыл… Быў шосты дзень дарогі, калі я вырашыла папытаць, чаго шукаюць і аб чым думаюць пілігрымы, ідучы сваім няпростым шляхам.

◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇



**Марта Амбросава, Барысаў, студэнтка 1 курса факультэта філасофскіх і сацыяльных навук, будучы псіхолаг:**

— Я шукаю саму сябе. За год падрыхтоўкі да паступлення ва ўніверсітэт я згубіла сябе, мяне паглынула вучоба, цяжка складваліся стасункі з людзьмі. Іду і спрабую адшукаць тую пазітыўную, заўсёды вясёлую Марту, якая ўвесь час скача, радуецца і вельмі любіць людзей. Карацей, я духоўна адпачываю і ўзнаўляюся пасля паступлення.

**— Якія думкі круцяцца ў галаве?**

— Што мне вельмі цяжка. Хочацца ўсё кінуць і з'ехаць дадому. Кожны дзень наведваюць думкі, што мне ўсё надакучыла: хочацца патэлефанаваць маме і сказаць, што я вяртаюся. Але ўспамінаю, што абрала сабе мэту, значыць — павінна ісці. Я часта сутыкаюся з тым, што не даходжу да сваіх мэт. І цяпер у мяне вельмі вялікая спакуса кінуць усё і сысці, хоць я амаль дайшла да Росіцы. Унутры мяне ідзе змаганне, каб не здацца. Прыкладам для мяне з'яўляюцца нашы бласлаўлёныя пакутнікі, бо, нягледзячы на тое, што ім прапаноўвалі волю, яны засталіся са сваімі парафіянамі і ішлі да канца. І я таксама хачу дайсці да канца.



**Стас Ігнатовіч, студэнт політэхнічнага каледжа, Барысаў:**

— Я хачу наблізіцца да Бога, паглыбіць сваю веру. Знайсці свой шлях у жыцці, сваё пакліканне. Зараз я вучуся ў Барысаўскім політэхнічным каледжы, на аддзяленні прыборабудавання. Перайшоў на 3 курс. Пасля каледжа я хачу паступіць у БНТУ, а потым працаваць. Магчыма, адкрыю сваю справу. Як Бог дасць, так і будзе. Гэтага і прашу ў Яго — дапамагчы вызначыцца.

**— Пра што думаеш, ідучы?**

— Ісці цяжка, але на душы добра, бо ўсе людзі шчырыя, адкрытыя. Калі штосьці патрэбна, дапамагаюць. Напрыклад, папросіш пластыр — адразу дзесяць дадуць…

**— Каторая гэта твая пілігрымка?**

— У Росіцу другая. Але ў мінулым годзе не атрымалася прайсці шлях цалкам, ішоў толькі некалькі дзён.

**Жэня Грыневіч, Глыбокае, студэнт Інстытута кіравання і сацыяльных тэхналогій БДУ:**



— У большай ступені шукаю Бога, таму што, знаходзячыся ў Мінску, у кругазвароце спраў, часта ў злым кругазвароце, адыходжу ад Яго. Прыходжу ў нядзелю ў касцёл, проста таму што трэба, не ўсведамляючы, навошта. Схадзіў, падумаў, выйшаў — і зноў паглыбіўся туды, адкуль прыйшоў. Дзве гадзіны прайшло — і ты забыўся, што быў у касцёле. Душа чарсцвее. А ў пілігрымцы ўжо на другі дзень я адчуваю, што душа адкрываецца. Нават банальна адчуваю іншыя пахі. Тут лягчэй пачуць, што Бог прамаўляе да цябе…

**— Пра што думаеш?**

— Знаходзячыся дома, думаю аб працы, планах на будучыню. А ў пілігрымцы паглыбляюся ў іншую атмасферу, прыглядаюся да таго, на што раней не звяртаў увагі. Напрыклад, сёння святар распавядаў пра чысцец, а я пра гэта раней асабліва не задумваўся. Чуў, але меркаваў, што гэта нешта надта далёкае. А падчас таго казання ішоў і думаў, што сапраўды заўтра можа не наступіць…



**Кацярына Александровіч, Барысаў, тэсціроўшчык на EPAM Systems:**

— Шукаю духоўнай ежы на наступны год.

**— Чым цябе корміць пілігрымка? Бо няверуючаму чалавеку хіба падасца, што яна толькі высмоктвае з нас сілы.**

— Толькі што айцец Вадзім *(кіраўнік пілігрымкі. —* **Заўвага рэдактара***)* карміў мяне яблыкам… Сябар Вова чыпсамі травіць☺. Пілігрымка корміць усмешкамі, сонейкам, спёкай, мазалямі, спевамі ў вельмі вялікай колькасці *(Кацярына спявае ў пілігрымцы ў мікрафон. —* **Заўвага рэдактара***)*. Малітвай падчас дарогі. Яна надае сілы і з'ядае кіламетры. Людзьмі, якіх я сустракаю па дарозе. Цікавымі гісторыямі. Я набіраюся энергіі, досведу, станоўчых эмоцый, весялосці. І нават не шкада сарванага горла.

**— Правакацыйнае пытанне. Што б ты выбрала: пайсці ў пілігрымку ці паехаць адпачываць у Егіпет?**

— Вядома, пілігрымку. У Егіпет я лепей паеду ўзімку, бо тады ў Росіцу ніхто не ходзіць☺.

**— Якія думкі круцяцца ў тваёй галаве?**

— Я хачу ў Росіцу, легчы крыжам на халодную падлогу яе касцёла. Пачуць голас айца Чэслава: «Ай, дайшлі, мае дзетанькі!» Хачу хутчэй імшу для пілігрымаў. Хачу ўбачыць прыгожы чырвоны касцёл і палатачны гарадок каля возера.

**— Трымай карцінку ў галаве і дойдзеш!**

◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇

**Ірына Губская, прафесійны пілігрым з вёскі Савуткі Шаркаўшчынскага раёна (вучыцца ў Варшаве на спецыяльнасці «турызм біблійных краін»):**



— Няма канкрэтнай прычыны, чаму я іду. Проста не майгу не ісці. У мяне за плячыма вельмі шмат пілігрымак, нават збілася з ліку. Памятаю толькі, што гэта маё пятнаццатае пілігрымскае лета. Вядома, гэта не толькі Росіца, але і іншыя шляхі. Адзначыць «юбілей» я вырашыла наступным цудоўным чынам: прайсці 1000 км за адно лета. Пад Росіцай будзе 920. Думаю, што да канца лета спраўлюся.

**— Пра што думаеш у дарозе?**

— Калі ідзеш дзявятую сотню кіламетраў, думак ужо не так шмат застаецца. Пілігрымка для мяне не ў Барысаве пачалася і не ў Росіцы скончыцца. Я для сябе вырашыла, што гэта будзе год пілігрымак, і фактычна другі месяц знаходжуся ў дарозе з невялікімі перапынкамі. І для мяне гэта чарговыя дні вялікай пілігрымкі праз лета, праз Беларусь да нечага, што змяняе жыццё… Хіба толькі напачатку былі думкі пра жыццёвыя змены, якія мяне чакаюць, пра людзей, што былі побач апошнім часам, пра тое, што адбылося ў жыцці касцёла. Але зараз падобныя думкі адышлі на другі план, і проста хочацца радавацца кожнаму імгненню, быць бліжэй да Бога, больш маліцца, бачыць шчаслівых людзей, вар'ятаў-пілігрымаў.

## Праграміст Андрэй Немялоўскі і супрацоўніца дабрачыннай арганізацыі «Caritas» Наташа Александровіч з Барысава:

**— Чаго шукаеце, пілігрымы?**

**А**: Адпачынак.
**Н**: Адказы.

**— Андрэй, ад чаго ты так стаміўся?**

**А**: Ад навакольнага свету. Ад працы, мітусні, вялікіх гарадоў, мноства непатрэбнай лухты. Вельмі шмат лішняга навокал, яно захінае вочы і не дае бачыць свет такім, які ён ёсць, яго сапраўдную каштоўнасць. Калі ты ідзеш у пілігрымцы, то разумееш, наколькі файная рэч бутэлечка халоднай вады, магчымасць добра памыцца вечарам, як добра проста пасядзець ці паляжаць ля дарогі.

**Н**: Іду не першы раз, і бачу, што стала больш дарослай: маю асэнсаваныя, канкрэтныя інтэнцыі. Прасіць нечага ў Бога вельмі цяжка насамрэч. Я не прывыкла клянчыць ні ў людзей, ні ў Бога. Задумваешся, ці вартая твая просьба такога высілку. Напэўна, Бог дзейнічае праз такія роздумы таксама.

**— Пра што вы думаеце?**

**А**: Пра тое, як усё змяняецца. Людзі, пілігрымка, адносіны да пілігрымкі. Зараз гляджу на гітарыста Юру і думаю, як ён можа цэлы дзень граць на гітары! Я б так не змог, у мяне ж пальцы адваляцца! Але ўспамінаю, што раней граў без праблем, за мілую душу! А цяпер мяне да гэтага неяк не магніціць. Я лепей у канцы пілігрымкі прайдуся адзін, падумаю сабе спакойна…

**Н**: Учора я схадзіла да споведзі. І гэта было плённа. У сілу таго, што ў цябе ёсць час на малітву, на роздум, ты вельмі глыбока аналізуеш, што табе кажа святар. Не праходзяць міма духоўныя канферэнцыі. Па нейкай выпадковасці чуеш у іх важныя рэчы ў патрэбны момант. Часам здзіўляешся: я што, казала ксяндзу пра свае праблемы? У цябе ёсць час пакапацца ў сабе, зразумець, што табе казалі. Напрыклад, сёння да мяне дайшла адна рэч, якую айцец Вадзім казаў учора, а я на яе нават увагі не звярнула. Калі б гэта было па-за пілігрымкай, яно б так і прайшло міма мяне. А тут ты знаходзіш адказы, ці яшчэ больш заблытваешся — як пашанцуе.

◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇

## Аня Багдзевіч, медсястра з Гародні:

— Спачатку я ішла ў пілігрымцы таму, што людзі мяне прасілі аб малітве. А потым прыйшла да таго, што шукаю сваё пакліканне ў гэтым шляху, адказы на свае пытанні. Мэты пілігрымкі змяніліся, выходзіць.

**— Пра што думалася?**

— Спачатку я думала, як бы ўліцца, з усімі пазнаёміцца. Пра дом зусім не думала. Думала пра абед, адпачынак, начлег… Я прыехала ў пілігрымку зусім адна. Пра Росіцу даведалася ад знаёмага хлопца, які прапанаваў мне схадзіць у пілігрымку, але сам не пайшоў. Я адважылася пайсці адна. Страшна не было. Усё атрымлівалася лёгка, без перашкод. Не шкадую, што пайшла.

**— Ты першы раз прыйдзеш у Росіцу. Чаго ты чакаеш?**

— Сама не ведаю, чаго чакаць… Пабачым. ■ *Фота Марыі Мінюткі.*

Часопіс «МАЛАДОСЦЬ»
лепш за ўсё набываць
праз падпіску —
гэта не толькі беражэ час,
але і эканоміць грошы.
Пасрэдніцтвам «Белпошты»
або пры дапамозе паслугі
«да запатрабавання»
ў крамах «Белсаюздрук»
можна падпісацца
нават на адзін нумар часопіса,
прычым, у якой заўгодна колькасці
экзэмпляраў

*Яшчэ сустрэнемся?!*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ**
Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а. info@zvyazda.minsk.by

**Паштовы адрас:** 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72. maladost@zviazda.by

*ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:*

*00592 — індывідуальны льготны для настаўнікаў*

*74957 — індывідуальны*

*749572 — ведамасны*

*00731 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 16 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Дызайн вокладкі: *А.У. ГАЛОТА*
Стыльрэдактар: *А.І. САЛАМЕВІЧ*

Падпісана да друку 15.02.2016. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера лёгкамелаваная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 16,80
Ул.-выд. арк. ????. Тыраж ???? экз. Заказ
Кошт нумара ў розніцу 21 000 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП №02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск

*Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.*
*Пры перадруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.*